



# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**1** (1021)

СТУДЗЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года


## ЗМЕСТ



**Васіль ГІГЕВІЧ**

# АТАМІЗАЦЫЯ

*Сучасная аповесць-казка**

***Мы так радыкальна змянілі асяроддзе,***
***што цяпер для таго, каб існаваць у ім,***
***мы павінны змяніць сваю сутнасць.***
Норберт ВІНЕР, заснавальнік кібернетыкі

***Змяніўся вобраз жыцця, само разуменне Свету.***
***Усё пераплялося ў нейкі заблытаны клубок,***
***дзе людскія жарсці, подласць, бескультур'е***
***суседнічаюць з усё больш паскаральным***
***развіццём навукі. Нейкія мала зразумелыя законы***
***кіруюць намі. На першы план выходзіць***
***не пагроза імгненнай пагібелі людзей***
***у выніку ядзернага катаклізму, а верагоднасць***
***яшчэ больш пакутлівага знішчэння***
***ўсяго роду чалавечага.***
Н. М. МАЙСЕЕЎ, акадэмік РАН

## 1

Як і ўсе вялікія прыгоды, мае пачаліся з сямейнага скандалу.

Вярнуўся з работы, есці хочацца, а мая ненаглядная чарговы серыял глядзіць, адарвацца ад тэлевізара не можа. Я гэтак далікатненька намякаю, што галодны мужчына — горай за афрыканскага льва. А яна — пачакай трошкі, сотую серыю дагледжу і пачну рыхтаваць вячэру. Ну, браточкі мае, шчыра прызнаюся, не вытрымаў, дапяклі гэтыя серыялы, выказаўся, бо цярпеў дагэтуль, маўчаў, як кляты...

---

***Гігевіч Васіль Сямёнавіч*** *нарадзіўся 3 студзеня 1947 г. у вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў фізічны факультэт Харкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. Горкага (1969), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1979). Працаваў настаўнікам, інжынерам на заводзе, на кінастудыі «Беларусьфільм», у часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

*Аўтар кніг прозы «Спелыя яблыкі» (1976), «Калі ласка, скажы» (1978), «Жывіца» (1980), «Астравы на далёкіх азёрах» (1984), «Доказ ад процілеглага» (1985), «Крах цывілізацыі» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982).*

---

* Часопісны варыянт.

А яна тут жа ўзвілася, быццам толькі і чакала слоўцаў маіх. Чаго толькі мне не прыпомніла!..

Жанчыны, скажу я вам, гэта такія стварэнні... Калі яна ў настроі, то — усё прабачыць, замест ляманту ў шчочку чмокне і прыгалубіць. Але ж падвярніся не ў час, святым анёлам дамоў прыйдзеш, усё роўна будзеш вінаватым, і тады табе ўжо ўсё прыпомніцца, да апошняга пазалеташняга камара, якога не затоўк, калі вечарам на беразе рэчкі сядзелі.

Можа, усё ладам і скончылася б, ну, палямантавала б трохі і супакоілася. Але ж у той вечар мяне як чорт які пад’юдзіў, калі мая прыгажуня занадта разышлася і пачала залішне мяне бэсціць. Я ёй толькі і сказаў: «Надта ты са мной гаруеш... Ты яшчэ ўспомні, як у мамкі ў Жыціве жыла...»

Жыціва — гэта вёсачка, дзе яна нарадзілася і дзе была надта шчаслівай. Дагэтуль часта мяне, як шылам, калола: «Вось, калі ў мамкі ў Жыціве жыла...»

Божухна, лепш бы я прамаўчаў!

Чаго толькі не наслухаўся ў той надвячорак! Зразумеў, што мая прыгажуня — самая найгаротнейшая з усіх гаротніц, якія толькі былі на свеце. І заставалася мне адзінае — браць вяроўчыну ды намыльваць...

Так і не павячэраў. Ляпнуў дзвярыма і падаўся да сябрука. Надта вялікім сябруком ён мне і не быў, на рыбалцы неяк пазнаёміліся, на гэтым і трымалася наша сяброўства. Селі за стол, гаворку распачалі. А ён, калі яму верыць, быццам бы ў нейкіх органах працаваў. Паглядзеў на мяне пільна і кажа:

— Нешта ты, Базыль, сёння надта ўзвінчаны.

Я пытаю:

— Адкуль ведаеш?

А ён:

— Пальцы ўздрыгваюць.

Што значыць — прафесійная хватка!

Я і «раскалоўся» — пра скандал з жонкай расказаў.

Ён мне:

— Калі твая хлюндра гэтак цябе дапякла, так і быць: раз правучы, каб на ўсё жыццё... Што па дробязях цыркацца... — і замоўк, гледзячы на мяне.

Тут я і «клюнуў» на ягоную вудачку:

— А як зрабіць такое?

Ён:

— Ёсць адно заданне важнае. Кандыдаты патрабуюцца. Гэта — як камандзіровачка будзе, гадкоў на пяць. Тады яна ўведае, пажыўшы без цябе... Пасля, як шаўковая будзе...

Я, канечне, спытаў: «Няўжо сярод вас, разумнікаў, адчаюгаў няма, каб выканаць гэтае важнае заданне?»

— Адчаюгі, можа, і знойдуцца, — адказаў ён,— а разумных, каб выканаць яго, — кот наплакаў. Гэта — па-першае. А па-другое, скажу, што да нас, як і ў мафію, і ў масонства ўваход ёсць, а выхаду няма. А тут надта ўжо сур’ёзнае заданне намячаецца, дэталяў я і сам да канца не ведаю, не казалі мне. Ды і тэсты на кемлівасць — цяжкавата іх прайсці, сыплюцца нашы...

Тады я:

— А з работаю як? А пенсія, калі на тое пайшло?

Ён бліснуў вачыма, ажно павеяла холадам, і:

— Не хвалюйся, не ты першы, не ты апошні... Усё прадумана. Аб’явім, што знік пры невядомых абставінах. Калі захочаш — лістоўкі з фотаздымкамі паўсюль вывесім, прыкметы апішам, нават у Інтэрпол інфармацыю закінем...

— А доказы?

Ён тут жа:

— Легкавік свой дзе ставіш?

— Ля пад'езда. Як і многія. Гараж далекавата, лянуюся...

— Размалоцім ушчэнт. Асфальт ля машыны чырвонай фарбаю выпацкаем. Камар носа не падточыць. Пасля, калі заданне выканаеш, машыну адрамантуем.

— А як жа вы растлумачыце маё паяўленне?

— Аб'явім, што быў без памяці некалькі гадоў. Ты што, газет не чытаеш, тэлевізара не глядзіш? Цяпер такіх нямала: выйшаў чалавек з дому і — не вярнуўся. Потым, гадзікаў праз пяць, паяўляецца невядома адкуль. Пачынаюць у яго дапытвацца, а ён — нічагусенькі не помніць. Гэта — горшы варыянт, калі з заданнем не справішся. А ў лепшым — героем будзеш. Рызыка, сам разумееш... Хто не рызыкуе — той не п'е шампанскае. Дык як, згода, па руках?

Задумаўся я... Шкада брата стала — сардэчнік, ён без рыбалкі жыць не можа, вазіў я яго дагэтуль штотыдзень на рэчку.

А ён далей соль на жывыя раны сыпле:

— Не ты адзін у такую сітуацыю трапляеш. Некалі быў цар, Адысеем звалі. І жоначка ў яго была, Пенелопа. Ён пасля дзяржаўнай службы дамоў стомлены вяртаецца, а Пенелопа са служанкамі лясы точыць пра багоў алімпійскіх. Ён ёй — слова, а яна яму, багамі алімпійскімі заклапочаная, — тры ў адказ. Як і ў цябе атрымлівалася. Якая тут табе ўжо вячэра?.. Цярпеў ён, цярпеў, а тады каманду гэткіх жа, як і сам, гаротнікаў сабраў і ў мора падаўся. Гэта пасля гаварыць пачалі, што ён залатое руно паплыў шукаць. Але, павер мне, усё іначай было. Заадно ён і Пенелопу рашыў правучыць, праверыць, ці верная яна яму. І вось, калі ён паплыў, калі да яе розныя сваты з усіх канцоў свету папёрлі, калі горачка цяпнула, тады яна і ўведала, што страціла...

Падумаў я: Адысей не пабаяўся царства страціць, то што мне губляць?

Кажу яму:

— Так і быць, калі прайду тэсты, ды і ўсё астатняе, машыну не чапай, аб'явы не вывешвай. Ты лепш чутку пусці, што мяне ў шпіёны завербавалі. Я ключы ад машыны і дакументы на яе брату пакіну, а ты замест мяне будзеш з ім на рыбалку ездзіць.

Зноў ён зыркнуў на мяне, у самыя вочы ўтаропіўся, вусішчы пальчыкамі распраміў — на таракана стаў падобны. Позіркам сваім, як шылам, да сэрца самага працяў і кажа:

— Падумай. Пасля, як распіску дасі, позна будзе.

А мяне як чорт панёс, ведама, чалавек я гарачы:

— Выклікай на гутарку!

Што ж, назаўтра прыехалі да мяне на работу, перагаварылі пра нешта з начальствам, запрасілі мяне ў чорны легкавік з таніраванымі вокнамі, павезлі да сябе ў нейкую будыніну, на дзвярах якой ніякіх шыльдаў няма.

Завялі ў нейкі кабінет, дзе цяжкія шторы на вокнах. За стол пасадзілі. На стале, як і трэба, — тры тэлефоны, графін з вадою, шклянка, камп'ютарны манітор. Гаворку распачалі. Двое са мною гаварылі, а трэці, у цёмных акулярах, у капялюшыку, насунутым на самыя вочкі, сядзеў у кутку кабінета і нічога не гаварыў — не раіў, не пытаўся. Скасавурыўся я на гэтага невядомца і — аж уздрыгнуў... Гэта ж ён, той сябрук, з якім некалі на рыбалцы пазнаёміліся, які ўчора сватаў мяне на справу сур'ёзную. Акулярамі прыкрыўся, капялюшыкам, на вочкі насунутым, прыкрыўся, але ж — вусы, вусы тырчалі ўсё

тыя ж — як у таракана... Твар, як казаў адзін мой сябрук, ніякай біяграфіяй, ніякімі дакументамі не прыкрыеш...

Другі сябрук, інтэлігент па паходжанні, пра тое ж самае яшчэ казаў: «Гены пальцам не прыкрыеш». Гэты сябрук надта ганарыўся сваімі генамі, якія ад дзеда ўзяў. Ён у нейкай сакрэтнай лабараторыі вывучаў гены і мемы, што такое мемы — не ведаю. Толькі сядзем за стол, возьмем па чарцы, а тады ён і будзе казаць задуменна:

— Калі б ведалі вы, хлопцы, што такое гены і мемы... Яны ж, можа, самастойныя, яны намі кіруюць лепш усякага начальства, перадаюцца ад аднаго чалавека да другога, яны, можа,— і тут ён абавязкова палец угору падымаў, — хоць і нябачныя, але складаюць сутнасць жыцця... Вось, самі паглядзіце...

Пасля гэтых слоў ён даставаў фатаграфію з кішэні і нам паказваў. На ёй дзед барадаты красаваўся. Як і дзед, сябрук таксама бараду адгадаваў... Падобныя яны былі, як вылітыя. Асабліва бародамі...

Паказаўшы нам фатаграфію, сябрук далей казацьме будзе:

— Мой дзед некалі самастаяцельны быў, тры жарабкі ў хазяйстве меў, авечак загон — гаспадар быў сапраўдны... Пасля раскулачылі, ляснулася ўсё... Але ж, як ні падумай, гены ягоныя сваю справу зрабілі — во, бачыце, хоць коней у мяне і няма, але ж і я не прапаў, сам у людзі выбіўся, кандыдацкую зляпіў, у навуцы не апошні чалавек... Давайце, хлопцы, за гены чарку падымем... Іх пальцам не раздушыш...

Пасля такіх заяў нам нічога не заставалася, як з сябруком пагадзіцца...

Канечне, я і выгляду не падаў, што знаёмы з ім. Ды і ён сядзеў моўчкі, быццам не ведаў мяне.

А мо спадзяваўся, што не пазнаю яго?

Субяседнікі сур’ёзныя трапіліся, не ахламоны, пры гальштуках, але ж і я не лыкам шыты. І яны якраз тым жа цікавіліся, чым і я цікавіўся ў вольны ад работы час. Толькі тут да мяне дайшло, чаму на мяне паў выбар. Далікатненька яны падводзілі гаворку да галоўнай тэмы, пакуль я не ляпнуў:

— Ды што вы мне ўсё круціце, муціце?.. Вы думаеце, я нічым апроч работы не цікаўлюся, не чытаю нічога? Я не толькі незямнымі цывілізацыямі цікаўлюся, я нават і пра віваны лятаючыя ведаю...

У іх, прызнаюся, і вочкі застылі. Канечне, дзе ім пра тыя віваны ведаць, у іх сваёй работы хапае.

— А што гэта такое, віваны?— пытаюць.

Ну, я і давай ім тлумачыць, што такое віваны. Заадно і пра багоў касмічных расказаў, якія некалі на зямных дзяўчатах жаніліся. Бо ў мяне такія папкі сабраныя, такія выразкі з прэсы, што ім і не снілася. Яны і не ведалі, што я самастойна вёў расследаванне пра незямныя цывілізацыі яшчэ з тых часоў, калі пра іх у адкрытую гаварыць баяліся, на кухнях за бутэлькаю пра іх перашэптваліся, ды і то — з аглядкаю... Пра многае я ім тлумачыў...

Пераглянуліся гэтыя двое між сабою, галовамі паківалі — мабыць, падумалі, што я ім падыходжу. Тады адзін з іх і кажа:

— Што ж, пішы распіску.

І тут жа падсунулі чысты ліст. Ручку ў рукі торкнулі. Ды не звычайную шарыкавую, а нейкую спецыяльную, са спецчарнілам зялёным. Мабыць, чарніла тое было невыводнае. На чорненькім корпусе ручкі залатая гравіроўка вяззю была выведзена: «Для сакрэтных распісак».

Прыгожая была ручка, рэдкасная. На бялюткай мелаванай паперчыне я і пачаў крэмзаць:

***Распіска***

*Я, Базыль, родам з Жыціва, клятвенна абяцаю пасля сённяшняга дня захоўваць даверaную мне тайну, у якую мяне будуць пасвячаць...*

Толькі я размахнуўся, каб распісаць свае будучыя абавязацельствы і вечныя клятвы, як той, у цёмных акулярах, які дагэтуль моўчкі сядзеў у кутку кабінета, сказаў:

— Не толькі нашу, але і агульначалавечую таямніцу...

Тут я і папярхнуўся... Вады папрасіў у шклянку наліць...

Перапісаў, як мне падказалі, тую распіску, аддаў ім бялюткую паперчыну з зялёненькім тэкстам, а тую прыгожую ручку неўпрыкмет у кішэньку пінжака паклаў. Думаў, на памяць застанецца. Аж не, — у акулярах, хоць і быў мне сябрук, усё заўважыў, кажа:

— Ручку, ручку на месца пакладзі...

Давялося тую ручку аддаць. Ну, думаю, вось дзе сапраўдныя справы вядуцца...

Вось так усё і закруцілася.

Прайшоў тэсты розныя, — і на кемлівасць, і на псіхалагічную ўстойлівасць, потым спецкурсы пачаліся, спецпадрыхтоўка ды яшчэ — маўклівасць вечарамі, калі красатулі сваёй нічога не мог ні сказаць, ні растлумачыць.

Хлопцы са спецорганаў, якія пад ранне дамоў да сваіх прыгажунь вяртаюцца і, часам лыка не вяжучы, нічога ў сваё апраўданне не могуць сказаць, добра ведаюць, на што намякаю...

Як у апраўданне, я ўспамінаў цара Адысея, суцяшаў сябе: пачакай, пачакай, прыгажуня мая ненаглядная, вярнуся героем, тады ўсё табе прыпомню, да апошняга твайго слоўца, якімі ты мяне бэсціла.

Калі ўсё вырашылася, з калегамі па працы па-чалавечы развітаўся. Само сабою — адвальную арганізаваў. Застолле было добрае, гаварылі пра мяне словы харошыя. Скажу па сакрэце, калі хочаце пачуць, што будуць гаварыць пра вас на вашых жа хаўтурах — арганізуйце адвальную...

Адна жанчына дык і вершык мне прысвяціла. Яна нядаўна ў суседні аддзел прыйшла, мабыць, рознага пра мяне наслухалася. Мо і бачыла мяне, вясёлага, калі хлопцам анекдоты баяў. Устала з-за стала, застаўленага ядою і пітвом, лісточак з рыдыкюльчыка дастала і, запунсавеўшы ад хвалявання, звонкім як званочак, чысцюткім, не пракураным галаском сказала, час ад часу пазіраючы на мяне:

— Ад імя нашага аддзела я прысвячаю вам верш.

У апошні час, як я змікіціў, людзі чамусьці вершы пачалі сачыняць. Усюды, куды не паткніся, на гулянках розных, так і чуеш: «А цяпер я вам верш прачытаю. Сам сачыніў...» Дык вось, пачатак яе верша і цяпер памятаю:

Базыль, Базыль, у краях далёкіх
Ты пра сяброў не забывай.
Дзяўчат прыгожых, сінявокіх
Не забывай, успамінай.

І далей у тым вершыку нейкія намёкі былі на будучую сустрэчу, калі раскажу, дзе бываў і што бачыў...

Да гэтага часу на рабоце чуткі пайшлі, што мяне ў шпіёны завербавалі. Адны казалі, што пад прыкрыццём пасольства буду працаваць, другія, што ў глыбокую рэзідэнтуру запускаюць. І ўсе чамусьці шкадавалі мяне.

Глядзеў я на гэтую запунсавелую і сінявокую і таксама гэтак шкадаваў... І думалася міжвольна: вярнуся, сінявочка, табе першай пра шпіёнства сваё раскажу, цёмнымі вечарамі ў самае вушка шаптаць буду.

Ну, а потым мае будучыя хаўтуры танцамі і песнямі замяніліся.

Ох, і скакаў жа я на тых танцах, ох, і выдылінгіваў!

Хораша мы спявалі:

Ой, сівы конь бяжыць,
На ім бела грыва.
Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне адна дзеўчына...
Не так та дзеўчына,
Як яе лічанька...

Як гэта здорава: спяваць і адчуваць салодкае яднанне з добрымі людзьмі, якое, можа, толькі цераз песню і адчуеш! Бо што яшчэ, скажыце мне, апроч народных звычаяў і народнай песні нас яднае і можа яднаць?

Затым да брата-сардэчніка падаўся. Збольшага, сакрэтаў не выдаючы, расказаў, што да чаго і з чаго ўсё пачалося.

А ён таксама ў гарачай вадзе купаны — тут жа са сваёй парадаю:

— Разводзься, калі гэтак дапякла. І — дзелу канец, і нікуды падавацца не трэба.

Памуляў я вуснамі і кажу:

— Калі кожны мужчына пачне разводзіцца пасля сямейнага скандалу, ты нават і ўявіць не можаш, што будзе тварыцца на свеце. Гэта ўжо наша мужчынская доля.

— Якая доля? — вытарашчыў вочы брат.

— Цярпець жаночыя выбрыкі да скону сваіх дзён. Яны ж без слёз і скандалаў не могуць жыць, яны ж неяк па-іншаму петраць... І беды ўсе пачынаюцца, калі мы, мужчыны, думаем, што жанчыны гэткія ж, як і мы, калі да сваіх спраў імкнёмся іх прывучыць... Не трэба гэтага рабіць, яны проста — іншыя, зусім па-іншаму думаюць. Мы, мужчыны, калі што надумалі — тут жа і прымаемся за справу: робім з дня ў дзень, воч да зор не падымаючы, малатка ці сякеры не выпускаючы з рук. А яны што робяць звычайна? Яны і не думаюць брацца ні за якую справу, найперш мяркуюць, як бы нас хутчэй да сваіх рук прыбраць. А справы ім нашы — як пану гармонь патрэбныя... Вось таму яны слёзкамі нас даймаюць, штодня на сябе новыя кофтачкі нацягваюць, памадзяцца, як могуць, падфарбаванымі вочкамі бяруць нас у палон. Вось так, — заарканіўшы нас, яны сваю справу зробяць, а тады ўжо камандуюць намі, як ім уздумаецца...

— Цябе і зацугляе... — сумняваецца брат.

— А-а, чаго, — супакойваю яго. — У добрыя і мяккія ручкі я заўсёды гатовы аддацца... Карацей, таго ў цёмных акулярах са спецорганаў памятаеш?

— Памятаю, — адгукаецца брат. — Вёрткі ён надта. Такіх у ступе не затаўчэш. То ён пад вяскоўца косіць, то пад еўрапейца... З кожным чалавекам па-featureрознаму гаворыць...

— Ключы ад машыны на стол кладу. Ён звоніць табе, заве на рыбалку. Пакуль мяне не будзе — ездзіце. Вось там на рыбалцы ты яго і выхоўвай, прывучай да слова роднага.

— А як жа без яго, слова роднага, абыходзіцца? Разам з моваю, без звычаяў сваіх і народ знікае, у насельніцтва ператвараецца... Ты што, не ведаеш, што слова — не гук пусты? Няўжо не ведаеш, што слова на генетычны код

чалавека ўплывае? Як і вада, гэтак жа і слова чалавека як лечыць, так і калечыць. Гэта не я, а вучоныя даказалі. Людзі пра ўсё гэта і без вучоных ведалі, калі над вадою шапталі свае загаворы і вадзіцаю загаворанай дзетак лячылі... О-о, мы яшчэ не ведаем толкам, што такое — слова, мова родная... Як думаеш, чаму так склалася, што ў кожнага народа мова свая?.. Як толькі мова знікае, то і народ тут жа знікае... А-а, што табе, боўдзілу, тлумачыць!..

Брат на мяне глядзіць, як на нябогу якога, галоўкаю ківае спачувальна.

І што рабіць мне з ім, скажыце, людцы родныя?

Нічога, выкруцімся... Не ўпершыню нам...— брат не мне, а некаму іншаму абяцае. Па ўсім відно, на мяне ён ужо даўно рукой махнуў. Вочы хавае і глухавата:

— Вечна цябе некуды заносіць, як тых іванаўскіх прыдуркаў.

Пра гэтых вадзілаў са знакамітага Іванава я неяк брату расказаў.

Давялося з імі начаваць на трасе. Спыніліся за горадам. Машыны побач паставілі, вогнішча развялі, вячэру гатаваць пачынаем. Гляджу, адзін пад «камаз» палез ні з таго ні з сяго, кардан пачынае адкручваць. «Навошта?» — пытаю. «Подопью — поеду», — адказвае. Другі маўчком ля цяпельца сядзіць. Павячэралі. Само сабою — чарку ўзялі. Спаць пара ўкладвацца. Гэты, каторы кардан адкруціў, у машыну залазіць, заводзіць і газаваць пачынае на ўсю катушку, рулём круціць, сігналіць час ад часу — едзе... Другі куртку нацягвае. «Ты куды, на ноч гледзячы?» — пытаю. «Пойду, похлопочу», — адказвае і ў цемры знікае. Сяджу ля вогнішча, зоркі ў небе лічу і не ведаю, што рабіць. Адзін — газуе, другі — чорт ведама дзе... Нарэшце праз якую гадзіну другі вяртаецца. З фінгаламі, у сіняках, збіты на яблык горкі... Падыходзіць да машыны, кабіну адчыняе і кажа першаму: «Станавісь, прыехалі...» І праўда, першы машыну глушыць, пытаецца: «А ты похлопотал?» «Похлопотал», — адказвае другі. «Ну, тогда спать давай укладываться...»

Гляджу на брата і — не да смеху мне. Схуднелы ў трэшчыну, пасля аперацыі на сэрцы ён нікуды надта не можа падацца і для яго рыбалка цяпер — адзінае збавенне ад гэтага жаху халоднага, што нечакана ні з таго ні з сяго накочваецца на ўсіх сардэчнікаў. Па самым краёчку жыцця ходзіць. І што думае ён, чым суцяшае і апраўдвае дні пражытыя?

І ён яшчэ кудысьці лезе... Тут здароўечка конскае трэба мець...

Гледзячы на ключы ад машыны, брат усё гэтак жа глухавата, на мяне вачэй не падымаючы:

— Дома сядзеў бы, гора не сёрбаючы...

— Нічога, усё ў жыцці спазнаць трэба, — адказваю і ў акно на двор гляджу. А там у пясочніцы хлопчык годзікаў трох гуляе. Побач на лавачцы мамка сядзіць, газецінку чытае, праўдачку хоча ўведаць, мо нават — і «Народную волю»... Час ад часу вочкамі туды-сюды пуляе. Ногцікі на ножках фарбаваныя, прычосачка, фігурка — усё, як паложана. Такія прыгажунечкі годзікі са тры як пасядзяць з малым у цеснай двухпакаёўцы, потым галоднымі тыгрыцамі на вуліцу вылятаюць... — Нічога, — паўтараю брату, — усё ў жыцці спазнаць трэба. Мой сябрук у шэсцьдзясят ажаніўся на дваццацігадовай.

— Ну, і як, нажыўся? — за спінаю чую.

Успамінаю анекдот пра пажар, што спапяліў і хату, і хлеў, і паветку — усё дашчэнту, і гаспадара, які, на папялішчы стоячы, патыліцу пачэсваючы, хваліўся суседзям: «Але ж і мышэй ляснула...»

І кажу:

— Затое вяселле было добрае. Я на тым вяселлі быў. Два дні спяваў, скакаў, ногі адтоўк... На ўсё жыццё запомню... Маладой на вяселлі драўляную

качалку падарыў. Паказаў, як карыстацца... Што з яе возьмеш, з маладой, — нявопытная яшчэ, няўмека... А качалка ёмкая, мацнейшая за міліцэйскую дубінку. Гвазданеш адзін раз па дурным ілбішчы — два тыдні сіняк не сыдзе...

— Качалка хоць цэлаю засталася?

Іншым разам засмяяліся б...

А цяпер — не... Зірнуў на брата. Натапырыўся, як вожык, маркоціцца. І так — метр з шапкаю, а цяпер, здаецца, яшчэ меншы стаў. І гэтак зашчымела ў душы, гэтак стала шкада гэтага хударэбрыны, які без машыны нікуды не зможа выбрацца, ні на рэчку, ні на возера, бо сіл нестае цягаць на сабе рыбацкае прычындалле. Тут ужо і я вочы схаваў і з ягонай кватэры шуснуў.

Як зладзюган, што шчасце чужое спёр.

Калі з прыгажуняю развітваўся, калі ўрэшце сказаў, што выпраўляюся на важнае заданне, яна разрумзалася, чамусьці апраўдвацца пачала, успомніла пра гэтыя серыялы, якія цяпер да скону дзён глядзець не будзе. Абняла мяне, Базылёчкам родненькім пачала называць. І шаптаць пачала, што калісьці-калісьці шаптала...

Каб не гэтыя яе слёзы, дык я, можа, і гогалем бы на вуліцу падаўся, а так у грудзях пачало штосьці клупціцца, да горла падымацца. І неяк па-іншаму пачаў глядзець на бесталковую, у нечым няшчасную хлюндру жыціўскую, якая, як і многія жанчыны, адно толькі і бачыла: днём — работу на бяздумным канвееры, а вечарам — непрыбраную кватэру, бялізну, кухню з вечна нямытымі талеркамі. З дня ў дзень адно і тое ж гарадское... І яшчэ, як шчасце адзінае — серыялы. А я іх, боўдзіла, адабраць надумаў. І шкадоба, вялікая шкадоба пачала зацiскаць мяне.

— Нічога, пацярпі трохі, вярнуся і мы ў лес у ягады сходзім, а мо — і ў грыбы шаснем, — прымірэнча і нават вінавата сказаў.

А што яшчэ мог сказаць?

Што распіска мною дадзена?..

Што пры спецзаданнях уваход ёсць, а выхаду...

З кватэры падаўся, а ў вачах усё яшчэ стаялі сівыя пасмачкі валасоў, набухлыя вены на руках. І пах... Звыклы малочны пах яе цела перабіваў усё...

## 2

Каторы год на калязямной арбіце вёўся мантаж першага ў гісторыі чалавецтва зоркалёта. Раз за разам стартавалі з касмадромаў засакрэчаныя нумарныя ракеты, якімі па частках дастаўлялася на калязямную арбіту ўсё тое найноўшае і найскладанейшае, што магло разагнаць зоркалёт да тых неверагодных хуткасцей, пры якіх час на зоркалёце пачынаў запавольвацца: іонны рухавік, шматвёрсны сонечны ветразь, камп'ютар саманавучальны, пасадачны модуль...

Тым жа скептыкам, якія ўсё яшчэ сумняваюцца ў праўдзівасці маіх прыгод, магу і формулу прывесці — яе на спецкурсах мне паказалі. Вось яна:

$$T=\frac{t_{0}}{\sqrt{1-\frac{v^{2}}{c^{2}}}}$$

У формулцы гэтай пры вялікай хуткасці: літарка вэ — час на зоркалёце, літарка тэ — будзе запавольвацца ў параўнанні са звычайным часам, літарка тэ нуль — у якім будзе жыць яна, прыгажуня мая ненаглядная.

Вы, скептыкі і няверы, спытайце вучоных мужоў і яны пацвердзяць вам, што я — не манюка, што ўсё вышэйпрыведзенае называецца парадоксам блізнюкоў.

Сёння магу сказаць, чым была выклікана такая засакрэчанасць вакол першага ў гісторыі чалавецтва палёту да зор, дагэтуль недасяжных. Хоць, здавалася, усё павінна было быць наадварот: вось і настаў той міг, калі чалавек з зямной калыскі выйшаў па-сапраўднаму і ўпершыню пад сонечным ветразем, разагнаны іонным рухавіком, кіруе да зор — радуйся, радуйся чалавек... Аж не, звышсакрэтнасць спатрэбілася.

Апошнім часам на Зямлі рэзка пачасціліся розныя катаклізмы: землятрусы, цунамі, тайфуны, неверагодныя шматдзённыя ліўні і тут жа несусветныя халады — усё раз за разам абрыньвалася на чалавецтва. Імкліва раставалі векавыя леднікі, снегавыя палярныя шапкі за дзесяцігоддзі паменшыліся на трэць, Гальфстрым — акіянскае цячэнне — мяняў кірунак, а гэта азначала вялікае абледзяненне ўсёй Еўропы і Англіі, не ўпамінаючы пра гаротныя краіны Скандынавіі.

У зямной атмасферы таксама чорт ведама што тварылася. То ў Афрыцы, то ў Мексіцы — усюды паяўляліся знакамітыя лятаючыя талеркі. Пайшлі чуткі, што ваенныя лётчыкі, якія спрабавалі збіць гэтыя талеркі, тут жа пачыналі хварэць на незразумелыя хваробы, балазе ніякія ракеты тыя талеркі не маглі дастаць, бо яны, талеркі, імгненна разганяліся і гэтак жа імгненна спыняліся, былі бачнымі і нябачнымі.

Людзей днём і ноччу непакоіў загадкавы палтэргейст: прадметы рухаліся самі, у пустых пакоях чуліся галасы, адкручваліся краны і вада з іх цурком лілася, агонь ні з таго ні з сяго ўспыхваў і адзенне на людзях жывых гарэла — жахоцце адно пачалося, а мужы вучоныя — як вады ў рот панабіралі, нічога не маглі сказаць.

Паявіліся людзі, якія сцвярджалі, што ў іх галовах гучаць нейкія галасы, даюць каманды... Некаторыя гаварылі, што іх невядомыя істоты да сябе на лятаючыя талеркі бралі і там над імі аперацыі рабілі. Канечне ж, гэтых, у якіх галасы ў галоўках гучалі, тут жа ў дурку адпраўлялі, лячыць пачыналі, ды толку мала было, бо і сапраўды — мо тыя людзі і не вінаватымі былі?

Вучоныя мужы выступілі з рознымі гіпотэзамі. Адны загаварылі пра гібельны парніковы эфект, які чалавецтва сваёй дзейнасцю стварае, другія — пра чарговы эвалюцыйны этап, які невядома чым скончыцца, — мо нават і машыннай цывілізацыяй, якой чалавецтва не спатрэбіцца, калі хто і застанецца жывым у той цывілізацыі, дык рабом бяспраўным робатаў і машых думаючых будзе абслугоўваць, а трэція вылучылі гіпотэзу, што Зямля — жывы арганізм накшталт клеткі...

Як гэта заўсягды вядзецца ў вучоным свеце, палкія спрэчкі разгарэліся наконт апошняй гіпотэзы. Бо і праўда, калі пагадзіцца, што Зямля — жывы арганізм, які думаць можа, то што ж тады атрымліваецца, браточкі родныя? Кім жа тады чалавек з'яўляецца? Дзеля чаго і навошта ён на Зямлі існуе?..

О-о, колькі мудрагелістых пытанняў паяўляецца, калі пагадзіцца, што Зямля — жывы арганізм! Скажу адразу: не бяруся вырашаць гэтыя пытанні, вам іх пакіну...

І увогуле, як думаецца мне, апошнім часам людзі шмат чаго ўведалі, — і правіламі, і законамі сябе аплялі, ганарлівымі сталі, — а між тым штосьці выветрылася з іхніх душ...

Ды не буду, не буду доўга разважаць пра ўсё гэта, невытлумачальнае, што на чалавецтва насоўвалася з усіх бакоў, пра ўсё гэта вам раскажуць палітыкі

і філосафы разумныя, яны ж, палітыкі і філосафы, штодня выйсце падказваюць, калі па тэлевізары парады даюць, а я дадам толькі, што сярод некаторых вучоных выспела думка, што лятаючыя талеркі і зямныя катаклізмы маюць між сабою пэўную сувязь. Прыкладна ў гэты ж час вучоныя з СЭЦІ — міжнародная арганізацыя, якая праз тэлескопы розны незямны розум увесь час шукае ў прасторах касмічных — зафіксавалі з дальняга космасу сігналы штучнага паходжання.

Спецыялісты тут жа заняліся расшыфроўкаю сігналаў. У сродкі масавай інфармацыі, як вы добра памятаеце, прасачылася паведамленне пра гэтыя загадкавыя сігналы, але, каб супакоіць людзей і не ствараць лішняга ажыятажу, тут жа была пушчана дэза — маўляў, ніякіх штучных сігналаў няма, памылачка выйшла, замест штучных сігналаў адкрылі чарговы пульсар...

Як ні мяркуй, але атрымлівалася, што чалавецтва стаяла на парозе прамых кантактаў з незямнымі цывілізацыямі.

Успомніліся міфы розных народаў, дзе гаварылася пра прышэсце і нашэсце з нябёсаў невядомых істот, успомніліся паданні пра калясніцы вогненныя, што ў небе тысячагоддзі таму лёталі і адкуль на зямлю вогненныя стрэлы ляцелі, малюнкі наскальныя і намаляваныя ў пячорах падземных успомніліся, на іх выразна бачыліся як істоты ў скафандрах, так і самі касмічныя ракеты, прарокі і прадказальнікі ўспомніліся — і Настрадамус, і балгарская бабка Ванга. Ды і тыя ж тэксты біблейскія зусім па-іншаму пачалі чытацца, зусім іншы сэнс у іх пачаў адкрывацца.

Першымі за тэму незямных кантактаў ухапіліся кінарэжысёры — людзі баявыя і хваткія, якія заўсёды стаяць на чале новага прагрэсіўнага мыслення. У сваіх геніяльных оскараносных фільмах і мультфільмах яны пакрысе, памаленечку пачалі рыхтаваць разгубленае чалавецтва да доўгачаканай сустрэчы... Тут прапаноўваліся розныя варыянты, — і аптымістычныя, і песімістычныя. Нагледзеўшыся тых фільмаў са спецэфектамі, многія гледачы ў разгубленасці самі сабе не маглі сказаць, дзе — рэальнасць, а дзе — кінавыдумка...

Увогуле, калі гаворка зайшла пра кінарэжысуру, то заадно варта ўспомніць і пра тэлебачанне...

Гэтак сталася, што без тэлебачання, дзе гаспадарылі палітыкі, хахмачы і кінарэжысёры, людзі ўжо і свету не бачылі — штодня яны толькі тым і цікавіліся, як жылі-пажывалі разумнікі палітыкі, тыя дзесяць хахмачоў, што з тэлеэкрана не злазілі, тыя кіна- і тэлезоркі living  розную манеру.

Дык вось, якраз тады быў тэрмінова распачаты сакрэтны праект будаўніцтва зоркалёта. Чакаць бяду на Зямлі не было сэнсу, спадзявацца на салодкія рэжысёрскія баечкі таксама няварта, трэ было самім кіравацць да той планеты Дзэта, адкуль сыходзілі сігналы штучнага паходжання. Можна толькі ўявіць, што пачнецца на Зямлі, калі нечысць касмічная на Зямлю наваліцца. Тут ужо ніякія Бэтманы, ніякія супергероі не дапамогуць.

## 3

Не буду стамляць доўгім апісаннем міжзорнага падарожжа, балазе, што яго і не памятаю — быў летаргічны сон, які закончыўся, калі зоркалёт наблізіўся да планеты Дзэта, ад якой сыходзілі сігналы штучнага паходжання. Аўтаматызаваная сістэма ў гадзіну Х разбудзіла мяне, я тут жа перабраўся ў пасадачны модуль, які аддзяліўся ад зоркалёта і пачаў зніжацца да паверхні планеты.

Як толькі пасадачны модуль ахутаўся бялюткімі воблакамі, тут жа — ці паверыце? — адкуль ні вазьміся ля модуля паявіліся бліскучыя лятаючыя талеркі. Акружылі мой модуль. Амаль гэтак жа, як матацыклісты ў шлемах акружаюць лімузіны палітычных дзеячаў, што час ад часу з мігалкамі і выццём праносяцца па гарадскіх праспектах. Я і натапырыўся — няўжо ў палон бяруць?

Праз ілюмінатары модуля пачаў узірацца ўніз. Пад задымленымі аблокамі адкрылася мне прыгожая планета, як на далоні паказалася — зялёныя раўніны, высачэзныя горы, на вяршынях якіх бялелі снегавыя шапкі. З гор рэчкі гнуткія ў раўніны сцякалі... У вочы мне кінуліся пірамiды, што вяршынямі ў аблоках хаваліся, то там, то сям, па ўсёй планеце яны былі раскіданы. Я кумекаць пачаў: а ці не тут схавана загадка нашых зямных пірамід — як дзве кроплі яны былі падобныя, толькі гэтыя, незямныя, былі нашмат большыя, вяршынямі ў аблоках хаваліся. А на вяршынях тых пірамід меліся аграмаднейшыя кіламетровыя круглыя бліскучыя купалы.

Што гэта былі за купалы, навошта яны былі? Можа, — найперш падумалася, — гэта былі тыя звышмагутныя антэны, якімі ў космас сігналы да нас, на Зямлю маглі перадавацца?..

Ад піраміды да піраміды лятаючыя талеркі насіліся, то нізка над зямлёю іхняй, то высока яны падымаліся. Былі талеркі гэткія ж, як і тыя, што цяпер мой пасадачны модуль акружылі...

На раўнінах паўсюль палі і лясы — былі яны падзеленыя на раўнюсенькія прамакутнічкі. Праз павелічальнае шкло ілюмінатара пачаў я пільней прыглядацца да тых палёў і лясоў. І ўбачыў — не паверыце,— што на палях расце кукуруза, пшаніца каласіцца, а ўсё тое, што за лясы прымаў, было фінікавымі пальмамі, аліўкавымі дрэвамі...

Тады і адкрылася мне таямніца паходжання на Зямлі кукурузы, пшаніцы, лячэбных фінікаў і алівак, бо, як чуў ад вучоных людзей, не маглі ж яны самі па сабе на Зямлі паявіцца — генетыка ў іх іншая, незямная... Як вучоныя казалі, была кукуруза і пшаніца ежаю багоў, што з космасу на Зямлю прыляталі і некалі цёмнае чалавецтва пакрысе адукоўвалі, таемныя веды людзям перадавалі, настолькі важныя і таемныя, што іх толькі жрацы егіпецкія маглі ведаць. Таму пад кіраўніцтвам жрацоў егіпецкіх рабы і змаглі пабудаваць піраміды загадкавыя, сакрэты якіх і па сённяшні дзень ніхто не можа разгадаць. Вось табе і на... Ясненька мне стала, адкуль да нас тыя багі прыляталі калісьці...

Мо нават і таямніца пчолак працавітых, якія калектыўным розумам жывуць, тут хавалася? Ды ці толькі адны пчолкі калектыўным розумам жывуць... А мурашы, якія ў мільённыя калоніі збіраюцца, а птушкі, а звяры, якія нябачнай сувяззю між сабою павязаны і жывуць мірна?

Вось дзе — мне цюкнула — адкрыюцца таямніцы многія, вось чаму мне распіску прапанавалі напісаць...

Па ўсім відаць было, што на гэтай планеце — як ужо казаў, Дзэта называлася — нейкія разумныя істоты сваю дзейнасць вялі. Паўсюль — на раўнінах зялёных, у гарах — аграмаднейшыя кіламетровыя яміны меліся. Адны яміны былі пустыя, а ў другіх машынамі іхняя зямля разрывалася. На стужках канвеерных са дна ямін наверх тая зямля выносілася і тут жа ў закрытыя будыніны падавалася. У будынінах трубы высачэнныя тырчалі, з іх белаваты дым сеяўся. Ад пірамід высачэнных гладзенькія і роўненькія дарогі разбягаліся ва ўсе бакі, па іх машыны бегалі... Пільней прыгледзеўся я і падзівіўся: разумненькія былі тыя незямныя істоты, бо машыны іхнія не проста так па дарогах бегалі, ад пірамід яны бесперастанку вывозілі да пустых ямін штосьці. Мабыць, мне

падумалася, туды яны скідвалі адыходы дзейнасці сваёй. Смецце яны скідвалі,— што тут казаць... У нас дык яго скідваюць за гарадамі ў горы высачэнныя, а яны, бач, разумненькія, у яміны скідвалі...

Апроч палёў і лясоў я мора ўбачыў — белапенная палоска вілася ўздоўж берага... Па моры іхнім аграмаднейшыя караблі плавалі. Яшчэ там, у моры іхнім, на сваях таўсценных збудаванні высіліся, з труб высачэнных у неба іхняе дым клубіўся.

Але, як ні прыглядаўся, ды ніякіх жывых стварэнняў ні на раўнінах, ні ў лясах, ні на палях я не ўбачыў.

Нечакана пачуў голас у сваёй галаве...

«Ну вось, цяпер, калі жывым вярнуся, і я таксама ў дурку загрымлю» — гэта было першым, што падумалася.

Але ж ведаў я, што не вар'ят, балазе тэсты на псіхалагічную ўстойлівасць прайшоў.

Пачуў я незямны голас незямной істоты. Голас надта нагадваў левітанаўскі бас, якім некалі перадаваліся важныя тасаўскія паведамленні:

— Вітаем цябе, пасланец далёкага розуму. Зараз мы скіруем твой пасадачны модуль на пляцоўку, дзе зможаш апусціцца. І надалей, каб табе было зручней, даверся нашым дзеянням і рэкамендацыям.

Канечне, я быў падрыхтаваны да рознага віду кантакту, пры мне нават і зброя мелася, як індывідуальная, так і агульнакарабельная, якая магутным энергаполем аберагала мой пасадачны модуль ад каго і чаго заўгодна, але толькі цяпер я зразумеў, што ўсё пачынаецца зусім інача. Ды і якім чынам я мог супроцьстаяць гэтаму левітанаўскаму басу, які сам па сабе ў маёй галаве гаспадарыў?

Тут жа кнопкі на пульце кіравання самі па сабе прыйшлі ў рух.

«Палтэргейст, — мільганула ўва мне. — І тут ён завёўся, не толькі на Зямлі гаспадарыць...»

Пад камандай нябачнага палтэргейста пасадачны модуль пачаў імкліва апускацца да паверхні планеты Дзэта. Разам з маім модулем апускаліся і лятаючыя талеркі. Бетонная пляцоўка паказалася. На яе і апусціўся мой модуль пасадачны. Лятаючыя талеркі не адставалі — кругам яны нізенька завіслі над пляцоўкаю. Адзінаццаць штук іх было, роўна адзінаццаць, як цяпер помню. Затым знізу талерак вытыркнуліся падстаўкі, па тры штукі ў кожнай, на гэтыя падстаўкі яны і апусціліся. У кожнай талерцы адкрыліся знізу дагэтуль нябачныя дзверцы і адтуль на лесвічках паказаліся...

Пра каго вы найперш падумалі?

Правільна, правільна вы падумалі — паказаліся яны, знакамітыя гуманоіды, якіх вось ужо каторы годзік чалавецтва сустракала на Зямлі.

«Гэтулькі людцаў ні за што ў дурку запёрлі», — зноў чамусьці падумалася мне пра тых няшчасных, якія людзям праўду хацелі сказаць. Былі гуманоіды розныя — нашы зямныя сведкі не хлусілі, — і высокія, метры пад тры, худыя плоскія дылды, і маленькія, не болей за метр, пузаценькія карлы, пра якіх гэтак часта пісала зямная прэса і якіх аблюбавалі хваткія кінарэжысёры. Галовы ў іх — і без мяне ведаеце — былі авальныя, нечым нагадвалі яйка курынае, вочкі вузкаватыя, выпуклыя і неміготкія. Замест вушэй і носа дзірачкі меліся.

І яшчэ я змікіціў — лапкі і ногі іхнія былі гнуткія, бы шлангі гумовыя, вадою залітыя. Колеру гуманоіды былі рознага, карлы — зеленаватыя, а дылды — зямліста-шэрыя... І яшчэ заўважыў — як толькі дылды да мяне бокам станавіліся, яны ледзьве бачыліся, надта ўжо танюсенькімі былі...

Усе — і карлы, і дылды — як толькі са сваіх талерак выбраліся, тут жа мой пасадачны модуль акружылі, пільна на яго ўтаропіліся.

Шлюзы пасадачнага модуля самі па сабе адчыніліся, — як чалавек кемлівы, я здагадаўся, што зноў палтэргейст спрацаваў, — і, хочаш не хочаш, а давялося да гэтых нялюдскіх стварэнняў падавацца. Канечне ж, перад гэтым бартавая аўтаматызаваная сістэма праверыла атмасферу Дзэты — аказалася яна гэткай жа, як і на Зямлі. І тут мне цюкнула, чаму ж гэтыя стварэнні нашу Зямельку аблюбавалі...

Толькі паказаўся на лесвіцы пасадачнага модуля, як нялюдскія стварэнні лапкамі на мяне пачалі торкаць, за галоўкі хапацца — мабыць, я ім надта брыдкім паказаўся.

Паверце, яны мне таксама не анёламі падаліся.

Чамусьці ўспомніў беларусачак нашых, самых прыгажэйшых ва ўсім свеце: у спаднічках кароценькіх, у сукеначках прыталеных з доўгімі выразамі, што ножанькі прыадкрываюць, у кофтачках лёгенькіх... І як скоса, пры патрэбе, яны ўмеюць у самыя вочы зазірнуць — да сэрца працяць токам салодкім і тады ўжо — гэтак атрымліваецца — памяць траціш і ляпечаш, ляпечаш чорт ведама што, а яны з цябе тут жа вяроўкі віць пачынаюць і вяроўкамі гэтымі душу тваю спавіваюць...

І ўпершыню сумненне прарэзалася: а ці варта было сюды перціся, каб гэтаю брыдотаю любавацца?

Спусціўся з лесвіцы пасадачнага модуля, удыхнуў сухое, з нейкім хлоркава-бальнічным пахам, паветра — з непрывычкі аж у галаве закружыла — і ўбачыў, як з гурту вытыркнуўся маленечкі, з метр ростам, зеленаваты пузаценькі гуманоід і да мяне падаўся.

Я аслупянеў, успомніўшы інструкцыі і рэкамендацыі наконт кантактаў з іншымі цывілізацыямі: не набліжацца без патрэбы да незямной істоты, не рабіць рэзкіх рухаў, першаму на кантакт не ісці, зброю мець, але зноў жа — без патрэбы не прымяняць... Хоць пра якую тут зброю магла весціся гаворка, калі гэтыя карлы і дылды напрамую свае думкі ў маю галаву перадавалі?

Зноў у галаве сваёй пачуў голас незямны. Але на гэты раз то быў не важны тасаўскі левітанаўскі бас, не... То быў звычайны чалавечы голас, нейкі нават і ласкавы, — гэткім галаскам звычайна жанчыны запрашаюць у хату дарагога госця: заходзьце, родненькі мой, ужо стол для вас накрыты...

Здагадаўся, што цяпер са мною ад імя жыхароў Дзэты пузаценькі карла гаворыць:

— Ад імя жыхароў нашай шчаслівай планеты Дзэта рады павіншаваць вас з прыбыццём. Спадзяёмся, што ваша гасцяванне будзе карысным і вам, і нам. Адразу ж супакоім — пасля каранціннага тэрміну, калі захочаце — можаце ў нас назаўжды застацца, а не захочацца — на Зямлю можаце вярнуцца, балазе, як вы здагадаліся, кантакты з зямлянамі ў нас ёсць.

«Нічога сабе заявачкі, — думаў я, — каб мне ды тут заставацца... Выканаць бы графік абследавання, а там — ногі ў рукі...»

Так думаў я і ўсё глядзеў ва ўсе вочы на зеленаватага пузеню, на іншых стварэнняў, якія на мяне зырыліся і ўсё галовамі круцілі ды размахвалі гнуткімі лапкамі.

Ніякіх іншых гукаў я не чуў, бы знаходзіўся пад вадою, толькі ласкавы галасок гучаў у маёй галаве:

— Просім вас не здзіўляцца надта. Многае што з нашага жыцця напачатку падасца вам дзіўным, неверагодным нават, але пацярпіце, паразважай-

це — дзеля гэтага вам і даецца каранцінны тэрмін, — а потым будзеце самі выбіраць, дзе і як жыць, а значыць — зможаце выбіраць свой лёс.

Перабіраючы гнуткімі ножкамі, маленечкі карла зусім блізка да мяне падышоў і лапку працягнуў. У галаве сваёй я пачуў галасок:

— Пазнаёмімся, таварыш...

Паглядзеў я на гуманоіда, на гэтую зеленаватую лапку — была яна трохпалаю, вузенькаю... Завагаўся — а раптам, раптам сваёй лапкаю ён мяне заарканіць, ці праз лапку заразіць нейкай заразаю. І, было не было, дзе маё не прападала... — узяўся за тую халаднаваценькую мяккую лапку. Нічога, жывым астаўся... Ніякім токам мяне не шарахнула... І ў той жа час ласкавы галасок у маёй галоўцы гучаў:

— Яшчэ раз вітаю вас асабіста. Як вы здагадаліся, між сабою мы можам абменьвацца інфармацыяй як праз паветра, так і тэлепатычна. Самі бачыце, мы з вамі наладзілі прамы тэлепатычны канал сувязі. Напачатку вам будзе нялёгка весці з намі гутарку, але мы пастараліся на ўсе сто, — мы спецыяльна засвоілі вашы выразы, ваш, так бы мовіць, стыль і вобраз мыслення. У любы міг, калі вам захочацца чаго, ясна і выразна скажыце ці то самі сабе, ці то ўслых сваё жаданне, і яно тут жа спраўдзіцца. Усё гэта падобна на казку, але ж вы самі ўбачыце, што казку на нашай шчаслівай планеце мы даўно зрабілі яваю. Дарэчы, без ніякай містыкі, а ўсяго толькі — дзякуючы прагрэсіўнаму мысленню...

Чакаў я чаго заўгодна, але вось такога варыянта ніяк не планаваў — каб нейкі голас у маёй галаве пра нейкае шчасце трындзеў, а зрабіць я — нічога не мог...

— Піць хачу, — прамармытаў засмяглымі ад перажытага вуснамі.

І тут здалёку-здалёку як быццам шум хваляў марскіх пачуў і ў шуме гэтым асобныя галасы праразаліся:

— Ёсць кантакт... Ёсць кантакт... Ура-а! Ён піць хоча... Падаць яму піць...

Дылды і карлы галоўкамі яшчэ больш заківалі, паднялі лапкі ўгору і пачалі імі махаць — мабыць, неяк зразумелі ці адчулі — адкуль мне ведаць — просьбу маю.

Тут пузаценькі гуманоід ад мяне адвярнуўся і, гледзячы на натоўп гуманоідаў, тую лапку, якую толькі што мне торкаў, угору падняў, — мяркую, ён быў старэйшы ці начальнік нейкі. Шум тут жа заціх. Затым ён зноў да мяне павярнуўся, зазірнуў мне ў вочы. Пачуў ласкавае:

— Што будзеце піць?

Як казаў сябрук перад вяселлем, калі жаніўся на дваццацігадовай, справы, справы пачыналіся...

Уявіце сябе на маім месцы: вось у вас сакрэтная распіска, сакрэтнае спецзаданне і спецпадрыхтоўка, доўгі летаргічны сон, напружанае чаканне непрыемнасцей, адказнасць перад чалавецтвам, а тут на табе — і галасы ў галаве гучаць, і гэтая халаднаватая лапка гуманоіда, якую толькі што ў руцэ трымаў... Калі б гэта сон быў, то — можна зразумець, а тут — самая што ні ёсць рэальнасць... Адзін, сябрукоў блізка няма, падтрымкі няма ад каго чакаць. Што будзеш піць — пытаюцца...

І тады я заказаў...

Правільна, вы правільна падумалі наконт майго заказу.

## 4

Ачомаўся ў пакоях, якія нагадвалі гасцінічныя нумары. Усё мелася, што мне было трэба: і ванна, і туалетны пакой, і асобны пакой, дзе стаяў столік з незразумелымі стравамі, і яшчэ пакой, дзе адна сцяна была бліскучай і матава-шэраю, а перад ёю стаяла крэсла. Скумекаў я — відэаэкран.

І яшчэ дапетрыў, што гуманоіды пачынаюць са мною нейкае ігрышча і мне цяпер заставалася гуляць па іх правілах, ці — не гуляць. Пакуль выбару ў мяне не было.

Памыўшыся, зубы пачысціўшы, перакусіўшы стравы незямныя, — то былі ні то кашы, ні то пюрэ незразумела з чаго прыгатаваныя, іх нават і жаваць не давялося — я тут жа пайшоў у пакой, дзе сцяна была матава-шэрай. Толькі ўсеўся ў крэсла, як засвяціўся экран і на ім паказаўся ўжо знаёмы мне маленечкі пузаценькі гуманоід. То быў не звычайны экран, а стэрэаэкран, з'явілася адчуванне, што жывы карла маячыць перад самымі вачамі, роцік ягоны то адкрываўся, то закрываўся...

Гуманоід той знаходзіўся ў нейкім пакоі, які тэлестудыю нагадваў. І гэтак жа, як у тэлестудыі, хтосьці нябачны — аператар нейкі ці рэжысёр, не ведаю, як назваць іх, — пачаў перад маімі вочкамі з гуманоідам усялякія фокусы вытвараць: ён станавіўся то — маленькім, то — агромністым на ўсю сцяну, то — ні з таго ні з сяго бліскучыя вочкі свае да мяне набліжаў і тады мяне жахоцце ахоплівала...

Лацвей было б, каб усё рабілася па-чалавечы,— хай бы гэты карла да мяне ў пакой зайшоў, за столік сеў і гутарку са мною пачаў. Дык жа не — ён як бы быў побач і ў той жа час — не было яго, нейкім няўлоўным ён станавіўся... І тады падумалася, што не карла галоўны завадатар пры знаёмстве са мною, а ўсе тыя нябачныя аператары і рэжысёры, якія робяць яго то вялікім, то маленькім.

Мабыць, і ў зямным жыцці штосьці падобнае творыцца, мо нават і палітыкі ўсяго толькі лялькамі з'яўляюцца, якія чыюсьці волю выконваюць, калі па тэлевізары інтэрв'ю даюць, калі на розныя сімпозіумы ездзяць і заявы робяць...

Карла падняў лапку ўгору і, усё зырачыся на мяне круглымі вочкамі, сказаў:

— Вітаю вас зноў. Сёння пачну знаёміць вас з нашай цывілізацыяй. Я наладжу вам цыкл пазнавальных лекцый. На экране будзеце тое-сёе бачыць. Нічога ад вас хаваць мы не збіраемся, бо вы для нас — госць жаданы. Перад адпраўкаю ў міжзорнае падарожжа пра нас, гуманоідаў, вам гаварылі шмат плётак, вучылі асцерагацца нас. Навошта, навошта?

Зырыўся на неміготкія халаднаватыя вочы-яйкі, на гнуткія лапкі трохпалыя, на шчыліну вузенькую, якую, мабыць, ротам трэба называць, і пакрысе пачынаў прывыкаць да гэтага незямнога стварэння. Сам сабе яму нават і прозвішча даў, Лупавокім ахрысціў...

Між тым лекцыя пазнавальная тут жа і пачалася:

— Законы прыроды аднолькавыя, як тут, так і там, на Зямлі вашай. Мы прайшлі ўсе тыя стадыі развіцця, якія і вы цяпер праходзіце. Усё было ў нас: і войны між плямёнамі і дзяржавамі, і канфлікты розныя...

Падчас маналогу Лупавокенькі знік з экрана, — цяпер я бачыў каляровыя кліпы, бачыў, як вялікія гуманоіды біліся насмерць з малымі, бачыў паселішчы іхнія, што агнём шугалі... Адчуванне ў мяне паявілася, быццам я чарговы фантастычны баявік гляджу. Але ж я то ведаў — то ніякі не баявік, то жыццё рэальнае...

Падчас гэтых кліпаў, што перад маімі вачамі мільгацелі, я чуў голас майго гіда-гуманоіда:

— Надышла пара, калі мы прыдумалі фанцікі. Адразу ж у нас паменела канфліктаў, нам стала лягчэй жыць і ўвогуле наш цывілізацыйны працэс перайшоў у прагрэс, пачаў імкліва развівацца. За фанцікі можна было купіць раба, ежу, зброю..

— Дык вы пра грошы гаворыце, — вырвалася ў мяне. Не дурань жа я поўны.

— Не грошы гэта... — зноў на экране з'явіўся Лупавокі. — Вось як вам, зямному чалавеку, лепш растлумачыць? Фанцікі былі паяднаны з часам. Ведаеце, што такое час?

— Канечне... Гадзіна, суткі, год — вось вам і прыклад часу...

— А ў філасофскім сэнсе, у філасофскім? — дабіваў мяне Лупавокі.

Тут я і ручкамі развёў.

— Вось-вось, — чамусьці ўзрадаваўся настаўнічак мой, — па сакрэце прызнаю, што ніхто не ведае, што такое час.

І тут гід мой на шэпат перайшоў. Адразу ж скажу — з голасам гуманоіда нейкія дзівосы тварыліся. Як быццам бы ён акцёр быў, які па-рознаму мог гаварыць, — то ён шаптаў ласкава, то павышаў галасок, а то — на левітанаўскі бас пераходзіў. Вось і цяпер ён мне ціхутка як бы нейкую таямніцу адкрываў:

— Зноў жа па сакрэце скажу, што час непарыўную сувязь з жыццём мае. Няма жыцця — няма і часу. Калі вы малым былі, успомніце, — суткі для вас цэлай вечнасцю здаваліся. А потым, калі пасталелі, гады — як месяцы замільгацелі... Для вас дзень — адно імгненне з жыцця доўгага, а для нейкага матылька-аднадзёнка — вечнасць, у якой ён паяўляецца, жыве і гіне беззваротна... Што ёсць час?.. Час даецца вам у адчуваннях. Пры катастрофах розных, калі жыццё ваша знаходзіцца на мяжы быцця і небыцця, час нечакана расцягваецца, як гумавы становіцца... Нейкая секунда малюпасенькая ў хвіліны расцягваецца. Хто падобнае перажыў — век не забудзе... Ці можам мы ўявіць час без жывога рэчыва?

Маўчаў я. Думаў.

І пра час.

І пра гэтага разумнага настаўнічка.

А ён, памаўчаўшы, казаў далей:

— Вашы філосафы гавораць, што час — гэта форма паслядоўнай змены падзей. Правільна я кажу?

Плячыма ціскануў на ўсякі выпадак, хоць форму гэтую пасля слоў ягоных я, па праўдзе скажу, ніяк не мог ні адчуць, ні ўявіць.

— А цяпер, як чалавек разумны, падумайце: гэтыя падзеі нехта, — і тут настаўнік мой лапку ўгору падняў і чамусьці на яшчэ большы шэпат перайшоў, — НЕХТА павінен фіксаваць. А хто ён, гэты НЕХТА? Каму дадзена гэта права? Вам? Мне? Ці, можа, матыльку, для якога дзень — цэлая вечнасць? У кожнага з нас свой час. Можа, яго ўвогуле няма, можа, ёсць толькі адчуванне чагосьці, таго, што схавана ад нас у будучым і — не болей?..

Тут я ўвогуле нічога не мог сказаць, нават плячыма не мог паціснуць.

А ён далей гаварыў:

— Але не будзем занадта філасофстваваць, паразважаем пра час на рэальным прыкладзе. Возьмем для прыкладу жыццё ваша. Усе вы грашыма карыстаецеся. Дапусцім, вы сягоння бедны, гэта — адна падзея. А праз тыдзень багаценькім становіцеся, гэта — другая падзея. І як гэта можа адбыцца? Якая паміж гэтымі падзеямі сувязь?

Маўчу, вачыма лыпаю.

— Ну, як не здагадацца... Я вам грошы пазычу і вы — багаты. Дык якая форма змены падзей?

Маўчу, зноў жа — толькі вачыма лыпаю.

— Чаму вы сталі багатым? Таму, што грошы займелі... Як не здагадацца... Паміж markdownрознымі падзеямі новая форма паявілася, і форма гэтая — грашыма называецца... Усё проста. Вы цяпер зразумелі, што грошы маюць непарыўную сувязь з часам? Грошы — гэткая ж філасофская катэгорыя, як і час. Без грошай, як і без часу, ніводная цывілізацыя не можа існаваць.

Цямніў ён нешта, ой, чэсна скажу, цямніў!

— Пачакай, пачакай... — сказануў я, — не блытай адно з другім. Грошы, яны во, — і пальцамі я пашчоўкаў перад тварыкам гуманоіда, — шалясцець у пальцах павінны, а час...

Пагледзеў на мяне пільна, быццам першы раз бачыў, — зноў у каторы раз нябачныя рэжысёры да мяне ягоныя вочкі наблізілі, і тут жа ў мяне адчуванне паявілася, што апроч гэтых вялізных чорных вачэй нічога ў свеце няма, былі гэтыя вочы як тыя касмічныя чорныя дзіркі, што ўсё жывое і нежывое ў сябе ўсмоктваюць і з сябе нічога не выпускаюць... І голас ягоны пачуў:

— Разумны вы чалавек... Не дарэмна вас сюды выправілі... Усё правільна, ды не зусім... Вось таму мы фанцікі і прыдумалі, каб грошай пазбавіцца. Як потым я дакажу, і вы самі ў гэтым упэўніцеся, фанцікі якраз гэтым ад грошай і адрозніваюцца, што напрамую сувязь з часам маюць. Ніякіх рабаўніцкіх працэнтаў у нас не было і ў паміне, мы проста адразу ж дамовіліся, што фанцікі з кожным днём усё даражэлі і даражэлі... Таму ў нас і выразы філасофскія паявіліся:

Фанцікі — гэта час.

Час — гэта фанцікі.

Усё рабілася па-справядліваму, на філасофскай аснове.

Навуковыя цэнтры ў нас паявіліся, там сувязь паміж фанцікамі і часам вывучалася, агромністыя канторы паявіліся, дзе фанцікі купляліся і прадаваліся, спецыяльныя даследаванні праводзілі мы, формулы і законы адкрывалі з дапамогаю якіх, гандлюючы фанцікамі, можна было выгаду мець. У вас гэта выгада прыбыткам называецца. Пра гэты прыбытак вашы класікі-прарокі цэлыя таўсценныя тамы панапісвалі.

Грошы — Тавар — Грошы, — вось як яны пісалі... А паміж імі прыбытак укліні ўся...

— Ды не муці ты мне мазгі,— не вытрымаў я.— Пра гэты прыбытак я табе лепш анекдот раскажу. Адзін курыныя яйкі пачаў варыць і прадаваць па той жа цане, як і сырыя. Пытаюць у яго: які табе прыбытак з гэтага дзела? А ён: а навар, навар каму застаецца?..

— Не зразумеў я твой анекдот... — суняўся трохі мой настаўнічак. А потым зноў яго панесла: — Вось так у нас і пайшло-пакацілася жыццё побач з фанцікамі. Гуманоіды набывалі і збывалі фанцікі, гандлявалі імі. Ды не толькі гуманоіды, але і цэлыя дзяржавы наладзілі гандаль фанцікамі: багацейшая дзяржава прадавала фанцікі бяднейшай, а тыя ў сваю чаргу гуманоідам пазычалі... Усё закруцілася, як у віры...

Хоць і хацелася мне выказацца наконт гэтых фанцікаў і гульняў з імі, але змаўчаў — чакаў, чым жа скончылася гэтая забава.

— З кожным годам фанцікаў станавілася ўсё больш і больш. Нашы заводы па выпуску фанцікаў працавалі днём і ноччу. Кожны гуманоід імкнуўся ўхапіць як мага болей фанцікаў, хто быў з фанцікамі — той і пан быў... Само

сабою — працаваць даводзілася, і тут ужо — няважна было, дзе і чым займаўся гуманоід, галоўным было — фанцікі ўмець зарабляць, вакол фанцікаў, як ля крыніцы гаючай, жыццё віравала... Новыя каштоўнасці, новая агульнапланетная мараль пачала выпрацоўвацца сярод нашых гуманоідаў і ўсё гэта — і мараль і каштоўнасці — так альбо іначай былі паяднаны з фанцікамі.

Але між тым пакрысе на нашу цывілізацыю бяда чорнай хмараю насоўвалася, з-за гэтых фанцікаў наша цывілізацыя ледзьве не ляснулася...

Колькі было падроблена фанцікаў, колькі крадзяжоў і забойстваў было з-за фанцікаў на Дзэце нашай! Ой-ёй-ёй, вялікая бяда насоўвалася на нас! Калі чэсна гаварыць, дык ужо ніхто дакладна і злічыць не мог, колькі было гэтых фанцікаў.

Цяпер ужо карла стаў у натуральную велічыню. Па пакойчыку пахаджваў і на мяне скоса пазіраў. Зырыўся на Лупавокага і ўпершыню на ягоным твары ўгледзеў нейкую як бы ўсмешачку.

...Ці насмешачку.

Вусны ягоныя васьмёрачкаю пачалі скручвацца, а вочкі-яйкі станавіліся вузейшымі...

— І што ж вы тады прыдумалі?

— Лісцікі і браназалецікі. На той час наша цывілізацыя дасягнула вашага ўзроўню. Камп’ютары ў нас паявіліся, праз спадарожнікі мы стварылі адзінае інфармацыйнае поле. На лісціку з дапамогаю камп’ютараў мы маглі запісаць, колькі ёсць у гуманоіда фанцікаў, ад нуля і да бясконцасці... Дапусцім, зарабіў гуманоід за дзень дзесяць фанцікаў — бац, праз камп’ютар інфармацыя і заносілася на лісцік. І зноў жа, у магазіне, напрыклад, гуманоід падносіў на выхадзе лісцік да датчыка спецыяльнага — бац, пяць фанцікаў як карова языком злізала...

— Ды я і сам пра гэта добра ведаю, амаль тое ж і ў нас творыцца, — махануў рукою Лупавокаму. — Зарплату атрымаеш і яна тут жа знікае з кішэні, быццам карова языком злізвае... Ты лепш раскажы, навошта вам бранзалецікі спатрэбіліся?

Цікавая, я вам далажу, гутарка распачыналася. І што дзіўна, усё больш свойскім станавіўся для мяне гэты карла. Цяпер я выразна бачыў, што ён усміхаецца.

А мо і насміхаецца...

— Вы кемлівы і здагадлівы чалавек, — чамусьці ўсё падхвальваў мяне Лупавокі. — Вам палец у рот не кладзі... Вы ўсё на ляту хапаеце. Кожнаму гуманоіду пры нараджэнні мы чаплялі на лапку бранзалецік. І — усё, усе праблемы вырашаліся самі па сабе, бо ўсё было пад кантролем. На бранзалецік мы маглі заносіць розную інфармацыю: дзе з’явіўся гуманоід, як сябе паводзіць, як вучыцца, якія парушэнні мае, колькі фанцікаў мае... Ваў, колькі інфармацыі мы маглі заносіць на бранзалецік! Праз ваколпланетнае інфармацыйнае поле — інтэрнэт па-вашаму — мы аб’ядналі інфармацыю з кожнага бранзалеціка ў адзіным суперкамп’ютары. І цяпер ужо, куды б гуманоід ні пайшоў, чым бы ён ні ўздумаў займацца, мы ўсё пра яго ведалі. У туалеце пакажацца, — а нам ужо вядома... Ні лісцікі, ні фанцікі нам не спатрэбіліся. Дапусцім, збіраўся гуманоід адпачываць. Ён у спецкантору прыходзіў, бранзалецік падносіў да спецдатчыка — ага, парушэнняў няма, фанцікі на рахунку маеш — можаш выпраўляцца... Прыязджаў ён адпачываць на марское ўзбярэжжа, дзе фінікі і аліўкі спеюць, а там ужо чакаюць яго, бо пад кантролем усё, жыві і радуйся на ўсім гатовенькім, бо ўсё аплачана: і нумары, і пітво featнае, і абеды чатырохразовыя — райскі стол называецца, шуруй да яго, бяры, чаго душа жадае...

Прызнаюся, цяпер адчуваў, што Лупавокі пасмейваецца з мяне. Бы з неразумнага дзіцяці. І словы такія знаходзіў... Штосьці мяне насцярожвала, штосьці ён не дагаворваў... Але ж, самае дзіўнае, гаварыў ён лагічна, без запіначкі, не прыдрацца было.

— Жыццё пачало біць ключом, прагрэс пайшоў у наступ. Канторы і заводы па выпуску фанцікаў і лісцікаў пачалі закрывацца, чыноўнікаў паменела, хабару не стала. Розныя там пашпарты, даведкі — цяпер гэта камп'ютар рабіў. Жулля паменела. Дысцыпліна паявілася, бо ўсё было пад поўным кантролем. А дзе падзецца таму жуліку — з космасу праз спадарожнікі і бранзалецікі ён павязаны, як на ланцугу сабака... І галоўнае, паўтаруся, цяпер ніякай пісаніны, ніякіх дакументаў не патрабуецца — усё-ўсё можна заносіць на бранзалецік і адтуль жа, з бранзалеціка, гэтую ж інфармацыю ў любы міг можна было злізваць.

— Дык ты пакажы мне гэтыя фанцікі, лісцікі, бранзалецікі, — і сам не прыкмеціў, як на «ты» перайшоў.

— А гэта — пройдзены этап, — махануў перад маім носам лапкаю мой гід ці настаўнік — чорт ведама, як мне было называць яго. Некалі ў нас на рабоце аднаго павысілі ў званні. Мы да яго — замачыць трэба тваё павышэнне. Ён нам ручкаю таксама, як і Лупавокі, махануў і кажа: «А гэта — пройдзены этап для мяне». Так і не замачылі, пажміндзіўся...

— Няма іх у нас. Вось цяпер я і кажу табе, што фанцікі — гэта час. Яны як бы ёсць і між тым — няма іх... Гэтак жа, як і час, — ён як бы ёсць і між тым — няма яго, памацаць яго не можаш... На ўсёй Дзэце ніводнага фанціка, ніводнага бранзалеціка не знойдзеш. Як і ніводнага лісціка не знойдзеш...

— Я-як? — здзівіўся я і тут жа ўспомніў даўным-даўно чытанае ў кнігах пра будучыя шчаслівыя гады, якія некалі наступяць, калі грошы не спатрэбяцца, калі ўсе людцы шчаслівымі будуць. — У вас што — камунізм наступіў?

— Ды не блытай ты камунізм з прагрэсам, — таксама непрыкметна на «ты» перайшоў Лупавокі. — Мы чыпы прыдумалі. Мы суперкамп'ютар прыдумалі і ў космас яго затарабанілі. Мы ўсю планету адзіным інфармацыйным полем ахапілі. Як павуцінне накінулі на ўсю планету. Яшчэ лепшым жыццё стала. Цяпер усюды, дзе б гуманоід не знаходзіўся, ён падключаны да суперкамп'ютара, адтуль ён можа любую інфармацыю вывудзіць. Але гэта было толькі напачатку. А далей... Як ты думаеш, што было далей, чалавек разумны?

«Ну, Лупавокенькі, ты цяпер ужо ў адкрытую здзекуешся з мяне», — падумаў я і сказануў, каб таму не падалося, што я — нягегліца поўны, што і я нешта цямлю:

— Вы, мабыць, чыпамі замянілі бранзалецікі. І праз чыпы замкнулі ўсю інфармацыю...

— Правільна, правільна разважаеце, госць шаноўны, — разліваўся ў маёй галоўцы ласкавы галасок Лупавокенькага. — А дзе ж мы тыя чыпы прыляпілі, як думаеш?

Паціснуў я плячыма, а Лупавокенькі лапкаю па галоўцы заляпаў:

— Сюды ўжывілі... Чыпы — яны ж малюпасенькія-малюпасенькія, як зерне макавае. Цяпер, калі ў нашых галовах чыпы, ты нават і ўявіць не можаш, як імкліва пачала развівацца наша цывілізацыя. На новы віток развіцця мы выйшлі.

Глядзеў неміготкімі вачыма на Лупавокага, хацеў сказануць нешта, ды, памуляўшы вуснамі, нічога не мог сказаць.

Вось табе і забава ў фанцікі, лісцікі, бранзалецікі...

А Лупавокі, здаецца, ад радасці аж свяціўся:

— Вось запытай у мяне што хочаш і я табе тут жа выдам адказ. Ну, задавай сваё пытанне, задавай.

Хоць ён і быў на стэрэаэкране, але, паўтаруся, ён жывей жывога быў: маячыў узад-уперад перад вачыма маімі здзіўленымі, пузеньчык свой выставіўшы, лапкамі памахваючы і скоса пазіраючы на мяне з гонарам.

— Сто дваццаць дзевяць у пятай... Колькі будзе?

— Ха-ха, — пачуў у адказ. — Знайшоў пра што пытаць...

І тут жа лічбы пасыпаліся...

Падумаў я, успомніў студэнцтва: бяссонныя ночы перад сесіяй, тыя прадметы і экзамены, якія потым, праз гады, сніліся начамі. І спытаў:

— А квантавую механіку, а тэрмадынаміку ведаеш?

Зноў Лупавокі задаволена хахакнуў. Я і не прыкмеціў, як ля яго паявілася крэсла, ён усеўся, лапкі на грудзях скрыжаваў, ножка за ножку закінуў:

— Табе які закон тэрмадынамікі растлумачыць: першы ці другі? Табе, можа, пра сутнасць энтрапіі расказаць? Можа, табе формулы з квантавай механікі напісаць? Зразумей: чыпы напрамую звязаны з агульнапланетным камп'ютарам, адтуль інфармацыю скачваюць і туды, — па тунькалаўцы сваёй лапкаю заляпаў, — напрамую перадаюць. Сувязь цесная.

— Як гэта — перадаюць?..

— Ваў-ваў-ваў, — здзіўлена развёў лапкамі Лупавокенькі. — Няўжо цяжка здагадацца? У вас радыётэлефоны ёсць?

— Канечне, — азваўся я. — Фотаздымкі можам рабіць, не толькі размаўляць між сабою. Адзін аднаму, як па тэлевізары, тыя фотаздымкі можам адпраўляць. Мы цяпер без іх — як без рук. Дзеткі ў школу носяць. У апошніх распрацоўках усё ў адзіны блок злеплена: і дыктафон, і тэлефон, і камп'ютар, і відэакамеры, якія праз інтэрнэт людзей яднаюць лепш за тэлевізары... Праўда, недахоп адзін маецца: людзі чамусьці дурнець і глухнуць пачалі, лічыць могуць толькі на калькулятарах, чамусьці шмат нябог пачало нараджацца, а чаму — ніхто не ведае. Між сабою дзеці сябраваць перасталі, у школу — як на катаргу плятуцца, пад плінтусы гатовыя хавацца, бо часу няма, толькі тым і занятыя — гульнямі з радыётэлефонамі. Мода новая пачалася: самі сябе, языкі выставіўшы, здымаюць на відэатэлефоны і ў інтэрнэце тыя здымкі выкладаюць. Днююць і начуюць дзеткі ў інтэрнэце, для іх сёння інтэрнэт даражэйшы за рэальнасць. Многія ад тых інтэрнэтгульняў наркаманамі становяцца, не вылечыць іх ніяк... Кніжак не чытаюць...

— Пра якія кніжкі ты гаворыш?.. Кніжкі — даўно пройдзенны этап для нас. Як для вас папірусныя світкі... Навошта яны вам? Ад кніжак галава пухне. Мы ўсе кніжкі ў бібліятэках адсканіравалі і праз чыпы іх змест у суперкамп'ютар загналі. Кніжак у нас цяпер нідзе не знойдзеш. Паэты, пісацелі розныя, якія чорт ведама пра што пішуць, — пра нейкія перажыванні і разважанні — даўно зніклі на нашай Дзэце, як у вас некалі маманты павыміралі... І з вачэй далоў — і з сэрца вон, гэтак у вас кажуць. Кніжкі — усяго толькі інфармацыя, не болей... У вас, дарэчы, пісацелі ёсць?

— Пісацеляў, як ты кажаш, шмат, а вось паэтаў — мала, — адказваю.

— Вось-вось, мы кніжкі вашых пісацеляў у любы момант можам адсканіраваць, у суперкамп'ютар загнаць, а затым — бац! — праз чыпы ў дзіцячыя галоўкі загонім. Адукаванне ў іх будзе поўнае, па поўнай праграме... Гэтую інфармацыю гатовенькую не толькі дзеці, а і ты без ніякага намагання можаш атрымаць з чыпа, які ў тваёй галоўцы ўжыўлены. Захацелася табе — бац! — ты ўжо пра ўсё ведаеш... Бясплатна і без ніякага намагання — вось што самае

галоўнае. А то ў бібліятэцы вочкі сляпі, думай, разгадвай, што той паэт хацеў сказаць. Усё, што табе трэба, ты спытаеш у таго чыпа і ён цераз камп'ютар тут жа ў тваю галоўку адказ выдасць. Ты ж ведаеш, што мозг — камп'ютар той жа. І гэтыя маленечкія-маленечкія радыётэлефоны мы чыпамі назвалі. Паняў?

— Паняў, ды не зусім, — сказаў я. Нейкім надта свойскім станавіўся гэты маленечкі карла. Ужо і скура ягоная зеленаватая не бянтэжыла, ужо і вочкі круглыя нёміготкія не трывожылі. А што галасок ягоны ў галаве гучаў — дык я, чэсна прызнаюся, ужо і не задумваўся:

— Як жа гэта інфармацыя перадаецца?

— Ваа-аў! — развёў лапкі Лупавокенькі, — вас яшчэ вучыць ды вучыць. Цёмныя вы людзі...

— Ну, ты ўжо надта не наязджай на нас! — тут і я здачы выдаў, бо зачапіла мяне.

— Ладна, ладна, — прымірэнча падняў лапку Лупавокі. — Інфармацыю на першым часе мы перадавалі па гукавым канале, праз нейроны слыху. Тэлепатычна, так сказаць. Схема такая:

Гуманоід — чып — суперкамп'ютар — зноў гуманоід.

Амаль гэткая ж замкнутая схема атрымліваецца, пра якую вашы класікі- пракрокі пісалі, калі гаварылі пра грошы — тавар — грошы. Толькі цяпер ужо ўсё рабілася на сучаснай навуковай аснове. І — самае галоўненькае, што замест прыбытку гуманоід станавіўся разумнейшым, болей прагрэсіўным. Панімаеш, дзярэўня цёмная?

Ну, думаю, галапузік Лупавокенькі, я табе яшчэ прыпомню дзярэўню цёмную... Але ж — маўчу пакуль што... А ён далей хваліцца:

— Замкнутая гэта схема адзіным энергетычным контурам. Амаль гэтак жа атрымліваецца, як у нас з табою, калі мы гутарку вядзём.

— А потым?

— А потым... Мозг — камп'ютар, гэта табе ўжо вядома. Нашым вучоным удалося расшыфраваць механізм перадачы ўсіх сігналаў, не толькі гукавых: зрокавых, пахі розныя, адчуванняў розных: цяпла і холаду, салодкага і горкага, прыемнага і непрыемнага. Знайшлі нашы вучоныя і той цэнтр, дзе сігналы збіраюцца, аналізуюцца і рашэнне прымаецца на дзеянне ці бяздзеянне гуманоіда. Цэнтр гэты і ёсць тое, што вы душою называеце, што вы называеце сваёй сутнасцю, сваім Я. Вось да гэтага цэнтра, да душы вашай хвалёнай нам і ўдалося падключыць чыпы. І тады нам такое поле дзейнасці адкрылася... Ваа-аў, якія магчымасці мы цяпер маем!

Хоць чалавек я і кемлівы, ды тут нічога не мог сказаць. Мабыць, у мяне быў надта разгублены выгляд, бо Лупавокі супакойваць пачаў:

— Нічога тут незвычайнага няма, ніякай містыкі... Мозг выпраменьвае энергапалі, на гэтыя энергапалі можна далікатненька праз чыпы ўздзейнічаць, карэкціровачку рабіць на энергетычным узроўні. Тут такі прагрэс пачаўся, што вам, зямлянам, і не снілася... Лячыць гуманоідаў мы можам ад хвароб розных, асабліва эфектыўным аказалася лячэнне сацыяльна небяспечных гуманоідаў. Закон у нас такі ёсць — пра спакой нашай цывілізацыі. Закон Спакою і Парадку — так ён называецца. Згодна пункта другога палажэння трэцяга Закона сацыяльна небяспечныя гуманоіды не павінны збірацца ў групы болей трох, а калі ўздумаюць збірацца, то тут жа лечацца ў прымусовым парадку. А такія ў нас, табе па сакрэце скажу, завяліся. Некаторыя не пажадалі сабе чыпы ўжыўляць — хоць ты ім кол на галаве чашы ды праз дзірку чыпы туды заганяй... Яны сябе натураламі пачалі называць, надумаліся, дурні, чыпы з

галовак выцягваць і на сметнікі выкідваць... Карацей, вайну прагрэсу аб’явілі... Але іх, натуралаў, мала засталося, калёным жалеззем мы іх выпальваем... Велізарнейшы эфект атрымаўся пры розных псіхалагічных адхіленнях. Самае галоўнае — пры такім лячэнні гуманоіду не трэба ў бальніцу класціся, больш таго, скажу па сакрэце, гуманоід і не ведае, што яго лечаць... Суперкамп’ютар за ўсімі чыпамі кантроль вядзе, як толькі адхіленні ў паводзінах гуманоіда назіраюцца — тут жа карэкціровачка і робіцца. Бальніцы мы пазакрывалі, эканомія паявілася, эфектыўнасць дзейнасці нашай павялічылася на тысяча дзвесце працэнтаў. Так што сам разумееш, бранзалецікі нам не спатрэбіліся, мы іх даўным-даўно на сметнік гістарычны выкінулі.

І тут, як толькі ён пра гістарычны сметнік сказаў, я падумаў чамусьці пра рабоў рымскіх, якім на шыі металічныя ашыйнікі чаплялі... Нічога за тысячагоддзі не памянялася,— ні на Зямлі, ні на Дзэце... Руку ўгору падняў і, адчуваючы сябе вучнем перад гэтым разумненькім карлам, сказаў:

— Хопіць на сёння. Хопіць.

— Што ж, тваё жаданне — для мяне закон, — пагадзіўся Лупавокі. — Я знікаю. Каб табе сумна не было, дыстанцыйнік пакіну. На экране можаш наша сённяшняе жыццё паназіраць. Канечне, як госця дарагога, мне хацелася б павазіць цябе па нашай шчаслівай планеце, пазнаёміць з гуманоідамі бліжэй, але прабач, твой выгляд...

— Што, не спадабаўся вам? — буркануў пакрыўджана я і тут жа падумаў: «Таксама, прыгажун знайшоўся!»

Лупавокі заківаў галоўкаю:

— Цябе эліта сустракала, папярэджаны былі і то — сам бачыў рэакцыю. А калі цябе ўсім паказаць — пачнецца павальнае парушэнне Закона Спакою і Парадаку. На ўсёй Дзэце хаос пачнецца. Ты што думаеш, калі б раптам нас паказалі ўжывую перад вамі, зямлянамі, не тое ж самае пачало б тварыцца? І яшчэ... Мабыць, пачынаеш сумаваць па зямным жыцці, таму табе сюрпрыз падрыхтавалі. Вечарам прадстаўнік наш да цябе зазірне. Не палохайся і не здзіўляйся. Усё, што будзе рабіць — для тваёй жа радасці.

І знік мой настаўнічак разам з крэсельцам. А я толькі цяпер угледзеў на крэсле на падлакотніку невялічкі дыстанцыйнік.

## 5

Адваліўся я ў крэсле. Вочы заплюшчыў і сам з сабою, разумным, гутарку пачаў... Як казаў мой сябрук, які некалі на дваццацігадовай ажаніўся, з самім сабою, разумным чалавекам і пагаварыць прыемна...

Нешта занадта Лупавокенькі мяне нахвальваў. Падазрона гэта было, надта падазрона. Нешта ён рыхтаваў мне, нейкую пельку заводзіў... Усё саломку падсцілаў...

Потым, калі аддыхаўся трохі, узяў дыстанцыйнік ды пачаў націскаць кнопкі.

І ўбачыў я жыццё іхняе.

Напачатку гуманоіды паказаліся. Цяпер, калі да іх пачаў пільней прыглядацца, убачыў, што сярод іх ёсць мужчынскія і жаночыя тыпы. У мужчынскіх, як здагадаўся, на галоўках меліся невялічкія, з кулачок дзіцячы, не то рожкі, не то гузачкі. У жаночых тыпаў гэтых рожак не было. Што здзівіла — адзення яны ніякага не насілі. А калі адзення на іх ніякага не было, то, самі разумееце, у іх і сораму ніякага не было, не саромеліся яны адно аднаго ні кропелькі...

Затым паказаліся агромністыя піраміды. Аказалася — то іхнія гарады былі, накрытыя суцэльнымі празрыстымі дахамі. Шчоўкаючы пультам дыстанцыйніка, я пачаў падарожнічаць па гарадах. Зверху да нізу там ліфты агромністыя меліся, бесперастанку адны гуманоіды ўгору падымаліся, а другія — уніз апускаліся, у калідорах доўгіх, асветленых нябачнымі ліхтарамі, рухомыя дарожкі меліся і на дарожках гуманоіды стаячы ехалі, адны — направа, другія — налева. Шчоўкаючы пультам дыстанцыйніка, падарожнічаў я па іхніх гарадах, падымаўся ўсё вышэй і вышэй, аж да таго агромністага бліскучага купала, які красаваўся на вяршынях пірамід. Але, чым вышэй я падымаўся, тым часцей бачыў у доўгіх калідорах на дзвярах кабінетаў шыльдачкі:

**Для службовага карыстання**
**Толькі па кодзе**
**Доступ староннім да суперкамп'ютара забаронены**

Самі здагадваецеся, што ў тыя засакрэчаныя кабінеты я не мог зазірнуць. Калі ж да самага бліскучага купала дабраўся, то перад уваходам у той купал вялізная шыльда мелася:

**Глюонны генератар**
**Староннім не патыкацца Смерць на месце**

«Вось табе і на — падумалася мне, — не толькі на Зямлі ёсць засакрэчаныя арганізацыі, але і тут іх хапае...»

Машын дымных я там нідзе не ўбачыў. Ды і навошта ім былі тыя машыны, калі ўсё было прадумана да дробязей, усё было скампанавана.

Там жа, у высачэзных пірамідах, і жыллё гуманоіднае было, і кабінеты— кабінкі, дзе гуманоіды працавалі: у вялізных пакоях, седзячы за доўгімі сталамі, адгароджаныя невысокімі сценачкамі, яны ў нейкія празрыстыя лісцікі зырыліся, лапкамі ў іх торкалі ды час ад часу адно на аднаго пазіралі і роцікі адкрывалі — мабыць, як здагадаўся я — гаварылі між сабою... Але пра што яны гаварылі — я не чуў.

Магазіны іхнія ўбачыў. І сапраўды, Лупавокі праўду ляпіў: ніякіх касіраў не было ў магазінах, нават ніякіх датчыкаў на выхадзе з магазінаў не было — спакойна заходзілі ў магазіны гуманоіды, бралі з паліц markdownнакаляровыя тубы і тут жа выходзілі. У тубах, як здагадаўся, і былі тыя самыя сокі, кашы і пюрэ, якімі мяне кармілі падчас сняданку.

Калі прыцемак пачынаў ахутваць планету, на іхнім небе паяўляліся штучныя свяцілы, сваімі пражэктарамі магутнымі яны асвятлялі тыя піраміды. Здагадаўся: гуманоіды спадарожнікі з вялікімі люстэркамі ў космас запусцілі, люстэркі тыя святло іхняга сонца лавілі і на планету накіроўвалі — цяпер ім ноч не страшная.

Бераг марскі я там угледзеў, але гуманоіды ў моры не плялёхаліся — у спецыяльных басейнах, пад празрыстымі дахамі яны плавалі.

І ўвогуле, калі глядзеў на палі прамакутныя, калі лясы іхнія разглядаў, нідзе я гуманоідаў не бачыў. Ды і звяроў у лясах і на палях я нідзе не ўбачыў, нават казюрак ніякіх я там не бачыў, птушак рухомых не было відаць. Замест птушак лятаючыя талеркі насіліся. Тут нейкая загадка мелася. Думалася, што, мабыць, гуманоідам надта салодкія піраміды іхнія, там яны на свет паяўляюцца, там усё жыццё праводзяць і там жа і ў нябыт адыходзяць, а лясы і палі яны толькі для сваіх патрэб скарыстоўваюць. Каб кісларод мець, каб пшаніцу з кукурузаю вырошчваць. І — не болей...

І яшчэ глыбей, у нетры планетныя, апусціўся — там тунэлі меліся і ў тунэлях тых хуткія снарады-цягнікі насіліся, гуманоідаў вазілі ад адной пірамiды да другой.

У падземных скляпеннях я заводы ўбачыў, дзе ежа гатавалася. Бачыў, як з пшаніцы і кукурузы мука белая малолася, а затым з той мукі розныя пульхныя булкі пякліся, у булкі фінікі і аліўкі запіхваліся. Булкі, запакаваныя ў празрыстыя пакеты, у спецыяльныя кантэйнеры складваліся і на склады вывозіліся... І ўсё гэта рабілася аднымі аўтаматамі, на даўжэзных канвеерных гнуткіх лініях. Ніводнага гуманоіда на тых заводах я не ўгледзеў.

Там жа, пад зямлёю іхняй, знаходзіліся іншыя заводы, на якіх рабіліся спадарожнікі касмічныя, падземныя снарады-цягнікі, што бесперастанку ад пірамiды да пірамiды насіліся, дэталі і часткі пірамід новых, ды яшчэ — знакамітыя лятаючыя талеркі, якія не толькі над Дзэтаю насіліся, але і людцаў бесперастанку трывожылі.

Не толькі на паверхні планеты, але і у скляпеннях падземных садавіна і гародніна вырошчвалася: у парніках вялізных, фіялетавым святлом асветленых. Замест зямлі там нейкія спажыўныя растворы ля карэньчыкаў цурчалі. Там жа, у басейнах і карытах доўгіх, рыба гадавалася.

Спецыяльныя заводы я ўбачыў, дзе садавіна і гародніна перамешвалася, у катлах варылася і разам з рыбным фаршам у тубы каляровыя запіхвалася.

Розныя ў іх меліся заводы. Былі і такія, дзе ежу з паветра рабілі... Не верыце мне, брахуном можаце называць — як хочаце... Але ж дальбог на свае вочы я бачыў цэхі з канвеернымі лініямі, на якіх і выраблялася незямная ежа; на пачатку канвеерных ліній аўтаматы калолі шпрыцамі штосьці малюпасенькае-малюпасенькае, а потым гэтае малюпасенькае на канвеернай стужцы рухалася, абдзімалася ці то газамі, ці то паветрам з труб розных і само па сабе расці пачынала, павялічвацца, як цеста дражджавое набухала. У рэшце рэшт гэтае набухлае ў катлы трапляла, там яно перамешвалася, фарбавалася дабаўкамі па-рознаму ў катлах розных, а пасля спецыяльнымі аўтаматамі ў тубы прыгожыя і каляровыя запіхвалася, на тубах тых каляровыя этыкетачкі наклейваліся, на адных — кукуруза была намалёвана, на другіх фінікі ці аліўкі як натуральныя красаваліся, на трэціх — рыба агромністая. Якраз гэтыя тубы я і бачыў у магазінах іхніх.

І тут мне цюкнула: каму булкі з фінікамі і аліўкамі, а каму — шыш з паветра...

Цікава, чым жа харчуецца Лупавокенькі?

І што ж яны такое калолі, чым жа было тое малюпасенькае, з чаго цеста само па сабе пухла?

Усё было прадумана, усё было, як Лупавокенькі казаў, пад кантролем поўным.

Зноў у каторы раз я ўспомніў камунізм, пра які бядота марыць, а багацеі клянуць, на чым свет стаіць. Грошай у іх няма, бяры ў магазінах, што хочаш, аўтаматы вакол, парадачак поўны, ні міліцыі, ні паліцыі няма нідзе...

Шчоўкаючы кнопкамі на пульце дыстанцыйніка, разглядаючы жыццё незямное, я злавіў сябе на тым, што мяне нешта ці то трывожыць, ці то бянтэжыць.

І карлы, і дылды былі нейкімі надта вялымі, як хворымі ўсё роўна. Я рэдка бачыў, каб збіраліся яны купкамі. Купкамі яны збіраліся толькі на рабоце, у сваіх кабінетах-кабінках.

Урэшце скеміў, што трывожыла і здзіўляла: не бачу сямейных пар... І малюпасенькіх гуманоідаў, дзяцей іхніх, я нідзе не ўбачыў. Дзе яны былі,

дзе хаваліся? Можа, мне падумалася, яны якраз і знаходзіліся за тымі засакрэчанымі дзвярыма на вяршынях пірамід, можа, якраз там і вялося іхняе выхаванне і адукаванне праз чыпы малюпасенькія? Гуманоіды адно аднаго не цікавілі — вось што я змікіціў, калі назіраў за імі сваім спрактыкаваным вокам. Мужчынскія тыпы жылі самі па сабе, жаночыя — самі па сабе. І да ўсяго ж — нейкія невясёлыя яны былі, не бачыў я, каб яны смяяліся...

Вярнуўшыся з работы, гуманоіды тут жа ўладкоўваліся перад вялікімі, на ўсю сцяну, стэрэаэкранамі і глядзелі нейкія надта ім займальныя відовішчы, — гэтыя відовішчы, мабыць, і было тым агульным, што іх яднала.

Яшчэ ўгледзеў, што паўсюль: і ў басейнах ля марскога берага, і ў рабочых кабінках маюцца дзіўныя крэслы-ляжанкі, у гэтыя крэслы-ляжанкі гуманоіды часта ўкладваліся і як бы драмалі...

Шмат, шмат пытанняў узнікла, калі назіраў за жыццём незямным. Штосьці хавалася ад мяне...

Стомлены ад уражанняў, задрамаў урэшце. Прачнуўся ад голасу мяккага:

— Не здзіўляйцеся. Зараз будзем праводзіць першы сеанс.

Угледзеў, як адчыніліся нябачныя дагэтуль дзверы і ў пакой Лупавокенькая — бо рожкаў на яе галаве не мелася — укаціла тое самае дзіўнае крэсла-ляжанку, якое дагэтуль на стэрэаэкране бачыў. Укаціла, лапкаю на крэсла паказвае і голас яе чую:

— Не бойцеся. Нічога кепскага не будзе.

«Кранты прыйшлі...» — мне тут жа ўспомніліся гісторыі пра тое, што гэтыя зялёныя чалавечкі вытваралі з людзьмі падчас кантактаў.

«Вось табе і саломка падасланая» — разгублены, я глядзеў то на крэсла-ляжанку, то на яе, зеляніуху Лупавокенькую...

Чорт ведама, адкуль непрыемнасці чакаць.

І тады рашыўся, бо чалавек рызыкоўны...

У крэсла-ляжанку ўлёгся, Лупавокенькая ўпрытык наблізілася, — бр-рр, якія дрыжыкі працялі маё цела! — і прыткнула да галавы маёй гузічак ліпучы. І — усё... Тут жа яна і з пакоя выйшла, — мабыць, каб мяне залішне не трывожыць.

На сон мяне пацягнула. І сніцца мне пачало...

...Быццам на Зямлі я апынуўся — ля рэчкі, на беразе высокім, адкуль далёка-далёка відаць усё... Бачу, як у вячэрнім паўзмроку зялёны заліўны луг перада мною прасціраецца, кусты на ім лазовыя цямнеюць, бялёсым туманам абвітыя. А яшчэ далей, за лугам, на ўзгорку, хаты вясковыя ў рад стаяць, агеньчыкі вокнаў свецяцца. Бялюткая вымытая некім поўня на чорным небе паказваецца — вялікая, якую ў раннім юнацтве бачыў, калі першы раз дзяўчынку з танцаў праводзіў і ў салодкай знямозе, трымаючы яе мяккую далоньку, сядзеў да світанку на лаўцы, напітваючыся сунічным пахам, — бо днём яна ягады збірала.

І тады, калі трымаў гарачую мяккую далоньку, я ведаў толькі адно-адзінае — цэнтр Сусвету знаходзіцца не дзе-небудзь удалечыні, а тут, на гэтай лаўцы, дзе насцярожанай сцішанай птушкаю сядзіць дзяўчына, ад якой струменіць лясны сунічны водар. Без ніякіх формул і законаў я пэўна ведаў, што мы з ёю знаходзімся ў цэнтры Сусвету, і таму ў душы было адчуванне злітнасці, еднасці з зорамі міготкімі, якія купалам ахіналі нас, з поўняю, што свяціла для нас, з гэтай загадкавай цемраю бясконцай, што ахінала, адгароджвала нас ад усяго на свеце...

І таму так не хацелася развітвацца з ёю. І гэтак хутка мільгала салодкая ноч...

І на гэты раз, калі сябе на беразе бачу, амаль усё тое ж, юначае і дагэтуль забытае, паўтараецца: і хваляванне, і боязь страціць штосьці надта дарагое, што не зможаш набыць ні за якія грошы, ні за якое багацце, без чаго і жыць немагчыма...

Толькі я ўжо не на лаўцы сяджу, а ля вогнішча невялікага, якое то ўзгараецца, то да чырвонага жару прыпадае — агонь сваім таемным жыццём жыве... І побач, толькі руку працягні, сядзіць яна, мая шэльма жыціўская, яшчэ тая, усмешлівая без прычыны яўнай, у сукенцы, што калісьці насіла... На мяне скоса пазірае ды чамусьці ўсміхаецца, а чаму — толькі ёй вядома ды яшчэ адной жанчыне, партрэт якой мастак намаляваў, — таксама яна ўсміхаецца каторае стагоддзе, на людзей пазіраючы, і каторае стагоддзе людзі ідуць да таго партрэта, як да іконы гаючай і лячэбнай, імкнучыся разгадаць сэнс яе ўсмешкі...

І адчуваю нечакана, калі гляджу на яе, усмешлівую, што маё пякучае хваляванне, мая боязь страціць нешта надта дарагое бы агеньчыкам асвятляе стылую душу і з жахам бачу там неймаверную безліч нечага лішняга, мне зусім непатрэбнага, што гадамі ляжыць цяжкім друзам: законы разумныя, якімі маё сённяшняе існаванне апраўдваецца, званкі тэлефонныя, што не пытаючыся дазволу ў свядомасць урываюцца, кніжкі запісныя, дзе жыццё распісана на тыдні наперад, абяцанкі камусьці зрабіць штосьці і самому, бы старцу з торбаю, дачакацца чагосьці, грошы, якіх, чым болей маеш, тым болей не хапае, даўгі вечныя перад некім, і яшчэ, і яшчэ... І разумею, што без гэтага цёплага агеньчыка мне немагчыма жыць.

І як жа я жыў, як дагэтуль жыву!..

Я гляджу на луг, які ўсё болей і болей засцілаецца туманам, слухаю далёкія-далёкія дзіцячыя крыкі, нетаропкае і рытмічнае рыпенне драча, — і крыкі, як і рыпенне драча ў аглушальнай цішыні здаюцца надта звонкімі,— гляджу на бліскучую і гнуткую палосу вады рачной, што ўнізе пад абрывам жывым срэбрам паблісквае, гляджу на сцішаную поўню, што ўсё ярчэй і ярчэй нізкія воблакі высвечвае, і, як гэта бывае, калі чалавек закаханы, перапоўнены адчуваннем хараства і суладдзя з усім, што акружае, хачу падзяліцца з ёю багаццем сваім. Я не ведаю, як усё выказаць, толькі і магу:

— Паглядзі, як хораша.

І яна тут жа, як гэта бывае ў закаханых, разумее мяне, ёй і слоў ніякіх гаварыць не трэба, прыхінаецца да мяне і ціхутка, як самую найвялікшую таямніцу, шэпча:

— Я тут нарадзілася...

І ад яе шэпту мяне ўсяго скаланае, я асцярожна, з бояззю страціць самае найдаражэйшае ў свеце, што не набудзеш ні за якое багацце, праводжу рукой па яе мяккіх валасах, удыхаю пах чыстага, напоўненага сунічным пахам цела — і адчуваю, як хмельна кружыцца галава. У нейкім трызненні я таксама пачынаю шаптаць ёй штосьці сваё, запаветнае, чаго дагэтуль ды і потым ніколі нікому не шаптаў...

## 6

Прачнуўся не ў крэсле-ляжанцы, а ў спальні на ложку. Сон быў яркі, жывы — ніколі такіх яркіх сноў не бачыў. І адчуванні былі вострыя, здавалася, што яна, прыгажуня, усё яшчэ побач — я адчуваў дотык пальцаў яе на сваім целе, адчуваў пах яе чыстых валасоў, пах яе сунічнага цела...

І яшчэ — стомленасць неймаверная была ва ўсім целе...

Зноў пачалося ўсё тое ж, цяпер ужо знаёмае: ванна, столік з сытнымі кашамі і пюрэ, якія і жаваць не трэба.

Торкаў я лена відэльцам у тыя кашы, і думалася мне міжвольна: а якой жа ежаю мяне кормяць — той, што з газаў і паветра зроблена, ці той, з садавіны і гародніны, якая ў падземных скляпеннях выспявае?.. У вачах маіх стаяў іншы стол, на якім бульбачка парай сыходзіць, дзе капуста квашаная ў талерцы бялее, дзе грыбы вымачаныя на талерцы цямнеюць, дзе кольцам каўбаса дамашняя ружавее, дзе дранікі горкаю высяцца ля патэльні са свежыною салодкаю, дзе тваражок і масла ў талерачках...

Эх, — брата ўспомніў, — і праўду ён казаў некалі: куды і чаго мяне занесла?.. Дома сядзеў бы... Але ж, ці ўседзеш, калі перад табою дарогі зваблівыя і спакуслівыя высцілаюцца? Гэтак, мабыць, чалавек устроены, што зыбацца ён павінен перад спакусаю нязведанага і сумам спазнанага...

Пасля сняданку падаўся да стэрэаэкрана. Цяпер я пачынаў што да чаго разбірацца. Зразумеў: пара, пара надышла, Базылёчак, галавою шурупіць, думаць трэба, інакш абдураць, як апошняга ёлупня...

Экран тут жа і засвяціўся. Карла з'явіўся. Зноў нябачныя аператары і рэжысёры пачалі з ім усялякія фокусы вытвараць перад вачамі маімі. Лапку ён ўгору падняў і галасок ягоны пачуў я:

— Прывітанне!

— Прывітанне, — бурукануў я.

— Як спалася?

«А тваё якое дзела да сноў маіх?» — хацеў сказануць, ды змаўчаў.

Чымсьці ён мне не падабаўся. І не знешнасцю сваёю, не, да знешнасці ягонай як бы і прывыкаць пачаў, штосьці іншае пачынала выпіраць з ягонай сутнасці. Не падабалася мне, што галасок у яго мяняўся, — то ён гучна гаварыў, то надта ўжо ласкава. Мяне не абдурыш, ведаю: калі мякка сцелюць, то мулка спаць... Нешта падобнае са мною бывала і на Зямлі: толькі-толькі шуры-муры заводзіш з прыгажуняю пісанай, яна перад табою лістом сцелецца, а тут раптам — бац! — нутром адчуваеш, што ніякая яна не прыгажуня, і тады ўжо, каб і вяроўчынаю хто прывязаў да гэтай пісанай прыгажунечкі, усё роўна збег бы.

А мо і праўду кажуць тыя, хто сцвярджае, што вакол кожнага чалавека маецца нейкае поле, яго аўрай называюць, і толькі яно, а не знешнасць, на цябе ўздзейнічае. У адных гэтае поле — светлае, цёплае, лечыць цябе і супакойвае і таму так атрымліваецца, калі на такога чалавека глядзіш, то — вока адпачывае... А ў другіх — цёмнае, бліскане такая прыгажуня вачыма і — без слоў ведаеш, што — сцерва перад табою...

І мо ўвогуле, — часцяком думаю — гэтыя нябачныя сілы дабра і зла не міф, не казка, а самая што ні ёсць рэальнасць, яны правяць намі, а мы, нос задраўшы, ганарымся разумным шматслоўем сваім, знешнасцю сваёю, адзеннем сваім, багаццем сваім, сваёю ўладай...

А сапраўды, хто ж мы?!

Як сказана было некалі адным разумным чалавекам, скарыся, скарыся горды чалавек, перад тым неспазнаным, што цябе акружае!

Так-то ён, чалавек, табе і скарыцца — дачакаешся!..

Але зноў жа — нешта не туды, не туды мяне панесла... Пра гуманоідаў, пра незямных стварэнняў вяду я аповед...

Памаўчалі мы, гледзячы адно аднаму ў вочы. А тады я і распачаў свой допыт:

— У вас ёсць мужчынскія і жаночыя тыпы. Але, калі я глядзеў на ваша жыццё, нідзе не ўбачыў закаханых. Усе ў вас нейкія адзінокія. Я нідзе ні разу не ўбачыў, каб гуманоіды за рукі трымаліся. У нас на Зямлі адразу ж закаханых бачыш — ідуць побач і, самі таго не прыкмячаючы, за ручкі трымаюцца, а на тварах святло свеціцца незямное.... А ў вас... Мужчынскія тыпы — самі па сабе жывуць, жаночыя — самі па сабе...

— Ты хочаш спытаць, ці ёсць у нас каханне? — перапытаў карла.

— Так.

— А гэта для нас пройдзены этап, — махануў лапкаю Лупавокенькі. Зноў непрыкметна крэсліца ля яго паявілася, усеўся ён і стаў углядацца ў мяне.

«Во прыліп ты да гэтых этапаў, як сляпы да плоту», — падумаў я і пачаў удакладняць:

— У вас што, усе пагалоўна сталі сексменшасцямі?

— Ды не-е... Гэта мы таксама прайшлі на пэўным этапе.

— А што ж тады ў вас творыцца?

Лупавокенькі вусны васьмёрачкаю скруціў — ухмыльнуўся — і:

— Вось між намі, мужчынамі, давай гаварыць начыстую...

Тут і я міжвольна скрывіўся — таксама мне, мужчына знайшоўся!..

Пільней прыгледзеўся да гэтага мужчынкі і толькі цяпер угледзеў у яго між ног маленечкі, з мезенчык дзіцячы, гузачок, нічым не прыхаваны...

«Хоць бы транты якія на сябе нацягнуў, — падумаў я, усё яшчэ ўхмыляючыся. — Ён мяне яшчэ дзярэўняю папікае... На зямлі няграматныя папуасы і пігмеі ў лясах глухіх жывуць і то — сваё багацце хаваюць, як могуць, а ты, разумны этапнічак...»

Хацелася, хацелася мне выказацца, але, пажаваўшы словы, я так і не сказаў яму нічога. У гасцях я быў, а госцю не ўсё паложана гаварыць...

Мабыць, Лупавокенькі і сам скеміў, што ляпнуў не тое, пачаў папраўляцца:

— Няхай сабе і не мужчыны... Ты таксама не прыгажун. Адны вушы і насяра чаго вартыя...

— Гледзячы для каго, — тут жа адпарыраваў я. Цяпер нават і не думаў скакаць пад ягоную дудку. — Некаторым дык і надта падабаюцца і нос, і вушы. І многае іншае...

Памаўчалі. Хацелася мне яму яшчэ пару ласкавых дабавіць, ды зноў жа — сцярпеў. Маўчу, цярплю, як кляты...

А ён зноў пачаў сваё весці, — усё яго на філасофію цягнула і гэтай сваёю філасофіяй Лупавокенькі мяне бы інтэрнэтаўскім павуціннем аблытваў:

— Вось скажы, дзе ўсё пачынаецца пры каханні: тут, — лапкаю ў накірунку гузачка махануў, — ці — тут? — і на галоўку лапкаю торкнуў.

Прызнаюся, што ніколі пра гэта і не думаў. Паціснуў плячыма.

— Дык вось, я аўтарытэтна заяўляю і гэта табе пацвердзяць вашыя вучоныя — тут усё пачынаецца і заканчваецца, — і зноў ён па пятрылаўцы сваёй лапкаю заляпаў. — Калісьці мы ўсё гэта праходзілі, як дзеці школу праходзяць: і секс па тэлефоне, і стэрэапарнухі... Калі цвяроза разабрацца, то ўсё гэта — толькі спосаб уздзеяння на мозг па пэўных каналах... А потым у нас пайшлі парнухі са стогнамі і пахамі... А потым...

Я перабіў яго:

— Не дуры мне галавы. Адно з другім не блытай...

— Чаму? — зыркалаўкі да мяне наблізіў. — Вось ты нядаўна сон салодкі сніў. Што ёсць сон?

Тут Лупавокенькі са свайго крэсліца падскочыў і зноў пачаў перада мною швэндацца ўзад-уперад, і пачаў гаварыць:

— Сон — гэта вялікая загадка. Разгадваючы сны мы навучыліся прадказваць будучыню. Цэлая навука ў нас ёсць — снобачанне... Ці не праводзіць у снах чалавек свае самыя лепшыя імгненні? Задумайся, чаму ў вас наркаманы да наркаты цягнуцца? Вось скажы ты мне, чаму у вас так атрымліваецца: некаторыя маладзенькія хлопцы і дзяўчаткі, у якіх усё ёсць — і жаданні, і здароўе, а яшчэ ў школе да цыгарэт, да наркаты цягнуцца, ад бутэлькі піўной адарвацца не могуць? Патлумачу табе, адкрыю ісціну — ад цыгарэт, наркаты і піва ў іх галовах пераварочваецца свет. Сны ім тады — саладзейшыя за рэальнасць. А і праўда, чым сны горшыя за рэальнасць? У крэсле-ляжанцы цераз чыпы мы можам ўздзейнічаць на цэнтры насалоды галаўнога мозга. І ў выніку — сам упэўніўся — гэта лепш за вашы серыялы па тэлевізары, гэта саладзей за наркотыкі. Так што заадно мы даўно з наркаманамі разабраліся. Цяпер разумееш, чаму ў нас няма кахання ў вашым, зямным, разуменні. Яно ёсць, але іншае... Таму нам і сем'і не трэба, навошта яны?.. З сем'ямі ў нас гэтулькі праблем было: здрады вечныя, сваркі бясконцыя з-за лыжкі непамытай, шлюбы, разводы, палюбоўніцы і палюбоўнікі адзін за адным гойсаюць, уходдзя ім няма ніякага, справы даходзілі да забойстваў і самазабойстваў... А псіхозаў колькі было з-за кахання? Пра ўсё гэта ваш разумнік Фрэйд распавёў цэлую навуковую тэорыю — пра псіхааналіз на сексуальнай глебе... Ён, ваш разумнік Фрэйд, усё ў свеце тлумачыў на аснове сваёй тэорыі, без яе ведання вашы людзі ніяк не могуць абысціся, на чаргу запісваюцца, дзе псіхааналітыкі за грошыкі з вашымі людзьмі праводзяць разумную работу...

І зноў ні з таго ні з сяго я ўспомніў пра камунізм. І грошай у іх няма, і сем'яў няма, і райскія сталы, парадак поўны, нават наркаманаў няма, пад кантролем у іх усё...

Памуляў я вуснамі і:

— А з дзеткамі як вырашаеце праблему? Ваша гуманоідная цывілізацыя тут жа гігнецца, калі іх не будзе.

— Не хвалюйся, усё пад кантролем, — ён падняў лапку ўгору. — Некалі нашы, так бы мовіць, жаночыя тыпы, гуманоідзіхі, перасталі нараджаць дзяцей. Прызнаюся табе, тут трохі і мы былі вінаватымі: у свой час цэлае пакаленне вырасла, седзячы ля тэлевізараў і камп'ютараў, дзе, бы праз адтуліну замочную, глядзелі салодкія парнухі. Сам здагадваешся, што пасля такога выхавання пазнікалі ўсе таямніцы, усё стала ясна і проста...

«Во прывязаўся», — падумаў я.

А той сваё вёў:

— У нас усё было: і сурагатныя маці былі... Скажу адразу ж, з гэтымі сурагатнымі маці адны праблемы: з гуманоідзіхі ад старасці парахня сыплецца, а яна аб'яўляе усёй Дзэце, што стала маці і ў яе двойня малюпасенькіх гуманоідаў паявілася, хоць чые тыя гуманоіды — ніхто не ведае ды і не можа ўведаць... А што нам было рабіць, калі ад сурагатнай маці скалечаны нябога гуманоід паяўляўся — на сметнік выкідваць?.. І цэнтры ў нас спецыяльныя меліся, дзе бяздзетным парам дапамагалі... А потым, як кланіраванне адкрылі, нам лягчэй стала — мы гэтую справу паставілі на канвеер. Скажу табе — разумнік, вялікі разумнік быў ваш Форд, які прыдумаў канвеерныя лініі... Да пары да часу мы хавалі ад цябе гэтую інфармацыю, бо ты быў маральна не падрыхтаваны, прафанам быў поўным... Але цяпер, калі ты пра чыпаванне сёе-тое ўведаў, мы можам паказаць табе праўду...

І тут знік Лупавокенькі.

На стэрэаэкране я ўбачыў агромністыя як бы заводскія карпусы, якія дагэтуль бачыў. Унутры тых карпусоў, што нагадвалі заводскія цэхі, я ўгледзеў

круглыя празрыстыя колбы, былі яны спрэс аплеценыя белымі трубачкамі. Мабыць, як я здагадаўся, па тых трубачках спажыўныя растворы паступалі ў колбы. А ў колбах — эмбрыёны гуманоідаў былі. Маленькія-маленькія, з пазногцік мезенчыка. І ўсе гэтыя колбы, прымацаваныя да доўгіх ланцугоў, памалу рухаліся, і ў колбах падрасталі эмбрыёны гуманоідаў, станавіліся ўсё большымі і большымі — як канвеерныя лініі...

Амаль гэткімі ж тыя канвеерныя лініі былі, як і тыя, на якіх ежа з газаў і паветра сама па сабе паяўлялася.

Асобны корпус я ўбачыў, там гуманоіды, схіліўшыся над мікраскопамі, спецыяльнымі пінцэтамі тварылі штосьці — мабыць, там яны і рабілі свае эксперыменты над нябачнымі камячкамі жыцця, кланіраванне рабілі... А потым, як я здагадаўся, яны тыя камячкі ў колбы шкляныя запускалі і на канвеер выпраўлялі...

У канцы канвеерных ліній спажыўныя растворы з колбаў выкачваліся, спецыяльнымі лазернымі праменьчыкамі тыя колбы разразаліся, адтуль спецыяльным аўтаматам вымаліся гуманоіды малюпасенькія, яны тут жа ўкладваліся на новыя канвеерныя лініі, якія далей рухаліся і хаваліся ад маіх вачэй за цёмнай занавескаю. Што там з імі далей адбывалася — не паказалі мне. Але і без гэтага я здагадаўся, што там з малюпасенькімі гуманоідамі рабілі.

Без ніводнага дарослага гуманоіда ўсё гэта рабілася...

І глядзеў я ва ўсе вочы на доўгія рухомыя канвеерныя лініі, — як эмбрыёны у колбах варушыліся, да шкла бліскучага дакраналіся то лапкамі, то галоўкамі...

І праўду Лупавокі сказаў — не падрыхтаваны я быў да іхняй рэальнасці, прафанам быў поўным, бо мне чамусьці жахліва стала.

— Што ж вы вытвараеце?! — крыкнуў я. — З дзіцём маці сувязь мае. Дзіця яшчэ да нараджэння галасы чуе, настрой маці адчувае. Таму і раяць дактары, каб маці на прыгожае глядзела, каб музыку слухала. Ды не эстраду крыклівую, а класіку, каб песні народныя спявала. Ты ведаеш хоць, што праз песню народную, праз мову родную генетыка народа фарміруецца? І кожнае слова, як мне некалі брат сказаў — не гук пусты, а — сувязь народная... О-о, што вы творыце, што вытвараеце? Маці малаком сваім дзіця павінна карміць — так яна з дзіцём завязвае вечную сувязь... Мо таму выміраюць цэлыя нацыі, што маці з дзіцём сувязь трацiць, а калі яна яшчэ курыць ды піць пачынае, то і дзеткі гэткімі ж дэбіламі вырастаюць...

— Ха-ха, — зноў, як Піліп з канапель, выскачыў на стэрэаэкране Лупавокенькі, у сваё крэсла ўсеўся і пачаў узірацца ў мяне, — мы пра гэта таксама ведаем. Навука наша не дрэмле... У нашых інкубаторыях усё прадугледжана, усё пад кантролем: і музыка ёсць — суперкамп'ютар выводзіць нам розныя мелодыі, дзве тысячы пяцьсот мелодый у ім. Калі трэба, можам і заказаць больш мелодый, нам нядоўга — усяго сем нот, а мелодый з іх уга-га колькі суперкамп'ютар можа наляпіць. У адпаведнасці з новым імклівым часам пад наша новае кліпаванае мысленне суперкамп'ютар стварае новую больш рытмічную музыку. Дзугі-дзугі тая музыка называецца. І песенькі таксама ўвесь час новыя сачыняюцца. Труля-ля, труля-ля нашы песенькі называюцца. Гэтыя песенькі толькі спецыяльна адабраныя спевакі спяваюць. Іх у нас трыццаць тры на ўсю Дзэту, яны гуманоідаў радуюць днём і ноччу. Пад суперкамп'ютарную музыку яны толькі роцікі адкрываюць — ім і спяваць не трэба, бо суперкамп'ютар танальнасць, рытміку і ўсё астатняе самастойна робіць. Хоць, па праўдзе скажу, песні для эмбрыёнаў мы ў апошнія гады адмянілі, а дарослыя гуманоіды іх не спяваюць — і без песень мы жывём прыпяваючы, навошта яны?..

— А выбракоўка ёсць? — я ўжо да канца наважыў ісці ў сваім пазнанні.

— Канечне, як і ва ўсякім тэхналагічным працэсе. Мутацыйныя некантралюемыя зрухі, усё такое...

— І што ж вы тады робіце?

— Ствалавыя клеткі пускаем на лякарствы — ашаламляльны эфект атрымліваецца, я табе далажу. Гэта на першым этапе, калі ідзе актыўны працэс дзялення клетак. А на пазнейшых этапах розныя органы гуманоідаў мы пускаем на запчасткі. Спачатку робім замарозку эмбрыёнаў у вадкім азоце, гэтым мы ствараем банк запчастак і ствалавых клетак, а потым, пры патрэбе, ужыўляем тыя запчасткі дарослым гуманоідам.

Пахаладзела ўсё ўва мне. Пасля пачутага і ўбачанага не да жартаў стала. Ад хвалявання ў мяне і рукі задрыжэлі.

Дзе ж мяжа іхняга пазнання саміх сябе?

І ці ёсць яна, гэтая мяжа?

— Што ж вы вытвараеце?— зноў ледзьве не прастагнаў я.

— А што ты ўсё дзівішся, дзівішся?..— нечакана з Лупавокенькага палезла нешта іншае, прыхаванае да пары, што дагэтуль я душой адчуваў. Знікла ў ягоным голасе ласкавасць, левітанаўскі басок пачаў праразацца ўсё мацней і мацней. У памерах ён павялічыўся, на ўсю сцяну перада мною паўстаў, вочкі ягоныя наблізіліся да мяне, і аднекуль зверху, без майго ведама, у маю галаву пачало ўлівацца: «Вось вы ўсе пагалоў адзенне з сінтэтыкі носіце, яно ж таксама зроблена з газаў і паветра. Хоць і трашчыць на голым целе, і страляе, хоць на алергію ад яго хварэеце, а носіце, фарсіце адно перад адным... Катлеты з генетычнай соі за мяса прымаеце. І — нічога, не давіцеся... Пачакайце... Усё будзе, як у вашых святых кніжках напісана, — манну нябесную будзеце есці. Прывы-ыкнеце... І дзеткі ў інкубаторыях будуць нумараваныя, адразу ж пасля паяўлення на свет вы з іх таксама, як і мы, спецыялістаў будзеце рыхтаваць: канвеершчыкаў, праграмістаў, матэматыкаў, тэхнолагаў... А то — невядома каго гадуеце без ніякай праграмы, плодзіцеся без меры... Скажу табе па сакрэце, — дзякуючы прагрэсу кланіраванне не кожнаму гуманоіду дазволена рабіць, не кожны смее зазірнуць у вечнасць, толькі выбраныя, толькі яны могуць трапіць у наш рай... Усё, усё будзе ў вас, як у вашых святых прарочых кніжках напісана: і мёртвыя жывымі стануць, уваскрэснуць з дапамогаю генетычных тэхналогій...»

Тут я ўжо не мог стрымацца. Колькі ж цярпець! Як казала мне адна прыгажуня, якая на кухні час ад часу ў мужа талерку запускала: мае нервы — не вяроўкі... Пачуўшы тыя слоўцы пра вяроўкі і нервы, недарэка муж стрымгалоў ляцеў да дзвярэй, бо ўслед тут жа — гэта ён ведаў — ляцела талерка... Лятаючыя талеркі не толькі ў блакітных нябёсах паяўляюцца... Талеркі пад рукою ў мяне не аказалася...

— Ах ты, галапузік зялёненькі... — крыкнуў я, забыўшыся, што не дома, што ў гасцях, дзе павінен маўчаць. — Мяне ўсё дзярэўняю папікаеш, цёмным лічыш, а чаму маўчыш, што ў нашых свяшчэнных кніжках яшчэ пра Гамору і Садом напісана?.. Чаму маўчыш, што там яшчэ сказана пра разбураную Вавілонскую вежу?.. За што і чаму яна была разбурана, не падкажаш?.. Як мне — дык манну нябесную на сняданак падсоўваеш, а булкі з фінікамі каму дастаюцца? Каму мамалыга з аліўкавым маслам дастаецца?..

Пра ўсё забыўшыся, кінуўся да стэрэаэкрана і з размаху кулаком... Ды тут, — ці паверыце! — аказалася, што перада мною было не шкло, не стэрэаэкран, а галаграма неадчувальная і кулаком сваім я нікога не мог зачапіць.

Вось табе і на... Абдурыў мяне Лупавокенькі, абдурыў...

— Прывы-ыкнеш да новай рэальнасці, зменіш сваю сутнасць... — усё гучаў і гучаў у маёй галаве грозны бас Лупавокенькага. — Не толькі да чыпавання прывыкнеш... Усё, што бялком называецца, есці будзеш, не толькі манну нябесную: і катоў, і сабак, і мышэй, і саранчу, і чарвякоў... З чаго тая яда зроблена — якая табе розніца?.. Бялкі бялкамі павінны харчавацца — вось табе і ўся мудрасць, вось табе і ўся філасофія....

## 7

Галаграма патухла, я заплюшчыў вочы. Калаціла і трэсла мяне пасля пачутага і ўбачанага. Я ўсё яшчэ бачыў эмбрыёнаў, якія варочаліся ў колбах, варушылі лапкамі, лобікамі да шкла датыкаліся. Хоць і незямныя, нялюдскія стварэнні былі, ды чамусьці — гэткая ўжо ў мяне натура — шкада іх стала. Уявілася мне, як потым у іх галовы ўводзілі чыпы. Пасля гэтага маленькім гуманоідам, мабыць, і дурэць не хацелася. І не хацелася гуляць у салодкія хованкі, ляжалі яны, мабыць, сцішаныя, а ў іх галовы праз чыпы днём і ноччу ўводзілася інфармацыя.

І потым, калі яны падрасталі, чым жа цікавіліся, што іх хвалявала і цешыла? Кніжак, у якіх казкі напісаны, яны не чытаюць, ды ім і не трэба чытаць, творы ў іх галовы ўжо іншыя загнаны... Маляваць ім не трэба — на стэрэаэкранах для іх даўно ўсё намалявана — мультстрашыдлы, дзе пачвары адна за адной ганяюцца... Песні, што людзей яднаюць, ім не трэба спяваць, бо яны іх ніколі не чулі і не ведаюць, што гэта такое — ціхія пранікнёныя матуліны песні... І, чым больш разважаў пра гуманоідаў, тым жахлівей было: разумеў, якімі няшчаснымі яны станавіліся, калі выраслі... І не задумваліся над тым, хто яны і навошта жывуць. Ува мне адно і тое ўбілася: яны былі не вінаватымі... І не задумваліся, што праз чыпы ў іх галовы праграма закладвалася, якая імі поўнасцю кіравала і валодала... І таму цікавілі іх толькі відовішчы на стэрэаэкране, ды салодкія крэслы-ляжанкі. Іх, акрамя работы на канвеерах, новых праграм чыпавання і кадзіравання, методык кланіравання, нішто і нічога не цікавіла...

Колькі будзе сто дваццаць дзевяць у пятай ступені яны ведаюць...

Квантавую механіку ведаюць, сутнасць энтрапіі ведаюць...

Праграміраванне і кадзіраванне ведаюць...

І вераць, думаюць, што разумныя і самастойныя ў сваіх рашэннях, а калі сапраўды?..

Жахліва мне стала ад сваіх здагадак.

І яшчэ я падумаў...

Калі гуманоіды навучыліся самі сябе вырошчваць у колбах, калі яны на лякарствы пускаюць стваловыя клеткі, значыць, яны і расліны генетычна падправілі, і рыбы, што ў падземных карытах плавалі, таксама генетычна падпраўленыя. І мо таму ў магазінах іхніх я ніякіх прадуктаў не бачыў — тубы суцэльныя, дзе адны кашы і пюрэ, як у касманаўтаў, і ў тубах тых невядома чаго намешана...

Хоць каму што намешана: адным булкі з фінікамі і аліўкамі, а другім — шыш з газаў і паветра...

Ды і пра натуралаў Лупавокенькі нешта цямніў, маніў ён мне, лапшу на вушы вешаў. Можа, і праўда, — жылі на Дзэце натуралы, якіх Лупавокенькі калёным жалеззем выпальваў, але ж, як ён сам прагаварыўся, была ў іх і эліта, якой не ўжыўлялі чыпы. Можа, прадстаўнікі гэтай эліты і сустракалі мяне, і

вельмі здзіўляліся, калі ўбачылі. Можа, за тымі засакрэчанымі шыльдамі, якія былі на вяршынях пірамід, і якія я ўгледзеў, і хавалася іхняя эліта, што правіла Дзэтаю?.. Можа, там і хаваліся гуманоіды, якія праз кланіраванне зазірнулі ў вечнасць?

Не ўсё так проста на гэтай Дзэце... А пытацца пра іхнія праблемы ў Лупавокенькага не хацелася — у мяне сваіх зямных праблем хапае... Ды і што ён мог мне сказаць?..

Тое, што для чысціні эксперыментаў над чыпамі і суперкамп'ютарам трэба весці кантроль — дык гэта не толькі мне зразумела, а і апошняму дурню.. А кантроль той, мабыць, дазволена весці эліце. Каму ж яшчэ?..

Для кагосьці на палях каласіцца пшаніца, для кагосьці выспявае залацістая кукуруза...

І зноў і зноў ува мне білася: каму булкі, а каму — шыш з газаў і паветра...

Цямніў, цямніў Лупавокенькі: пра адно гаварыў, філасофстваваў, думаў пра другое, а на справе рабілася трэцяе...

Але, скажу я вам — і на Зямлі штосьці падобнае пачало тварыцца. Як прызнавалася мне адна прыгажуня, калі мы з ёй у ложку ляжалі: ты ніколі не ўведаеш, пра што думае жанчына, якая побач з табою жыве гадамі... Я, пачуўшы гэтыя словы, голы ледзь з ложка не выскачыў.

— Як гэта можа быць?! — залямантаваў я. — Ты ж толькі што гаварыла пра вечнае каханне...

— А вось так і можа быць, — адказала яна мне з усмешкаю. — Ты сам падумай, якім бы жахлівым было жыццё, калі б мы ведалі, што думае іншы... А таму гадай, пакутуй штодня, кахаю я цябе, ці — пра іншага мару... Старайся, скачы перада мною пад дудку маю, пакутуй, і ў гэтым — шчасце тваё...

І адразу ж — ці паверыце, засмяялася, да мяне прыхінулася, абняла...

Застагнаў я з гора, паглядзеў на яе і з адчаю ледзьве не заплакаў...

Жанчыны, жанчыны... Можа, і праўда, вы — разумнейшыя за нас, мужчын, якія вечна праўду-матку ў вочы рэжуць?..

Я і па сёння не ведаю, добра гэта ці дрэнна, што мы адно аднаго да канца не можам уведаць... Таямніцы, таямніцамі мы ахутаны...

А мо і праўда — настаў новы час, новая эпоха, калі граматны чалавек налаўчыўся за словам хаваць свае думкі і пачуцці? Не толькі палітыкі, калі гутараць сам-насам, хаваюць ад людзей свае намаганні і меркаванні, але і людзі, прагрэсам падхопленыя...

Дык скажыце, які сёння свет настае? За што, скажыце, тады ўхапіцца чалавеку, калі слова становіцца разменнаю манетаю? Можа, усе нашы беды з таго, што гаворым адно, а думаем зусім іншае?..

Але ж, мабыць, яшчэ большыя беды пачнуцца, калі праз чыпы хтосьці будзе ведаць нашы думкі?

Шмат, шмат пра што мне думалася.

І яшчэ адно няяснае трывожыла мяне. Пакуль я і сам не мог зразумець, але адчуванне трывогі не пакідала мяне ні на хвіліну.

А потым зноў адчыніліся нябачныя дзверы, зноў Лупавокенькая ўкаціла ў мой пакой крэсла-ляжанку. Запрасіла ўкладвацца. Я агледзеў яе з галавы да ног — была яна без ніякіх трантаў, як і Лупавокенькі.

І я ёй сказаў:

— Не.

Яна здзівілася. Затым прагучаў яе голас:

— Сягоння метыска будзе. Пакажа танец жывата, і ўсё такое...

— Не, — паўтарыў я і падумаў: «Ты лепш гэту метыску Лупавокенькаму падсунь. Во пуду будзе, заікаю стане да канца дзён сваіх».

Лупавокенькая крэсла-ляжанку выкаціла з пакоя, я застаўся адзін.

І найшло, найшло на мяне... Пасля таго, што ўбачыў і пачуў, у маёй душы з'явіўся нейкі шалёны адчай. І зноў упрытык я сутыкнуўся з тым, з чым, мабыць, час ад часу сутыкаецца кожны чалавек — з чорнаю адзінотай, калі ўсё, чым жывеш дагэтуль, чым цешыш сваю душу, здаецца пустым, нікчэмным, і быццам скручаны агромністай марской хваляю, пачынаеш задыхацца і не ведаеш, куды падацца ад пякельнага болю.

О-о, як шкада чалавека ў такія хвіліны! І добра, калі знойдзецца ў гэты міг блізкая душа, якая суцешаць і пачне шкадаваць цябе, адзінокага... Не вінаваціць, не папракаць, а ўсяго толькі — шкадаваць...

Я заплюшчыў вочы і нібы скрозь белы туман, убачыў...

…Убачыў лясную дарогу, а па ёй, каляіністай, коціць легкавік. Надвячорак... Залацістае сонца скрозь сосны слепіць вочы. Я за рулём сяджу, а побач мой брат круціцца, рукі пацірае: «Ну, сягоння, я табе абяцаю — клёў бу-у-дзе. Я душою чую». Таксама гарачы, дай волю — наперадзе легкавіка па каляінах панясецца да ляснога возера. Вядома, ад адной маці нарадзіліся, тая таксама тры работы адразу рабіла: шыла, падлогу мыла і спявала яшчэ...

З баравога лесу ў акно машыны хвалямі ліецца салодкі водар, у якім паядналіся шкіпінарны пах смалы-жывіцы, сунічак салодкіх, што на пагорках у траве хаваюцца, пах застаялай празрыстай вады ў каляінах, далёкія, ледзь чутныя пахі дурніц, багульніку, што плывуць з лагчын. І яшчэ над усімі пахамі траў лясных уладарыць пах чагосьці — таго даўняга, паўзабытага, што так востра адчувалася ў маленстве і што выцягвала з хаты і змушала згаладнелымі вачыма ўзірацца туды, за выган, дзе гнулася рачулка, дзе стаяў лес вечнай і непарушнай сцяною, куды дарогі вялі — аж на самы край свету...

Ззаду, з багажніка, гэткімі ж хвалямі даносіцца салодкі пах гарохавай кашы. Вядро набухаў, можна накарміць роту салдат, а ён — адным ляшчам яе прыгатаваў.

Машыну трэба весці асцярожна, у любы міг можаш днішчам ці на белы пясок сесці, ці карчавежыну падчапіць. Іх тут хапае — і яловыя, і сасновыя — усю дарогу пераплялі... Ужо з паўгадзіны коцім і, здаецца, што гарадоў тлумных нідзе няма, і вёсак нідзе няма, а ўсюды, куды ні паедзь, будзе лес, лес, лес...

Нарэшце прыкочваем да невялічкага чыстага прагалу на беразе возера. Управа і ўлева ад прагалу спрэс трыснёг у вадзе зелянее, з шумам пад ветрам выгінаецца. Брат выскоквае з машыны і, зірнуўшы на хвалістую паверхню вады, яшчэ болей радасна, чым дагэтуль, лямантуе: «Выдатна! Сёння нікога няма. І калы ў вадзе нашы стаяць нечапаныя».

Ведама, што няма нікога... Не шмат знойдзецца дурняў, каб за дзве сотні вёрст у глухамань перціся, дзе камар'я поўна...

— Давай, шавяліся, — падганяе мяне брат. Адкрывае багажнік, дастае вядро з яшчэ цёплай, перацёртай зваранай прасяной і гарохавай кашай, кажа: — Я сёння на дзве катушкі лавіць буду. Да-ам яму!..

Выцягваю з багажніка гумовую лодку, пачынаю накачваць насосам-пішчалкаю. Брат вывальвае на поліэтыленавы мяшок кашу і змешвае яе з перацёртымі семкамі сланечніка. І такі салодкі водар нясецца ад той кашы, што не стрымліваюся, падыходжу да яе.

— Ты што — не еў сёння? — пытае брат і адразу дадае: — Ну, хопіць, хопіць. Ляшчам не застанецца.

Вялікія круглыя камякі перацёртай з семкамі кашы зноў укладваюцца ў вядро, надзьмутая лодка падносіцца да вады і ў яе загружаецца ўсё тое, без чаго ляшча не возьмеш: бляшанкі з вёрткімі чарвякамі, тры катушкі. Але не забыцца б толькі падсачык новенькі, яшчэ не апрабаваны, а таксама — садок для рыбы, ліхтарыкі на святладыёдах, што на галаву чапляюцца, як у шахцёраў... Што яшчэ?.. А-а, ледзьве не забыў... А грузілы, а стужку ліпучую, каб катушкі да калоў прывязаць, а накамарнікі на ўсякі выпадак, бо камар’ё, як звяр’ё, ужо цяпер жыццяне дае. А плашчы на ўсякі выпадак, калі ветрам нацягне дождж. А надзіманы гумовы матрац, куды трэба ўсадзіць па-царску...

Адплываем. Брат арлом сядзіць на матрацы, на хвалістае возера пазірае. І раптам успамінаю: а каша?.. Каша ў вядры так і засталася ля машыны.

— Боўдзіла! — заводзіцца брат. — Вечна ў цябе парадку няма ніякага, вечна ты ўсё забываеш. Цямнець зараз будзе.

Вяртаемся. Бяру кашу. Зноў адплываем. Рыпаюць вёслы. За спінаю нічога не бачу, брат, як палкаводзец, камандуе, рукою то ўправа, то ўлева торкае. Выграбаю вёсламі і ўсё пазіраю на ўсохлы надта ўжо худы братаў твар. Аперацыя на сэрцы дарэмна не мінаецца. І страшны, страшны ён становіцца вечарам, калі стамляецца.

Да калоў падплываем, калі залацістае вялікае сонца кранаецца вады. А работы яшчэ — непачаты край, як маці некалі казала... Трэба катушку да кола ліпкай стужкаю прымацаваць, трэба жылку з гумкаю адвесці ад кола метраў на сто, не меней, бо лешч — асцярожны, на дурніцу яго не возьмеш... Там жа, на канцы гумкі, грузіла з паплаўком трэба ў ваду апусціць. Назад да катушкі трэба вярнуцца і, зачапіўшы за крайнія кручкі пластмасавыя паплаўкі, апусціць іх у ваду — гумка тут жа пацягне гэтыя паплаўкі туды, дзе будзем карміць рыбу.

Зноў трэба адплываць ад кола і плысці да паплаўкоў і карміць, карміць ляшчоў, якія недзе там, пад паверхняю хвалістай вады, плаваюць парамі ад берага да берага. Ляшчы чамусьці парамі гуляюць... І зноў да кола трэба плыць, вёрткіх чарвякоў на кручкі трэба чапляць, званочак звонкі трэба да жылкі мацаваць. Гэта ўсё — работа з адной катушкаю. А такіх сёння тры. А яшчэ ветрык лёгкі лодку ўвесь час зыбае, адносіць убок. А брат камануе, падганяе... Аж спіна мокрая.

Калі трэцюю катушку прывязваю да кола, у спешцы, адной рукою трымаючыся за кол, а другою — за катушку, нечакана адчуваю, што яна выслізвае з пальцаў і ў ваду — боўць...

Лепш я б сам туды боўтнуў.

— Боўдзіла! — толькі і гаворыць брат. Лепш бы ён мне аплявуху залімоніў. Брат адварочваецца і глухавата жаліцца не мне, а таму, хто ўсё гэтае агромністае і бязмежнае стварыў і цяпер, мабыць, зверху на тварэнне сваё з ухмылачкаю пазірае. — Такая катушка, яшчэ савецкая, не сённяшняя кітайская падробка... Жылкі сто метраў, гумкі дваццаць... Кручкоў пяць штук, японскіх, кобра... Павадкі, пацерачкі, вяртлюжкі... Цэлы надвячорак угробіў... Чарвякоў накапай. Кашы навары... А-а, што яму, на ўсё гатовенькае прыкоціць... Той раз падсачык утапіў, гэты...

Вось табе і на... Я думаў, што яму ласку раблю, на рыбалку адвозячы, аказваецца...

Але цярплю, маўчу, як кляты.

Распранаюся і асцярожна, каб лодку не перакуліць, апускаюся ў ваду.

А не то будзе, як сябруку, які хваліўся, што ягоныя гены пальцам не прыкрыеш...

Як мае быць да рыбалкі падрыхтаваўся. Боты з шырокімі халявамі на ногі ўсцягнуў. Навошта яны яму спатрэбіліся сярод лета? Бінокль цэйсаўскі, дарагі, на шыю начапіў. Мабыць, шчупака ў вадзе марыў разгледзець. Нож-фінку ў кожаным футалярчыку да пояса прымацаваў. Усё зрабіў па-гаспадарску, як дзед ягоны рабіў, калі жарабкоў і авечак гадаваў.

Гумовую лодку напампавалі, яго ў яе пасадзілі, вёслы ў рукі далі, спінінг збоку: плыві, родненькі, геніяльны ты наш...

Ён і паплыў. Ды не да чароту гнуткага, дзе шчупак хаваецца, а чамусьці на сярэдзіну возера. Заплыў. Глядзім: падняўся ў лодцы, як помнік на гарадской плошчы ўзвысіўся, і спінінгам махануў, адчаюга...

І імгнення спінінг у адзін бок паляцеў, ён — у другі, а перакуленая лодка зверху яго накрыла. Плаваць сябра не ўмеў, інтэлігент няшчасны, рукамі і нагамі па вадзе малоціць:

— Базыль! Базыль!..

Думалі напачатку — дзесяцікілаграмовы шчупак яго на дно цягне.

Бот японскі, калі нагамі малаціў, у ваду навечна боўтнуў. Барада злямчылася, слізкая — не ўзяцца, калі да берага цягнуў. Спінінг не знайшлі. Пра бінокль і казаць нечага... Ледзве адкачалі.

Потым ужо, на беразе, я сказаў:

— Ну, што, геніяльны ты наш, не цябе нам шкада, а гены твае, яшчэ трохі — і яны навечна ў вадзе засталіся б... Гэтак жа, як катушка, — спрабую нырнуць, каб знайсці яе.

О-о, якая мокрая і непрыемная вада! Ды і глыбіня — метры тры, не менш, недарэмна пяціметровыя калы высякалі. Пакуль рукамі дно дастаю, ужо ў вушах пачынае звінець і вочы, адчуваю, як у таго ляшча, на лоб пачынаюць лезці. Апускаю руку ў глей. Ён мяккі, як пух. Дзе ты ў ім катушку знойдзеш... Гары яна гарам... Пробкаю выскокваю на паверхню, хапаю ротам паветра.

І як там, у гэтай багне, ляшчы жывуць, чаму і чаго яны радуюцца?

— Ну, што? — пытае брат.

— Глей там. Не знайсці, — адказваю і зноў асцярожна забіраюся ў лодку, што грозна зыбаецца ад кожнага руху.

— Ладна, — прымірэнча гаворыць брат. — На адну буду лавіць. На рабоце магніт вазьму. У наступны раз мы яе магнітам знойдзем. Чарвякоў давай, разявака.

Цярплю, маўчу.

Непрыкметна зямлю агортвае цемень. Слабыя хвалі рытмічна гайдаюць лодку, прывязаную да калоў. Камар'ё клятае ветрык знёс да прыбярэжных кустоў — ціха, чыста цяпер вакол нас і мо таму дзённы і штодзённы тлум таксама выветрываецца з душы. З-за невысокіх хмар вылузваецца месяц і адразу з'яўляецца рухомая срэбраная паласа вады — цягнецца да далёкага берага. Там нехта распаліў вогнішча і, як бывае ў такіх выпадках, здаецца, што там, адкуль даносяцца незнаёмыя галасы, чуецца звонкі жаночы смех і нават даплывае песня — не эстрадна-блатняцкая, не... — здаецца, што там і шчасце тваё...

І такое адчуванне, што не на рыбалцы мы, не на вадзе азёрнай, а ў нейкім іншым загадкавым свеце, і толькі цяпер разумець пачынаю, што ўсе мае веды, пачутыя ад настаўнікаў і з кніг вычытаныя — не дакладныя, што сусвет зусім па-іншаму злеплены.

Я гляджу на ваду ціхую, на прытухлае, але не зусім чорнае воблачнае неба, дзе зор не бачна, і ўспамінаю чамусьці радкі з верша паэтэсы, што заўчасна пайшла з жыцця:

Гэты вечар не твой,
Гэта ноч не мая,
Ты не будзеш са мной,
Я не буду твая...

Як і многія паэтэсы, яна была няшчаснай у жыцці, ёй вельмі хацелася таго чыстага і светлага пачуцця, без якога цяжка, а мо і немагчыма жыць, і таму яна...

Паэты ўвогуле няшчасныя, шчаслівых, мабыць, і не бывае, бо адчуваюць кожным нервам гэтую вялікую таямніцу, якая акружае чалавека ад ягонага першага крыку і да апошняга. І гэтая таямніца акружае ўсё жывое. Асцярожным словам яны мкнуцца расказаць разумным адукаваным людзям пра гэтую таямніцу, якую ніякімі формуламі, ніякімі законамі спасцігнуць нельга і без адчування якой чалавек, мабыць, не можа жыць.

...Усё ведаюць палітыкі, але бяссільныя перад дарам сапраўдных паэтаў прадбачыць будучае.

...Бо, як сказана ў адной кнізе, спачатку было слова, і ведаюць палітыкі, што толькі праз слова і дзякуючы слову чалавек зможа ўведаць ісціну і тады ўжо — гора, гора будзе ім, людзі пачнуць смяяцца з іх...

І яшчэ я думаў...

А ў брата між іншым клёў пачаўся. Так і чуецца:

— Ёсць...

Пасля гэтага брат махае рукамі так, што лодка ходзіць ходырам — выцягвае жылку стометровую, цягне таропка, быццам гэтая рыбіна апошняя ў ягоным жыцці.

Не вытрымліваю:

— Можаш спакайней?.. Лодку перакуліш.

— Ты ўжо лепш памаўчы, рыбачок, які катушку ў вадзе губляе. На большае ты не здольны. Не вучы вучонага. Разбяруся і без тваіх парад.

Што ж, цярплю, маўчу...

Выцягвае ён падлешчыкаў грамаў па дзвесце, называе іх ляшчамі. Падвёўшы аднаго да лодкі, выцягвае з вады — падлешчык, на дзіва, спакойна даецца яму ў рукі, нібы ручны... Бачу ў цемры, як чыстым золатам гарацы круглыя неміготкія вочкі рыбіны. Бачу срэбраную луску. Брат здымае падлешчыка з кручка і, фарсіста падкінуўшы яго ўгору, кідае ў садок, што ля борта лодкі боўтаецца ў вадзе. Як знарок ён гэта робіць, бо клёву ў мяне няма.

Хоць і цёмна, але адчуваю, што аднекуль з’яўляецца жаба, на грудзі ўзбіраецца і пачынае душыць, душыць, змушае мяне шаптаць чарговаму падлешчыку: «Ды выплюнь ты чарвяка таго, выплюнь... Няўжо табе мала кашы гарохавай?»

Не аднаго харошага чалавека гэтая жабоцька прыдушыла. Бывае, як прывяжацца, дык і не адпускае і тады ўжо ад чалавека нічога людскага не застаецца, толькі адзін цень, што без толку соўгаецца па зямлі...

На ляшчоў мы пачалі ездзіць толькі гэтым летам, дагэтуль брат карасёў лавіў на закідуху — грамаў па сто—дзвесце, іх ён называе карасішчамі...

— Табе, можа, падсачык даць? — пытаю я.

— Не трэба мне твой падсачык. Я яго запраста, рукою вазьму. Вось так, вось... Ты лепш сваю катушку глядзі, — адказвае ён.

Маўчу...

Недзе ў дзве гадзіны ночы брат узрадавана шэпча:

— Ёсць. І ладны, як парася.

І рукамі махае — жылку выцягвае.

— Ты хоць жылку ў ваду спускай, бараду зробіш, да світанку не разблытаеш, — кажу я.

— Абыдуся і без тваёй парады, рыбачок...

Метраў за дваццаць ад лодкі з'яўляецца хваля, брат паверх вады цягне рыбіну да лодкі. І сапраўды, гэта ягоны вечар і ночка ягоная... Вялізнага ляшча, як плаху валачэ. І чым бліжэй да лодкі, тым больш трывожыцца лешч, блізкую бяду чуе — «разгульваць» пачынае злева направа... Але ж і брат не промах — валачэ і валачэ ляшча і бармоча адно і тое ж, як п'яны:

— Хар-рошы лешч! Такога я яшчэ не цягнуў. Хар-рошы.

— Падсачык даць? — пытаю я.

— Не трэба. Я яго з вады падымаць не буду. Я яго ў вадзе вазьму, вось так, рукою.

Брат нагінаецца да борта лодкі, цягне руку да галавы вялізнага, кілаграмы на тры, ляшча.

А тым часам лешч, угледзеўшы братаву руку, рэзка разварочваецца гнуткім целам, лёгенька, бы гнілую нітку, абрывае павадок з жылкаю нуль тры, і знікае ў блізкім яму свеце — тут жа падаецца, мабыць, да сваёй ляшчыхі, без якой не ўяўляе жыцця...

Адкрыўшы рот, брат так і застыў з працягнутай да вады рукой — хоць ты з яго помнік ляпі, у цэнтры горада выстаўляй і надпіс пад помнікам рабі: «Рыбак, што ляшча правароніў...»

О-о, цікавым атрымаўся б той помнік! Рыбакі валам бы валілі б да яго, махаючы рукамі, гаманілі б пра свае прыгоды, смяяліся б і рагаталі ўпокат, анекдотамі душы свае весялілі б. Глядзіш — і паляўнічыя там паказаліся б, свае прыгоды пачалі б плесці... Ля натоўпу тут жа, як з-пад зямлі, дзяўчаты з'явіліся б, для блізіру семкамі пачалі б гандаляваць... Знаёмствы пачаліся б... Я з дому гармонік прывалок бы, урэзаў бы польку-бабачку! Танцы пачаліся б... Песні і прыпеўкі пачуліся б... Э-эх, як там забруіла б сапраўднае жыццё!

Шкада, шкада, што я не скульптар, што не паэт — няма ў мяне здольнасцей апісаць усё тое, што жыццём называюць...

На брата гляджу, у вочы ягоныя. Яны ў яго цяпер, як у таго падлешчыка, якога нядаўна з вады выцягваў, круглыя-круглыя... І — нерухомыя, канечне ж...

І тут, нарэшце кажу, дагэтуль цярпеў, маўчаў:

— Ну, што, давыпендрываўся?.. Падса-ачык яму не трэба... Руко-ой вазьму, — салодзенькім галаском перадражніваю. — Табе не ляшчоў лавіць, табе толькі карасёў балотных на закідуху цягаць... Табе толькі яршоў саплівых лавіць, на іх ты спец. Ду-урыла!..

Брат уздыхае, потым выдыхае з сябе паветра, і нейкім, дагэтуль не чуў ні разу, ціха-жалобным голасам выводзіць:

— Харошы быў лешч. Кілаграмаў пяць, не меней. Такі павадок абарваць — запраста! Я ніколі не думаў, што ў яго такая сілішча...

Я сядзеў у рыбацкім крэсле і, хоць у мяне былі заплюшчаны вочы, усё бачыў...

Гэты вечар не твой,
Гэта ноч не мая...

## 8

...І спытаў я ў Лупавокага пра тое найгалоўнейшае, што мяне трывожыла, што не давала спакою:

— А вы як адносіцеся да смерці?

Думаў, што ён зноў лапкаю махне і пра чарговы этап развіцця сваёй планеты пачне расказваць. Аж — не... Ён утаропіўся ў мяне, маўчаў, мабыць, думаў, як бы мне больш даходліва ўталкаваць.

І раптам ён пачаў:

— Каб сказаць, што такое смерць, трэба добра ведаць, што такое жыццё. Вось скажы, што ёсць жыццё?

Нездарма доўга маўчаў Лупавокі. Хоць я чалавек і разумны, але ад нечаканасці рукамі развёў:

— Як табе сказаць... Пра якое жыццё ты пытаеш?

— Пра ваша, канечне, пра зямное.

Адразу ж мне ўявілася Зямля, спрэс ахутаная дымнымі воблакамі. Нетаропка круціцца яна вакол сваёй нахіленай восі і кружыцца вакол свайго гаючага свяціла. І паспрабаваў я ўявіць не чалавечае жыццё, а найперш гэтую безліч неймаверную рухомага і нерухомага, крыклівага і безгалосага, малюсенькага, што толькі праз мікраскоп угледзіш, і агромністага, што ганяецца адно за адным і што жыве адно за кошт другога, што сплецена адно з адным і пераходзіць з аднаго ў другое, што паяўляецца з невядомасці, гіне і тут жа ўзнаўляецца...

І як жа яму, Лупавокаму, расказаць пра гэтую таямніцу і загадку, што ўсю Зямлю пранізвае, пачынаючы з глыбінь марскіх і заканчваючы нябеснымі высямі?

Мабыць, я заціх ненадоўга, бо Лупавокі пачаў мне рабіць наводачкі:

— Вашы вялікія пракрокі і прадказальнікі гаварылі...

— А, ведаю, пра каго ты... Настрадамус і бабка Ванга...

— Ды не-ее... — працягнуў Лупавокі. — У вас іншыя былі, якія пра грошы і прыбытак пісалі. Калісьці Маркс і Энгельс усё прадбачылі.

Глядзеў я на яго, вытарашчыўшы вочы. Сказаў толькі:

— У нас жа іх, як ты кажаш, на гістарычны сметнік выкінулі.

— Дарэмна, дарэмна... Яшчэ не раз вы будзеце выцягваць іх з таго сметніка. Дык вось, адзін з іх сказаў, што жыццё — спосаб існавання бялковых цел, барацьба за выжыванне правіць усім... Ты ведаеш пра гэта?

— Вучылі калісьці, — прагаварыў я, «прыціснуты» фактамі. — Але гэта было даўно. Цяпер у нас столькі навін у стоканальным тэлевізары, у тым жа інтэрнэце гэтулькі розных меркаванняў, што і не ведаеш, хто кім правіць.

— Ну, дык я табе падкажу... У святле вучэння вашых пракрокаў усе праблемы смерці вырашаюцца проста: ёсць барацьба за выжыванне бялковых злучэнняў: адно гіне, тут жа з'яўляецца новае... Ёсць такая форма існавання бялковых злучэнняў. Толькі і ўсяго. Разумееш?

Ці хітрыў ён, ці нічога не разумеў. Я адразу ж пайшоў у наступленне:

— Пра іншыя бялковыя целы не магу ручацца, але ж я, чалавек, — тут у гарачцы кулаком сябе ў грудзі ляснуў, — адчуваю, што падчас смерці штосьці адбываецца. Нейкая таямніца тут ёсць. Таму мы і палохаемся смерці. Усё жывое палохаецца смерці... На гэтым жаху, можа, наша жыццё трымаецца. На ім, а не на нейкай тваёй барацьбе. І мудрасць народная зводзіцца да таго, каб людзі не баяліся смерці. Штосьці таемнае ёсць між людзей, тое, што важней барацьбы, важней смерці... Пра ўсё гэта паэты гавораць... Разумееш, пра што гаворка вядзецца?

— Ха-ха, знайшоў каго слухаць, паэтаў малаадукаваных... Што яны ведаюць, твае паэты? — Лупавокенькі з крэсла свайго падняўся і пачаў швэндацца перада мною ўзад-уперад. Як лектар які, і пазіраючы на мяне вузкімі неміготкімі вачыма, кажа:

— Вы яшчэ не дараслі крышачку да разумення сапраўднай сутнасці. Што ж, бачу, ты чалавек разумны, таму трошкі і прыадкрыю табе, як ты кажаш, схаваную ад жывых таямніцу. Нашы вучоныя даведаліся, што справа тут не ў бялковых целах, тут усё складаней. Бялкі і ўсё астатняе, што вы называеце жывым рэчывам, гэта толькі вяршыня айсберга. Углыб, углыб матэрыі мы зазірнулі, туды, дзе кваркі знаходзяцца, дзе глюоны. І што ж мы там знайшлі, як думаеш, чалавек разумны і кемлівы?

Маўчаў я, пазіраючы на Лупавокага.

— А нічагусенькі мы там не знайшлі. Вось у чым парадокс парадоксаў. Адны згусткі энергапалёў рознага характару. Ядзерныя — ну, пра іх ты з квантавай механікі ведаеш, — глюонныя — вы іх потым адкрыеце і палтэргейст навучыцеся рабіць. Матэрыя, калі вывучаеш яе, знікае, як міраж... Вось гэтыя нябачныя энергапалі і ствараюць усё тое, што вы называеце атамамі, малекуламі, бялкамі, а там ужо — лапкаю падаць — і ўсё астатняе, што ты жыццём называеш: і малпа крыклівая, і леў грозны, і чарвяк вёрткі, і рыбіна, і птушка, і мікроб нябачны. Ніякай выпадковасці ў прыродзе няма і не можа быць... Але самы галоўны парадокс у тым, што паяўляюцца бялкі з нічога, як тая ж манна нябесная...

— На што ты мне намякаеш? — я ніяк не мог зразумець сутнасці ягонай логікі.

— А ўсяго толькі, што жыццё — гэта сон, міраж. І нечага тут кашалі плясці пра нейкую так званую загадку смерці. Няма ніякай загадкі — вось што вы павінны зарубіць на сваіх глюгастых насах раз і навечна. Канечне, гэта цяжка зрабіць, лягчэй ухапіцца за хлуслівыя выдумкі. Вы павінны засвоіць новую філасофію жыцця і тады вам стане лягчэй жыць. Смерці няма, як і жыцця няма, ёсць толькі пераход адных палёў у другія...

Вось табе і на: часу — няма, адны нябачныя фанцікі з чыпамі правяць жыццём, смерці — няма, а само жыццё — усяго толькі сон...

Мабыць, у мяне быў надта ашаломлены выгляд. Крыху перадыхнуў і пытаю ў свайго настаўнічка:

— Дык з чаго ж нам пачынаць?

Зноў Лупавокі наблізіў да мяне свае вочкі.

— Як і ўсякая новая філасофія, гэтая павінна замяніць старую.

— Якую? У нас іх шмат: і хрысціянства, і буддызм, і мусульманства. А яшчэ ёсць атэісты, тыя наогул усе рэлігіі адмятаюць.

— А ўсе рэлігіі чохам — на гістарычны сметнік пад націскам прагрэсу. Там даўным-даўно ляжаць нікому непатрэбныя вашы перуны, лесуны, русалкі, вадзянікі. Там жа — і алімпійскія багі. Вечна вы трымаецеся за штосьці незразумелае, чаго няма на свеце. Каму моліцеся? Чаму пакланяецеся? Апамятайцеся!.. Міфам моліцеся. З-за гэтых міфаў распачынаеце войны, адно аднаго гатовы спаліць жыўцом.

— Каго гэта мы спалілі? — пытаюся.

— А-а, забыліся, быццам язык праглынуўшы, святымі хочаце быць... А хто адкажа за крыжовыя паходы, калі пад сцягамі рэлігійнымі лілася кроў? А хто тапіў людзей у рачных водах, калі сілаю хрысцілі нязгодных, якія пакланяліся Вялесу?.. А каго інквізіцыя паліла?.. Хто спаліў Джардана Бруна, за што яго на вогнішчы жыўцом спалілі?.. Хто Гуса спаліў — не скажаш мне?..

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — здзівіўся я.

— А ўсё адтуль, з інфармацыйнага поля, якое ахутвае вашу планету. Вы яшчэ і не ведаеце толкам, што такое — інфармацыйнае поле. Мы да яго праз глюонныя генератары напрамую можам падлючацца. Мы за вамі пільна сочым, вядзём дакладны падлік. Усё, што вам хаосам здаецца, сапраўды — зусім не

хаос, волас з вашай галавы не ўпадзе без нашага рашэння. Вы яшчэ не ведаеце, чаму грэшнікі шчасліва жывуць да глыбокай старасці, а праведнікі раней часу ў нябыт адыходзяць... Да пары да часу вы і не будзеце гэтага ведаць. Хутка мы вам такія ісціны адкрыем, ад якіх у вас вочы на лоб палезуць...

Во, заспяваў! Вось дзе саломка падаслана!

— Ды на што ты мне намякаеш? Калі я думаю, што Зямля наша — жывая і, што яна можа думаць, дык за гэта і мяне могуць спаліць?

— Не пужайся, жыць будзеш, — суцяшае ён мяне. — У вас іншых метадаў хапае ад пуза. Сучасных.

— Што ж гэта за метады? — пытаюся.

— А просценькія… Не трэба ведаць людзям пра твае меркаванні і разважанні... Маўчы, хавайся — вось лозунг, якім новыя не ўзгодненыя з намі ідэі глушацца на корані. А думаць думай, хоць засілься ад сваіх думак. Каму гэта трэба і каму гэта цікава? За цябе ёсць каму думаць. Палітыкі хай думаюць, стоканальны тэлевізар хай думае, газеты хай думаюць... Людзі маўчаць павінны, маўчаць. Ведаеш, як у вас некалі адзін паэт сказаў: пасіцеся, народы свету, вас трэба рэзаць ці стрыгчы... Пасля гэтых слоў яго, дарэчы, з пісталета грохнулі... Вось і ты не высоўвайся, маўчы, як рыбіна, тады і жыцьме будзеш...

Памаўчаў Лупавокенькі. А затым вочкі да мяне наблізіўшы з дапамогаю нябачных рэжысёраў і апаратараў, пачаў адукоўваць:

— Няўжо без сваіх пустых міфаў вы не можаце жыць? Баіцеся зірнуць праўдзе ў вочы... Няма ні пекла, ні раю — у прыродзе іх няма... Пра гэтае ж самае некалі і вашы вялікія пракокі гаварылі — пра рэлігію, як опіум для народа.

«Во, прычапіўся ты да гэтых пракокаў!» — хацелася ўсклікнуць мне, ды маўчаў, слухаючы яго.

— Ну, а ў практычным плане... Кідайце вы дурнотай займацца, на сутнасць, на сутнасць сваю зірніце...

— І што? — ніяк не мог зразумець я.

— Адзенне — далоў... Прычоскі там розныя, лакі-шмакі, пазногцікі фарбаваныя, ліфчыкі-шміфцікі — навошта вам усё гэта? Танцы-шманцы, музыканты, паэты твае хвалёныя, спевакі, мастакі — усе яны насельніцтву толькі мазгі пудраць, адрываюць ад планаў, ад канвеераў, ад работ важных... На сутнасць глядзіце адкрытымі вачыма. А то зарплаты бухаеце чорт яго ведае на што... Нашы гуманоіды, якія ў вас пабывалі, такі жах нам паведамляюць. Што вы робіце?.. Жыццё адно аднаму скарачаеце: здрады, палюбоўнікі і палюбоўніцы, забойствы, крадзяжы, карупцыя невыводная, хлусня суцэльная... А з-за чаго ўсё, калі разабрацца на цвярозую галаву?.. За чым усё жыццё ганяецеся? Чаму ў старасці кожны з вас бездапаможны і пакрыўджаны невядома кім не можа сам сабе сказаць толкам: куды ж знікае той салодкі агонь, што дагэтуль душу грэў? І тады толькі, на фінішы, кожны з вас пачынае разумець, што нічога яму не трэба: ні адзенне, ні лакі, ні шмакі, што ўсё жыццё чалавек ганяўся за міражамі. Вось таму мы і сцвярджаем, што жыццё — салодкі гэта сон, не больш. Няма ў жыцці ніякага сэнсу, які вы так шукаеце стагоддзямі і тысячагоддзямі, няма...

Прызнаюся шчыра, у мяне і рукі апусціліся, і сказаць яму нічога не мог. Усё ён быццам бы правільна гаварыў, лагічна, а між тым, між тым... Нейкі фокус ён учыніў... Маўчаў я, а гэтае зеленапузае стварэнне мне далей пра сутнасць гаварыла:

— Канечне ж, вы рухаецеся ў кірунку пазнання сутнасці, але ж вельмі павольна.

Тут я не вытрымаў, зноў руку ўгору падняў:

— Пачакай, пачакай... Дай перадыхнуць трохі.

— Згодзен. Новую філасофію нялёгка прыняць і засвоіць. Новая філасофія, дарэчы, будзе фармаваць і новы парадак вашага жыцця. Без новай філасофіі жыцця, павер мне, вы ніяк не выкруціцеся. Адкінеце вы ўрэшце сваё хрысціянства, мусульманства і буддызм пад націскам прагрэсу, нідзе не дзенецеся, а ўзамен што будзе?..

— Дык у чым жа сутнасць тваёй звышновай філасофіі? — пытаю.

Ён адказвае:

— НАМ УСЁ ДАЗВОЛЕНА.

Я зусім сумеўся, гледзячы на гэтага метровага бязносага гуманоіда, якому ўсё дазволена. І не ведаў, шчыра скажу, ці плакаць мне, ці смяяцца... А яму было не да смеху, ён далей мне прарочыў:

— Гэта наша галоўная запаведзь. І яшчэ ў нас ёсць запаведзі:

ГУМАНОІД — САМАЕ ДАСКАНАЛАЕ СТВАРЭННЕ Ў СВЕЦЕ.
УСЁ Ў СВЕЦЕ І СУСВЕЦЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ПАТРЭБ ГУМАНОІДА.

Мы даўным-даўно вырашылі праблему, над якой вашы філосафы якое стагоддзе галавы тлумяць — хто перад кім танчыць: вы перад Зямлёю і Сусветам, ці — Зямля і Сусвет перад вамі? Мы, мы гаспадары не толькі нашай Дзэты, але і Сусвету. Сам бачыш, якія агромністыя піраміды мы пабудавалі для сваіх патрэб, сам бачыў нашы падземныя заводы і тунэлі, сам бачыў нашы агромністыя караблі на моры, сам бачыў нашы лятаючыя талеркі, сам бачыў, які парадак мы навялі на нашай Дзэце. Мы яшчэ не тое зробім. І, павер на слова, нішто нас не стрымае, супроць прагрэсу не папрэш... Мы Дзэту ўдасканальваем, як хочам, для сваіх патрэб яе ладзім.

Тут ён нечакана, ні з таго ні з сяго, на крэсліца ўскочыў, застыў там, лапку да мяне працягнуў і гучным басам, у мяне аж у вушах заклала, сказаў:

— Мы не можам чакаць літасці ад Дзэты, узяць яе ў свае лапкі — наша задача!

Пасля гэтага ён з крэсліца спусціўся, але не супакоіўся:

— І ў філасофскім плане ў нас поўны парадак. У нас яшчэ ёсць запаведзі, на іх я табе намякаў дагэтуль.

ФАНЦІКІ — ГЭТА ЧАС.

Без фанцікаў, як і без часу ніводная цывілізацыя не можа існаваць. Знайшоўся ў вас некалі адзін чалавек, які на фанцікі замахнуўся, мянялаў з храма пачаў выганяць... І што вы з ім за ягоныя выхадкі зрабілі? На крыж яго і — цвікамі калёнымі да дрэва, цвікамі... Каб іншым непанадна было на фанцікі замахвацца, яго, укрыжаванага, вы побач з разбойнікамі на гары вывеселі...

І яшчэ ёсць запаведзь:

ЖЫЦЦЁ — СОН.

Добрая гэта запаведзь, добрая.... Яна вашых людзей будзе супакойваць лепш за наркотыкі...

На аснове гэтых запаведзяў мы будуем новую мараль. Падумай добра, чалавек разумны, і ты сам са мною згодзішся.

І знік Лупавокі, растаў, бы міраж.

Я быў агаломшаны, цяжка ўздыхнуў. Падумаў, яшчэ трохі — і пачну верыць, што жыццё — усяго толькі сон...

Вочы заплюшчыў і сам з сабою, разумным, пачаў гутарку. Адзінота на мяне добра дзейнічае. Але не пра гэта цяпер хачу гаварыць.

Пра жыццё я думаў, пра смерць...

Зачапіў, надта зачапіў маю душу сваімі разважаннямі гэты Лупавокенькі. Як і многія, я не кожны дзень думаў пра смерць, пра сэнс імгнення пражытага. Я — звычайны чалавек са звычайнымі чалавечымі слабасцямі, я не філосаф, і нават не палітык — гэта ім усё да дробязей вядома...

Зноў брат успомніўся, — як моршчыцца ягоны твар пад вечар, калі ён пасля рыбалкі стомлены садзіцца ў легкавік і ўсё хапае таблеткі гаючыя...

І пра рыбалку ўспомнілася, і не летнюю, а тую, зімовую, — калі халодны вецер студзіць пальцы, калі бачыш, як дрогкі лёгкі паплавок усплывае на паверхню вады і кладзецца набок, тут ужо не праваронь толькі — рывок вудачкі ўгору... І адчуванне ільдзініста-халоднай рыбіны, мо нават і ляшча, што пругка нацягвае жылку... А затым — позірк у беласнежную далеч, дзе горбяцца рыбакі, якія пільнуюць сваё шчасце... А ты глядзіш на варон, што кружаць і кружаць над рыбакамі, каркаючы, перагаворваюцца між сабою і ўсё чакаюць, калі хто з іх адвернецца, каб імгненна скрасці ягоную рыбіну... І разумееш нечакана, што для цябе, як і для гэтых рыбакоў, сцішана-затоеных, галоўнае — не рыбалка, не, галоўнае — адчуванне прасторы і свабоды, што цешаць душу...

Прыгажуня ненаглядная ўспомнілася, мабыць, з адчаю тэлевізар пабіла і цяпер з надзеяй пазірае ў акно, мяне чакаючы...

І радкі паэтэсы ўспомніліся:

Гэты вечар не твой,
Гэта ноч не мая...

І яшчэ радкі аднаго паэта ўспомніліся:

А была, толькі ночка была,
Толькі ночка на ранішняй сіні,
Калі ішоў я ўскраем сяла,
Калі кані застацца прасілі...

Быў ён тады малады, прыгожы і з лёгкасцю, як гэта бывае ў маладосці, пакідаў родны дом, усё спадзяваўся на шчасце, якое чакала там, удалечыні...

І яшчэ мне падумалася пра сінявокага сямнаццацігадовага хлопца, які захварэў на сухоты. Быў ён у той час далёка ад радзімы, сумаваў па родным краі. І ведаў, што памірае. Ведаў і напісаў:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Чаму ж ён быў не самотны перад адыходам туды, дзе энергетычныя палі, дзе чорныя дзіркі, дзе ненажэрная пустэча?

Ён усяго толькі і меў радасці — кнігу тоненькую, у якой пісаў, як у бубны дахаў вецер б'е, як у лесе гул магутны чуецца — то лясун гудзе... І яшчэ ён пісаў пра нас тагачасных:

Краю мой родны!
Як выкляты Богам —
Столькі ты зносіш нядолі...

## 9

А тады я і пытаю ў гуманоіда:

— Скажы, як на духу, навошта мы вам спатрэбіліся, калі вы такія разумныя? Думаю, вы не проста да нас свае талеркі пасылаеце. Не проста ж вы мяне тут улагоджваеце: і рознымі кашамі корміце, і крэсла-ляжанку падсоўваеце, і дасягненні свае паказваеце, сакрэтаў сваіх не хаваеце. Вы ж, мабыць, і палтэргейст у нас робіце, так?

А ён мне:

— Так, можам рабіць на адлегласці. Праз глюонныя сувязі мы яго можам рабіць, дзе захочам. Не толькі ў сябе на Дзэце, але і на вашай Зямлі. Атрымліваецца поўная матэрыялізацыя: і гукі ствараем, і пахі, і прадметы можам варочаць... Лятаючыя талеркі, якія вы сустракаеце на Зямлі, ёсць не што іншае, як тварэнне глюоннага генератара,— ён стварае ілюзію рэальнасці, таму вы ніяк і ніколі не можаце злавіць ці збіць нашы плазмоіды... Канечне, не без гэтага, — час ад часу мы і самі прылятаем да вас, каб паназіраць і пракантраляваць, што ў вас творыцца. Мы адкрываем новы этап пазнання прыроды. Як чалавеку разумнаму, скажу табе: у нас з'явілася невялічкая праблема.

— Ну, кажы, кажы пра сваю праблему, — прыспешваю я яго, і адчуваю: вось яно, галоўнае, пачынаецца, вось той кручочак, на які, быццам на жыўца, хоча злавіць мяне Лупавокенькі.

— Па незразумелай прычыне ў апошні час працягласць жыцця гуманоідаў пачала скарачаецца. Робіць, робіць гуманоід, толькі-толькі яму надыходзіць пара ісці на адпачынак, а ён... І яшчэ адно назіраецца: тоўстыя — таўсцеюць, тонкія — худзеюць... Мутацыйны працэс рэзка павялічыўся. А ўсё гэта — выдаткі вытворчасці, прадукцыйнасць падае, эфектыўнасць дзейнасці набліжаецца да нуля цэлых нуль дзясятых працэнтаў. Планы, а яны ў нас, павер, аграмаднейшыя, рушацца. Да ўсяго ж яшчэ мікробы на нас наваліліся. І труцім мы іх, і лякарствы найноўшыя прымяняем, а яны імгненна мадыфіцыруюцца і зноў плоймаю на нас навальваюцца. Вось таму ты нідзе на адкрытым паветры нас не бачыў. Гэтае паветра мы так стэрылізуем, так стэрылізуем, а толку — ні на іголку... У лясах і палях, ты сам бачыў, мы парадкі збольшага навялі: дзе — павыбівалі лішняе звяр'ё, а дзе — патруцілі, лішнія расліны, нам непатрэбныя, мы пестыцыдамі вывелі. У моры сваім мы рыб драпежных знішчылі, сем відаў пакінулі. А вось што рабіць з вірусамі — ніяк не можам разабрацца.

Гляджу, як ён толькі ўспомніў пра мікробаў і вірусаў, яго ажно закалаціла. З крэсліца свайго ўскочыў і забегаў узад-уперад перада мною. Цяпер ён ужо і на мяне не пазіраў, а ўсё перад сабою глядзеў, быццам там гэтых мікробаў і вірусаў бачыў і ўсё гаварыў:

— Яны ж — жывыя, гады... І шмат жа іх, усё пранізваюць: і звяроў, і птушак, і рыб — цэлая нябачная цывілізацыя... Яны ж пэўную форму маюць, па форме амаль гэткія ж, як і мы, бываюць... Ты ўяўляеш: у клетку жывую малюсенькую залазяць, яе генетычны код на свой капыл для сваіх патрэб пераналаджваюць, а затым — жывуць, як у бога за пазухай, размнажаюцца, ніяк іх адтуль не выкурыш... Не думаюць, што нам тады — пакутуй ад хвароб розных... Больш таго — паміж сабою яны пастаянна кантактуюць, абменьваюцца інфармацыяй, прыстасоўвацца могуць да чаго заўгодна. Яны ж хітранькія... У звяр'ё, у птушак, у рыб забіраюцца, а затым праз іх да нас дабіраюцца. І яны нам вайну аб'явілі чамусьці. І тут ужо — хто каго... Адных пачынаем труціць ядахімікатамі, гармонамі, антыбіётыкамі, песты-

цыдамі, яны тут жа — паміж сабою кантакты наладжваюць, адны другім сігналы перадаюць, форму мяняюць, муціруюць, з птушак у звяр'ё перабіраюцца, са звяр'я да рыб — не злавіць іх ніяк... З яшчэ большай злосцю яны на нас навальваюцца. Мы ж не толькі паветра стэрылізуем, ваду кіпяцім пастаянна, але і стравы абсалютна ўсе кансервантамі кансервіруем... І ўсё роўна яны да нас дабіраюцца і грызуць, поедам ядуць нас... З-за іх наша жыццё скарачаецца. Паразіты, адным словам, свалаччо клятае і праклятае. На дрэвы пазалазаць і, толькі ў лесе пакажашся, яны адтуль на нашы галавы пікіруюць. Па траве босым нельга прайсці — там іх кішмя кішыць... У мора нельга залезці. Пасля таго, як мы калючых нікому непатрэбных мядуз вылавілі і на кансервы пусцілі, яно чамусьці нейкім смярдзючым стала. Мы цяпер ад вірусаў кругавую абарону трымаем. Бо ў любы міг наша цывілізацыя з-за нейкай бацылы можа ляснуцца. Нешта падобнае ў вас было, калі мангольская імперыя разваліласся. А з-за чаго, з-за каго? Малюпасенькая заразная блыха ўпілася ў мангола і давай касіць аднаго за другім... А ваш звышмагутны Аляксандр, які паўсвету захапіў, чым скончыў? А іншыя цары і ўладары з-за чаго гінулі? З-за іх, вірусаў праклятых, шчаслівае жыццё ўладароў абарвалася...

І зноў з яго папёрла тое прыхаванае, што дагэтуль ад мяне хаваў старанна — злосць папёрла... Такі малы, меншы за брата майго, нягеглы, а гэтулькі злосці, як маці некалі казала — поўныя косці...

Мне не толькі брат, але і іншыя гаварылі, што надта люблю парады даваць.

— Жэрці трэба меней, тады і жыць будзеце болей, тады і таўсцець не будзеце, тады і здаравейшыя будзеце

А ён мне, не папярхнуўшыся:

— Не, праблема глыбей схавана. Ежа ў нас, сам спрабаваў, каларыйная, энергетычная, засваяльнасць сто працэнтаў, яе і жаваць не трэба. Антыбіётыкамі, гармонамі і стэроідамі прыпраўленая, генетычна пад нашы арганізмы ўдасканаленая, кансервантамі збалансаваная — выдатная ў нас ежа! Мы яе толькі раз у суткі спажываем. Пасля такой правільнай ежы нашы нябожчыкі, якіх у Дзэту закопваем, гадамі не псуюцца, муміфіцыруюцца самі сабою... Мы потым іх, нябожчыкаў муміфіцыраваных, праз генетычны код і кланіраванне ўваскрасаць пачнём. Але не ўсіх, я табе ўжо гаварыў, толькі выбраных...

— А ствалавыя клеткі не дапамагаюць? — ласкава пытаю.

— Спачатку дапамагалі, але не надта... Гэтыя гады-мікрапаразіты, гэтыя вірусы нябачныя да чаго хочаш прыстасуюцца, не толькі да ствалавых клетак...

Падымаюся з крэсла, гляджу на Лупавокага, кажу:

— А што ж вы хочаце мець, даражэнькія? Хай ужо вы мне мазгі пудрыце, хай... Але ж вы што, і Дзэту прыгожую жывую і разумную абдурыць надумалі? Толькі вам жыць хочацца, а іншым нельга, не дазволена? Ні мурашам, ні пчолкам, ні казюркам, ні мятлікам, ні рыбам, ні птушкам, ні звярам — толькі вам можна?.. Толькі вы разумныя, а астатнія ўсе — дурні, у іх толькі адны інстынкты?.. А самі вы адкуль на Дзэце паявіліся? Скажы мне, адкуль вы такія разумныя з'явіліся?

— Мы з дрэў пазлазілі і тут жа за работу прыняліся. Сваімі лапкамі сваё шчасце ляпіць пачалі. Вось так мы і з'явіліся, — у адказ мне паспрабаваў ён адбіцца. — Работа зрабіла гуманоіда Гуманоідус Сапіенсам. Гэтым ён і адрозніваецца ад усіх звяроў і птушак... Ну, і розум, канечне, нам дапамог. Ва ўсіх жывых стварэннях ёсць інстынкты, а ў нас — розум усім правіць...

— А тады, як на дрэвах сядзелі, у вашых галовах быў розум ці толькі адны інстынкты?

Завагаўся Лупавокенькі. Разгубіўся нават.

А я яго дабіваць пачаў:

— Дык скажы ты мне, калі ж у вашых галовах з'явіўся розум?

— Як з дрэў пазлазілі, тады розум і з'явіўся. Разам з работаю і розум з'явіўся... Спачатку той розум быў маленечкім-маленечкім, а потым павялічыўся, да інфармацыйнага поля пачаў падключацца. Цяпер вунь, сам бачыш, які ён стаў вялікім, усю Дзэту ахапіў наш розум. І мы сваім калектыўным розумам праз чыпы і суперкамп'ютар можам у любы момант падключацца да інфармацыйных палёў, становімся яшчэ больш разумнейшымі. У-ух, якія мы цяпер разумныя, не тое, што мінулыя пакаленні!..

— А дурнець ад вялікага розуму не можаце? Пасля чыпавання і кланіравання не пачнеце дурнець, зноў на дрэвы не палезеце?

— Не-е,— заківаў ён галавой. — Ніяк не можам.

— А ён, розум ваш, з космасу да вас прыляцеў? Ты мне скажы ўрэшце, што ёсць ваш розум? Як жа ён, розум, узнік у вашых галовах?

— Ды што ты да мяне прыстаеш з гэтым розумам?! Якая розніца, адкуль і калі ён з'явіўся ў нашых галовах? Можа, з інфармацыйнага поля мы запітваемся...

— А я ў цябе, разумнага, хачу спытаць, чаму вы гэтак смела ўсё жывое вакол сябе нішчыце? Можа, у вірусаў таксама розум ёсць. Можа, вірусы дзеля таго існуюць, каб жыць за ваш кошт? Калі вы Дзэтаю правіць надумалі, то і вірусы не лыкам шытыя... Вы ж цяпер ад відэаэкранаў і крэселляжанак адарвацца не можаце, і скажы мне, што, якая трасца вас ля іх трымае? Інстынкты ці розум? Можа, хвалёны розум завядзе вас у такую багну, адкуль ніколі не выберацеся? Сляпыя сляпых водзяць... Дзэта думаць не можа, толькі вы можаце думаць? Жах... Па птушках з гармат збіраецеся паліць, хімікатамі рыбу труціце, сем відаў у моры пакінулі.... Вы ж сваю Дзэту ненавідзеце, у піраміды свае пазалазілі, босымі на траву ці ў лес выйсці баіцеся, усіх баіцеся, не толькі мікробаў і вірусаў: і птушак і мятлікаў, і мурашоў... А Дзэце толькі таго і трэба — каб яе любілі і шанавалі як родную маці. Дзэта ад вашай дзейнасці недзе стогне... Дзіўлюся, што яна вас яшчэ церпіць, не скідвае са свайго цела ні землятрусамі, ні цунамі... Можа, разумная Дзэта вірусаў нябачных на вас і насылае, каб суцішыць трохі, ты не думаў пра гэта?

Гуманоід глядзіць на мяне, як аслупянелы. Нават вочкамі не лыпае. А я далей яму «дзярэўню» цёмную прыпамінаю:

— Чаму гэта я і ў лес магу схадзіць басанож, і на рэчку хаджу купацца? І — ніякі чорт мяне не бярэ. А як у вёсцы маёй, якую ты цёмнай дзярэўняю называеш, дык усе людзі з жывёлаю, як роўныя гавораць, мянушкі ёй даюць, сварацца на жывёлу, шкадуюць яе — адной сям'ёю жывуць. Азірніся вакол, паглядзі, можа, на любові ўсё жыццё трымаецца. Так, на ёй, а не толькі на розуме, не толькі на рабоце і на нейкай там барацьбе тваёй. А вы што творыце? Надакучыла зусім, далей ужо няма куды... Чыпы ў галовах манціруеце... Салодкае маленства ад дзетак адбіраеце... Вы што, не петрыце, куды палезлі? Ды вам не толькі вірусы, а і тыя ж палі энергетычныя гэтак і з такога боку таўкануць, што атамная бомба, тыя ж Чарнобыль з Фукусімаю раем пакажуцца... У нас на Новай Зямлі некалі такую вадародную ірванулі, што ледзьве ўсю планету не спапялілі, самі разумцы-вучоныя напалохаліся, не толькі палітыкі, — дзве гадзіны шматвёрстная вогненная сфера палала, яшчэ трохі

дабавілі б магутнасці і — Сусветны акіян зашугаў бы... Толькі жахоцце перад вогненнай сфераю і асцепяніла вучоных і палітыкаў. Праўда, перад адпраўкаю да цябе мне стала вядома, што яны ў іншым накірунку ірванулі з усёй сілы — праз калайдэр Бога за бараду наважыліся патузаць, часцінку ягоную, кажуць, ужо знайшлі... Ці не пачнецца тут тое ж, што было некалі з вадароднай, што некалі з вежаю Вавілонскаю было, калі не горай? Сутнасць, сутнасць вам падавай, палтэргейст вы навучыліся рабіць... Глюонныя сувязі вы адкрылі... Вучыць мяне збіраешся, а сам хоць бы транты якія на сябе нацягнуў, сарамоцце сваё хоць бы прыхаваў...

Сам не прыкмеціў, як дражніць пачаў Лупавокага — галаском ягоным заспяваў:

— Каханне вам не трэба, крэсла-ляжанкі вам трэба замест кахання, відэагульні вам трэба, да лісцікаў і да экранаў так папрыліпалі, боўдзілы, што і адрозніць не можаце, дзе жыццё, а дзе выдумка... Дзетак чыпамі з маленства маральна калечыце, не ведаюць, бедныя, што такое — грэх, што такое — сорам. А потым, калі падрастаюць, якімі яны становяцца? Толькі квантавую механіку з энтрапіяю ведаюць. А што яшчэ яны ведаюць? Ды і ты сам пра сарамлівасць, пра грэх нічога не ведаеш. А што такое — грэх?.. Вы ж усе межы пераступілі, Гамору і Садом узаконілі, інкубаторыі для дзяцей узаконілі... Не толькі ўсё жывое на Дзэце загубілі і запаскудзілі, але і саміх сябе спаскудзілі ілжывым словам... Кожны з вас толькі самім сабою заклапочаны. Фанцікамі, чыпамі і крэсламі-ляжанкамі заклапочаныя... Толькі і думаеце, як бы пажыць болей, цераз кланіраванне і замарозку ў вечнасць марыце залезці, толькі і марыце, як бы насалоды болей ухапіць...

Мабыць, у мяне быў надта грозны выгляд, бо гляджу: галоўкаю Лупавокі закруціў, лапкі ўніз апусціў і давай свой гузачок прыкрываць...

Доўга я мараль яму чытаў, а тады ўжо, як на душы трохі адлягло, пытаю:

— Дык якія ў вас, гаротнічкаў, прапановы?

А ён:

— Ваш генетычны матэрыял нам пазарэз патрэбен. Дзе якія эксперыменты мы ўжо зрабілі, калі на Зямлю прыляталі і вашых прадстаўнікоў на талеркі забіралі, каб доследы над вамі правесці. Вынікі станоўчыя. Нашы вучоныя плануюць абнавіць генафонд гуманоідаў вашым генафондам. Гэтай міжцывілізацыйнай акцыяй мы рэзка павысім свой аслаблены імунітэт супроць розных вірусаў.

Тут я рот і адкрыў. А закрыць яго — ніяк не магу, як брат некалі, калі ляшча правароніў.

А ён далей спявае:

— Нічога страшнага, нічога страшнага, няма ніякай містыкі... Мы вам перадаем тэхналогіі, нашы перадавыя дасягненні, а вы нам групку добраахвотнікаў высылаеце. Не хочаце добраахвотнікаў, злачынцаў падавайце. Чым іх у турмах будзеце гадамі трымаць і грошы на іх траціць — вы іх нам высылайце. Мы на іх хуценька аброці накінем, — праз тыдзень, калі чыпаванымі стануць, самі сябе не пазнаюць, шаўковымі стануць... І распачнём мы тады новы гістарычны этап, дзе загаспадарыць Гома Гуманоідус. Ва-аў, які ён будзе дужы і мудры! Мы не толькі пачнём рабіць кланіраванне, мы не толькі новых істот і стварэнняў выведзем, мы ўвогуле новую рэальнасць пабудуем. Калі ты гэтакі ўпарты, дык я тады адкрыю самую вялікую таямніцу, якую дагэтуль мы хавалі ад цябе:

ЭНЕРГАПАЛІ З ДАПАМОГАЮ ГУМАНОІДНАЙ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ ПАВІННЫ САМІ СЯБЕ ЎДАСКАНАЛЬВАЦЬ.

Для гэтага, толькі для гэтага ў свеце мы, гуманоіды, і паявіліся, у гэтым сутнасць нашай гістарычнай і касмічнай місіі. Тут нават і вашы філосафы разам з маралістамі не змогуць да нас прыдрацца, бо ўсё будзем рабіць на законнай філасофскай аснове. Хутка мы над усім Сусветам гаспадарыць зможам. Мы ўсё зможам спасцігнуць, нават у чорныя дзіркі зможам зазірнуць і ўведаем, куды ж матэрыя падзенецца, за радыяцыйны пояс Сусвету выйдзем і з Суперрозумам прамы кантакт наладзім.

Тут я яму:

— І не думай, і не спадзявайся на маю дапамогу... Тут я табе памочнічкам не буду. Сам лезь у свет паралельны, у тыя чорныя дзіркі, адкуль выхаду няма... Я лепш з братам на рыбалку рвану, ці на лецішча любімае, дзе дуб стаіць, касіць траву там буду.

Ямчэй у крэсла я ўсеўся і, на Лупавокенькага пільна гледзячы, па слоўцу пачаў выпускаць. Цяпер ужо не ён мяне, а я яго вучыць пачаў:

— Касу адмянташу, першы пакос пайду і не прыкмечу, як за плотам, дзе сцяжына вузкая, прыгажуня з'явіцца. Угледзіць мяне, рабацяшчага, дуб стогадовы, канюшыну зялёную, якая з шуханнем пад касу будзе класціся і пытацца пачне здзіўлена:

— А ў вас што — і градак няма на ўчастку, як у добрых людзей?

Я ёй, работу не прыпыняючы, адкажу:

— А навошта мне тыя грады? У мяне вунь замест іх дуб расце. Энергетычны. Падыдзеш да яго, руку прыкладзеш да кары шурпатай і неўзабаве без ніякага лекара становішся здаровым.

Яна і прыліпне ля драўлянага плота. Пачне думаць — які ж разумны чалавек ёй на дарозе трапіўся!

А я на яе быццам бы і глядзець не буду. Разоў пяць махану касою, а потым — касільна ў зямлю, мянташку з кішэні дастану і не спяшаючыся пачну мянташыць касу. Шах-шах, шах-шах... Вокам яе фігурку акіну, паглядамі перастрэнемся. Вочы ў яе сінія, глыбокія, бы вада азёрная. Утапіцца можна, калі глядзець доўга. Таму я першым адвяду позірк і праз сілу пра работу думаць пачну. А яна, памаўчаўшы, як і ўсякая жанчына, пачне даваць мне параду:

— Дык вы, можа, тарахцелку б завялі, якой траву косяць. Цяпер усе з тарахцелкамі на ўчастках тарахцяць. Цяпер усе па замежнай модзе газоны робяць — ні адной лішняй травінкі на тых газонах няма. Культурна атрымліваецца...

Я ёй спакойна:

— Тарахцелкаю той няхай разумныя і культурныя інтэлігенты тарахцяць, а я, можа, сапраўдны мужчына, які павінен умець касіць. Трэба мне той лішні шум у галаве...

І — зноў за касільна вазьмуся. І зноў ля яе ножак: шах-шах, шах-шах...

Яна хаціну маю агледзіць і дзівіцца будзе:

— А ў вас што — і тэлевізара няма, бо антэны я не бачу.

А навошта мне той тэлевізар, які людзей замбіруе?

— Як гэта — сёння жыць без яго? — яна будзе дзівіцца. — Сумна без тэлевізара. Канцэрты там бясплатныя, серыялы бясконцыя... Весела становіцца, калі глядзіш тэлевізар. А тым больш, калі глядзіш каляровы, на вадкіх крысталах... Навіны розныя ўбачыш, што — у Афрыцы робіцца, што — у Амерыцы... Адукаванаю становішся...

— І трэба табе тая Афрыка разам з Амерыкаю?— пачну яе вучыць. — Ты што — без іх абысціся не можаш? Ты лепш сваёй душою займіся, бо ўжо і сама не прыкмеціла, як змянілася, седзячы ля тэлевізара, чужыя выдумкі гле-

дзячы. Ты ўжо не прыкмячаеш, як сапраўднае жыццё між пальцаў сплывае вадзіцаю.

— Дык што ж мне рабіць?— разгублена спытае яна.— Толькі пра работу на канвееры думаць, толькі ў адных градах і калупацца з дня ў дзень?.. Я ж тады не культурнаю буду...

Пагляджу я на яе пільна,— як яна галаву ўніз апусціла. Вусны невялікія, поўныя — значыць, не злая... Пальцы, што на плоце бялеюць, тонкія, далікатныя.... Шчокі чыстыя, беленькія — не выпівоха, не курыць... Пашкадаваць давядзецца, суцешыць...

— Скажу табе праўду: надта культурныя жанчыны мне не падабаюцца. Толку мне ад іхняй культуры, калі я і сам граматны. Халодныя яны нейкія, як запыленыя даведнікі ў бібліятэках... А мне трэба, каб побач быў чалавек душэўны, каб з ім было прыемна пагаварыць.

— Дык я разгаворлівая, — яе блакітныя вочы засвецяцца радасцю. Прызнаецца: — Я пагаварыць люблю. Толькі я бесталковая трохі...

— Ну, — супакою, — гэта можна выправіць. Пры добрым мужыку хутка талковаю станеш...

…Касільна ў канюшыну ля яе прыгожых ножак уваткну, зноў за мянташку вазьмуся і, зірнуўшы ёй у вочы, скажу:

— Калі па мне, дык будзь ты бескультурнаю, але ж душэўнаю. У Жыціве, дзе я нарадзіўся, дзяўчаты былі не надта культурныя, акадэмій не заканчвалі, затое якія душэўныя песні спявалі! А якія вясёлыя былі ў іх прыпеўкі!

Я вочы прыжмуру, успомню вясковых «некультурных» дзяўчат. Успомню, як некалі яны спявалі:

Ты не жмі мяне да плота
І не лезь абы-куды.
Я ж табе не гарадская,
Як пажэнімся — тады...

Гучала гэта ў цемры, пад зорным небам, калі разыходзіліся па хатах пасля танцаў… І звінелі тады тыя прыпеўкі жывым жыццём, і жанчыны, пачуўшы які свежанькі яшчэ тонкі галосок, пыталіся самі ў сябе: «Чыя ж гэта такі галасок падае?.. Зацвітае недзе, як макаў цвет...»

Падумаю, можа, мне цяпер праспяваць ёй якую прыпеўку?.. Я іх шмат ведаю... Але як спахаплюся: не варта, яна, культурная, яшчэ пачне пра мяне думаць, як пра якога нахабніка... І таму толькі скажу:

— О-о, якія шчырыя і душэўныя дзяўчаты былі некалі ў вёсках! А цяпер ці чула ты дзе, каб культурныя жанчыны песні спявалі? Ім жа сорамна песні спяваць уголас. Так што ты не пра культуру думай, а пра мужа добрага, пра каханне. А то адна без пары адзічэеш... Не толькі мужчыны дзічэюць у адзіноце, але і жанчыны. Пачнеш, як адна мая знаёмая, у інтэрнэце займацца салодкаю гульнёю. Жаніх, называецца тая гульня. Мышкай шчоўкаючы, яна грады поле, кветкі вырошчвае, адным словам, вядзе віртуальную гаспадарку. І вось, калі ўсё старанна будзе зроблена, дык, як узнагарода, на інтэрнэтаўскім гарызонце паказваецца галава мужчыны.

Здаравушчы. Вусы, як у таракана, барада, во-о, — паказваю ёй, — як у сябрука майго, які гены вывучае, нос доўгі. Мышкай шчоўкаючы, яна яго пад свой густ прыладжвае, — захочацца, вусы зрэжа, бараду падкароціць, глюгу выправіць. Зрабіць гэта, як раз плюнуць, віртуальныя тэхналогіі што хочаш могуць зрабіць: машыны, пісталеты... І такога яна прыгажуна сваімі рукамі вылепіць, што пачынае ажно млець ад радасці.

Куды там мужу роднаму да гэтага прыгажуна! Галодны, высахлы, муж яе, як ты, корпаецца днямі ў градах, а яна толькі тым і занятая, каб на віртуальнага жаніха любавацца.

Прыадзене, — па сваім гусце касцюмчык на яго нацягне, гальштучак на шыю павесіць, — не будзе ж ён цэлымі днямі голым целам перад ёю свяціць.

І вось — ці паверыш, хутка ў іх дзеткі паяўляюцца. Хоць і віртуальныя, але ж на жаніха падобныя. Як вылітыя...

І далей — болей. Яна пачынае іх выхоўваць, жаніха даглядае з вялікай любоўю.

Вось як цяпер усё робіцца.

Ты, можа, таксама жаніха ў інтэрнэце шукаеш?

— Не, — прызнаецца яна, — я інтэрнэтам кепска валодаю. А без яго, дзе ты цяпер вартага мужчыну знойдзеш? — спытае яна ні то ў мяне, ні то ў навакольнага свету.

— Як гэта — дзе? — цяпер ужо і я пытацца буду. — На сцяжыне можаш сустрэць, на дарозе. Мала дзе... Не ў тэлевізары ж і не ў інтэрнэце ты яго сустрэць можаш. Ці ты, можа, стала як мая знаёмая, — толькі пра жаніха з інтэрнэта і можаш марыць?

І ў яе блакітныя вочы пільна зазірну... І зноў сінь азёрная пачне мяне зацягваць.

Чырванню шчокі ўспыхнуць, запунсавее ўся. Вочы да травы зялёнай апусціць. Калі пунсавее, значыць, не ўсё яшчэ страчана, не здзічэла яшчэ...

Не буду, не буду яе да слёз даводзіць...

Мянташыць касу пачну.

І тут яна ўбачыць, што з коміна маёй лазні сеецца блакітны дымок. І тады пытацца будзе:

— А ў вас што, апроч дуба яшчэ і лазня ёсць?

Я і не падумаю работу кідаць, пакос ля яе ног гнаць буду і буду казаць:

— Як гэта можа быць — каб у сапраўднага мужчыны на лецішчы ды не было лазні. Я пасля работы буду там парыцца вечаркам дубовым венічкам.

Тут яна і суцішыцца як птушачка. Ціха сама сабе выдыхне:

— Добра вам: і дуб энергетычны, і лазня свая, а не казённая, дзе дыхаць няма чым. А ў мяне — дык адны грады з пустазеллем вечным.

Зноў суцяшаць буду:

— Нічога, гэта ўжо такая ваша жаночая доля — мужчыну даглядаць ды грады палоць, гаспадарку весці...

Пакос мой — само па сабе атрымаецца — ля яе ножак упрытык кругаля дае.

І тут зноў — вочы ў вочы — перасячомся. Зноў я касу мянташыць пачну, а яна сцішана:

— А паглядзець можна вашу лазеньку? Можа, калі разбагацею, і я надумаю такую зрабіць.

— Канечне, можна, — адзавуся. — Добраму чалавеку я заўсёды гатовы дапамагчы. Заходзь.

І вось яна ў лазні. І на палок глядзіць. І на печ пазірае, якую сам канструяваў і сам тры разы перакладваў — да толку даводзіў... На палок сядзе, шапне ціха:

— Цёпленька тут. Добрая лазенька. Вы што, так адзін і будзеце парыцца?

— Чаму гэта — адзін?.. Калі добры чалавек трапіцца — дык магу і запрасіць папарыцца. Я што — жмінда які. Сама бачыш — месца хапае. А пары

мне не шкада. А тым больш — венічак дубовы з свайго дуба энергетычнага, моцны, хопіць не толькі на дваіх.

Галаву сумная апусціць. Задумаецца аб нечым, толькі ёю вядомым.

Затым моўчкі з лазенькі пойдзе. Услед за ёю па сцяжыне да варотцаў не пайду. Бо ў мяне, як некалі казала маці, работы — па вушы: лазню трэба даглядаць, касіць траву трэба. Глядзець буду на яе роўную спінку, на фігурку акруглую, якую поўныя ножкі над сцежкаю лёгка нясуць. У самым саку жанчына, не пераспелая яшчэ. Прападае... Ні за капейчыну прападае... Буду стаяць ля лазні і маўчаць.

Як каменны.

А яна, да варотцаў наблізіўшыся, азірнецца назад і так ціхенька скажа:

— Вось бы мне папарыцца...

Як і трэба — памаўчу спачатку, а тады ўжо скажу:

— Як змяркацца пачне — можаш паказацца. Венік я цяпер замачу.

Бязгучнае сонца да захаду хіліцца, — да той недасяжнай хвілістай лініі між полем і небам, якую называюць гарызонтам. У горадзе, гэтую лінію не ўгледзіш, — гмахі каменныя і высокія не дадуць паглядзець на дзіўнае відовішча.

Але, калі ты за горадам, калі вакол цішыня і прастор, калі перад вачыма поле і лес далёкі і ты сядзіш на лаўцы перад сваёй хатаю, тады паглядзі на вялікі чырвона-малінавы дыск, які бязгучна хіліцца да шараватых воблакаў. І не спяшайся, ні ў якім разе не спяшайся адводзіць позірку ад сонца, якое ўжо не слепіць. Цішынёю і спакоем, якія вакол цябе, пачне поўніцца душа твая. Пачнеш думаць пра дзень пражыты.

О-о, як хутка ён мільгануў! Толькі-толькі быў ясны ранак. І чыстае яркае і не спякотнае сонца на ўсходзе весяліла і бадзёрыла, саграваў душу надзеяю на непазбежнае шчасце. І ўпэўненасць была, што за доўгі дзень столькі зрабіць паспееш: і сустрэцца, і перагаварыць, і работу зрабіць. І ты хапаўся то за адно, то за другое і часта сярод белага дня, калі падымаў угору вочы, бачыў пякучае белае сонца, што бязгучна кацілася між аблокаў. І думалася тады: яшчэ далёка да вечара, яшчэ паспеецца... І зноў, вочы ад неба адарваўшы, хапаўся за сваё звыклае і запланаванае, забыўшыся на сонца ўгары, што коціцца і коціцца да той недасяжнай лініі, якая мяжуе між небам і зямлёю. І вось тады, калі сядзіш на лаўцы і сцішана глядзіш на шаравата-светлыя гурбы, да якіх хіліцца малінавы дыск, нечаканым жалем поўніцца душа: такім кароткім аказаўся дзень!

І што ты паспеў зрабіць за гэты дзень?

О-о, калі б гэты дзень змог пражыць нанава, то зусім іначай правёў бы яго, — не кідаўся б за няскочаным работай, зусім іначай гаварыў бы з людзьмі.

Але дзень заканчваецца.

І тады смутак агорне душу тваю. І пра штосьці іншае пачнеш думаць, — нібы ў душу сваю зазірнеш. І, калі не збаішся, убачыш там шмат чаго лішняга, табе непатрэбнага, за што прагна хапаўся цэлы дзень.

Ах, калі б зноў пачаўся ранак, то ўсё інакай зрабіў бы...

Але ж сонца хаваецца за нізкія шэрыя хмары, што слаяцца над гарызонтам, і хутка ноч шэрай, чорнай посцілкаю апусціцца на зямлю.

Спавіты цішынёю і веліччу неба ты будзеш усё глядзець на светла-ружовыя аблачыны, — вялікае сонца закоціцца за іх і адтуль, нябачнае, пачне пасылаць угору бела-залацістыя слупы...

Чамусьці ўспомніцца ціхае маленства, тыя вечаровыя імгненні, калі таксама глядзеў на святочнае каляровае відовішча і думаў, што сонца штовечар адыходзіць свяціць над іншым казачным краем, дзе ўсё-ўсё святочнае і залацістае, дзе людзі вясёлыя і прыгожыя, дзе яны жывуць шчасліва і заможна. І верыў тады, што хутка, як толькі вырасцеш, рванеш у той казачны недасяжны край, куды сцякае малінава-ружовае сонца.

О-о, якім спакоем і ўпэўненасцю ў будучым шчасці поўнілася некалі душа твая, калі глядзеў на захад сонца!

І вось цяпер — разумны і дарослы, зноў, як і некалі ў маленстве, глядзіш на захад сонца. І чамусьці, — чаму, скажыце мне, чаму? — вочы твае пачынаюць слязіцца, бо адчуваеш, што за кароткі дзень ты так чагосьці і не спазнаў. І не грошай табе шкада, не работы няскончанай...

У душы сваёй ты чагосьці не набыў...

Але не спяшайся адчайвацца.

Азірніся, без гневу і злосці азірніся — туды, дзе некалі сонца ўзыходзіла. І дзіўна: угледзіш там, на ўсходзе, як разгараюцца святочным ружова-белым святлом воблакі. Быццам там вось-вось зноў з’явіцца сонца. І відавочна пабольшае неба, стане больш выпуклым, — адчуеш душою ягоную веліч, ад захаду да ўсходу яно будзе пранізана святлом нябачнага сонца.

І зноў, у каторы раз за вечар, душа напоўніцца новым пачуццём, — жальба і шкадоба па нечым страчаным адступіць, нечакана адчуеш еднасць з агромністым небам, з нябачным сонцам. І тады зусім па-іншаму падумаеш пра непазбежную ноч, — скрозь слёзы падумаеш пра зоры, якія вось-вось з’явяцца над галавою і яны, велічныя зоры, табе пакажуць іншы свет і дадуць новую радасць...

У яшчэ светлаватым небе загарыцца першая зорка. І яна на сцяжыне пакажацца. Адразу ж, як зойдзе ў прылазнік, скажа:

— Я зусім распранацца не буду. Бо сарамлівая я. Я ў купальніку буду.

«А ты ўпэўнена,— мне так і карціць спытаць,— ты ўпэўнена, што без купальніка мне на цябе захочацца глядзець?..»

Але ж — не трэба крыўдзіць гаротніцу. Кажу абыякава, каб яе супакоіць:

— Будзь сабе і ў купальніку, калі табе хочацца. Я ж — не нахабнік нейкі. Я таксама ў плаўках буду....

Лазня гарачым духам патыхае. Камяні, якія некалі на полі сабраў, зашыпяць злосна, калі ліну на іх кіпнем. Яна сцішана сядзіць на палку, бачу, што яе цела пакрываецца бялюткімі кропелькамі — ад вачэй да пят.

— Кладзіся на жывот, — кажу. — Буду парыць.

І от жа дзіўна — чым далей, тым больш, яна, разгаворлівая, цішэе. Паслухмяна на ліпавыя дошкі будзе класціся. Венічкам распараным па пятах прайдуся. Яна ўздрыгне ўсім целам, ціха выдыхне:

— Ой...

Зноў, паддаўшы пары, яшчэ раз прыкладуся да пят, і зноў пачую ўжо знаёмае: «Ой...»

А потым з размаху рэзка стукну венікам па яе лытках, па сцёгнах, набліжаючыся ўсё бліжэй да галавы. І раз, і другі, і трэці... Станік — так атрымаецца — расшпіліцца і пад ім пакажацца паласка бялюткага незагарэлага цела.

— Не горача? — спытаю і, здымаючы жар, пачну па яе целе праводзіць рукой.

Яна маўчаць будзе. І тады ўжо, пары паддаўшы, з усяго размаху я пачну рэзка і моцна біць венікам па яе мяккай і бязвольнай спіне. І цяпер яна ўжо не скажа ні слова.

— Перавярніся,— глуха шапну. І яна паслухаецца. І зноў пачну біць венікам па яе целе, з нізу да верху, абыходзячы на грудзях белыя незагарэлыя малочныя плямачкі. І далей буду час ад часу рукой сцягваць з яе цела лішні жар.

І тады ўбачу, што яна, бязвольная, пачынае плакаць, — рукою па вачах праводзіць, сціраючы з вачэй і са шчок празрыстыя буйныя кропелькі…

— Супакойся, — зноў шапну. — Суцішся. Не толькі ты адзінокая. Мы ўсе адзінокія…

І тады ўжо, калі яна, выплаканая, пойдзе роснай сцяжынаю да сваёй хаты, я таксама выйду пад зорнае неба. Ціха будзе ў свеце, бы пад вадою. Побач будзе сцішана высіцца дуб. Убачу траву скошаную, што валамі на зямлі ляжыць. І ад валоў прывяленых пах скошанай канюшыны даносіцца… І касу недалёка ад дуба ўбачу — касільнам у зямлю ўторкнутую. Пад святлом месяца блісне срэбрам сточаная мянташкаю сталь. Бялюткія зоры будуць мігцець над галавой — купалам казачным будуць ахінаць мяне. Чамусьці маленства ўспомніцца, калі адчуваў сябе ў цэнтры Сусвету, калі ўсё кружыла вакол мяне: і сонца цёплае, і зоры бясконцыя, і дарогі гнуткія… І тут падумаю пра іншыя дубы, якія цяпер у цемені недалёка высяцца ў полі за рачулкай гнуткаю — ля непрыкметнай вясковай хаціны. Да хаціны той людзі штогод ходзяць, каб паглядзець на калыску, у якой некалі маленечкі хлопчык рос, гадаваўся. Гэтаксама некалі над яго галавою зоры мігцелі і таксама месячык свяціў, таксама глядзеў той хлопчык на зямлю сцішаную, слухаў калыханку матчыну, а потым, калі падрос, у свет выправіўся і там, нагледзеўшыся гора людскога, ціха выдыхнуў пра той час гаротны для нашага люда:

Народ, беларускі народ,
Ты цёмны, сляпы, быццам крот.
І мовай тваёй пагарджаюць…

І за гэта, толькі за слова паэтычнае, яго за краты пасадзілі… Ён жа не разбойнік быў, і з храмаў нікога не выганяў, ён усяго толькі праўдзівае слова сказаў…

Змяніўся час, змяніўся люд, — помнік паэту з’явіўся.

І чамусьці закружыцца ў мяне галава, і зноў да слёз пашкадую, чаму я не паэт, у мяне не хапае слоў, каб расказаць пра таямніцы бясконцыя, якія людзей яднаюць.

І як распавесці табе, Лупавокенькі, пра гэтыя таямніцы, пра каханне загадкавае? Як расказаць, калі і з чаго яно ўспыхвае?…

А ён як п’яны, ці як неразумны сваё будзе казаць:

— Разумееш, я тут ні пры чым, ды і ты не вінаваты. Мы з табою — усяго толькі прадстаўнікі розных цывілізацый, паслы, так бы мовіць, добрай волі... Людзі вашы, на Зямлі, гэтак прагнуць сустрэцца з намі, СЭЦІ арганізавалі, куды мільярды ўбухваюць, кантактаваць з намі хочуць, у тэлескопы нас хочуць убачыць, цэлыя міжнародныя касмічныя экспедыцыі ствараюць, каб з намі найхутчэй сустрэцца, а ты — супраць... Апамятайся, дзярэўня цёмная... Няўжо ты супраць прагрэсу? Наладжваць кантакты мы павінны. Табе толькі і работы — перадаць нашы прапановы, а прыляцець — мы і самі на лятаючых талерках да вас прыляцім. Створым міжцывілізацыйную кантактную групу, умовы абгаворым. Не пачнём жа мы ўсё рабіць ні з таго ні з сяго... Галоўнае, перадай вашым, што мы — рэальнасць, перадай, што гэта мы да вас калісьці прыляталі і навучылі вашых жрацоў піраміды будаваць, розуму навучылі... І вось цяпер мы зноў гатовы дапамагаць вам у імя светлай будучыні і прагрэсу...

І што мне заставалася рабіць?
А што б вы зрабілі на маім месцы?
Махануў я ў адчаі рукою...

## 10

…Праз ілюмінатар самалёта, калі дамоў ляцеў, я глядзеў уніз і бачыў там між разрываў воблачных бязмежны акіян.

Усё думаў над сваімі прыгодамі. І крыўдна мне было чамусьці... І зноў адзінота на мяне чорнай хваляю накацілася.

За чым у гэтым кароткім жыцці ганяцца і за што чапляцца?.. Чаму сталі людзі такімі разгубленымі? Чаму яны аберуч хапаюцца за тое, што ім ніколі не спатрэбіцца? Чаму людзі людзям верыць перастаюць? Чаму ж увесь час у бедах сваіх мы шукаем вінаватых і — ніяк не можам знайсці іх?.. Чаму радасць знікае ў нашых душах?

...А тады я ўбачыў унізе акіянскі бераг. На тым беразе ўбачыў хаціну і ў ёй старога, які пад раніцу сніў ільвоў — яны быццам кацяняты выбягалі з лесу на пясчаны бераг і між сабою пачыналі гуляць. Днём да старога хлопчык прыходзіў з пасёлка. Стары і хлопчык былі адзінокімі і, як здараецца ў такіх выпадках, сябравалі. Гаварылі як роўныя пра футбол, пра баксёраў і, канечне ж, пра рыбалку, бо стары ўсё жыццё быў рыбаком.

Затым бачыцца мне, як стары раніцай выплывае ў мора. Заплывае далёка-далёка, куды рыбакі звычайна не заплываюць. На сардзіну ён хоча злавіць вялікую рыбіну. І ловіць яе. Бачу, як змагаюцца рыбіна і стары, і сілы ў іх аднолькавыя. Рыбіна такая магутная, цягне лодку са старым у акіян бязмежны. І дзень праходзіць, і ноч, і новы сонечны дзень настае, а яны ўсё змагаюцца, стары і рыбіна. Да крывавых мазалёў націраюцца рукі старога, сонца абпальвае скуру на плячах... Урэшце стомленая рыбіна выплывае на паверхню. Яна такая вялізная, што ў лодку ніяк не месціцца. Стары прывязвае яе да лодкі і накіроўваецца да берага. І раптам каля лодкі з’яўляюцца ненажэрныя акулы. Вострымі зубамі яны кусаюць рыбіну. І зноў старому даводзіцца змагацца — б’е вяслом па акулах, але іх шмат і яны такія галодныя... І ноччу, калі стары падплывае да берага, ад рыбіны застаецца адзін абгрызены шкілет. Змучаны, знясілены, з акрываўленымі рукамі стары ўкладваецца ў беднай хаціне. Бачу я, як раніцаю ў хаціну прыходзіць хлопчык і, угледзеўшы акрываўленыя рукі старога, а на беразе агромністы шкілет рыбіны, пачынае плакаць.

І шкада мне гэтага старога да слёз.

Шкада хлопчыка.

І разумею — гады, стагоддзі пройдуць, а ўсё гэтак жа стары будзе сніць ільвоў, усё гэтак жа лавіць вялікую рыбіну і змагацца з акуламі да самага канца... І ўсё гэтак жа да яго раніцаю прыйдзе хлопчык і плакаць, плакаць ён будзе...

І яшчэ ўбачыў, калі зверху на задымленыя воблакі глядзеў, іншага хлапчыну, таго, які некалі з дому пайшоў і якога кані застацца прасілі. Убачыў яго, адзінокага, у гарадской кватэры. Сярод ночы не спіцца яму — ваду п’е з крана, а затым садзіцца ля акна і глядзіць на ціхую пустую вуліцу, асветленую ліхтарамі. Успамінае, як восеньскі студзёны вецер з шоргатам ганяе лісце па стылай зямлі, як першы снег лятае над вясковымі хатамі, над пустымі агародамі. І тады, у начной цішы, ён пачынае пісаць апавяданне пра жыццё, пра

смерць, пра тое, як першаснежнай парою ў вёсцы смаляць вепрука, як перад гэтым сарока, чуючы блізкую смерць, з-за плота матлянецца на вачах і, затрашчаўшы, зачачэкаўшы, заламаўшы хвост, тут жа знікне.

...А затым бачу я, як ён, той хлапчына, стомлены, нібы блудны сын, вяртаецца туды, куды ўсе ў свой час вяртаюцца — да вытокаў сваіх...

Ціхі летні надвячорак. Ідзе ён на росным лузе па вузкай сцежцы, якая вядзе да таго дому, з якога некалі пайшоў у свет... Сеецца шапочучы дождж і здаля, за сцяною дажджу і туману ён чуе, як бразгаюць ланцугі, якімі спутаны конь... І думае, што хутка, вельмі хутка, калі душа суцешыцца, ён пачне пісаць новае апавяданне пра каня, які гуляе на волі...

І зноў жа — разумею: час не ўладны над гэтым няшчасна-шчаслівым паэтам, які пісаў пра дабро і надзею, што акрэслілі свой круг вакол чалавека.

І яшчэ ўбачыў таго сінявокага юнака, які захварэў на сухоты. Убачыў, як ён на марскім беразе на лаўцы сядзіць і пазірае ўдалеч на белапенныя хвалі. Раз-пораз кашляючы нядобрым кашлем, успамінае сваю радзіму, свой край, як выкляты Богам, які ніколі не быў шчаслівым...

І пачынае шаптаць, шаптаць радкі верша пра дзеда, што сцягнуўся з печы, і сядзіць ля рэчкі, грэючыся на сонцы, і не шкадуе, што хутка стане зямлёю. Хлопец шэпча пра сваю душу, якая нібы дзікі ястраб, ірвецца ў неба на прастор...

І не самотны ён, бо кніжку мае.

І зноў жа, ведаю пэўна, што час не ўладны над гэтым хлопцам, ніхто над ім не ўладны — ні філосафы, ні хахмачы, якія з жыцця і смерці чарговую хохму лепяць, ні палітыкі, якія наперад усё ведаюць...

І тут як заслона ўпала з вачэй маіх. І падумалася мне...

О-о, не скажу я вам, пра што думалася мне ў тыя хвіліны, калі дамоў вяртаўся і праз ілюмінатар самалёта глядзеў звысоку на безабаронна адкрытую зямлю, без якой чалавек не можа жыць...

**P. S.** Усё дакладна запісаў з маіх слоў сябрук, нічога ад сябе не дадаў. Калі будзе друкаваць мае прыгоды, то няхай возьме ганарар сабе. Даю дазвол на друкаванне. Пад чым і подпіс стаўлю.

Базыль, родам з Жыціва.





Васіль ЗУЁНАК

# НЕ ЎСЁ ПАГАСЛА БЕЗНАДЗЕЙНА

## АБЯРОГ

Пакуль шкада сінічкі гэтай
З марознай песняй за вакном,
Пакуль, дыханнем не сагрэты,
Праменьчык б’ецца ў шкло крылом;

Пакуль слязінкай зледзянелай
Звініць пупышка на вярбе
І аб вясне душой збалелай
З табою мроіць у журбе;

Пакуль, як сірата ў нядзелю,
Крынічка цепліцца ў трысці, —

Не ўсё пагасла безнадзейна,
Не ўсё пакончана ў жыцці...

* * *

Калі б сабраць і зблізіць — год за годам —
Далёкія й нядаўнія па часе:

---

*__Зуёнак Васіль Васільевіч__ нарадзіўся 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішчы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Барысаўскае педвучылішча (1954) і аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у рэдакцыях газет «Рабочае юнацтва» (Мінск) і «Піянер Беларусі», быў чалоўным рэдактарам часопіса «Бярозка», намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», сакратаром, першым сакратаром, з 1990 па 1998 — старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар кніг паэзіі «Крэсіва» (1960), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980), «Час вяртання» (1981), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам’е» (1984), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў», (1990), «Чорная лесвіца» (1992) і інш. Вядомы як дзіцячы паэт, перакладчык, аўтар кніг гумару, лірычнай прозы, а таксама нарысаў і замалёвак.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982).*

Хто з радасцю прыходзіў, хто з нягодай,
Хто лёсу слугаваў, а хто спрачаўся,
Хто ўпэўненасць прыносіў, хто сумненні,
Хто родным, блізкім наканоўваў беды,
Хто адышоў чужым халодным ценем,
А хто наогул не пакінуў следу,
Хто дапамог камусьці ў непагоду
Душой сагрэцца, а хто быў пракляты...

Калі б вось так усе іх — год за годам, —
Калі б іх запаліць над вечнай хатай... —

Якое б засвяцілася сузор’е,
Як з тых, нябесных, зорак, што злучае
Зямны наш позірк... Ды ніхто не згорне
Гадоў тых у сугучча, бо з адчаем

Я сувязі ірваў. І думаў: выйсце
Ў дні заўтрашнім. Абманнае кружэнне
Гадоў асеннім размятала лісцем, —
І хто ім знойдзе, без мяне, збліжэнне?..

Я руйнаваў гадоў мінулых прасла.
А выйшла — ад сябе адгарадзіўся.
І ўжо няўцям: то свеціць год пагаслы,
Ці ў выбуху — звышновы нарадзіўся?..

## НА МОВЕ ТОЙ...

На мове той, што немаўлят люляе,
Што ў свет з бацькоўскай хаты выпраўляе,
Што на каханне сэрцы бласлаўляе,
Што на шляхах няўзлётных акрыляе,
Што ад ліхіх напасцяў замаўляе,
Што мудрасцю планіду аздабляе,
Што невычэрпнай глыбінёй здзіўляе
І песню — нібы з неба — пасылае, —
На мове той калі ўсе размаўляюць —
Усе наўкол і ўсюды ў родным краі, —
Як гэта і надзейна — і натхняе!..

## НАЧЛЕГ У ПАРКАВЫХ АЛЕЯХ

Зіма — а ні сняжынкі:
Каляды ручаямі
Збягаюць па сцяжынках, —
Куды — не знаюць самі…

Алей мяхі-прагалы
Насыпаў вечар з верхам:

Гракоў, варон і галак
Таўчэцца чорны вэрхал.

Ля каранёў — пасуцца,
Шукаючы спажыву,
У кронах — спаць кладуцца
На гойданках спружынных.

Зляцеліся са свету
Да гарадскіх прычалаў,
Як дзеці да загнета,
Дзе маці смажыць сала.

Рыхтуе шчодры вечар
Бліны, да іх — каўбаску…
А на двары — макрэча,
Слата зімы нянаскай…

І ў парку, як на выспе
Калядаў шчодрадайных,
Начлег птушыны выспеў
Экзотыкі пладамі.

* * *

Жыцця і смерці крэўнасць спрадвечная
Нам Усявышнім наканавана.
Толькі смерцю ачалавечана
Будзе жыццё тваё — позна ці рана...

Мы і родныя ўсе і роўныя
Для Яе, што пакліча ў вырай,
І яшчэ да Суда Галоўнага
Атрымае кожны свой вырак.
Пакуль не Страшны,
Пакуль зямны —
Не ўспамінаюць
Грахоў ля труны...

Адгалошаны, неагалошаны
Будзе вырак суда людскога:
Пра нябожчыка — Богам адпрошана —
Толькі добрае ці... нічога...

* * *

Прыгожа
і прывідна
ходзяць
змеі:

Паўзуць,
перaліваючыся
з прасторы
ў прастору.
Я іх не люблю,
але —
разумею:
Гэта —
вытрымкі
з усіх чалавечых гісторый.

Ідзе, як стаіць, —
незаўважна
і плоска:
Дзе след стары,
а дзе новы
пачаўся?..
Прыгожа —
бо нячутна,
(зусім па-боску).
І прывідна,
бо —
губляецца ў часе.

Цынічна і раўнадушна
халодная, —

Гісторыя,
змяя падкалодная...

* * *

Таго, што абяцаў мне Бог,
Што меўся даць — заўжды і ўсюды,
Я зберагчы жыццём не змог
І, пэўна, смерцю не набуду.

Каму і што вінаўны я?—
Не скажа продак, і нашчадак
Не ўзнае. А віна — мая,
І сэрца паліць мне няшчадна.

Калі на дзве душы адну
Пакутна лёс рассек аднойчы —
То холад вечнасці крануў
І абяскрыліў дар прарочы.

Калі на свет душы другой
І рэха ўжо не прыгукаю,

Перад сусветнаю смугой
Я ў Бога ласкі не шукаю.

І калі ўсё вярнуць мне зноў
Зямным Ён прапануе коштам,
Я не прыму мінулых сноў —
Спытаю толькі: «А навошта?..»

## УСЁ ВЯДОМА...

Усё вядома яшчэ да таго...
Чытае лёс з фармуляра майго:

Калі на свет я з'яўлюся,
Калі развітаюся з ім...

З кім сустрэнуся і размінуся,
А каго не сустрэну зусім...

З кім засмяюся
І з кім пабяруся...

Дзе прайду,
А дзе — упаду...

Дзе і якая
Чакае
Ўдача,
А на якой дарозе
Заплачу...

Каго абнадзею
Паглядам,
А каму зліхадзею
Здрадай...

З кім пасваруся
І як паміруся...

Усё вядома:
Дзе і калі
Паўтаруся я,
На якой зямлі...
Ці гэта навала
Мяне
Абміне... —

Усё вядома...
Толькі не мне...

* * *

Той далёкай, вечна блізкай,
Той святой зямлі сакрэт —
Ён са мною ад калыскі, —
Мамін светлы запавет.

Ён загадкаю малітвы
Ўсе напасці адхіляў, —
З гэтай Кнігай старажытнай
Я, як з Богам, размаўляў.

Хоць чытаць не ўмела мама,
Трактавала Кнігу кніг:
Лёс — ад Евы і Адама
Да правіннасцяў маіх...

Па шляхах жыцця, з дзяцінства,
Ад бацькоўскага стала
Ў край, што мне здаваўся сфінксам,
Кніга мудрасці вяла.

Да муроў Ерусаліма
Не дайшоў, не даляцеў,
Толькі шлях не збочыў міма —
Там я духам у Хрысце, —

Як пракокаў дабрадзейства
Паміж небам і зямлёй,
Як пясчынкі іудзейскай
Водсвет у слязе маёй...

* * *

Жукі-караеды ўгрызаюцца стоена —
Жукам не ўспадобу лясная публічнасць:
Звалілася ў лесе маім сухастоіна —
Факт, скажам, як быццам і не гістарычны.

Звалілася ў лесе маім сухастоіна —
За лета да голі жукі абкарылі.
Было, як і ўсе, тое дрэва: прыстойнае,
Звычайнае дрэва — а лес абяскрылеў.
А лес абяскрылеў на крону зялёную, —
На цэлую крону! — на сонцаву ўцеху,
На песню птушыную, небам натхнёную,
На ветраву схову, на дзятлава рэха.

І на грыбное маё неспадзеўства:
Дзе кожнага разу што-небудзь прытоена,
На вышыню і на слоў чарадзейства...

...Звалілася ў лесе маім сухастоіна...

* * *

Ці бачылі вы чалавека
З галавою, узнятай да неба,
Якога няма
(Не чалавека, а неба),
Якое толькі міраж,
Вачэй зямных уяўленне, —
Абманнае,
Але такое звабнае,
Бо там — зоркі.
І ўсе яны — быццам на небе...

Дазвольце прызнацца:
Чалавек гэты — я,
Уласнай персонай, —
Прашу да кампаніі —
У зорны сусвет!..

## ПРЫЛЯТАЙЦЕ!..

У пакоі маім
на ўсю сцяну —
лес.
Яго прынёс
            і пасадзіў калісьці
рулон
модных на той час
фоташпалераў.

Трыццаць год
раскашуецца лес.
Колькі разоў
мянялі шпалеры,
а яго я збярог,
не даў скарчаваць
і на сметнік аднесці —
на спажыву бамжам,
наглядчыкам смеццевых скрынак...

Так і жыву я ў лесе —
і днём і ноччу.
Жыву — і любуюся.

Ды раптам сёння,
1-га студзеня новага года,
так-так, раптам —
здзівіўся:
а ніводная ж птушка —
праз столькі год —
не прыляцела,
не зрабіла гняздо
ў маім лесе...

Спытаўся ў яго —
маўчыць.
Ні гуку...

Ці не таму і радкі
ападаюць во зараз
верлібрам —
без рыфмы, —
як асенняе лісце
ў лесе шпалерным маім...
І — ні гуку.
Маўчанне...

Як малітву,
шапчу —
прылятайце ж!...

Прылятайце —
прашу вас! —
хоць раз у год.

Прылятайце,
галасістыя птушкі!..

* * *

Бяроза ў заснежанай стыні,
Ні руху, ні гуку наўкол.
І я тут, нібыта ў пустыні, —
Сініцам наладжваю стол.

Шпакоўня, самотная хата,
Гайдае ўспамін, як у сне…
Сямейка, шпакі-шпачаняты, —
Ці помніце вы пра мяне?..



Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# ЛЕСАВІК, ВАДЗЯНІК, ПАЛЯВІК

*Міфалагічны трыпціх*

## Лесавік

Задумаў аднойчы стары пушчанскі лясун-лесавік стаць зычлівым, ласкавым, добрым. З людзьмі пасябраваць… Вырашыў так, дый годзе. Разважыў усё як след, па сцежках зглушэлых прайшоўся. Зайцам, вавёркам строгі наказ даў:

— Людзей не крыўдзіць, капусту ды моркаўку з град не цягнуць, шышкамі не кідацца…

Здзівіліся зайцы і вавёркі. Нічога ж яны з гэтага і так і не рабілі, сумленна жылі з таго, што даваў ім лес.

— Ну і што? — сказаў паважна лесавік. — Не рабілі, а раптам уздумаеце? Дык я вам наперад сказаў, што не трэба так…

Пакланіліся зайцы ды вавёркі лесуну, пайшлі па сваіх справах: траўкай салодкай ласавацца, грыбы ды шышкі збіраць. А лесавік той прысеў на замшэлы пень ды пачаў думаць думу:

— Гэта праўда, зайцоў ды вавёрак я папярэдзіў. Але ж у маім лесе яшчэ процьма іншых звяроў… Ці ж пагодзяцца лісы не красці з вёсак курэй? А каб які воўк ды не сцягнуў з чарады ягня? Ды і мядзведзі ў зладжаныя чалавечай рукой вуллейкі па мёд лезуць… Як жа мне так зрабіць, каб і гэтых усіх не зачапіць, але ж і добрым, спагадлівым да вясковых стацца?..

Засяродзіўся лесавік, толькі адно ў галаве і трымае. Упадабаў вясёлыя перагукванні, калі збіраюць дзяўчаты грыбы, ягады. Адно шкада, што хутка ўцякаюць з лесу, напалоханыя рэхам, якое ён, лясун, ад душы цягне-выводзіць… Палахлівыя яны, навошта ж так… А якая любата цікаваць за паважнымі, ціхімі зялейніцамі, што прыходзяць з тых жа вёсак па лекавую травіцу. І хаваць, удаючы адну кветку іншай… І чаго ж турбавацца-скардзіцца? Дарма ўсё гэта… А калі зімой звонкая сякера валіць сухастоіну? От ужо задавальненне! Зладзіць увішны працаўнік добры воз, а з лесу выехаць не можа…

---

*__Навасельцава Ганна Віктараўна__ нарадзілася 11 мая 1983 года ў горадзе Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава (2006) і аспірантуру пры ім (2009). Кандыдат філалагічных навук, працуе на кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава.*

*Аўтар міфалагічнай аповесці «Святло зямлі Неўрыда» (2011), друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Полымя», абласных перыядычных выданнях.*

Ён, лясун, дражніцца, па лесе водзіць-кружляе. Учуе чалавеча лясны подых, падхопіцца, схамянецца, а вясёлы лесавічок, падкраўшыся, яшчэ і лясной птушкай прывітанне пракрычыць:

— Як добра я цябе напалохаў! Ды працуй, працуй, не бойся… Слухай, а давай сябраваць?

Але нічога не адкажа яму чалавеча, яшчэ і ўздыхне цяжка-цяжка, як быццам не разумеючы ягоную, лесунову, мару-спадзяванне… Дык якое ж тут вясёлае сяброўства? Скруха адна… А вось каб з людзьмі ды пагадзіцца… Каб не крыўдзіліся яны, калі лесавік-лесавічок будзе палохаць. Ён жа, як на тое, любіць гульні. А звяры гульняў не разумеюць, дык і нецікава з імі.

Думаў-разважаў так лесавік і вырашыў парадзіцца з суседам-вадзянікам. Пайшоў у госці…

## Вядзянік

А вадзянік задаволена драмаў у ціне і бачыў прыемныя сны. Плёхаліся непадалёку зялёнавалосыя русалкі, ленаваліся збіраць водарасці, скарыстаўшы тое, што засталіся без прынукі. Вадзянік жа не спяшаўся прачынацца. Бачыў у сне, што вялікім-вялікім зрабілася ягонае валадарства. Там, дзе раней былі нізкія агароды, плаваюць маленькія цікаўныя рыбкі. А людзі ходзяць па кладках, вітаюцца з ім, вадзянікам, дораць русалкам такія любімыя імі ручнікі, кланяюцца нізка. І такі вясёлы ва ўсіх настрой, які бывае толькі вясновай паводкай. Але ж не, зусім не вясна гэта. Цвітуць лілеі на вялікай вадзе, якая забралася і на ўскраек лесу, і на палявое ўзмежжа. Ды такое хараство навокал, што аж заліўся радаснымі слязьмі вадзянік і з таго прачнуўся.

Агледзеўся па баках. Прыкрыкнуў на русалак, якія, плёхнуўшы хвастамі па вадзе, кінуліся на ўцёкі. Агледзеўся яшчэ раз і… зніякавеў-засумаваў. Толькі сном была тая жаданая, такая прыгожая мара. А што зрабіць, каб жа абярнулася явай, ён, сівавусы, не ведае… А яго ж яшчэ і русалкі не слухаюцца. Бяда адна, дый годзе…

— Што, братачка, зажурыўся? — раптам пачуў вадзянік і ўбачыў свайго даўняга сябрука-лесавіка. — Што за гора з табой прычынілася? Возера ў цябе ладнае. І ад лесу, і ад поля добра захоплівае. І вёску з яго ты бачыш. Ды не адну. Чаго табе смуткаваць?

— І нічога я не захопліваю. Падумаеш, тры яліны твае ў маё возера глядзяцца. Дык самі ж ваду маю і п’юць, — адказаў-прабурчэў вадзянік. Калі быў не ў гуморы, мог адно сварыцца ды папракаць. — Кажы, лесавы, п’еш маю ваду? Га?

— З цябе вып’еш! — зазлаваў адразу лясун. Хоць ён і лічыў вадзяніка сябрам, але ж быў упэўнены, што розуму ў таго меней, чым у зайчаняці. — Сам шышкі ад тых ялін крадзеш!

— Дык ты ж у мяне тымі шышкамі кідаешся!

— Я не кідаюся, я — баранюся. Бо ты ж — злосны захопнік!

— Я? Я захопнік? — задыхнуўшыся ад абурэння, не адразу знайшоўся вадзянік.

— Ты! Ты захопнік!

— А ты?!

— А я хто?

— А ты лясун!

— А я лясун!

— А я хто?

— А ты разумны, як прытопленае бервяно!

— Вось бачыш, сам кажаш, што я разумнік! — пераможна надзьмуўся вадзянік, запырскаў вадою з вусоў, горда прыўзняўшыся над азёрнай роўняддзю. Сядзеў так, ажно пакуль не пабачыў, як лесавік ціха заходзіцца ад смеху.

— Дык ты, братачка, з мяне злосна здзекуешся? — ласкава прашаптаў пакрыўджаны вадзянік, зачарпнуў жвіру шырокай жменяй ды з усёй радасці шпурнуў у лесавіка-«братачку».

Жвір ды глей мякка абляпілі замшэлага лесавічка. Той страсянуўся ад нечаканасці ды перастаў смяяцца. Мыцца ж цяпер — не адмыцца…

— Ах ты, вадзяніла шкоднае! — загукаў жвірова-глеісты лясун, прычарадзеіў сабе ладную дубоўню ды з усёй шчырасці плёхнуў па вадзе там, дзе толькі-толькі быў «вадзяніла».

— А я ўжо тут! А я ўжо тут! Не папаў, не папаў! Сам ты разумнік, як паваленае гнілое бервяно! — булькаў, падскокваючы, вадзянік.

Скасавурылася ўсё лясное валадарства. Пахмурна, як варожа, паглядаюць на возера цёмныя яліны. Пагрозліва-прытоена зашумелі, загулі магутныя дрэвы-волаты… Ды і возера ў адказ не маўчыць. Усхадзілася хвалямі, задрыжэла ад гневу. Вось-вось выплюхнецца са сваіх берагоў!

Плешча лесавік па вадзе з ўсяго пляча, кіпіць, злуецца. Ужо і вадзянік не бароніцца аднымі кпінамі. Зачэрпвае ў прыгаршчы тройчы болей, чым на вока здаецца, ды кідае-ліе проста ў твар лесавіку.

— Папаўся ты, вадзяніла!

— Не, лесавічок, гэта ты цяпер не ўцячэш!

— Будзеш ведаць, як да мяне совацца!

— Сам атрымаеш!

Ой, накінецца вось-вось лес на возера! Не, не саступіць возера лесу! Будзе немалая бойка. Будзе бяда і лесу, і вадзе…

Ды толькі, знянацку ступіўшы нагою на водмель, паслізнуўся лесавічок, выпусціў з нечаканасці дубоўню, якая плюхнула-такі проста ў вадзяніка… Булькнуў азёрны валадар, спалохаўся, супыніўся. Не чакаў ад свайго сябра-суседа такога спрыту. Ды і лесавік, мокры да апошняй махавінкі, крыху аціх. Як застаўся без дубоўні, так і страціў усялякую ахвоту біцца… Ды і вымыцца азёрнай вадой паспеў. А вядзянік, аказваецца, упарты…

— Слухай, суседачак, ну чаго мы? — асцярожна глянуў на лесавіка вадзянік. — Ці ж нам прастору мала?

— І праўда, суседачак! Што ж мы? Ад палевіка, вунь, колькі хочаш, столькі і захоплівай, — адразу знайшоўся лесавік.

— Але ж! — пагадзіўся ўражаны лесавіковай кемлівасцю вадзянік.

Сябры-суседзі згодна памаўчалі.

— Дык, можа, і захопім? — не пакінуў важнай гутаркі лесавік. — Я наперад пайду, а ты мяне вадою падтрымаеш! Лес жа добра ідзе, калі ёсць вада.

— А чаму гэта ты першым? — не пагадзіўся вадзянік. — Няхай вада ідзе наперад, а лес — за ёю. І вада добра ідзе, калі з лесам разам…

Сябры-суседзі нязгодна памаўчалі. Паглядзелі адзін на аднаго. Зноў памаўчалі. Зноў паглядзелі.

— Слухай, сябра, — прамовіў гэтым разам вадзянік. — Такая хвацкая ў цябе дубоўня! Гахнуў, як булавой, аж іскры з вачэй! Падары мне яе!

— Бяры, сябра, — пагадзіўся, лесавік, усцешаны тым, што ягоную дубоўню ды булавой назвалі. — Толькі глядзі, каб пра такі падарунак мне шкадаваць не прыйшлося…

— Не, не, не! — аж затросся вадзянік. — Хочаш, я табе за гэта адмыцца дапамагу?

І, не чакаючы згоды сябра-суседа, зноў выліў на яго плюху вады.

— Досыць ужо! Досыць! — залямантаваў на ўвесь свет лесавічок. — І так усяго вымачыў. Тры дні цяпер сохнуць буду!

— Прабач, прабач, братачка, — адразу ж перапрасіў вадзянік. — Я ж хацеў як лепей… Ты мне вось што скажы…

— Што табе сказаць? — падазрона зірнуў лесавік.

— Ды не імшыся ты! Чаго да мяне прыходзіў? — лагодна мовіў вадзянік.

— А… чаго? — прыціх лесавічок. — То паслухай…

І распавёў даўняму сябру, што хоча ён, лясун-лесавік, стаць і чулым, і добрым… Да людзей, канешне ж. Каб пасябраваць з імі. І з вадзяніком-суседам на такую справу навечна замірыцца… Надакучыла, маўляў, сварыцца ды біцца. А лепшым стаць даўно ўжо хацелася!

— Якая ж гэта дзіўная дума-знаходка, — прашаптаў усхваляваны вадзянік. — Сапраўды, ты за мяне разумнейшы! Як жа я сам да такога не дакумекаў?!

А даўно ўжо была такая завядзёнка: тое, пра што марыў лесавік, жадаў займець і вадзянік. Тое ж, што было ў вадзяніка, не давала спакою і лесавіку. І пільна сябрукі адзін за адным цікавалі-сачылі…

— Ды што дзіўная-цудоўная… — цяжка ўздыхнуў лесавік. — Што цудоўная, я і без цябе ведаю. Але ж як гэта ды здзейсніць?!

Паглядзелі сябры-суседзі адзін на аднаго. Падумалі. Яшчэ раз паглядзелі. Яшчэ раз падумалі… І раптам вадзянік ледзьве не выскачыў з возера…

— Чаго ты, вадзяніла, скачаш? — недаверліва хмыкнуў лясун. — Ці ўспомніў, што яшчэ аднаго залацістага карасіка можаш здабыць?..

Лесавік добра ведаў, як моцна падабалася ўсё бліскучае ды іскрыстае ягонаму сябру.

— Ой, братачка! Хочаш, здзекуйся, хочаш — не, — аж задыхнуўся ад хвалявання азёрны валадар, — толькі ведаю пэўна, як нашую думу-мару ды спраўдзіць!

— Маю, маю думу! — паспрабаваў не саступіць лесавік.

— Не, нашую, нашую! Іначай не скажу!

— Ды кажы ж ты!

— А не скажу!

— Добра, добра, нашую! Толькі кажы ж хутчэй!

Надзьмуўся ад пыхі вадзянік ды мовіў:

— Трэба запытаць у палевіка!

— Ах ты ж, вадзяніла! А я думаў, ён што разумнае скажа! Прытопленае бервяно! — усхадзіўся лесавік ды ў хуткім часе супакоіўся, разважыў.

— А што ж! Палявік гэты ледзьве не па ўсім свеце лётае. Многа бачыць, шмат чуе. Ведама, малады, хуценькі.

Вадзянік ды лесавік згодна заківалі галовамі, заўсміхаліся. Палевіка яны абодва не любілі.

— Можа, і дарадзіць чаго… А калі што якое, дык мы ж яго заўсёды падманем!

Разважылі так вадзянік з лесавіком. Пайшлі да палевіка ў госці…

## Палявік

А палявік ні пра што не думаў, ні пра што не марыў, сядзеў сабе ў ценю калючай ігрушыны, што адзінока глядзела на няблізкі лес, на далёкае возера. Такой цяжкай здавалася палевіку паўдзённая спякота… У яго ж няма ані шумлівай прахалоды лясоў, ані ласкавай сцюдзёнай вады. А лета ж выдалася гарачае… Апоўдні робіцца так млосна, што бачна, як дрыжыць паветра над узгоркамі. Цяжка яму, беднаму, цяжка… А пад вечар так стомішся сядзець ды ляжаць пад цяністай ігрушынай, што ажно бакі забаляць. І што гэта за валадарства такое, смех ды і толькі…

А тут яшчэ тая самая ігрушына шыпіць раздражнёна, злосна:

— Дождж пакліч, каб палеткі твае паліў. Выгарыць усё!

Не стрымаецца тут палявік:

— Каб ты кеміла так, як добра колішся сваім веццем! Не можа палявік клікаць дажджоў. Лепш цень старанна трымай, а то мне сонца ўжо вочы засціць…

— Ах ты ж, ляноціна! Ценю табе мала, сонца табе вочы засціць! Плыве сонца — бяжыць цень! Ніяк яго не ўтрымаеш… Як горача, дык сам перапаўзай! — і смачна кідала ў палевіка няспелай дулінай.

— Ох-вох! — уздыхаў палявік. — Каб ты ссохла!

Але памалу пераходзіў у цень. Сонца сапраўды засціла вочы.

— Я з табой і так дашчэнту высахла, — адказала груша. — І здарылася ж мне не ў лесе вырасці… Вось жа непашчасціла… А мо ля хат, ля калодзежаў у садзе… Вось любата была б!

— Ды каму ты патрэбная, дзічка! — салодка пазяхаючы, азываўся палявік.

— А ты каму патрэбны? — аж скала代налася ігрушына ад камля да верхавіны. — Нічога не робіш, не ўмееш, адно спіш, каб ты не прачнуўся!

— Я цябе не слухаю! Не слухаю! Не чую!

— А вось я табе! — шпурляла ў палевіка цэлую жменю кіслых маленькіх дзічак.

Палявік, ратуючыся, наўцёкі. Падхапіўшыся, бег дарогай і бездаражжу, ажно пыл з-пад ног курэў… Але нядоўга. Спякота не спадала, наадварот, даймала ўсё мацней. Валадар палёў супыняўся, сядаў дзе-небудзь пры дарозе і разважаў пакрыху-паціху:

— Ну і што, як няма дажджоў? Канешне ж, яно лепей, калі паліць. І жыта добра расце, і трава. Ат, што паробіш… Пайду, заміруся. Няма ж анідзе болей ценю. Так горача, хоць плач!

Мяркуе так палявік, аж бачыць, як з узмежжаў сваіх валадарстваў яму замахалі рукамі вадзянік ды лесавік. Маўляў, падыдзі да нас.

— І што ім трэба? — незадаволена чмыхнуў палявік.

Так павялося ўжо, што ні лесавіка, ні вадзяніка ён не надта каб прывячаў. Часцей сварыўся з абодвума ледзьве не да бойкі. То лясун які кавалак поля адбярэ ды лес там вырасціць… Хоць і прыгожа зробіць, слаўна, ды і палёў у валадарстве столькі, што і не злічыць, але ўсё роўна шкада. А то вадзянік гэты вясной поймы залье, трава вырасце там густая, высокая. Прыйдуць людзі на сенакос, песні пяюць, аж заслухаешся… Пра зямлю, пра крыніцу. А яму, палевіку, крыўдна. Гэта ж не яго, а вадзяніка славяць… Крыўдна. І ўсё тут!

— Ну, чаго хацелі, суседзікі? — палявік зычліва ўсміхнуўся. — З чым прыйшлі?

— А прыйшлі мы з добрай думай, — сказаў першым вадзянік.

— Ага, з добрай, — захітаў галавой лесавік.

— Ніводнай лапіны поля вам не аддам, — рашуча махнуў рукой палявік. — І думаць тут няма чаго!

— Ды ты паслухай…

— І слухаць не буду! — зверху ўніз паглядзеў на лесавіка і вадзяніка. І павесялеў: што і казаць, тыя нібы прысадзістыя пянёк ды мокрая лужына. — Ну, што за дума такая? Га?

— А задумалі мы, суседачак, думу вялікую…

— Ага, вялікую…

«Вялікія думы з лесу ды вады, — падазрона азірнуўся па баках палявік. — Тут трэба быць асцярожным…»

— Задумалі мы, братачка, зрабіцца ласкавымі ды спагадлівымі…

— Чуйнымі і добрымі…

— А да каго? — асцярожна пацікавіўся палявік.

— Да ўсіх… — шчыра-шчыра мовіў вадзянік.

— Да ўсіх… — сумленна-сумленна прызнаўся лесавік.

«Тут нешта не тое, — упэўніўся палявік. — Ох, не проста ўсё гэта…»

— Зрабіцца ўважлівымі, мілымі, чулымі, — гнуў сваё вадзянік.

— Па-чалавечы даравальнымі, — азваўся лесавік.

— Праніклівымі, — летуценна ўздыхнуў вадзянік.

— Хітрымі, — утрапёна прашаптаў лесавік.

— Чаго? — узбурыўся палявік. — Вы і так праніклівыя і хітрыя. Што адзін, што другі…

— Ой, не! — схамянуліся сябры-суседзі. — Без гэтага… Але зрабіцца добрымі ды спагадлівымі сапраўды вельмі-вельмі хочам…

— Дык за чым жа справа?

— А парай ты нам, суседачак, ці ж няма на свеце такіх чараў-цудаў, каб у адзін момант…

— Узяў ды зрабіўся добрым. І ўсё тут!

Пачухаў патыліцу палявы валадар. Як жа гэта, каб раптоўна ды паласкавець… Асабліва вадзяніку ды лесавіку… Што ж тады, і на палеткі ягоныя сквапна пазіраць не будуць? Не можа так стацца… Але ж просяць, ледзьве не плачуць…

— Ты ж, палевічок, свет бачыш, усё ведаеш-чуеш. Дык ты ж нам падкажы… А мы ўжо ў даўгу не застанёмся…

«Значыць, цвёрды ў іх намер. Дапамагчы, ці што… Але, як толькі падумаў пра дапамогу палявік, зрабілася яму крыўдна-крыўдна… Суседзікі-братачкі, ці бачаце, лепшымі хочуць быць, а ён што, за іх горшы? Не, зусім не горшы! Хоць і валадарства небагатае, ды ж такое вялікае!»

— І я хачу зрабіцца добрым! Чаму гэта толькі вы? — паказаў сваю крыўду палявік.

— Чаму гэта ты? — не саступіў лесавік.

— А чаму ты? — насупіўся палявік на вадзяніка.

— А чаму я? Га? — перапытаў вадзянік у лесавіка.

— Таму што ты — самы разумны, — не міргнуўшы, адказаў лесавік. — Каму ж, як не табе…

— А вы чаго да мяне прылаўчыліся? Думаеце, што я стану добрым, і вы за мною? — адчуў павагу да сябе вадзянік, тупнуў мокрай нагой, адразу ж выбіўшы лужынку.

Яе адразу глынула перасохлае поле, як папрасіла яшчэ.

— Што ты гразі мне напускаеш! — не стрымаўся палявік.

— Якой такой гразі? Глеба стала, што камень. Дажджу просіць, — паважна адказаў вадзянік.

— Дык дажджу, а не вады! — фыркнуў, нібы кот, палявік.

— Браточкі-суседзікі, — усхапіўся лесавік. — Навошта ж нам зноў сварыцца… Да таго ж вядома даўно, што дождж — гэта таксама вада…

— Але ж, вада, — упэўнена мовіў вадзянік. — Гэта я, вадзяны валадар, табе кажу…

— Ну, можа, і вада, — пагадзіўся палявік, ужо зразумеўшы, што трохі даў маху… Трэба было ў чым іншым вадзяніка звінаваціць. Ці лесавіка. Ці абодвух… А самому, пакуль тое ды сёе, зрабіцца добрым і шчырым… Ах, не дакумекаў! Шкада, шкада!

— Слухайце, браточкі-суседзікі, — вeў між тым далей лесавік. — А давайце ўсе трое зробімся і ласкавымі, і спагадлівымі… Так яно і лацвей, і цікавей…

«Ага, лацвей, — падумаў вадзянік. — Захапіць лесу палявое валадарства. Зашумяць сасёнкі з бярозкамі…».

«Ага, цікавей, — упэўніўся палявік. — Захапіць лесу вадзяное валадарства. Дачыста выпіць, а на тым месцы бярозы з сасёнкамі вырасціць».

— Не можа быць, каб мы на тры галавы ды такую справу не здужалі! — лесавік пляснуў у далоні.

— Ат, чаго там, здужаем, — плюхнуў і вадзянік мокрымі рукамі, абпырскаўшы і палевіка, і лесавіка. — Ды толькі як?

— Як?

— Можа так…

— Не!

— А можа…

— Не!

— І не думай!

— Ды я і не думаю!

— Вось і не думай!

— А я ведаю, ведаю!

— Не, не ведаеш!

— Не ведаеш!

— А вось жа ведаю! — аж падскочыў ад радасці палявік. — Нездарма ж я чаго толькі не бачыў, чаго толькі не чуў, чаго толькі не чуў, чаго толькі не бачыў!

— Ну! Кажы!

— Кажы!

— Ходзіць-вандруе па белым свеце непрыкметны цёмны-цёмны чарадзей, — распачаў палявік, зручна ўладкаваўшыся ў высыхлай траве, а лесавік і вадзянік слухаюць, утаропіўшыся. — Але не злы, не помслівы…

— Цёмны чарадзей, вох…

— Цёмны-цёмны, буль-буль…

— Зоры ў ягоных вачах, — аж паказаў на неба палявік.

— Зоры ў вачах, вох…

— Зоры, буль-буль…

— Вецер у ягоным сэрцы, — шырока гайдануўся палявы валадар, як бы спрабуючы паказаць вецер, але толькі выцяўся патыліцай аб зямлю. Праўда, тут жа падхапіўся.

— Вецер у сэрцы, вох-вох, — прыцмокнуў ад захаплення лесавік.

— Вецер, вецер, буль-буль-буль, — зачаравана ўсхадзіўся вадзянік.

— А нікім нязведаныя, а нікім няходжаныя шляхі пад нагамі, — аж прыўстаў заўзяты бай.

— Нязведаныя шляхі, вох…

— Нязведаныя шляхі, буль…

— Прыходзіць цёмны чарадзей туды, дзе болей за ўсё патрэбны цуд-дзіва…

— Цуд, вох…

— Дзіва, буль…

— Нечакана з'яўляецца там, дзе плач, дзе гора…

— Плач, вох…

— Гора, буль…

— Зайграе той чарадзей на незвычайнай скрыпцы. Кажуць, дарунку самога вялікага Сварога…

— Скрыпка, вох…

— Дарунак, буль…

— Як толькі дакранецца струн чарадзей, адразу станецца ўсё чыста гэтак, як ён захоча…

— Вох…

— Буль…

— Ну чаго вы, боўдзілы, вочы прыжмурылі? Вось і ўвесь сказ, — жвавы палявік лёгка ўсхапіўся на ногі.

— Вох?

— Буль?

— Вох, буль, — перадражніў палявік. — Падумайце лепей, як нам гэтага чарадзея ды перастрэць…

— Ці злавіць, — прыемна ўсміхнуўся «вох».

— Ці змусіць нам служыць, — з веданнем справы пацёр рукі «буль». — Няхай на скрыпцы дзень і ноч іграе, робіць усё, як мы захочам…

— У палон узяць, — знайшоўся і красамоўны бай, які пакуль што пагаджаўся хоць бы дзеля таго, каб зрабіць усё па-свойму.

— Вох, — узрадаваўся лясун-лесавік. — Я ж ведаю, як…

— Буль, — як не пагадзіўся вадзянік. — А я ведаю?

— Ведаеш, ведаеш. Чаго тут ведаць, — рашуча махнуў рукой палявік. — Я дык пэўна ведаю. Але рабіць усё прыйдзецца вам…

— Чаго гэта нам? — азваўся лесавік.

— Чаму гэта мне? — прабурчэў вадзянік.

— Ну, тады я нічога не ведаю, — палявік сабраўся пайсці прэч, не азірнуўшыся.

— Стой! Куды! Ладна ўжо, зробім, вох…

— Стой! Хай сабе, было б што рабіць, буль…

— Дык слухайце, — палагаднеў палявік ад такой суседскай згоды. — Валадарствы свае чынна ў руку заганіце, не спіце, не ешце, а каб усё сталася так: няхай лес не падорыць людзям ані грыбоў, ані ягад…

— Ані трэсачкі дроў, — задаволена пасміхнуўся лесавік.

— Якія дровы летам? — здзівіўся вадзянік. — Дровы ж саннай дарогай возяць…

— А ты не лезь у тое, чаго не ведаеш! — лясун-лесавік звысоку зірнуў на нейкага там вадзянічка.

— Няхай возера не падорыць людзям ніводнай, нават самай маленькай, рыбінкі, — працягваў, як нічога не чуў, палявік.

— Ні аеру, ні ціны, — задаволена пасміхнуўся вадзянік.

— Ды каму твой аер, твая ціна наогул патрэбныя? — знайшоўся лесавік. — Не чапаюць іх ні зімой, ні летам…

— Не суй носа ў чужое проса! — вадзянік пераможна зірнуў на лесуна. — Мне лепей ведаць справы свайго валадарства…

— Ды якое ў цябе, вадзяніла, проса? — аж засмяяўся лесавік. — Ці ты з вялікага розуму проса па вадзе пасеяў?

— А што, можна? Вырасце проса ў возеры? — шчыра зацікавіўся вадзянік. — Вось зраблюся добрым, ласкавым, дык і проса ў возеры будзе нібы ў полі красавець…

Лясун, пагардліва зірнуўшы, гэтым разам нічога не сказаў, а палявік не суняўся:

— Але і проса… Грэчка, авёс, а галоўнае, жыта, жыта… І так я добра падсушыў…

— Бо не гаспадар, — прашаптаў лесавік.

— Не гаспадар, — аднымі вуснамі прамовіў вадзянік.

— А так, перакаці-поле…

— Ага, толькі б спаў…

— Лынды біў…

— Сказы-показкі непатрэбныя баяў, — вадзянік як забыўся, што толькі-толькі сам показку слухаў, за вушы не адцягнеш.

— Добра падсушыў, а цяпер пастараюся яшчэ болей… Прападзе ўсё дашчэнту! — палявік прытупнуў нагой. — Заплачуць людцы, забядуюць…

— З’явіцца да іх чарадзей, — весела падскочыў лесавік.

— А мы яго тут і схопім! — здагадаўся пра ўсё вадзянік.

— У палон возьмем! — не адступіўся ад сваёй задумы палявік.

— І прымусім, прымусім зрабіць нас і добрымі, і спагадлівымі, — зацягнулі ў адзін голас лесавік і вадзянік.

— Слухайце, вы, «вох» ды «буль»… — раптоўна перамяніўся палявік.

— Чаго? — у непаразуменні лыпнулі вачыма тыя.

— Напачатку прымусім чарадзея зрабіць мяне добрым, спагадлівым, чулым. А пасля ўжо вас — добрымі, спагадлівымі… Вось так…

— А чаму гэта цябе і добрым, і спагадлівым, і чулым, а нас толькі добрымі ды спагадлівымі? — перапытаў лесавік.

— Пакрыўдзіць мяне хочаш? — надзьмуўся вадзянік.

— А таму што вас, калода і лужына, чулымі не зробяць аніякія чарадзействы на ўсім белым свеце! — пераканана выгукнуў бай. — Тут і казаць няма чаго!

— Як? Вох…

— Чаму? Буль…

— Навошта ж так?

— А можа, дарадзіш чаго?

— Дараджу, дараджу… Толькі вунь той узлесачак няхай на маё поле цянёк кідае… І возера вады мне дае, колькі захачу…

— Згода, чаго там…

— Чаго там, згода…

— Ну, за справу! — зухавата падскочыў палявік. — Валадарствы — у руку…

Гопнулі лесавік, вадзянік, палявік ды пабеглі ладзіць парадак у сваіх валадарствах.

## Лесавік, вадзянік, палявік

І навялі добры лад сябры-суседзі. Моцнымі аказаліся ў іх рукі, доўгімі, учэпістымі. Пакаціўся глухі пошчак па лесе, пайшло высокімі хвалямі возера, гулам-водгуллем азваліся палі, напалохалі калючую ігрушыну, чаго раней не здаралася ніколі.

— Вох-вох-вох, — гнеўна стагнаў на ўвесь лес чарадзейны голас.

І беглі напалоханыя зайцы з вавёркамі збіраць ягады, грыбы. Усё-ўсё дачыста, абы людзям і следу не пакінуць. А ваўкі шчыравалі, бы ў тую Пілі-паўку, выганялі з лесу скаціну. Мядзведзі трушчылі пчаліныя вуллі. Але не плакалі, цярпелі, трымаліся вясковыя…

— А справа ў яго ідзе на добры лад, — зайздросна выглядаў-вынырваў з хваль вадзянік і стараўся яшчэ болей за суседа.

Схавалася ўся рыбка ў глыбокіх нератах. Паперакульвалі русалкі чаўны, распусцілі як не на ўсё возера свае доўгія зялёныя косы. І нават прыгожыя спадніцы з чырвонымі паяскамі, што дзяўчаты ў возеры мылі, з рук пахапалі. Засмуціліся-зажурыліся, але ўсё ж не заплакалі, сцярпелі людцы…

— А яны ж малайцы, — выглядаў з высокіх жытоў палявік. — Умеюць у сваіх валадарствах распарадзіцца як трэба… — І хуценька, каб не заўважылі, хаваўся назад. Так, павінна, павінна ўсё як найлепей атрымацца. Але гэтага ён ім не скажа, не. І так ганарыстыя «вох» ды «буль». А ён жа, палевічок-паля-вушка, зробіць яшчэ лацвей… Не быў бы самым-самым…

Стала чэзнуць высокае каласістае жыта. Змарнелі-змізарнелі грэчка, авёс, проса ды і ўсё поле. І гэтага няшчасця не вытрымалі людзі. Апусціліся ў іх рукі, адчайна забіліся сэрцы. Заплакалі, бедныя, уголас. Прызналі сваё гора…

— Ага! — радасна гопнулі лесавік, вадзянік, палявік. — Цяпер ча-кацьмем…

Галосяць вясковыя, жаляцца, не хаваюць сваёй скаргі ад свету. Чуе іх вялікі, але не спачувае, не адгукаецца. І тады, як ніхто ўжо не чакае, як усе паверылі, што знямеў белы зусім, вяртае да пакінутых у няшчасці сваё рата-вальнае дыханне…

Ахінае зямлю цёмная-цёмная ноч. Бяжыць мройнымі прывідамі, пакідае нязгасныя сляды. Не знікае зусім перад ясным днём… Кінула на дол сваё пок-рыва з промняў зор, з таемнай цішы, з летуценных сноў… Скінулася покрыва, задрыжэла, растала. І паўстаў з яго, паляцеў драпежнай птушкай на золку, паімчаў белым аленем, стаўся чалавекам… нехта… Нехта…

— Цёмны чарадзей, вох!

— Цёмны чарадзей, буль!

— А хто ж яшчэ?! Ша! — пацягнуўся палявік, які хоць і сачыў за шляха-мі-дарогамі, але паспеў добра прыжмурыць вока і цяпер не хацеў, каб сябры-суседзі тое заўважылі.

Ды лесавіка і вадзяніка займала іншае:

— Я пастку ў лесе зраблю… Вох?

— А я буду лавіць… Буль?

— Ды ты ў лес мой ніколі не хадзіў!

— Тады я пастку ў возеры зраблю.

— А я буду лавіць!

— Дык ты ж плаваць не ўмееш…

— Суседчыкі-братачкі! — павёў рэй палявік. — Не такі гэты чарадзей і просты. Не так сабе пойдзе ў лес. А ў возера зусім не пойдзе, — тыцнуў сарва-най валошкай проста вадзяніку ў нос. — І не думай…

— А я не думаю, буль!

— І я не думаю, вох!

— А я вось думаю, — абвёў позіркам суседзяў галоўны завадатар. — Лавіць чарадзея давядзецца разам…

— Разам, вох…

— Разам, буль…

— Разам! На межах нашых валадарстваў. Там ён будзе слабым… А мы колам станем і зробімся моцнымі-моцнымі…

— Моцнымі… Страшна, вох…

— Моцнымі… Боязна, буль…

— А вы не бойцеся! Ухопім яго, тут яму…

— І гамон! Вох!

— Гамон-гамон, буль!

— Якi гамон? Палон, палон, — прытупнуў палявік. — Вы што, зусім з глузду з’ехалі?

— Палон, вох, прабач, палевічок…

— Палон, буль, не забуду, палевічок…

— Але давядзецца зрабіць тое-сёе, — палявік, лесавік, вадзянік па-змоўніцку пераглянуліся…

І адкрыліся лясныя нетры цёмнаму чарадзею. Паклікаў, загукаў яго лес, нібы свайго сябра. Не адазваўся лясам чарадзей… Усміхнулася-падміргнула сінім вокам самае прыгожае возера. Заплёхала прызыўна, звонка, нібы свайму брату. Не з’явіўся вадзе чарадзей… Шаўковай хусцінкаю раскінуліся палі ды палеткі. Васількі са званочкамі зашапацелі тоненька, прачула, адкрылі вечнае спеўнае лета. Толькі не спакусіўся на яго чарадзей…

Ледзьве сябры не адчаіліся, як не адмовіліся ад свайго жадання зрабіцца добрымі ды ласкавымі. Амаль супынілі свае парыванні:

— Гора-гора нам, вох…

— Бяда-бяда мне, буль…

— Я ж розуму не прыкладу, ша…

Але ці то бяда-гора сама супынілася, пабаяўшыся дужацца з вернымі сябрамі, ці то чарадзей сапраўды прыходзіў туды, дзе быў патрэбным… Невядома… Адно з’явіўся там, дзе сыходзіліся і лес, і возера, і поле, цёмны. Нечакана, раптоўна, напалохаўшы ўсіх трох, якія не маглі нічагуцькі сабе дарадзіць…

Удаўся ціха і адразу аказаўся-азваўся:

— Шукалі мяне, лесавік, вадзянік, палявік? Прыйшоў я да вас, — і працягнуў, атрымаўшы ў адказ здзіўленае маўчанне. — Хопіць мучыць людзей. Хопіць вам ужо…

— Вох?

— Буль?

— Ша? — не сцярпеў і палявік, як абудзіўся ад зімовага сну.

— Пакіньце, кажу, здзекавацца з вясковых, — цярпліва даводзіў чарадзей. — Вы ж не злыя, не шкодныя…

— Не злыя, вох?

— Не шкодныя, буль?

— Але страшныя-страшныя, ша!

— Злавілі цябе, злавілі, вох!

— Узялі ў палон, буль!

— Якое паймалі-ўзялі? Ён жа сам прыйшоў, ша!

— Тым болей! — аж пляскаюць у ладкі вадзянік і лесавік. — Як у нас, дык не адпусцім ужо…

— Можа, і не адпусцім, — асцярожна зірнуў палявік у вочы чарадзею. — Табе ў нас лепей будзе… Што, не верыш?

Нічога не прамовіў чарадзей, адно чакае, што ж далей станецца… А было ўсё проста… Досыць нарадаваўшыся, лесавік, вадзянік, палявік згодна ўзяліся за рукі, паўсталі перад сваім палоннікам ды наказалі:

— Рабі нас, чарадзею, добрымі, ласкавымі, спагаднымі… Каб людзі шанавалі, сябраваць не баяліся. А іначай дрэнна табе будзе…

І засмяяўся з такога жадання-наказу чарадзей, лёгка, прачула, быццам скінуў з плячэй вялізны цяжар. Нібыта не зводзілі далёка-далёка цяжкія дарогі. Не цвілі ў сэрцы горкімі палынамі расстанні… Не падалі зоры, не дазваляючы забыць пра страты, пра ўсіх тых, каго ён не збярог… Смяяўся чарадзей, як нібы ніколі не бачыў на белым свеце няпраўды, крыўды, здрады… Быццам не станавіўся цёмным ад спазнанага. Смяяўся чарадзей…

— А ці не з нас ты, чарадзейка, рагочаш? — зрыхтаваў ладныя кулакі лясун.

— А ці не я ж такі смяхотны? — вадзянік звыкла азірнуўся, шукаючы, дзе б лепей чарэпнуць жвіру.

— А што смешнага мы сказалі? — неяк не падумаў пра бойку палявік. Гледзячы на яго, ахалануліся і сябры-суседзі.

Суняўся чарадзей. Адказаў і пэўна, і проста:

— Анічога, анічога смешнага. Але ж я так узрадаваўся таму, што вы хочаце стаць добрымі, ласкавымі…

— Спагадлівымі, не забудзь! — строга прабурчэў вадзянік.

— Стаць добрымі, ласкавымі, спагадлівымі, — паслухмяна згадзіўся чарадзей, — што не змог схаваць усцехі… Вялікай, шчырай…

Палагаднелі вадзянік ды лясун, а палявік за ўсіх трох нібы папрасіў:

— Дык зрабі нас такімі, чарадзею. Зайграй на сваёй скрыпцы…

— Маю скрыпку. Незвычайную… — лёгка прызнаўся палоннік. — Ды ёсць за яе чары большыя, мацнейшыя, якраз патрэбныя для вашай справы.

— Большыя, вох…

— Мацнейшыя, буль…

— Давай іх сюды хутчэй! — скокнуў палявік.

— Чары тыя схаваны-затоены ў вас саміх, — быццам нічога не пачуўшы, працягнуў чарадзей.

— У нас саміх, вох?

— І ўва мне, буль?

— Вы ж, валадары лясоў, азёр, палёў, самыя чарадзейныя… Магутныя, ведныя… Чаму вам не быць добрымі, не быць спачувальнымі? Дзівосныя таямніцы вашых валадарстваў… Верай ды спагадай адгукаюцца мне спеўна-шумлівыя лясы. Радасна свецяцца, сустракаючы, вочы вечна сініх азёр. Пра жыццё раскажа жыта ў палях, пагамоніць са мною аб пражытым, аб непражытым… Вы як цуд нам, смяротным, простым! Нашыя дзяды, бацькі, унукі доўжаць род. Дзівяцца на вас, лесуноў, вадзянікоў, палевікоў, вечных, як лясы, як азёры, як палі, без якіх аніяк не пражыць чалавеку… І шануюць вас, шануюць, нават калі змрачнее лес, патыхаюць гневам азёры, а чорнай нялітасцю — палі… Супыніце ж і цяпер сваю крыўду…

— Ды супынім, супынім, вох… Як ты прачула сказаў.

— Буль, у мяне аж слёзы пайшлі…

— Ша, яны ў цябе заўсёды сыпляцца з вачэй… Але будзе вясковым наша лагода. А пра тыя чары, што ў нас саміх ты, чарадзею, не ўсё сказаў…

— Ды што ж яшчэ сказаць? Дабрыня, міласэрнасць, спагада бліжэй, чым

здаецца. Дапамажыце таму, хто заблукаў у непраходнай пушчы. Няхай хутчэй знойдзе дарогу дамоў… Не пакіньце таго, хто вось-вось патоне ў глыбокім возеры. Няхай шчасліва выберацца на бераг… Дадайце сілы, калі нехта, стаміўшыся, жне ў полі высокае жыта. Няхай адужае свой палетак… І людзі прымуць вас як родных.

Толькі прамовіў так чарадзей, як лесавік, вадзянік і палявік кінуліся бегчы з усёй моцы. І пайшло ўсё ладам…

Ішоў увечары адзін чалавеча праз лес, праставаў, добра ведаючы дарогу. Заблукаў-завадзіў яго лесавік, аж пакуль на досвітку не вывеў небараку проста да роднай хаткі… Здагадаўся той, у чым справа, выцер пот з ілба ды пажадаў, каб лесуна добра Пярун ляснуў…

Купаўся ў возеры чалавеча, заплыў далёка, ажно бераг стаў маленькім. Трэба неяк назад… Але ж за ногі нехта трымае, плысці замінае. Ледзьве не ўтапіўся бядак, пакуль ля самага берага вада не штурхнула яго ў колкую асаку. Дапёк той, у чым справа, выкараскаўся на сухое ды пажадаў, каб вадзяніка добранька Пярун ляснуў…

Жалі людцы жыта, шчыравалі аж да поту. Але, хоць нешырокая была палоска, натаміліся так, што ледзьве на нагах трымаюцца. Спякотна ў полі, сон морыць, паваліліся ўсе ды моцна заснулі. Прачнуліся пад вечар ды бачаць: жыта ўсё пажатае, а снапы па ўсім полі як хто параскідаў. Здагадаліся, у чым справа, ды пажадалі шчыра, каб палевіка тройчы Пярун ляснуў…

Бягуць лесавік, вадзянік, палявік да чарадзея. Пылам дымяцца палеткі, хвалямі возера плешча, лесам рэха ідзе. Сварацца, злуюць на ўвесь свет, і кожны выпінаецца, як не лопне:

— Якая ж такая дабрыня ў тым, каб цябе Пярун ляснуў, вох?!

— Мяне? — спакойна пытаецца чарадзей.

— Ды не цябе, мяне! Вох-вох-вох…

— Якая ж такая спагада ў тым, каб мяне Пярун ляснуў, буль?!

— А мяне аж тройчы ляснуў… Пэўне, на добрыню, спагаду і чуласць, — гучней за ўсіх скардзіцца палявік.

— Ты ж болей за ўсіх хацеў! — азываюцца палевіку сябры-суседзі.

— Ды маўчыце вы! А ты, ты даставай сваю скрыпку, ды грай, чуеш?! — кінуўся палевічок да чарадзея.

— Чую, — азываецца той. — Ты не ціха гаворыш…

— Даставай сваю скрыпку, вох, а то я цябе дубоўняй!

— Дык ты ж дубоўню мне падарыў, буль!

— У мяне яшчэ адна ёсць. Большанькая…

— Даставай сваю скрыпку, буль, а то я цябе жвірам, жвірам ды ў возера…

— Чаго ўжо, зразумела ўсё. Дастаю скрыпку, — па-ранейшаму застаўся спакойным чарадзей.

Звыкла крануў смыкам струны, пабудзіў-адкрыў весялосць белага свету. Паплыла яна па-над аблокамі, паслалася шызымі туманамі, паляцела з буйнымі вятрамі. І так міла стала ў кожнага на сэрцы, што забываюцца ўсе нягоды. Так глядзеў бы ды цешыўся лясамі, ды азёрамі, ды палямі…

Звініць скочная музыка, удаецца чаканай марай, што толькі-толькі спраўдзілася. І ўспамінаюцца людзям радасныя хвіліны, прыгадваецца нечаканая, але такая патрэбная спагада… Не абмінулі тыя чары лесавіка, вадзяніка і палевіка. Прытупнулі яны зухавата ды пусціліся адбіваць у такт…

Так усхадзіўся ад радасці лесавік, што аж загулі векавыя пушчы, завылі-зараўлі ваўкі ды мядзведзі, як сабраліся глынуць увесь свет… Напалохаліся людзі, відаць, гневаецца лясун за іхнюю радасць. А тут яшчэ возера выйшла

з берагоў, заліло нізіны-агароды, нарабіла бяды. Гэта, значыць, вадзянікова кара. Ды раптоўна, нібы на залом, палеглі нязжатыя грэчка, авёс, проса. Заплакалі людзі, не стрывалі палевіковай сваволі.

Кленчамі-скаргамі агарнуліся вёскі. Нявесела, нярадасна… А лесавік, вадзянік ды палявік пагрозліва да чарадзея падступаюць:

— Ты, чарадзейка, вырашыў з намі пажартаваць, вох?!

— Паздзекавацца, буль?!

— Падмануць, ша?! Не давялося з радасці нават паскакаць…

Стомлена трымае скрыпку чарадзей, не апраўдваецца, не баіцца. Лесавік жа, вядзянік ды палявік грознымі вычыма зыркаюць, апошні раз ужо зрабіць іх добрымі, ласкавымі, чулымі дазваляюць:

— Глядзі, калі гэтым разам не атрымаецца, не жыць табе, вох!

— Утаплю, буль!

— Заказычу, ша!

Зноў крануў чарадзей смыкам струны, адкрыў журбу, пабудзіў страчаную надзею. Нібы страпянуліся-ажылі ўсе згрызоты, паўсталі зноў ды плешчуць, нявечаць сэрца. Хочацца кожнаму ўдарыцца аб зямлю ды загаласіць на ўвесь свет, каб пазбыцца непамернага болю… Льюць слёзы людзі, не могуць выплакаць свайго гора. Ды не абмінулі тыя чары лесавіка, вадзяніка, палевіка. Успомнілі ўсё, што ўчынілі, і стала ім цяжка-цяжка…

Загаласіў, застагнаў лес, як прыгнецца скрозь да зямлі і ўвесь чыста згіне. Адчулі тое вясковыя, сталі ласкава прасіць лесуна пра літасць… Без пушчаў што ж рабіць? Заплёхала, забілася возера, скаланулася да самага дна, вось-вось пойдзе ў зямлю. Здагадаліся пра тое людзі, сталі шчыра прасіць вадзяніка пра спагаду… Без возера што ж рабіць? Пачаренелі, як глыбокай восенню, зажурыліся палі, як не спляжыцца на іх усё… Пабачылі тое працавітыя, сталі прасіць-маліць палевіка пра спачуванне. Без палёў жа нічога не будзе!

Зноў кленчы ў вёсках. Гора горам паганяе… Ды не зважаюць на людскія слёзы лесавік, вадзянік і палявік. На чарадзея тупаюць, сварацца аж на тры валадарствы:

— Ах ты ж, чарадзейка, што ўчыніў! Хіба ад просьбаў-галашэнняў станемся мы добрымі?! Вох!

— Ах ты ж, чарадзейка! Хіба тыя слёзы зробяць мяне чулым?! Буль!

— Трымайся, чарадзейка! Я ўжо так палі засушыў, што хай плачуць ці не плачуць, нічога не будзе… Прапала ўсё!

Доўга маўчаў чарадзей, слухаў гнеўныя папрокі ад лесавіка, вядзяніка, палевіка. А сябры-суседзі не адступаліся, патрабавалі, пагражалі.

— Добра, — урэшце пагадзіўся цёмны, — зайграю трэці раз. Бо зразумеў ужо, што па-добраму вы мяне і не адпусціце… Толькі цяжка мне будзе: аддаў першым, другім разам ледзьве не ўсю чарадзейную сілу. Дык вы чары-таямніцы ад лясоў, азёр, палёў збярыце, мне ў скрыпку ўкіньце, каб здолеў зайграць на ўвесь свет…

Ні пра што не запыталі болей лесавік, вадзянік, палявік, кінуліся збіраць чары. Мядзянай лістотай шугануў тыя чары ў скрыпку валадар пушчаў-гаёў. Срэбнай луской бліснуў-кінуў валадар азёр. Залатым зернем насыпаў як не поўную валадар палеткаў-абшараў. Учынілі так ды чакаюць, пакуль чарадзей зайграе.

Уздыхнула па-чалавечы чарадзейная скрыпка. Стала апяваць ясныя зоры, якія ў цемрадзі свецяцца ратавальнай надзеяй… Аддала пашану чарадзейнаму сэрцу, якое верыць і змагаецца ў самую цёмную хвіліну… Павяла ў зманлівую далеч нязведаных дарог… Можа, гэта там схавалася страчанае шчасце?.. Але

не толькі пра гэта памяталі струны. Зазвінела мядзяная лістота ў іхнім голасе, і азваліся вячыстыя лясы, якія зведалі ўсё… І расказала скрыпка ўсяму свету пра самых мудрых… Нібы цымбалы, забіліся срэбныя лусачкі, і адгукнуліся незлічоныя азёры, якія ўсіх пояць вадою, якія берагуць жыццё… І расказала скрыпка ўсяму свету пра самых добрых… Загаманілі жніўнай песняй залатыя зернейкі, паднялі голас палёў, якія аддаюць людзям свой плён… І расказала скрыпка ўсяму свету пра самых працавітых, цярплівых, спагадлівых людзей на зямлі…

Іграла скрыпка, як узнялася па-над белым светам. Радавалася, журылася, плакала, смяялася… Клікала да лясоў і палёў, на ўзбярэжжы азёр, каб спазнаць іх міласэрнасць і гнеў, каб выпрабаваць сябе на чалавечнасць… Аддаў цёмны скрыпцы ўсе свае чары. Да апошняй кроплі — дабрыню, да апошняй іскрынкі — спадзяванне-веру. І не шкадаваў пра тое… Ад таго гучала скрыпка і шырэй, і мацней, як заступаючы ўсе чыста гукі-зыкі… Клікала да літасці, да спагады, ронячы цёплыя пачуцці ў самыя халодныя сэрцы. Амаль зрабіла ласкавейшым белы свет…

І… знікла. Невядома куды, невядома як. Не, яна не разбілася за тое, што падняла невыносны цяжар. Яе ж мацавала самае чарадзейнае сэрца. А чарадзей… таксама знік. Разам са сваёй незвычайнай скрыпкай. Можа стацца, што здолеў уцячы з палону. Лесавіковага. Вядзяніковага. Палевіковага. Толькі чамусьці болей нідзе не з’яўляўся. Нікуды не прыходзіў. Хоць не аднойчы быў такім патрэбным…

Як прапалі чарадзей ды скрыпка, супынілася дзівоснае гранне. Са шкадобай уздыхнуў пра тое белы свет. Зноў цяжка засумавалі людцы. Ачомаліся і лесавік, вадзянік, палявік. Згледзелі, што няма анідзе чарадзея, хоць моцна трымалі яго і лес, і возера, і поле. Загаласілі ў роспачы, абняўшыся, як сапраўдныя браты. Такімі роднымі зрабіла іх нечаканае гора…

— Падмануў, вох!

— Падмануў, буль!

— Падмануў-падмануў, ша!

Заліліся слязьмі, запрасілі літасці ў белага свету:

— Як жа нам цяпер ды стацца добрымі?! Хто ж нам цяпер дапаможа… Падмануў нас чарадзей, падмануў…

А ў пошуме лясоў, у плёскаце азёрных хваль, у шэпце палёў можна і цяпер пачуць гранне самай чарадзейнай скрыпкі. Не знікла яна без следу. Пакінула зямлі сваю песню… Хочуць лесавік, вадзянік, палявік тую скрыпку знайсці. Як толькі ўчуюць — бягуць што сілы па сваіх валадарствах. Ды толькі, пакутуючы так, усё адно нічога не адшукалі. І тады зноў гучыць лясным рэхам, звонам азёрных хваль, палявым водгуллем:

— Падмануў… Падмануў… Падмануў…

А стомяцца сябрукі бегаць ды крычаць, тады сядаюць чынна, вядуць добрасуседскую размову:

— Некалі ж прыйдзе лепшы чарадзей ды знойдзе тую скрыпку…

— Чакае яна сваёй гадзіны…

— І вось тады мы ўжо не папусцім…

— Дацікуем, зловім…

— Скрыпку адбяром…

— І падмануць не дазволім!



Ганад ЧАРКАЗЯН

# КУДЫ ДАРОГА ПРЫВЯДЗЕ?

* * *

Заспаны туман над ракой
Мастом паяднаў берагі.
Ацэньваюць чайкі спакой
Хмурынкамі светлай тугі.

Мой горад, ты мне дарагі,
Як гор незабыўных матыў.
Я песняй злучу берагі,
І сэрца, што лёс разлучыў.

Шляхі на ўзаемнасць наўпрост
Ідуць,
Каб не збочыць нідзе.
Кахання вясёлкавы мост
Ступіць не дазволіць бядзе.

* * *

Збіраюся да сябра ў госці
Былое ўзважыць, узгадаць.

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001), «Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей.*

Святла ставала маладосці,
Каб кожны дзень адсвяткаваць.

Мы годна гонар шанавалі
У абавязка ў даўжніках.
Гасцінна запрашалі далі
Пабыць у шчодрасці ў гасцях.

Тады, здавалася, нахлынны
Цяплей рыпеў пад крокам снег.
Гучаць, як рэха, успаміны.
А час ад нас, як промень, збег.

Збіраюся да сябра —
Думам
Даверыцца, пасумаваць.
Абмеркаваць палёт над тлумам,
Пражытае падсумаваць.

Збіраюся.
Ды, як з прасоння,
Званок.
І я пачуць паспеў:
Ты можаш не спяшацца,
Сёння
Далёка сябра адляцеў…

* * *

Не магу ісці на паляванне —
Дзеці ёсць
І ў птушак, і ў звяроў.
Раптам на зямлі самотна стане
Без яе спаконных жыхароў.

Не магу рыбачыць —
І ў затонах,
І ў глыбінях — ненадзейны схоў.
Рыба плача —
І ад слёз сцюдзёных
Акіян выходзіць з берагоў.

На іскрыста-сонечных вяселлях
У маёй душы цвіце вясна.
Асушыць люблю паўнюткі келіх
За здароўе маладых
Да дна!..

## ЧАРГАВІ

* * *

Засынаем з надзеяй, што поўны лагоды,
Бы ў казцы, зменіцца заўтра свет.
А свет застаецца нязменным заўсёды.
Ў чалавека спытай аб прычынах бед…

* * *

Свой лёс хацеў бы чалавек чытаць,
Хоць ведае, што гараскопы хлусяць.
Хацеў бы чалавек сабакам стаць,
Але забыўся, што брахаць прымусяць…

* * *

Не варта спрачацца, што ўначы ўратавала,
Свечкі святло ці агонь трапяткі.
Лёсу падзякуй, валачомнік прыстала,
Што яшчэ засталіся на зямлі маякі…

* * *

Пачысціць крыніцу й вады напіцца,
Каб смагу прагнаць з ранішняга глытка.
Пражыць бы на гэтай зямлі, як крыніца,
Чакаючы стомленага хадака…

* * *

Дарога для самапазнання — час.
Дарога для самасцвярджэння — праца.
Час згублены — страта найбольшая ў нас.
Дарогі няма, каб туды вяртацца…

* * *

Агонь шкадуе цеплыні
Азяблым восеньскім абшарам.
І зорка мудра з вышыні,
Здаецца, сочыць, як мы марым…

* * *

Падрастаючы, як птушкі, людзі
Разлятаюцца па белым свеце.
Кожнаму ў цямрэчы, ў беспрабуддзі
Роднае гняздо, як зорка, свеціць…

* * *

Не ведае межаў жорсткасць людская.
Не ўзводзяць храм на чужой бядзе.
Дарогу сам чалавек выбірае.
Але куды яна прывядзе…

* * *

Бацькоўскі дом навобмацак пазнаваў.
Мне ў цемрадзі кожны камень свяціўся.
На рэчцы памяці лёд не растаў.
І ў сэрцы няпрошана сум пасяліўся…

* * *

Салавей расцвітае ў густым галлі —
Шчырасці ноч асвятліць стае.
Кожны непаўторны, калі
Песню сваю пяе…

* * *

Хай вецер вясёлы хмурынку прынёс.
Сквер сухой мятлой наваколле падмёў.
Без дажджоў веснавей, быццам вочы без слёз.
Абыякавасць душ, папялішчы надзей…

***З курдскай.***
***Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.***





**Тамара БУНТА**

# ТАБЕ ПАДАЛОСЯ...

*Апавяданне*

Уначы ў Тоні раптам пацякла сляза з левага вока. Яна прачнулася і здзіўлена заўважыла, што ў яе мокрая левая шчака, а пад ёй — змакрэлая навалачка на падушцы.

«Мусіць, прысніла штосьці нядобрае і ўва сне плакала», — падумала Тоня. Потым усю раніцу — і калі смажыла мужу яечню, і калі гатавала каву, і калі стаяла ў калідоры і чакала, пакуль Максім апране кіцель, раз-пораз выцірала ручнікам вока і ўсё старалася прыгадаць, што ж такое сумнае ці страшнае прыснілася, ад чаго вока ўсё плача і плача…

Максім нічога не заўважыў, развітваючыся, хутка і звыкла пацалаваў жонку ў шчаку — Тоня падставіла правую, — і ён, надзеўшы афіцэрскую фуражку, лёгка збег па прыступках уніз, як збягаў з лейтэнанцкіх часін.

Тоня памахала яму рукой праз акно. Максім памахаў у адказ. Гэта быў іх шматгадовы абавязковы ранішні рытуал. Напэўна, не было ніводнага разу, каб яна не паглядзела з акна мужу ўслед...

Калі пасля таго, як ён скончыў ваенную акадэмію, яны прыехалі ў гэты лясны гарнізон, тут якраз здаваўся новы пяціпавярховы панэльны дом, і ім прапанавалі трохпакаёўку. Пра такое шчасце яны нават і не марылі, едучы сюды. Разлічвалі, бадай што, на асобны блок у інтэрнаце для афіцэраў. А тут камандзір палка сам выдаў ім новенькія бліскучыя ключы на колцы і сказаў: «Спецыяльна трымаў кватэру — ведаў, што намеснік едзе»…

Пакінуўшы чамаданы ў штабе, каля днявальнага, яны з Максімам пайшлі глядзець жытло. І пакуль ішлі, Тоня ўсё хвалявалася, ці будуць вокны кватэры выходзіць у двор, ну, хаця б адно…

— Навошта табе, каб вокны выходзілі менавіта ў двор?.. — здзіўлена спытаў Максім. — Галоўнае, кватэра ёсць, і якая розніца, куды глядзяць яе вокны…

— Каб я магла паглядзець табе ўслед, каб магла памахаць на развітанне рукой, каб магла бачыць, дзе гуляюць мае дзеці ў двары, каб наогул магла бачыць, што робіцца ў доме насупраць, у маіх суседзяў, у людзей…— усхва-

---

*__Бунта Тамара Пятроўна__ нарадзілася 21 красавіка 1959 года ў горадзе Маладзечне Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працавала галоўным рэдактарам часопіса «Алеся» (2003—2014).*

*Аўтар кнігі прозы для дзяцей «Белое облачко» (2014).*

лявана пачала тлумачыць Тоня і змоўкла, у яе ледзь не вырвалася: «А не ў лесе».

Дзякуй богу, вокны кватэры глядзелі на два бакі: два на ваенны гарадок і два — на лес…

І вось цяпер штодзень яна праводзіла і сустракала Максіма, стоячы ля акна. Якая гэта радасць пасля доўгага дня ўбачыць знаёмую, родную постаць мужа і памахаць яму, а потым пабегчы на кухню, каб дастаць з халадзільніка каструлькі з вячэрай і хуценька пачаць іх разаграваць!.. Яны жылі разам ужо дванаццаць гадоў, нарадзілі дзвюх дачушак, а яна па-ранейшаму шчыра і аддана кахала свайго Максімушку.

Праводзіўшы мужа і памахаўшы, як заўсёды, яму з акна, яна падышла да люстэрка, зазірнула ў яго. З люстэрка на яе глянула непрыемная жанчына з перакошаным тварам, на якім адно вока было большае за другое, і з яго цякла сляза. І як Максім нічога не заўважыў?.. Тоня памацала шчаку рукой. Шчака была як змярцвелая, не адчувала дотыкаў далоні. Тоня паспрабавала ўсміхнуцца — усмешка атрымалася крывая: правая частка вуснаў расцягнулася, а левая нават не варухнулася.

«Што са мной здарылася?.. — Тоня сутаргава перабірала думкі, стараючыся знайсці адказ. — Адляжала шчаку?.. Учора выціснула які-небудзь прышчык, і шчака апухла?.. А мо штосьці з’ела алергеннае?.. Трэба было з кімсьці параіцца. Але дзеці яшчэ спяць — не кінеш жа іх адных…»

Яна набрала тэлефонны нумар суседкі:

— Вера, зайдзі!..

Вера літаральна праз дзве хвіліны была ў яе, быццам толькі і чакала запрашэння. Хаця так і было: звычайна яны кожны дзень збіраліся зранку на каву, як толькі іхнія мужы адыходзілі на службу, а Тоніны дзеці яшчэ спалі. У Веры ж дзяцей не было. Напэўна, з-за гэтага Вера са сваім Уладзімірам пастаянна сварыліся, а нядаўна ён наогул сышоў з чамаданам на кватэру да халасцякоў.

— Як я табе падабаюся? — спытала Тоня сяброўку, як толькі Вера ўладкавалася за сталом насупраць.

— Божухна! — здзівілася Вера. — Хто гэта так цябе?.. Няўжо Максім?..

— Ты што, здурнела?.. — Тоня нават жахнулася, што сяброўка магла такое падумаць пра яе мужа. Яна вельмі ганарылася тым, што ў іх з Максімам дружная сям’я, і была ўпэўнена, што суседцы пра гэта добра вядома.

— Алергія, мусіць, — сказала яна і зноў памацала далонню левую шчаку.

Шчака была мокрая, вока працягвала плакаць.

— Цябе, напэўна, мошка ўкусіла! — усклікнула Вера.

— Якая мошка? — пралепятала Тоня.

— Ну… ёсць такая мошка, дробная, але надта пякучая. Калі яна кусае, то ўвесь твар распухае. А цябе яна, напэўна, у вейка ўкусіла, вось вока і пацякло. Ну, нічога, я цябе вылечу: зараз прынясу лекі ад алергіі, сёння іх папрымаеш — заўтра ўсё пройдзе!..

Вера збегала дадому і сапраўды прынесла нейкія пілюлі. Потым на працягу дня суседка яшчэ двойчы заходзіла да іх у кватэру — прынесла прадукты з магазіна, а затым, пасля абеду, апранула дзяўчынак, Аленку і Інку, і пагуляла з імі на дзіцячай пляцоўцы ў двары. Вера некалькі разоў падыходзіла да акна і назірала, як Вера з дзецьмі корпаецца ў пясочніцы, і радавалася, што ў яе ёсць такая цудоўная суседка, сапраўдная сяброўка, амаль як сястра.

Алергія і пад вечар не адпусціла. Не прайшла яна і на другі дзень. І на трэці… Тоня выпіла ўсе супрацьалергічныя лекі, што былі ў Веры, і тое,

што сяброўка прынесла з аптэкі, некалькі разоў рабіла сабе гарачы кампрэс, масажыравала шчаку. Стан яе толькі пагаршаўся. Максім адыходзіў на службу рана, вяртаўся позна, хутка вячэраў і клаўся спаць, таму нічога, на радасць Тоні, не заўважаў. Затое Вера не вылазіла з іхняй кватэры — і лячыла, і гатавала, і прыбірала… Яна завіхалася спрытна, амаль з радасцю, хутка, без падказак, знаходзячы патрэбныя рэчы: пыласос, салатнік, сякеру для мяса… Дзіўна, што такую гаспадыню не ацаніў уласны муж.

Пад канец трэцяга дня ў Тоні заламала ў левай скроні. Яно там і з самага пачатку хваробы ныла, але цяпер ужо моцна балела, гэта пачало ўсур'ёз непакоіць. Апроч таго, Тоня ўжо зразумела, што сваімі сродкамі ёй не вылечыцца.

— Максімушка, бяда ў нас, — сказала яна вечарам, як толькі муж пераступіў парог кватэры і пачаў сцягваць боты.

Максім, пачуўшы пра бяду, так і застыў у адным боце і нарэшце ўпершыню за некалькі дзён пільна паглядзеў на жонку. Праз хвіліну яго твар збялеў.

— Што з табой? — спалоханым голасам спытаў ён.

— Захварэла, — сказала Тоня і заплакала. — Вока ў мяне не закрываецца, і адзін бок рота таксама… І наогул, паўтвару паралізавала. Няўжо не бачыш?..

— Дык чаму ты не ідзеш да доктара?!.

Тоню здзівіла пытанне. Здзівіла сваёю прастатою. І сапраўды, чаму яна адразу не пайшла да доктара? Чаму паверыла ў нейкіх мошак і пачала лячыцца чым папала?..

Максім нацягнуў бот: «Зараз доктара прывязу!»

Тоня не паспела нават штосьці сказаць, як муж збег па прыступках уніз. Быццам і не прыходзіў стомленым…

Доктар, маладзенькі лейтэнант, Алег Фёдараў, які сёлета прыбыў у іхні гарнізон пасля заканчэння ваенна-медыцынскай акадэміі, жыў у суседнім пад'ездзе, у аднапакаёўцы. Зусім яшчэ хлопчык на выгляд, ён прыняў медчасць і, як аказалася, добра спраўляўся там.

Алегу хапіла некалькі хвілін, каб паставіць правільны дыягназ:

— Заплюшчыце вочы! Расплюшчыце вочы! Адкрыйце рот! Высуньце язык! Закрыйце рот! Усміхніцеся!.. Складзіце вусны трубачкай!..

Каманды былі простыя, але Тоня не магла іх выканаць: адно вока не заплюшчвалася, рот не закрываўся, вусны ў трубачку не складваліся…

— Не магу, — вінавата, перасільваючы боль, усміхаючыся, сказала яна. — Мяне нейкая мошка ўкусіла!

— Якая мошка?!. — усклікнуў у роспачы Алег. — У вас самае цяжкае, што можа быць у неўралогіі, — запаленне трайчастага нерва! Ужо трэці дзень так адчуваеце сябе? Тры дні згублены! Чаму вы не звярнуліся да мяне адразу?

Тоня глядзела на маладзенькага доктара, бачыла, які ён усхваляваны, і разумела, што з ёю здарылася штосьці нядобрае.

— Што такое трайчасты нерв? — спытала яна.

— Нерв твару! Вы прастудзілі твар. Вас прадзьмула дзесьці скразняком!.. Напэўна, праехаліся з ветрыкам у машыне.

Тоня адразу ўсё ўспомніла. У суботу яна з дзецьмі прыехала ад маці. Ехалі цягнікам амаль цэлы дзень пры трыццаціградуснай спякоце. Стаміліся і змучыліся. Максім прыехаў па іх на вакзал на камандзірскім уазіку. Муж быў нейкі спахмурнелы і раздражнёны. Калі завялі матор, уазік затарабаніў, як трактар.

— Глушыцель паляцеў, — вінавата патлумачыў муж, і Тоня зразумела, чаму ён такі незадаволены.

Ужо праз паўгадзіны дарогі гэты гук з глушыцеля малатком біў па скронях, ды і ў нагрэтай на сонцы кабіне амаль не было чым дыхаць. Добра, што здарожаныя дзеці, як толькі селі ў машыну, адразу і паснулі, а то напакуталіся б з імі!..

Тоня нахілілася да форткі і адчула, як прыемны халадок абдзімае яе шчаку. Стала крыху лягчэй. Яна прыціснулася шчакой да акна і так ехала ажно да самага ваеннага гарадка, нават прыснула трохі. Вось табе і скразнячок…

— І што цяпер будзе?.. — яна з трывогай глянула на доктара.

— Трэба неадкладна ехаць у шпіталь! Неадкладна!.. Інакш ваш твар можа застацца перакошаным на ўсё жыццё… Я зараз жа выклікаю з аўтапарка машыну!

Тоня ледзь выпрасіла паехаць у шпіталь назаўтра зранку, у шэсць гадзін. Ёй ужо стала зразумела, што ад шпіталізацыі не адкруціцца, і яна, адправіўшы стомленага і ашаломленага мужа спаць, пачала рыхтавацца да ад’езду. Галава працавала спакойна і разважліва, як адбывалася з ёй звычайна ў розных крытычных сітуацыях.

Так, па-першае, трэба прыгатаваць ежы на паўтыдня, пакуль яна не прыедзе на выхадныя. Па-другое, трэба напрасаваць дзяўчынкам адзенне, скласці на крэсле чыстыя сукенкі, кофты, калготы, бялізну, каб у Максіма ўсё было пад рукой. Ён сказаў, што заўтра папросіць у камандзіра, каб той дазволіў зараз выкарыстаць дні водпуску, якія пакідаў на восень, збіраючыся з’ездзіць да бацькоў. Ну, што ж, цяпер, мусіць, бацькі самі прыедуць да іх…

Наперадзе была цэлая ноч, і Тоня ўзялася за працу. Яна рабіла ўсё энергічна, быццам заведзеная, і ўжо праз нейкі час прыгатавала навapысты боршч, насмажыла дранікаў з мясам, а на крэсле вырасла гара адпрасаванага адзення для дачок.

Адносячы ў дзіцячы пакой апошні стос бялізны з прасавальнай дошкі, Тоня раптам пачула, што ў цёмным куце калідора хтосьці шкрабае. У яе нават халадок прабег па спіне: «Няўжо зноў пацук?..» Была ў іх на самым пачатку афіцэрскага жыцця гісторыя, калі Тоня мужавым ботам уначы выганяла з пакоя пацука. Цяпер гэта гісторыя ўзгадвалася пры гасцях са смехам, як сямейная легенда, а ў свой час маладзенькай лейтэнантшы было не да смеху: муж на вучэннях, у невялікім афіцэрскім дамку пасляваеннай пабудовы — толькі яна і малое дзіця, а пад шафай і канапай бегае пацук… Адкуль толькі смеласць тады ўзялася ў яе, дваццацідвухгадовай, пацука ботам біць?..

Вось і цяпер яна не стала будзіць мужа, у калідоры намацала ягоны бот і рашуча ўключыла святло. У куту нікога не было. «Падалося», — уздыхнула Тоня з палёгкай. І раптам шкрабанне пачулася зноў. Жанчына падышла бліжэй да кута, нахілілася і ўважліва прыгледзелася. У куце, на самым нізе, ля падлогі, сядзеў маленькі павучок. Неверагодна, але было чутна, як ён шкрабае лапкамі па шпалерах!.. Гэта так здзівіла Тоню, што яна не забіла павучка, як рабіла звычайна. Хай шкрабецца, а яна заўтра раскажа мужу пра гэтае дзіва.

Зранку абышлося без слёз — яна пайшла з кватэры, калі дзеці яшчэ спалі. Тоня нават не пацалавала іх, каб не разбудзіць. Толькі перахрысціла… Муж, развітваючыся, пацалаваў яе ў здаровую шчаку: Тоня сама адвярнула ад яго перакошаны бок твару.

Сядаючы ў камандзірскі ўазік, Тоня глянула на вокны сваёй кватэры. За акном ёй махала рукой Вера: яе папрасілі пабыць з дзецьмі, пакуль Максім сходзіць у штаб і аформіць водпуск. У Тоніных грудзях варухнулася нейкае

трывожнае пачуццё, але яна тут жа прыглушыла яго — іншага ж выйсця не было, — і сказала доктару Алегу:

— Паехалі!..

Уазік з ужо адрамантаваным глушыцелем выкаціў за жалезныя вароты ваеннага гарадка і шпарка пабег па асфальтавай дарозе ў бок горада. Тоня глядзела на лес, што цягнуўся паабапал шашы, і думала пра розныя дробязі: каструлю з баршчом у халадзільнік паставіла… глыбокую патэльню з дранікамі таксама… мужу сказала, каб разаграваў боршч часткамі, у маленькай каструльцы, інакш скісне… калготак дзецям хопіць да выходных, бялізны таксама… кветкі ва ўсёй кватэры паліла… Што яшчэ?.. Раптам яна ўспомніла пра павучка ў кутку. Эх, забыла мужу расказаць!..

У прыёмным пакоі шпіталя яе агледзеў неўрапатолаг. Іван Іванавіч — так назвала яго медсястра. Доктар быў стары, але каманды аддаваў тыя ж, што і іхні малады доктар:

— Заплюшчыце вочы! Расплюшчыце вочы! Адкрыйце рот! Высуньце язык! Закрыйце рот! Усміхніцеся!.. Складзіце вусны трубачкай!..

Ні вусны, ні язык, ні левае вока ўжо зусім не слухаліся яе.

— Так, — сказаў стары доктар. — Змены смаку, слыху ёсць?.. Звычайна пры запаленні нерва твару хворы пачынае абвострана чуць такія гукі, якія здароваму вуху не даступныя. Вобразна кажучы, у іх развіваецца сабачы слых.

— Ой, ёсць! — усклікнула Тоня і расказала пра гучнага павучка.

— Ну што ж, усё зразумела: запаленне трайчастага нерва. Будзем вас лячыць!.. — доктар пачаў афармляць шпітальную картку, штосьці падрабязна запісваючы тым дробным неразборлівым почыркам, які зразумелы толькі адным дактарам.

— Іван Іванавіч, а ці ж гэта можна вылечыць? — спытала Тоня і заплакала.

Доктар адарваўся ад запісу і сказаў:

— Сталыя людзі цяжка вылечваюцца ад гэтай хваробы — у іх мышцы ўжо старыя і… стымулу няма. А вы хочаце быць маладой і з перакрыўленым тварам?..

— Не, хачу быць маладой і прыгожай!... — Тоня рашуча пакруціла галавой. — І муж у мяне малады і прыгожы…

— Ну вось, бачыце, а ў вас стымул ёсць. І мышцы яшчэ маладыя і падатлівыя. Значыць, вылечымся! — і ён бадзёра падміргнуў ёй.

У Тоні адразу высахлі слёзы…

У неўралагічным аддзяленні яна была не адна з такой хваробай — яшчэ тры чалавекі таксама праехаліся з ветрыкам у машыне. Але ўсе трое былі значна старэйшымі і… мужчынамі. Таму так, як Тоня, на працэдуры не бегалі — лячэбную гімнастыку для твару самі, без інструктара, не паўтаралі, ад іголкаўколванняў адмовіліся ўсе разам пасля першага ж сеанса; нават лячэння ў баракамеры два мужчыны з трох не вытрымалі: сказалі, што ў іх — клаўстрафобія. Яны хадзілі толькі на праграванні і пілі пілюлі. Сапраўды, стымулу ў іх не было — жаласлівыя жонкі клапатліва завіхаліся вакол кожнага з трох мужчын, нягледзячы на тое, што ў тых — скрыўлены рот.

Тоня ж, вядома, не хацела жыць з крывым ротам і амярцвелай шчакой. У яе была прыгожая ўсмешка, і яна пра гэта добра ведала. Са сваёй прыгожай, адкрытай усмешкай Тоня звярталася да людзей, і людзі заўсёды адгукаліся на яе звароты і просьбы. Яе ўсмешка была сапраўдным ключыкам да чужых сэрцаў, да цэлага свету. І яшчэ Тоня ведала: менавіта за ўсмешку яе калісьці

пакахаў Максім, з якім яны пазнаёміліся на танцах у клубе ваеннай акадэміі. Ён сам потым прызнаўся ёй у гэтым. Таму без усмешкі яна будзе не яна.

Тоня лётала па паверхах шпіталя бы на крылах — з працэдур на працэдуры. Яна ўважліва слухала інструктара па лячэбнай фізкультуры, а потым гледзячы на сябе ў люстэрка услед за ім, па дзесяць разоў старанна паўтарала ўсе практыкаванні: складвала вусны ў трубачку і вымаўляла гукі, якія ён называў, ва ўсмешцы расцягвала вусны то ў адзін, то ў другі бок, заплюшчвала адно вока, потым другое, надзімала адну шчаку, затым другую… Фізкультура займала шмат часу, і практыкаванні толькі на першы погляд здаваліся простымі, выконваць іх было цяжка: твар не слухаўся, але Тоня раз-пораз прымушала працаваць вусны, шчокі, вейкі, бровы…

Баракамеру яна пераносіла мужна, нягледзячы на тое, што таксама баялася замкнёнай прасторы. Але Тоня папрасіла медсястру не адыходзіць ад камеры, калі яна ляжыць унутры. І тая заўсёды стаяла над Тоняй і праз шкло ўсміхалася ёй. Тоня на кожны сеанс прыносіла шакаладку і клала медсястры ў кішэню халата, тая штораз пярэчыла, але шакаладкі назад не выкладвала…

Іголкаўколванне было вельмі балючай працэдурай. Мануальны тэрапеўт калоў іголкі ў розныя, толькі яму вядомыя кропкі на твары — у брыво, у шчаку пад вокам, ля вуха, над верхнімі вуснамі… Адно толькі бачыць, як у цябе ўтыкаюць вострую іголку, ужо было страшна. Не дзіва, што мужчыны гэткай пакуты не вытрымалі. А яна вытрымала — у яе быў стымул…

Усе лячэбныя працэдуры праходзілі зранку. Пасля абеду ў шпіталі быў ціхі час. Суседка па двухмеснай палаце, куды пасялілі Тоню, Надзея Ігнатаўна, жонка адстаўнога палкоўніка, звычайна адпачывала, а Тоня выходзіла пагуляць у парк.

Ёй вельмі спадабаўся шпітальны парк, стары, добраўпарадкаваны, з шырокімі таполевымі алеямі, з дрэвамі, пабеленымі да сярэдзіны, з драўлянымі лавачкамі ўздоўж асфальтавых дарожак, з раскошнымі клумбамі, паўнюткімі featured рознакаляровых астраў, цыній, вяргіняў, браткаў… Тоня выбірала лавачку, садзілася і звычайна чытала. Але час ад часу яна закрывала кніжку і пачынала забаўляцца сваім абвостраным слыхам. Яна чула, як на супрацьлеглым дрэве паўзе жук, шкрабучы лапкамі па дрэве, і як гучна скаланае пялёсткі астры чмель, як цмокае смоўж, прыліпаючы да бардзюрнага каменя…

— Выкарыстоўвайце момант — пажывіце ў іншым вымярэнні, — сказаў Іван Іванавіч, калі Тоня падчас абходу падзялілася з ім сваімі ўражаннямі. — Вы цяпер можаце чуць гукі так абвострана, як іх чуюць звяры. У вас цяпер слых, як у сабакі…

На выходныя яе са шпіталя не адпусцілі. Іван Іванавіч і слухаць не хацеў, што ёй трэба дома наварыць на тыдзень есці, памыць бялізну дзецям і мужу.

— Вось-вось, вас, жанчын, толькі пусці дадому — вы ж усе выходныя ад пліты не адыдзеце і нават забудзеце, што трэба піць таблеткі. Нельга!

Разнерваваная, Тоня адразу ж патэлефанавала і паскардзілася мужу. Яна ўяўляла, колькі ў яго цяпер будзе клопату… Напэўна, Максім раззлуецца, ніколі ж сам не займаўся хатняй гаспадаркай, поўнасцю аддаваўся службе.

А Максім раптам падтрымаў доктара:

— Правільна, няма чаго хворай ездзіць туды-сюды, мы самі да цябе прыедзем!

Яны прыехалі ў нядзелю зранку. Прыехалі ўсе разам: муж, дачушкі і… Вера. Як адна дружная сям’я. Тоню здзівіла: колькі яны перагаворваліся па тэлефоне — і з Максімам, і з Верай, — ніхто з іх не абвясціў, што прыедуць да Тоні разам.

У іхнім аддзяленні толькі паснедалі. Санітарка яшчэ не паспела прыбраць брудны посуд з тумбачкі Надзеі Ігнатаўны, як дзверы расчыніліся і ў палату ўвайшлі сцішаныя Аленка, Інка, за імі — радасны Максім, а ззаду, усміхаючыся, пхнулася… Вера. Калі ў першую секунду, убачыўшы, як прыгожа апрануты і акуратна прычасаны дачушкі, Тоніна сэрца зайшлося ад радасці, то літаральна праз секунду ўсю яе працяў востры боль рэўнасці: яна зразумела, што дзяўчатак так апранула і прычасала суседка.

Аленка і Інка, засаромеўшыся ад незнаёмай абстаноўкі і ад прысутнасці чужога чалавека, Надзеі Ігнатаўны, моўчкі падышлі да маці. Тоня абняла іх, прыгарнула да сябе, пацалавала абедзвюх у галоўкі. Іх свежавымытыя валасы духмяна пахлі шампунем. Гэта быў не пах любімага Тонінага рамонкавага шампуню. Зноў кальнула сэрца: «Яна што, і дзяцей *маіх* купала?..» Але Тоня толькі ветліва ўсміхнулася ўсім.

Максім падышоў, пацалаваў у шчаку, сеў на крэсла ля яе ложка. «Не ў вусны… Не побач… Не абняў…» — Тоня гладзіла па галоўках дачушак, усміхалася мужу і Веры, а ўстрывожанае сэрца працягвала пасылаць свае колкія сігналы. Вера ж выкладвала на стол, які стаяў ля акна, прысмакі:

— Вось табе, сяброўка, катлеткі!.. Вось курка смажаная… Вось вітаміны — бананы, апельсіны… А гэта я табе пірог з макам спякла, як ты любіш… Любіш са смакам, га?..

Вера весела зарагатала, задаволеная сваім жартам. Тоні ж чамусьці хацелася плакаць. Яна не бачыла мужа і дзяцей амаль тыдзень. Яна так чакала іх прыезду, ёй так хацелася пабыць з дочкамі, пагаварыць сам-насам з Максімам, расказаць, як яна сумавала па іх, як ёй трывожна і з-за сваёй хваробы, і з-за таго, што яны адны там і таксама сумуюць па ёй. А цяпер зразумела, што яны не адны там і наўрад ці сумуюць. І ёй прыйдзецца цярпець побач чужога чалавека, і з-за гэтага даверлівай размовы з мужам не атрымаецца.

З другога боку Тоня добра разумела, што сяброўка дапамагае па яе ж, Тонінай, просьбе, і непрыгожа быць няўдзячнай і раздражняцца прысутнасцю Веры…

Яны ўсе пасядзелі на лаўцы ля ўвахода ў іхні, тэрапеўтычны, корпус, потым пагулялі па парку. Прычым старэйшая дачка хадзіла ўвесь час з Тоняй, а меншая спачатку была на бацькавых руках, а потым перасела на Верыны рукі. Тоня хацела яе забраць, але сяброўка не дала:

— Яна ж засынае, ці ты не бачыш?— сказала яна такім тонам, быццам асуджае.

Тоня нават хацела абурыцца, але ўбачыла, што малая, і сапраўды, хоча спаць.

Яны ўсе разам аднеслі дзяўчо ў машыну, паклалі на задняе сядзенне, прыкрылі тонкай блакітнай коўдрачкай. У гэтай коўдры Максім забіраў з раддома абедзвюх дачок. Калісьці купіў яе для старэйшай, спадзяваўся, што народзіцца сын, а нарадзілася Аленка. Алё ён прынцыпова не пайшоў у краму мяняць блакітную коўдру на чырвоную. Маўляў, на другое дзіця спатрэбіцца, другі раз ужо дакладна сын будзе! А нарадзілася Інка. І Інку муж забіраў у блакітнай коўдры. Сказаў: «Бог любіць тройцу…» Пасмяяліся, а між тым Тоня купіла новую коўдру, ружовую, а гэтую схавала ў шафе: а раптам спатрэбіцца?..

І вось дарагую ёй рэч асталі з шафы. Ну, канешне, дастала яна, новая гаспадыня. Няўжо без дазволу? Хаця, мо, і спытала Максіма, дык ці ж ён запярэчыць?

Яны пакінулі ў машыне разам з малой старэйшую дачку, а самі пайшлі ў палату забраць Тоніны рэчы, каб памыць іх дома ў пральнай машыне. Па дарозе Максім забег у буфет купіць дзецям вады.

— Ой, а гарадок наш проста гудзе! — сказала Вера, як толькі Максім знік за дзвярамі.

— Чаго гудзе? — не зразумела Тоня.

— Толькі і абмяркоўваюць тваю хваробу. Гавораць, што цябе напалову спаралізавала. Некаторыя спрачаюцца, кіне цяпер цябе Максім ці не кіне…

Тоня нават адхіснулася ад сяброўкі:

— Што значыць напалову паралізавала?.. Ты што, не можаш сказаць ім, што ў мяне на самай справе?..

— Ну, ці ж ім раты пазатыкаеш? Ты ж сама калісьці гаварыла, што ваенны гарадок — як каструля-хуткаварка: шчыльна закрытая, пастаянна пыхціць і ўсіх па чарзе пераварвае… Вось цяпер цябе ўсе «пераварваюць».

«Ну, дзякуй, сяброўка, суцешыла», — хацела сказаць Тоня, але ў гэты момант з буфета выйшаў Максім. У кожнай руцэ ён трымаў па літровай бутэльцы салодкай вады. «Здурнеў ці што? Ад салодкай вады малую ў машыне можа ванітаваць…» — падумала Тоня, але была так узрушана Верынымі словамі, што не хапіла сіл зрабіць мужу заўвагу яшчэ і з-за напітку.

Яны дайшлі да тэрапеўтычнага корпуса.

— Патрымай, — сказаў Максім і аддаў бутэлькі з вадой Веры, тая моўчкі і спакойна іх узяла.

Нічога асаблівага не адбылося: Максім проста аддаў бутэлькі, Вера проста іх узяла… Але ў гэтым кароткім дзеянні было столькі паразумення і згоды! Так, з першага слова і без залішніх пытанняў разумеюць адно аднаго толькі вельмі блізкія людзі. «Божачка, я зараз звар'яцею! — падумала Тоня. — Не, гэта мне ўсё здаецца… Гэта я сама сябе накручваю…»

Яна пайшла ў корпус. Максім за ёй. Вера з бутэлькамі засталася на ганку… У палаце Тоня хуценька сабрала ў цэлафанавы пакет сваю бялізну, футболку, начную сарочку…

— Толькі сам памый у пральнай машыне, — сказала яна Максіму.

— А хто ж яшчэ?.. — здзіўлена паціснуў плячамі Максім.

Не скажаш жа яму: глядзі толькі, каб суседка ў маёй бруднай бялізне не корпалася!..

Тоня давяла яго да ліфта. Тым часам хворых паклікалі на абед.

— Ну, ідзі ўжо ў сталоўку! — сказаў ёй муж і націснуў кропку ліфта.

— А ты — да машыны: там жа дзеці адны! — сказала Тоня.

Прыехаў ліфт. Максім хуценька цмокнуў яе ў шчаку і ўвайшоў у кабінку. Дзверы зачыніліся…

Тоня прайшла праз хол і выйшла на балкон. Яна нахілілася і стала глядзець з іхняга, чацвёртага, паверха ўніз. На ганку нікога не было. Раптам унізе бразнулі ўваходныя дзверы.

І раптам Тоня пачула галасы.

— Ну што, ты сказаў ёй?

— Што?..

— Ты сам добра ведаеш што!..

— Я нічога не буду ёй гаварыць! Яна цяпер хворая!

— Яна цяпер да канца жыцця будзе такая хворая!.. Ну, чаго маўчыш?!. Няўжо пашкадаваў крывую?..

— Замаўчы, што ты гаворыш?!.

— Крывая і ёсць! Ну, і жыві з ёй, раз ты такі! Ты толькі такую жонку і заслугоўваеш!

Тоня спачатку не разумела, хто гэта і на якім балконе сварыцца. І тут да яе дайшло, што гэта галасы… мужа і Веры, яны сварацца на ганку, пад казырком,

стоячы ля ўваходных дзвярэй. Але ж немагчыма з чацвёртага паверха пачуць тых, хто размаўляе на ганку, тым больш, пад казырком. І раптам Тоню як кіпенем апякло: сабачы слых! Спрацаваў яе сабачы слых!

А ў гэты ж момант Максім і Вера выйшлі з-пад казырка. Тоня прысела, схавалася на балконе. Праз дзірку пад поручнямі яна бачыла, як муж і сяброўка пайшлі да машыны. Максім азірнуўся, глянуў на вокны корпуса. Вера ж ішла спакойна, быццам паміж ёй і Максімам не было ніякай сваркі. А можа, і не было?.. Можа, ёй усё падалося?.. Можа, Тоню падвёў яе сабачы слых?..

Тоня без настрою паабедала і ўся ў трывожных думках прыйшла ў палату. Надзея Ігнатаўна таксама паела і ўжо ляжала на ложку на баку, падклаўшы пад шчаку далонь. Тоня таксама лягла. Міжволі ўздыхнула.

— Хто гэта з тваім мужам прыязджаў? — спытала суседка па палаце.

— Сяброўка, — адказала Тоня.

— Ці не на сяброўку ты мужа свайго пакінула? — Надзея Ігнатаўна ўзнялася і села на ложку. — І галавы ты не мела, дзеўка! Якія могуць быць сяброўкі ў замужняй жанчыны! Ды яшчэ такія прыгожыя і нахабныя!

— Чаму нахабныя?..

— Таму нахабныя, што, каб я не ведала, то, мусіць, не разабралася б, хто з вас дзвюх — ягоная жонка. Толькі не крыўдуй, бо я праўду кажу. Ідзі на пошту і тэлефануй маці: няхай яна тэрмінова едзе ўнукаў даглядаць! А то, бач, яны не схацелі бацькоў турбаваць! Яшчэ наробіце старым і не такога клопату!..

Тоня і сама ўжо вырашыла так зрабіць…

Яшчэ тыдзень прайшоў: працэдуры, лячэбная гімнастыка, іголкаўколванне, баракамера, фізіяпрацэдуры… Дзень звычайна мінаўся хутка, а вось уночы Тоня заставалася са сваімі думкамі сам-насам. Яна ляжала ў паўцёмнай палаце, у якую ледзь прабівалася святло праз белыя шкляныя дзверы, і корпалася ў сваёй памяці, успамінала ўсе дробязі ў іхнім сяброўстве з Верай. Успамінала ад таго дня, як яны прыехалі ў ваенны гарадок і як увечар Вера прыйшла да іх з яшчэ гарачым пірагом, каб пазнаёміцца. Тады гэта так спадабалася ім абаім — і Тоні, і Максіму. Трэба ж, які клопат!.. З таго дня яны і сталі хадзіць адна да адной па-суседску — то хлеб, то запалак, то па яшчэ якой патрэбе. А потым, калі ўжо добра пасябравалі, пачалі штодзённа збірацца на каву. Гэта ў іх нават стала своеасаблівым рытуалам. Без сумеснай кавы і ранішніх перамоў дзень не атрымліваўся — жартавалі яны. Праўда, часцей збіраліся ў Тоні: муж Веры чамусьці быў не надта задаволены іхнім сяброўствам. Вера смяялася: раўнуе!.. Тоня таксама смяялася: да каго тут раўнаваць — Максім жа ўвесь час на службе, прыходзіць позна і стомлены?!.

З часам Вера быццам прапісалася ў іх. Яна служыла радавой на станцыі, хадзіла на дзяжурствы па графіку: дзень-ноч, два дні дома, і гэта было так зручна не толькі для самой Веры, але і для Тоні. Яна часта пакідала на суседку малых, а сама ездзіла ў горад па справах — да доктара, у крамы, на базар… Ці ж дзіва, што Вера поўнасцю асвоілася ў іх сям'і?..

З закуткаў памяці Тоня «выцягвала» такія выпадкі, якім у свой час яна проста не надала значэння.

Аднойчы яны, дзве сям'і, разам адзначалі нейкае свята. Тоня ўжо пад канец застолля прыбрала талеркі і пайшла на кухню па торт. Там аб чымсьці ўсхвалявана размаўлялі Максім з Верай, і калі Тоня зайшла, яны раптам змоўклі. Тоню гэта вельмі здзівіла.

— Што здарылася? Вы сварыцеся?.. — спытала яна.

— Не, табе падалося…

У другі раз, таксама падчас нейкага сумеснага свята (ці не залішне было гэтых сумесных свят у іх жыцці?), яна пайшла ўкладваць спаць дачушак, праз нейкі час вярнулася ў залу і ўбачыла, што Максім і Вера, абое, ляжаць упоперак канапы, адкінуўшыся галовамі на спінку, і глядзяць тэлевізар, а Верынага ж мужа нідзе няма. І тады ў Тоні ўпершыню кальнула сэрца: занадта блізка яны ляжалі адно да аднаго, неяк… інтымна… Але яна прагнала прэч ад сябе гэтую думку, маўляў, я вышэй за ўсялякую дурную рэўнасць… Цяпер жа Тоня добра разумела, што сэрцу і інтуіцыі трэба было верыць…

— Ну, чаго ты кідаешся па падушцы? — незадаволена прабурчала са свайго ложка суседка. — І сама не спіш, і мне не даеш. Я ж табе сказала — выклікай маці дзяцей даглядаць, а чужую жанчыну з сям'і гані!..

Тоня прамаўчала — прыкінулася быццам спіць…

У суботу разам з Максімам і дзецьмі прыехала маці. Яна расплакалася, убачыўшы Тоню:

— А мая ты дачушка!.. А хто ж цябе так сурочыў!..

— Мама, ну што за глупствы?!. — сказала Тоня, абдымаючы маці. Але неяк не надта ўпэўнена сказала…

Яны амаль увесь час правялі ў шпітальным парку, на лавачцы. Дзяўчаткі ад Тоні не адыходзілі — так насумаваліся па маці. Туліліся да яе, сядзелі і ляжалі па чарзе на яе каленях. Тоня гладзіла іхнія галоўкі, пераплятала ім коскі, якія не надта ўмела запляла маці. Вось толькі пах шампуню ніяк не змагла распазнаць…

— Вы купалі дзяцей? — спытала яна.

— Ой, не было калі яшчэ, учора толькі прыехала, — збянтэжана адказала маці.— Вось сёння субота — сёння і выкупаю абедзвюх!

— Добра! — Тоня ў душы ўзрадавалася, што саперніца не дакранàлася да яе дзетак. — Там, у ваннай, на палічцы, рамонкавы шампунь стаіць. Ім і памый галовы дзяўчаткам — тады ў іх валасікі бы шаўковыя стануць…

— Добра, памыю рамонкавым…

Максім амаль увесь час маўчаў, а Тоня і сама да яго не загаворвала, каб не сказаць лішняга. Яна потым усё яму скажа…

Усё: і пра тое, што яна, выпускніца з чырвоным універсітэцкім дыпломам, вымушана жыць у маленькім ваенным гарадку, сярод лесу, што, маючы спецыяльнасць «перакладчык з англійскай і сербскай моў», яна працуе нават не настаўнікам, а аператарам водапомпавай станцыі, што за дзесяць гадоў службы ў іх было чатыры пераезды і пяць кватэр, што ў дзяцей няма нармальнага садка з рознымі гурткамі для развіцця, што іх старыя бацькі не бачаць унукаў, і што… І што яна ніколі не толькі не папікнула яго гэтым, але нават была вельмі-вельмі шчаслівай… А ён…

Уначы Тоня вырашыла: яна патрэбна сваім дзецям любая — прыгожая ці крываротая, галоўнае, каб здаровая, таму ёй трэба вылечыцца і вярнуцца да дзяцей. А ўсе астатнія трывогі — прэч!

«Вярнуся — тады і разбяруся!»— з гэтай думкай жанчына і заснула.

Праз месяц Тоню выпісалі са шпіталя. Вока яе даўно ўжо перастала слязіцца, але рот па-ранейшаму быў крыху скрыўлены. Затое шчака ўжо не была такая змярцвелая, а вусны нават крыху пачалі складвацца ў трубачку.

— Значыць, так, — сказаў Іван Іванавіч, падпісваючы ёй эпікрыз. — Штодзень зарадка для твару, кампрэсы з гарачым парафінам і цалавацца, цалавацца, цалавацца!..

— А цалавацца навошта? — здзіўлена спытала Тоня.

— А пацалункі — гэта найлепшая зарадка для мышцаў твару, — сур'ёзна адказаў Іван Іванавіч.

— Ёсць, цалавацца, цалавацца і цалавацца! — Максім, усміхаючыся, жартаўліва прыклаў далонь да галавы.

Ён прыехаў вясёлы і, пакуль Тоня збіралася ў палаце на выпіску, усё расказваў пра дачок і пра тое, як старэйшая пайшла 1 верасня ў школу.

— Цешча ёй такія банты накруціла і такі букет купіла, што на школьнай лінейцы Ленка самая прыгожая была! Добра, што ты выпісваешся, дзяўчаты так цябе чакаюць!

Ложак Надзеі Ігнатаўны быў пусты, суседка напярэдадні выпісалася, і Тоня пашкадавала, што тая не чуе Максімавых слоў.

— А ты таксама радуешся? — раптам вырвалася ў яе.

— Вядома, — адказаў ён і здзіўлена глянуў на жонку.

— А што ты мне хацеў расказаць ды адклаў на потым… з-за маёй хваробы?

Тоня разумела, што ёй не трэба было пачынаць гэтую размову, але гаворка сама сабой распачалася…

— Што я хацеў расказаць?.. Калі?..— Максім здзіўлена паглядзеў на яе.

— Тады… Калі вы першы раз з Верай да мяне прыязджалі…

— Нічога я не хацеў табе расказаць… Не было такога…

— Можа, і Веры, скажаш, не было? — сказала Тоня са злой іроніяй.

Максім пачырванеў. Ён зразумеў сэнс, які яна ўклала ў гэтыя словы.

— І Веры не было, — адказаў Максім, гледзячы ёй у вочы.

— Ну, як жа не было, калі яна ёсць?! — Тоня засмяялася, быццам пераводзячы размову на жарт, але ёй па-сапраўднаму ад слоў мужа палягчэла.

— Няма тваёй Веры, — адказаў Максім. — Валодзя ў іншы гарадок перавёўся служыць, яны памірыліся і паехалі разам. Нават кватэру здалі…

Вось гэта навіна! Больш за ўсё Тоню ўразіла, што Вера нават не прыехала развітацца. Якая-ніякая, а ўсё ж такі сяброўка была…

— Нават не развіталася, — паўтарыла Тоня ўслых.

— А ну яе! — сказаў Максім. — Якая яна табе сяброўка?! Увесь час чаплялася да мяне: то мужа на лепшае месца перавядзі, то заробку ёй дадай… Яна не проста так да нас хадзіла.

— Канешне, не так проста…

Тоня хацела сказаць, што яна ўсё ведае, што ўсё чула. Хаця, якая цяпер розніца, што яна тады чула. Ды і раптам гэта ўсё ёй падалося?..

Максім абняў яе, прыгарнуў да сябе і, гледзячы ў вочы, спытаў:

— Што доктар прызначыў?.. Цалавацца, цалавацца і цалавацца! Ну, дык прызначэнне доктара трэба выконваць! — і пацалаваў Тоню ў яе непаслухмяныя пасля хваробы вусны.

І вусны паслухаліся…

…Ну, канешне, Тоня, табе ўсё падалося!..





Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

# ЧУЖЫНЫ ЗОРКАМ НЕ СУРОЧЫЦЬ

## БЕЛАРУСІ

О, Беларусь, — мая краіна,
Мой ад калін чырвоны кут.
Мне медунічна і палынна
Было ў дзяцінстве колісь тут.

І зараз сонечна і хмарна
Бывае ў роднай старане.
Ў чырвоны кут пасадзіш, —
Як госця лепшага, мяне.

О, Беларусь, — мая Айчына,
Праз вёрсты, месяцы, гады,
Такімі добрымі вачыма
Ты на мяне глядзіш заўжды.

Чужыны зоркам не сурочыць
Мяне, з дарогі не звярнуць…
Каб толькі мне радзіме ў вочы
Было не сорамна зірнуць…

О, Беларусь, — мая краіна,
Мой ад рабін чырвоны кут.
Мне медунічна і палынна
Было ў юнацтве колісь тут.

---

*__Валодзька Станіслаў Віктаравіч__ нарадзіўся 11 лістапада 1956 года ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1987). Працаваў на чыгунцы. Цяпер жыве і працуе ў Даўгаўпілсе (Латвія).*

*Аўтар паэтычных кніг «У вачах Айчыны» (1996), «Памяці гаючая трава» (2000) і інш.*

*Узнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «За ўклад у развіццё культуры Беларусі».*

Каб толькі сонечна, — не хмарна
Было у роднай старане.
Ў чырвоны кут пасадзіш, — мару,
Як госця лепшага, мяне.

## ДЗЯЎЧЫНКА

Па зямлі ідзе дзяўчынка
Донечка чыясь, сястрычка.
У вачах яе іскрынкі,
Галасок журчыць крынічкай.

І ў грудзях пташынкай пеўчай
Яе сэрцайка трапеча,
Бо вясновы цёплы вечар
Штосьці ёй на вушка шэпча.

І світанак рукі цягне —
Запрасіць яе на танец.
Гэта горкае дзіцятка
Для каго мядовай стане?

Ёй бы ведаць, што сяброўка
Яе лепшая — падушка,
Каб затым не плакаць горка,
Каб пасля журбу не гушкаць!

Ой, дзяўчыначка, дзяўчынка,
Як па кладачцы па тонкай, —
Давядзецца йсці, магчыма,
Будзь як стройнай, так і стойкай!

* * *

Ў тваёй высакароднай старане
Мне доля усміхнулася так міла.
Прыхільная жытамі да мяне,
Мяне твая радзіма ўсынавіла.

Хоць даражэй няма кута свайго,
Ды і цябе мой край не адпускае.
Ты любіш кветкі, даль маіх лугоў,
І майму гаю радасна гукаеш!..

Твая радзіма шчодра, як мая,
Нам дорыць зорных мараў пералівы.
Як часам ты — маю,
таксама я
Тваю радзімку цалаваць шчаслівы…

# КАЛМЫКІЯ І БЕЛАРУСЬ — ДВА СУСВЕТЫ МІХАІЛА ХОНІНАВА

*Рыма Ханінава — вучоны-літаратуразнавец, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры на філалагічным факультэце Калмыцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Паэт. Перакладчык. Піша на рускай і калмыцкай мовах. І — дачка паэта-франтавіка, беларускага партызана Міхаіла Хонінава. Прадстаўляючы яго апавяданне ў часопісе «Полымя», мы вырашылі задаць некалькі пытанняў Рыме Міхайлаўне.*

**— Рыма, імя Міхаіла Хонінава добра вядома ў Беларусі… Як партызана, як пісьменніка, які сябраваў з беларускімі калегамі-літаратарамі, як паэта, якога досыць часта перакладалі на беларускую мову. Як вы лічыце, што можа сказаць сённяшняму чытачу Беларусі новы зварот да творчасці Міхаіла Хонінава?**

— Перш-наперш хачу падзякаваць беларускім сябрам за ўвагу да жыцця і творчасці Міхаіла Хонінава. Трыццаць тры гады яго няма з намі, а гэта, па канцэпцыі Веліміра Хлебнікава, ёсць змена аднаго пакалення. Таго пакалення, якое асабіста ведала майго бацьку, сябравала з ім, стасавалася ў творчасці, а ў час Вялікай Айчыннай вайны ваявала супраць фашызму плячом да пляча, пакалення, якое дало яму легендарнае імя — Міша Чорны. Яго сучаснікі, тыя, хто раней ведаў паэта, адкрыюць для сябе новага Хонінава — шмат друкуецца мною з сямейнага архіва, перакладаецца. А новыя пакаленні даведаюцца, чыё імя носяць вуліцы ў беларускіх гарадах Беразіно і Клічаў, чые дакументы і фотаздымкі знаходзяцца ў Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны, хто назваў Беларусь сваёй другой радзімай, апеў як верны сын яе ў прозе і паэзіі. Час, як правіла, справядліва адсейвае падманлівае, фальшывае, захоўвае сапраўднае. Нашы гістарычныя сувязі вытрымалі праверку часам, нягледзячы на ўсе складанасці.

**— Відаць, ніводны з пісьменнікаў Калмыкіі не прадстаўлены на беларускай мове ў такім аб'ёме, як Міхаіл Хонінаў: шматлікія публікацыі ў перыёдыцы, два паэтычныя зборнікі, выдадзеныя ў Мінску… І ўсё ж: што, на ваш погляд, варта было б яшчэ перакласці? Якім асабіста вам бачыцца будучае выданне твораў Хонінава ў Беларусі?**

— Цалкам згодна з вамі. Паняцці Міхаіл Хонінаў — Міша Чорны — Беларусь складаюць непадзельную трыяду. У нас, у Калмыкіі, Міхаіл Хонінаў і Беларусь звязаны перш за ўсё з ваенным перыядам, а таксама з беларускай тэмай у творчасці бацькі.

Калі ў Элісце ў 1970-я гады выйшаў калектыўны зборнік «Маці мая, Беларусь», поруч з вершамі беларускіх паэтаў знайшлі месца і вершы бацькі. Знакаміты верш «Маці з Беразіны», прысвечаны Праскоў'і Андрэеўне Віліткевіч з вёскі Месціна, якая выратавала бацьку, які вырваўся са смаленскага акружэння, чытаўся заўсёды ім на кожнай сустрэчы з чытачамі. У верасні 1944 года, пасля вызвалення Беларусі, ён быў дэмабілізаваны з арміі ў званні лейтэнанта і прабыў трынаццаць гадоў у Сібіры, у перыяд сталінскіх рэпрэсій, калі калмыцкі народ быў няспраўядліва дэпарціраваны. У 1957 годзе пасля вяртання на радзіму ўзнавіліся яго кантакты з беларусамі. З 1960 года і да канца жыцця ён часта бываў на беларускай зямлі, сустракаўся з баявымі таварышамі, калегамі, браў з сабою жонку і малодшага сына. У сямейным архіве беражліва захоўваецца перыёдыка з яго інтэрв'ю, успамінамі, вершамі і прозай у перакладах на рускую і беларускую мовы. Асабліва цікавымі падаюцца нататкі і нарысы журналістаў пра сустрэчы Мішы Чорнага са сваімі вернымі пабрацімамі і жыхарамі тых вёсак, якія ён выратаваў ад пагібелі, а іх жыхароў — ад катаванняў ці адпраўкі на чужыну за дапамогу партызанам. Газетныя здымкі таго часу перадаюць радасць і шчасце агульных стасункаў, яны занатавалі душэўную атмасферу, здаецца, што чуеш нават галасы скрозь час. Гэта не пастановачныя арганізаваныя кадры, а само жыццё — шчырае, адкрытае, напоўненае ўзаемнае павагі і любові.

Бацька вельмі ганарыўся двума мінскімі зборнікамі, якія складзены з перакладаў яго вершаў сябрамі-паэтамі, сярод іх, напрыклад, Максім Танк, Сяргей Грахоўскі, Рыгор Барадулін, Аляксей Пысін. Калі «Хвоі і цюльпаны» пераклалі дзясятак паэтаў, то «Журавы над стэпам» — адзін Аляксей Пысін. Бацька пайшоў з жыцця 22 верасня, а летам даведаўся пра смерць гэтага сябра і быў вельмі азмрочаны. Нядаўна ў Маскве ў другім томе збору твораў Пысіна (здаецца, год выдання — 1989) я ўбачыла перавыданне гэтых перакладаў з «Журавоў…» — і была вельмі рада такой сустрэчы. А таксама — уразіў сумесны здымак перакладчыка і паэта з жонкай, калі бацька быў у Магілёве ў 1979 годзе ў сувязі са сваім шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння. У нас у Калмыкіі няма гэтага здымка.

У «Магілёўскай праўдзе» на беларускай мове ў скарачэнні друкавалася дакументальная аповесць Хонінава «Міша Чорны — гэта я!». Меркавалася асобнае кніжнае выданне гэтага твора. Але па нейкіх прычынах пры жыцці бацькі аповесць у Беларусі не была выдадзена. І гэта засмуціла пісьменніка. Размова ж у творы не толькі пра яго самога, але і пра яго партызанскіх паплечнікаў — Аляксандра Дзямідава, Міхаіла Альшэўскага, Рамана Шчарбакова, Пятра Казлова і іншых. Гэтая кніга на рускай мове ў 1976 годзе выйшла ў «Бібліятэчцы часопіса «Огонёк» і выклікала вялікі рэзананс. Аб гэтым можна меркаваць і па вучэбным дапаможніку «Творчасць Міхаіла Хонінава ў аспекце літаратурнай крытыкі», які ў хуткім часе пабачыць свет у выдавецтве Калмыцкага ўніверсітэта. Тут мною сабраны ўсе рэцэнзіі на кнігі бацькі на чатырох мовах: калмыцкай, рускай, украінскай і беларускай. Яго творы на ваенную тэму мелі мноства водгукаў у друку. Там ёсць і рэцэнзіі беларускіх сяброў — Уладзіміра Ліпскага, Аляксея Гардзіцкага, Аляксея Пысіна, Леаніда Сузіна.

У мінулым годзе 1 студзеня споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Хонінава. Пазалетась я выпусціла манаграфію пра бацьку «Мець лёс не проста…», а яшчэ раней — тры манаграфіі, адна з іх у суаўтарстве з сястрой Эльзай.

Сёлета з падтрымкай беларускіх калег я распачала падрыхтоўку да збірання новай «беларускай» кнігі Міхаіла Хонінава. Пад адной вокладкай будуць змешчаны новыя пераклады паэзіі і прозы, у тым ліку — і дакументальная аповесць «Міша Чорны — гэта я!». Рыхтую зараз падрадкоўнікі вершаў для гэтага праекта. Мяркую, што трэба звярнуцца да артыкулаў пра жыццё і творчасць бацькі, аўтарамі якіх з'яўляюцца Пятрусь Броўка, Аляксей Пысін, Васіль Матэвушаў, уключыць некалькі згаданых рэцэнзій. А таксама — беларускія інтэрв'ю Міхаіла Хонінава, яго ўспаміны, нататкі, фрагменты пісьмаў, напрыклад, Максіма Танка, каб болей шырока і болей разнастайна паказаць узаемныя літаратурныя кантакты. Зразумела, варта даць у новай кнізе і здымкі розных гадоў, зробленыя ў Беларусі. Хочацца, каб дзеці і ўнукі бацькавых сяброў, якія прачытаюць гэту кнігу, ганарыліся б сваімі славутымі прашчурамі.

**— Лёс Хонінава ваенных гадоў наклаў своеасаблівую пячатку на яго творчасць, на ўсё наступнае жыццё. Чым увогуле была Беларусь для вашага бацькі? Як часта ён успамінаў партызанскія гады ў нашай старонцы?**

— Лёс Міхаіла Хонінава, як пісаў яму Максім Танк, калі звязаць яго з лёсам народа, грандыёзнейшы за многія сусветныя эпапеі. Мяркуйце самі. З васьмі дзяцей у яго сям'і выжыла пяцёра, ён быў малодшым. Разам са старэйшым братам Ліджы яны вучыліся ў Калмыцкім тэхнікуме мастацтваў у Астрахані на акцёрскім аддзяленні, сталі першаадкрывальнікамі Калмыцкага драматычнага тэатра, абодва пісалі вершы. Ліджы быў прызваны ў войска ў 1938, бацька — у 1939 годзе. З вайны з чатырох братоў вярнуліся двое, астатнія загінулі. З кастрычніка 1939 года бацька служыў у Забайкальскай ваеннай акрузе, быў камандзірам снайперскага ўзвода. Малодшым лейтэнантам сустрэў вестку пра вайну ў Ташкенце. Яго полк перадыслацыравалі на Захад. 10 ліпеня 1941 года ён удзельнічаў у баях за гарады Дзямідаў і Смаленск. Пасля акружэння ваяваў у партызанскіх атрадах на смаленскай і беларускай землях. Яго роту фашысты называлі дзікай дывізіяй, а за яго галаву давалі 10 тысяч акупацыйных марак. Ён ваяваў на Міншчыне і Магілёўшчыне. Пасля вайны стаў ганаровым грамадзянінам горада Беразіно.

Бацька не быў дома шэсць гадоў, а вярнуўся ў Сібір, дзе тады знаходзілася яго сям'я. У верасні 1944 года ён піша пісьмо пад назвай «Бывай, родны стэп!», у якім спрабуе разабрацца ў прычынах сталінскага генацыду, імкнецца заступіцца за праўду. Гэта пісьмо зараз знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Калмыкія. Захоўваў той ліст усю ссылку, нягледзячы на магчымыя суровыя наступствы. Тэме дэпартацыі бацька прысвяціў забароненую паэму «Мой шлях», якую пасля яго смерці ўжо я надрукавала як вернуты да жыцця твор, спярша — у арыгінале, а затым пераклала на рускую мову. Вялікае месца ў паэме займае ваенная тэма, звязаная з Беларуссю. Як я ўжо гаварыла, бацька вершы пісаў да вайны, яго літаратурны дэбют адбыўся ў 1935 годзе. Але, зразумела, сапраўдным пісьменнікам яго зрабіла вайна. Калі параўноўваць яго даваенныя вершы з характэрнымі назвамі «Абараняй Радзіму!», «Ваенны марш», «Пагранічнік», «Старшаму брату», можна пераканацца ў тым, наколькі патрыятычная скіраванасць была для яго арганічнай і цэльнай. Ён не адступіўся ад сваіх слоў ні ў жыцці, ні ў творчасці наступных гадоў. Міхаіл Матусоўскі назваў яго калмыцкім Дзянісам Давыдавым.

**— «Я не паэт, я — партызан…» Гэтыя словы Дзяніса Давыдава, відаць, у памяці многіх чытачоў… І чытаюцца гэтыя радкі з асаблівым суперажываннем, калі зазіраеш у лёс партызанскага паэта з Айчыннай вайны 1812 года…**

— І Міхаіл Хонінаў — паэт з вайны. Вялікая Айчынная з усім яе драматызмам — аснова, закладзеная ў яго светапогляд…

У адрозненне ад Данііла Граніна, які толькі на сыходзе жыццёвых гадоў напісаў кнігу пра вайну, Міхаіл Хонінаў лічыў сваім абавязкам адлюстраваць гісторыю ў тварах і падзеях, каб не паўтарылася трагедыя, каб помнілі тых, хто пайшоў з жыцця, баронячы Айчыну. У Калмыкіі такая пазіцыя іншымі заўзятымі дзеячамі ад улады і літаратуры была ўспрынята як самаўсхваленне, яго абвінавачвалі ў нясціпласці, аўтабіяграфічнасці твораў і іншых «грахах».

**— Здаецца, якраз шчырасць, аўтабіяграфічнасць збліжаюць пісьменніка з чытачом, дапамагаюць усталявацца даверу… Калі біяграфія, біяграфічны матэрыял займаюць асноўнае месца, тады, відаць, і шчырасці дадаецца, перажыванні героя падаюцца сапраўднымі. І падзеі, і псіхалогія паводзін персанажаў — усё набывае зусім іншае гучанне. У літаратуразнаўстве гэтаму аддадзены доказныя і аргументаваныя абгрунтаванні…**

— А шмат хто думаў, меркаваў іначай. Спрачаючыся з такімі ацэнкамі, ён і аповесці пра партызанскія гады даў такую дэманстратыўную назву. У яго рамане «Памятаеш, зямля смаленская...» героя завуць Мутул Хонieў. У рамане ёсць і старонкі беларускага перыяду яго жыцця. Пасля таго, як бацька пайшоў у іншы свет, была надрукавана яго дакументальная аповесць «Бітва працягваецца», і ў гэтым творы таксама гучыць беларуская тэма. Не толькі вершы, не толькі паэмы, прысвечаныя мінулай вайне — «Званы Хатыні», «Мой райкам», а таксама вершаваная аповесць «Не страляйце ў радзіму маю», не перакладзеная на рускую мову паэма «Ніна Рак — беларуска», але і апавяданні, як напрыклад, «Як я быў канакрадам», нарысы. Ён нам, дзецям, шмат расказваў пра Беларусь, ды так выразна, што мы завочна палюбілі вашу старонку. Мы чыталі кнігі беларускіх аўтараў, якія і зараз ёсць у нашай бібліятэцы. Разглядвалі фотаздымкі з бацькавых паездак па Беларусі. Слухалі і спявалі беларускія песні. Любімым ансамблем бацькі былі «Песняры» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна, любімай песняй «Беларусь» («Белоруссия») Ігара Лучанка. У нас і зараз захоўваюцца падараваныя бацьку выразаныя беларускім майстрам з дрэва шахматы, фігуркі там «апранутыя» ў нацыянальныя касцюмы.

Пры жыцці бацьку прысвяцілі вершы, паэмы, нарысы, дакументальную і мастацкую аповесці, п’есу. Іх аўтары — Аляксандр Дзямідаў, Міхаіл Дудзін, Андрэй Дугінец, Мікалай Палівін, Уладзімір Міханоўскі, Шыраб Німбу Цыдэнжапаў і іншыя — людзі і майстры слова розных нацыянальнасцей, узростаў. Але ўсіх аб’ядноўвала перакананасць у вартасцях ідэалаў таварыства, замацаванага крывёю ў барацьбе за свабоду радзімы, перакананасць у тым, што грамадства патрэбна выхоўваць на прыкладах сумленных і мужных людзей. Некаторыя са згаданых пісьменнікаў, публіцыстаў ваявалі, у тым ліку поруч з Міхаілам Хонінавым. І яны ведалі цану таго, пра што пісалі.

Беларусь сапраўды стала другой радзімай Міхаілу Хонінаву. Ён заўсёды прыязджаў ад вас як быццам насычаны, падсілкаваны любоўю і павагай дарагіх яму людзей. Мне здаецца, што болей за ўсё ў жыцці ён шанаваў гэтую повязь. У сябе, на радзіме, ён часта сутыкаўся з нядобразычлівасцю, праследваннямі, даносамі, што, канешне ж, скараціла яму жыццё.

**— У пасляваенныя гады не аднойчы ўзнімалася пытанне, каб прысвоіць Міхаілу Хонінаву званне Героя Савецкага Саюза. Раскажыце, калі ласка, пра гэта болей падрабязна...**

— Бацька заўсёды даражыў тым, што яго ведаюць не толькі як Міхаіла Хонінава, але — і як Мішу Чорнага. На яго надмагіллі гэтыя імёны — побач. Як і было на самай справе пры жыцці. У 1957 годзе яго былыя партызанскія камандзіры Савелій Герасімавіч Сідарэнка, Пётр Антонавіч Віліткевіч, Раман Іванавіч Шчарбакоў пісьмова звярнуліся ў Калмыцкі абкам КПСС з просьбай хадайнічаць аб прысваенні М. Хонінаву звання Героя Савецкага Саюза. Да свайго звароту прыклалі дастаткова красамоўныя баявыя характарыстыкі. Падкрэсліваю, адбылося гэта адразу пасля вяртання на радзіму калмыцкага народа, які быў абвінавачаны ў здрадзе ў гады мінулай вайны, сасланы навечна. Гэта ж як трэба было верыць у гістарычную справядлівасць і ў адносінах да народа, і ў адносінах да яго прадстаўніка, якую трэба было мець уласную грамадзянскую і патрыятычную пазіцыю, каб праявіць такую вось рашучасць. А яшчэ за два гады да гэтага ў літоўскім альманаху былы камандзір Хонінава Аляксандр Дзямідаў надрукаваў споведзь «Сямнаццаць дзён у акружэнні (Запіскі партызана)». Адным з галоўных герояў быў бацька, які патрапіў у акружэнне разам з Дзямідавым і іншымі. У споведзі ішла размова пра баі ў Хачынскім лесе, дзе штодня адбівалі па 9-10 атак... А Міхаіл Хонінаў у час публікацыі знаходзіўся ў Сібіры. Можна толькі здагадвацца, якіх наступстваў такая публікацыя магла б каштаваць... Дык вось дакументам, якія не пайшлі ў Маскву, было перакрыта «зялёнае святло» з-за складаных адносін бацькі з партыйнай наменклатурай Калмыкіі. Другі раз, да 20-годдзя Вялікай Перамогі, цяпер ужо Праўленне Саюза пісьменнікаў Калмыкіі на чале з Давідам Кугульцінавым хадайнічала пра высокае званне Міхаілу Хонінаву, тады працэдуру мясцовая ўлада, верагодна, наўмысна зацягнула, ва ўсялякім выпадку, адпаведныя дакументы патрапілі ў Маскву позна, дата прайшла. А вось другога калмыка, які партызаніў на Браншчыне, тады ж узнагародзілі.

Спрабавалі і трэці раз, у пачатку 1990-х гадоў, прадстаўлялі цяпер ужо на званне Героя Расіі, але прыйшла з Масквы адпіска — маўляў, пасмяротна не даюць...

Землякі ж лічаць Міхаіла Хонінава народным героем, хаця шкадуюць, што няма афіцыйнага пацвярджэння. Зараз спрабуюць у чацвёрты раз аднавіць справядлівасць у гэтых адносінах. Ужо ёсць вялікая публіцыстыка на гэтую тэму ў нашай рэспубліцы.

**— Паэма Міхаіла Хонінава пра Хатынь... Наколькі значнай яна ўяўляецца ў кантэксце ўсёй яго творчасці?..**

— Паэму пра Хатынь Міхаіл Хонінаў задумаў даўно. У 1969 годзе ён разам з жонкай быў запрошаны на адкрыццё мемарыяльнага комплексу ў Хатыні. Тады ж у адным інтэрв’ю беларускаму паэту і публіцысту Антону Бялевічу ён расказаў пра сваю творчую задумку.

**— Бялевіч адным з першых напісаў невялікую публіцыстычную кнігу пра Хатынь — «Хатынь: боль і гнеў» (1971 год). Яна выйшла і ў Маскве масавым тыражом…**

— На рускую мову паэму Міхаіла Хонінава пераклаў маскоўскі паэт-франтавік Аляксандр Мікалаеў, які таксама ваяваў у Беларусі. У бацькі быў, кажучы сучаснай мовай, такі творчы праект — трыпціх пра спаленыя вёскі Лідзіцу, Сонгмі, Хатынь. У 1975 годзе ён пабываў у В’етнаме. Але створана была толькі першая частка — «Званы Хатыні». У сваім творы ён піша пра тое, што быў знаёмы з жыхарамі гэтай беларускай вёскі, якую карнікі спалілі разам з жыхарамі. У мяне ёсць артыкул на тэму Хатыні ў творчасці Міхаіла Хонінава і Давіда Кугульцінава, які прысвяціў гэтай трагедыі верш «Хатынь».

**— Між іншым, да тэмы Хатыні Міхаіл Хонінаў падыходзіў не аднойчы… З верша «Трэцяга ліпеня» хацелася б нагадаць наступныя радкі: «Стены швыряют / Свои кирпичи в палачей, / В тех, что сгубили Хатынь, / нашу новь изувечили». Ці вось са «Стэпавага арла»: «Была война. / Земля пылала / сплошной вселенскою Хатынью»…**

— Я прапаноўваю перакласці бацькаву паэму пра Хатынь для мяркуемай беларускай кнігі Міхаіла Хонінава. Дарэчы, у альбоме пра Хатынь на вокладцы ёсць фотаздымак маёй мамы з малодшым сынам, якому ў той візіт у Беларусь на адкрыццё комплексу было 8 гадоў.

Сёлетняй вясной у Элісце прайшлі гарадскі і рэспубліканскі конкурс юных чытальнікаў паэзіі Хонінава. Некалькі школьнікаў чыталі на памяць усю паэму «Званы Хатыні». Гэта было на дзіва ўзрушліва, так дзеці праніkліся хатынскім болем.

**— Ці часта выдаюць зараз творы вашага бацькі ў самой Калмыкіі? Ці перакладаюць яго вершы на іншыя мовы?**

— Карней Чукоўскі меў рацыю, сцвярджаючы, што пісьменнік павінен жыць доўга, каб пабачыць плён сваёй працы. Бацька пайшоў з жыцця па сутнасці ў 60 гадоў, два гады ён сабе прыпісаў, каб вучыцца ў Астрахані, пасля сямігодкі пашпарт выдавалі толькі ў 16 гадоў. Апошні раз прозу яго надрукавалі ў Калмыкіі асобнай кнігай у 1991 годзе. Пасля гэтага мы выдавалі кнігі за свой кошт. У мяне ёсць два сумесныя выданні — «Час мовы» і «Стану чырвоным цюльпанам», у якіх я выступаю перакладчыкам яго вершаў і паэм.

Для апошняй кнігі наш сябра Карлтан Каупланд пераклаў на англійскую мову бацькавы вершы.

Я збіраю серыю перакладаў на розныя мовы аднаго бацькавага верша «Стану чырвоным цюльпанам» — ёсць пераклады на беларускую, сербскую, англійскую, удмурцкую, чачэнскую, балгарскую, казахскую, марыйскую. Гэты верш — своеасаблівы запавет Міхаіла Хонінава.

**— Архіў Міхаіла Хонінава... Наколькі ў ім прадстаўлены беларускія інтарэсы вашага бацькі? Ці захоўваюцца лісты ад беларускіх пісьменнікаў?**

— Архіў бацькі вельмі вялікі, цалкам не разабраны. У 2010 годзе я склала біябібліяграфічны паказальнік «Міхаіл Ванькаевіч Хонінаў», там каля дзвюх тысяч спасылак. З тае пары з’явіліся новыя публікацыі пра яго жыццё і творчасць, выяўлены не ўлічаныя раней артыкулы, публікацыі арыгінальных твораў.

У архіве — вельмі шмат беларускіх газет, часопісаў за розныя гады. Ёсць шырокая перапіска з беларускімі пісьменнікамі. Частку лістоў я прывяла ў кнізе «Другога лёсу не трэба...»: жыццё і творчасць Міхаіла Хонінава» (Эліста, 2005), змясціла ў калмыцкім перыядычным друку. Ёсць аўтографы Петруся Броўкі, Максіма Танка, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Генадзя Бураўкіна, Аляксея Пысіна і іншых сяброў.

**— Міхаіл Хонінаў вядомы як перакладчык беларускай паэзіі. Выдаў кнігу Купалы на калмыцкай мове. Ці былі ў яго іншыя перакладчыцкія планы ў адносінах да прадстаўлення беларускай паэзіі на калмыцкай мове?**

— Так, Міхаіл Ванькаевіч цаніў беларускую класіку — пераклаў вершы Янкі Купалы і Якуба Колас. А таксама творы Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Эдзі Агняцвет і шмат яшчэ каго. Частка з

перакладаў была надрукавана ў калмыцкім літаратурным часопісе — «Святло ў стэпе». І ў газеце «Калмыцкая праўда». Невялікая кніга перакладаў з паэзіі Купалы пабачыла свет у 1962 годзе, да юбілею паэта. Хонінаў меркаваў уключыць раздзел з перакладамі ў першую сваю кнігу — яна выйшла ў 1960 годзе. Але рэдактар зборніка чамусьці зняў пераклады. Пасля бацька хацеў зрабіць асобны зборнік перакладаў беларускай паэзіі. Але і гэта яму не ўдалося. Заяўку выключылі з тэматычнага плана выдавецтва. Хачу я ўсё ж такі ажыццявіць бацькаву мару і асобным раздзелам уключыць пераклады ў яго новую кнігу.

**— Як ушаноўваюць сёння памяць пра паэта ваеннага пакалення ў Калмыкіі?**

— Радуе тое, што ў народзе пра бацьку помняць. На яго радзіме, у пасёлку Цаган-Нур, пяць гадоў таму паставілі помнік. На народныя, між іншым, грошы. Па сённяшнім часе гэта, паверце, дарагога каштуе. Да гэтага юбілею сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Калмыкіі імя А. Амур-Санана мы падрыхтавалі электроннае выданне — дыск пра творчасць, пра жыццё Міхаіла Хонінава. Былі праведзены сустрэчы з чытачамі, некалькі літаратурных вечарын, на кожнай з гэтых імпрэз я расказвала пра беларуска-калмыцкія літаратурныя сувязі... Пра беларуска-калмыцкую літаратурную дружбу.

Да 70-годдзя вызвалення Беларусі ў цэнтральнай бібліятэцы горада Беразіно, ганаровым грамадзянінам якога з’яўляецца Міхаіл Хонінаў, была падрыхтавана тэматычная выстаўка. Супрацоўнікі даслалі мне фотаздымкі, дзе адлюстраваны перададзеныя мной у падарунак новыя экспанаты — кнігі Міхаіла Хонінава і кнігі пра яго. Спадзяюся, што і ў Беларусі з’явіцца помнік партызанскаму паэту — новая яго кніга на беларускай мове. Дзякуй вам, дарагія сябры, за памяць!..

***Гутарыў Павел АЛЬСОВЫ.***



**Міхаіл ХОНІНАЎ**

# НА БЕРАЗЕ УХЛЯСЦІ

*Апавяданне*

Пасля шматдзённых баёў наш партызанскі полк адышоў да лясной беларускай рэчкі Ухлясць.

Некалі, яшчэ ў сорак першым годзе, мы змагаліся за гэтыя мясціны. І вось цяпер, праз два гады, адрэзаныя ворагам ад Хачынскага лесу, нашы атрады вымушаны былі заняць абарону якраз паблізу гэтай рэчкі.

Немцы падцягвалі танкі і рыхтаваліся да вырашальнага ўдару. Мы таксама рыхтаваліся да прарыву і чакалі добрай на тое нагоды. Такі выпадак надарыўся. Вырашана было прарывацца на світанні. У ноч перад наступленнем я разбудзіў Хангора. Хлопчык хуценька падскочыў:

— Што, баця, ужо?

— Не яшчэ. Пойдзем са мной, праверым пасты.

— Няўжо там нікога не засталося з жывых? — з сумам прамовіў Хангор, паказваючы на паўразбураныя сцены дамоў і чорныя каркасы труб, палітыя месячным святлом. Я ведаў: гэта была яго родная вёска.

Хлопчык памаўчаў, а пасля прадоўжыў:

— Цяпер у мяне нікога з родных не засталося...

— Пачакай! Пачакай! Што ты гаворыш?!. А я тады хто?!.

— Вінаваты, баця. Вы ж мне як родны...

Хангор абняў мяне, ласкава ўткнуўшыся носам у маю няголеную шчаку.

У гэтую хвіліну ў неба ўзвілася нямецкая ракета. Мы прыпалі да зямлі, пасля асцярожна папаўзлі да берага, дзе раслі кусты. І абодва сталі ўглядацца ў бок паселішча. Знаёмыя мясціны, верагодна, нагадалі хлопчыку ранняе дзяцінства. А я, канешне ж, уявіў сабе тую памятную ноч два гады назад...

Выбіўшы з вёскі нямецкую карную роту, мой атрад заняўся тушэннем пажару. Калі мы ўжо хацелі сыходзіць, да нашых вушэй данёсся прыглушаны крык. Прыслухаліся. Крык чуўся якраз з таго дома, каля якога мы збіраліся. Мае хлопцы хутка разабралі абрынуты дах. Адкрылі падлогу, што дымела. І ў цёмным куту падвала знайшлі ледзь жывога хлопчыка.

— Таварыш камандзір! — звярнуўся да мяне старшына атрада. — Вось яшчэ адзін партызан, ледзьве дыхае... Што рабіць?

— Нясіце хутчэй да доктара!

Месяцы праз два хлопчык, акрыяўшы, пачысцеўшы з твару, сімпатычны, ехаў на кані побач са мной. Пра лёс яго бацькоў мы пазней даведаліся ў жыхароў вёскі. Бацька з першага дня вайны пайшоў у армію. А маці немцы расстралялі за тое, што яна хавала ў сваім доме яўрэйскую сям'ю. Братоў і сясцёр у яго не было. Хлопчык, перанёсшы цяжкую псіхічную траўму, доўга

не мог успомніць сваё імя. Тады я назваў яго Хангорам. І ўсынавіў яго. З тае пары мы ўвесь час з ім разам. У свабодны ад баёў час я шмат расказваў Хангору пра свой родны горад Элісту. Спяваў яму калмыцкія песні. Вучыў яго калмыцкім словам. У баях Хангор трымаўся смела, нават адчайна, і быў незаменным разведчыкам.

— Як цябе старшына заве? — пытаюся аднойчы ў хлопчыка.

— Хангор Міхайлавіч, белабрысы калмык.

— А яшчэ што гаворыць?

— Гаворыць, што немцы ў лістоўках надрукавалі пра мяне. Абяцаюць шмат грошай таму, хто зловіць калмыка і калмычаня.

— Ну, а ты што?

— А я кажу, што мы ім яшчэ зробім...

— А якія пытанні ён табе задае?

— Навошта чалавек на свет нарадзіўся? — пытаецца.

— А як ты адказваеш?

— Для жыцця, — кажу я.

— Правільна.

— Навошта птушка нарадзілася? — пытаецца.

— А на гэта які адказ маеш?

— Каб лётаць.

— Правільна.

Дзіўна здараецца ў жыцці. Вось так, раптам, нечакана, пацякуць думкі і ў памяці абуджаецца ўсё да дробязей...

Мае думкі былі перарваны шэптам Хангора.

— Баця, зірні, які месяц у вадзе плавае!

— Бачу. У калмыкаў ёсць такая песня...

— Баця, праспявай ціхенька.

— Не, Хангор, нешта не хочацца пець. Вось калі выйдзем з акружэння, праспяваю. А калі разаб’ём немцаў, паедзем у Калмыкію. Ты там шмат песень пачуеш. Недалёка ад Элісты, дзе я нарадзіўся, якіх толькі птушак няма! Асабліва паблізу Цаган-Нур...

— А што гэта такое?

— Цаган-Нур? У перакладзе — Белае Возера. А цюльпаны якія там растуць! Усіх колераў — і белыя, і чырвоныя, і жоўтыя, і сінія... Паглядзіш навокал, быццам у полі жывы дыван расцелены. А табуны якія! Сам Будзённы прыязджаў да нас адбіраць коней.

— А колькі коней у табунах бывае?

— Па-рознаму... Шмат. Але болей 9999 не бывае. Гэта заброненая лічба. Павер’е ў нас такое існуе: калі будзе роўна дзесяць тысяч, то ўвесь статак разбяжыцца, як на крылах разляціцца.

— Баця, раскажы яшчэ што-небудзь.

— Не, Хангор, пасля. А зараз набяром у біклажкі вады. Будзеш яшчэ піць?

— Не, напіўся.

— Ну, тады пойдзем, час фрыцам канцэрт даваць.

Зайшоўшы ў бліндаж, я паглядзеў на гадзіннік: хутка пяць.

— Давай пацалуемся, — сказаў я, абдымаючы Хангора.

Выйшаўшы з бліндажа, я даў каманду: «Агонь!»

Хангор, падняўшы ракетніцу, выстраліў. Белы агонь асвяціў нямецкія акопы. Мы ўбачылі партызан, якія падымаліся з зямлі, і тут жа пачулі крыкі

«Ура!». Пачаўся бой. Пад націскам нашага агню немцы адышлі да балота Жалязнякі. Стральба аглушала і перашкаджала мне камандаваць. Я сам ледзь чуў свой голас. Вакол зіхацелі агні, дым засцілаў вочы. Іржанне коней, стогны параненых, трэск падаючых дрэў — усё гэта было страшэнным відовішчам. Другі раз я скамандаваў: «Агонь!» Хангор паслаў тры ракеты сіняга і зялёнага колераў. Гэта было сігналам нашым штурмавікам ісці ўрукапашную. Бой пашырыўся ўглыб. Не зразумееш, хто каго на штыкі падымае. Мы з Хангорам пабеглі да закапанага ў зямлю «тыгра» і пачалі мяняць дыск у яго аўтамаце. Ратам Хангор выпусціў аўтамат з рук  і паваліўся долу.

— Хангор! Ты жывы? — закрычаў я.

— Гэта хто, Хангор? — запытаўся нехта ў мяне ззаду.

— Так, Хангор, — адказаў я, не ведаючы, каму гавару.

Хангора перавязалі. Куля патрапіла яму ў грудзі. Ён трызніў. Часам гаварыў калмыцкія фразы, значэнне якіх разумеў толькі я адзін. Бліжэй да вечара на кароткі час да яго вярнулася прытомнасць. Убачыўшы мяне, ён ціхенька прагаварыў:

— Баця, мы не памром, а фашысты загінуць...

Гэта былі яго апошнія словы.

Праз чатыры дні пасля выхаду з акружэння мы вярнуліся і пахавалі Хангора на беразе ракі Ухлясць. На тым самым месцы, дзе мы сядзелі з ім у тую месячную ноч перад боем. На яго магіле ўстанавілі ствол нашай супрацьтанкавай гарматы, якая таксама аддала «жыццё» за Радзіму, і зрабілі з сасновага штыкетніка агароджу. Так яны ўдвух і засталіся ахоўваць спакой гэтай ціхай маленькай рачулкі.

З тае пары прайшло нямала гадоў, але Хангор заўсёды як жывы ў маёй памяці. І калі я гляджу на добрыя справы падлеткаў, я гавару:

— Не, не загінуў Хангор. Ён жывы і зараз у справах сваіх равеснікаў з другога часу, другога пакаленння.

***З калмыцкай.***
***Пераклад Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.***



**Мікола ЛОБАН**

# ДЗЁННІК ЗА 1944 ГОД



*1944 год быў вызначальным у лёсе Мікалая Паўлавіча. Ён канчаткова і беззваротна вызначыўся з асноўнымі накірункамі сваёй будучай працы. Гэта пісьменніцтва і навуковая дзейнасць. 1 студзеня ён піша ў дзённіку: «...я пакляўся ўсё сваё жыццё аддаць для беларускага народа, для яго культуры. Пачаў працаваць над выхаваннем свайго характару і звычак, якія б дапамагалі дасягненню задуманай мары». Акрамя вучобы ва ўніверсітэце, дзе рэдагаваў газету, выкладаў з Іванам Мележам ваенную справу і тапаграфію. У складзе камісіі пры прэзідыуме Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам Пятра Глебкі працаваў над стварэннем руска-беларускага слоўніка. А яшчэ шмат чытаў, самастойна вывучаў польскую і французскую мовы і, канешне, пісаў, дзеля чаго ўставаў а чацвёртай-пятай гадзіне раніцы. І ні слова скаргі на раненні, на болі ў нагах, на нястачы. Вось што ўспамінаў Мікалай Паўлавіч пра тыя часы ў артыкуле на смерць І. Мележа «Страта цяжкая, непапраўная»: «Гэта была тая пара, калі ўжо добра павесялела на душы пасля нашых перамог пад Масквою, пад Сталінградам і Курскам, калі ўжо былі вызвалены першыя вёскі Беларусі, разарвана блакада Ленінграда. На літаратурным гуртку я чытаў урыўкі з задуманага, але так і не напісанага рамана («Ліхадзеі». —* ***А. В.****). Іван Мележ — свае першыя апавяданні. Прызнанне ў сваіх літаратурных захапленнях яшчэ больш зблізіла нас. Сустрэчы нашы ў вольны час ператварыліся ў працяглыя прагулкі па сходнянскіх бярозавых гаях. Тэмы размоў усё тыя ж: літаратура, сустрэчы ў Маскве, абмен літаратурным вопытам, якога не хапала ні ў аднаго, ні ў другога...*

*Аднойчы Іван Паўлавіч сустрэў мяне і сказаў: «Я загадчык ваеннай кафедры. Ідзі да мяне выкладчыкам». Хоць я быў толькі сяржантам, а не афіцэрам, як Іван Паўлавіч, але, маючы за плячамі дзесяцігадовы стаж педагагічнай работы, я адважыўся згадзіцца з яго прапановай. І вось мы выкладаем ваенную справу тым жа студэнтам, з якімі сядзелі побач на*

*лекцыях па іншых прадметах. У тыя дні ў нас зарадзілася добрае сяброўскае пачуццё спаборніцтва. Мы часта разам рыхтавалі экзамены і разам ішлі здаваць. Ён часцей ішоў першым і потым сядзеў, перажываў за поспех кожнага з нас».*

*Вельмі цікава параўнаць дзённікі М. Лобана з успамінамі пра той жа перыяд яго жыцця («Полымя», 2014, № 10). Што застаецца ў памяці праз сорак год? Безумоўна, самае галоўнае, важнае і яркае. Можа, таму і дзённікі, і ўспаміны маюць столькі прыхільнікаў, бо ў іх жывое дыханне гісторыі.*

*Дакументы М. Лобана, якія ўвайшлі ў вопіс № 2, паступілі ў ЦДАМЛ БССР 15 мая 1979 года і 11 лістапада 1981 года ад самога пісьменніка, 20 чэрвеня 1989 года ад яго ўдавы Браніславы Леапольдаўны. Дзённікі за 1944 год напісаны ў вучнёўскім сшытку ў лінейку без вокладкі. Запісы зроблены пер'евай ручкай чарнілам сіняга, зялёнага і чорнага колеру, акрамя дзвюх старонак, напісаных простым алоўкам. Тэкст — 21 старонка — дробным почыркам на кожнай лінейцы. Яны расчытваліся даволі цяжка, асабліва ўласныя імёны і геаграфічныя назвы. У прадмове да вопісу, якую ў 1990 годзе склала загадчыца аддзела ЦДАМЛ В. Данекіна, напісана: «Адзін з дзённікаў расшыфраваў сам Мікалай Паўлавіч і перадрукаваў яго (1941), астатнія патрабуюць вялікай працы, таму што многія тэксты дрэнна чытаюцца, а месцамі ёсць пагроза іх знікнення (1941 — 1965)». Таму з нейкім гонарам магу зазначыць, што пэўная частка гэтай вялікай працы мной ужо зроблена.*

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

## ТЫСЯЧА ДЗЕВЯЦЬСОТ СОРАК ЧАЦВЁРТЫ ГОД

### «Каб зрабіць што-небудзь выдатнае, неабходна ўсе сілы сваёй душы накіраваць у адну кропку». Час даражэй багацця.

*1-га студзеня.*

Спаць амаль не давялося. З вечара вярнуўся ў 6 гадзін раніцы. Крыху прылёг і тут жа ўзбудзіўся. Валя пачала захаджацца ля печы, і я ўстаў, каб што-небудзь згатаваць. Мы сёння наладжваем выпіўку ў сябе. Я абярнуўся ў запраўскага кухмайстра і адкалоў хлопцам такую тушонку і вінегрэт! Пілі сваёй кампаніяй. Усе засталіся задаволенымі маімі закускамі. Сядзелі да цямна. Хлопцы пасля выпіўкі пайшлі шукаць дзяўчат, а я рашыў, што будзе больш разумна легчы. Яшчэ не было 12, а я ўжо не сплю. Чую па радыё перадаюць загад Сталіна аб ўзяцці Жытоміра. Прыйшлі хлопцы — аказалася, што ва ўніверсітэце былі скокі. Жэнька знайшоў у гаспадароў лямпу і запалкі. Запалілі святло. Я ўзрадваўся і рашыў падняцца, каб крыху папрацаваць. Запоўніў дзённік.

Першае студзеня заўсёды штурхае на вялікія разважанні. Хочацца ў думках падвесці вынікі прайшоўшага года і зазірнуць на колькі магчыма ў будучае.

1943 год — гэта год, які нават не знаёмым з гісторыяй чалавецтва можна назваць годам найбагацейшым падзеямі гістарычнага значэння. Пачатак года азнаменаваўся завяршэннем найвялікшай у гісторыі вайны бойкі пад Сталінградам. Чырвоная Армія атрымала грандыёзны поспех на Паўночным Каўказе, у лукавіне Дона і на Варонежскім фронце. Выявілася шмат таленавітых палкаводцаў: Ракасоўскі[1], Голікаў[2], Ватуцін[3], Воранаў[4], Васілеўскі[5] і іншыя. Лета 1943 года азнаменавалася новай грандыёзнай бойкай, дзе было пастаўлена на карту: хто каго. Гэта бойка пад Курскам і Белгарадам. Вынікам бойкі было: спыненне нямецкага наступу і пераход Чырвонай Арміі ў контрнаступленне. Вызвалена агромністая тэрыторыя, у тым ліку і такія гарады, як Белгарад, Харкаў, Арол, Сумы, Палтава, Мелітопаль, Запарож'е, Днепрапятроўск, Крамянчуг, Кіеў. Пасля

некаторай «прамашкі» Чырвоная Армія пачала зімняе наступленне. Вызвалены першы абласны цэнтр Беларусі — Гомель, а таксама Жытомір.

Перамога ўжо відна, яна ўжо блізка, і гэта радуе душу. У кожнага на розуме — хутчэй бы скончыліся гэтыя пакуты.

Адбыліся вялізарныя падзеі і на Захадзе. Ромэля[6] канчаткова прагналі з Афрыкі. Саюзнікі авалодалі Сіцыліяй і ўторгліся ў прэдзелы Італіі. Мусаліні пайшоў у адстаўку. Бадальо[7] капітуліраваў.

У Тэгеране адбылася сустрэча Сталіна з Рузвельтам і Чэрчылем — трох выдатнейшых дзяржаўных дзеячоў, у чыіх руках зараз знаходзіцца лёс Еўропы, а то, бадай, і ўсяго свету. Усё чакае яшчэ новых пераможных падзей. Другі раз закончылася разважаннем аб будучым, пасляваенным жыцці. Гэта будзе залаты век у маім жыцці і ў жыцці ўсіх народаў. Два-тры гады на аднаўленне, а там росквіт і багацце.

Не мала змен адбылося і ў маім жыцці. З Казахстана мяне лёс перакінуў пад Маскву. Здзейснілася мая мара пабыць у Маскве. Я аднавіў вучобу ва ўніверсітэце. 1943 год фактычна будзе годам пачатку маёй літаратурнай дзейнасці. Летам гэтага года я пачаў свае «Ліхадзеі»[8]. 1944 год пройдзе ў працы над першай часткай гэтага твора. Зраблю спробу, калі не ўдасца кончыць што малое, надрукаваць адну-другую главу ў літаратурным дадатку або ў газеце. У 1943 годзе я пакляўся ўсё сваё жыццё аддаць для беларускага народа, для яго культуры. Пачаў працаваць над выхаваннем свайго характару і звычак, якія б дапамагалі дасягненню задуманай мары. «Калі хочаш зрабіць што-небудзь выдатнае, усе сілы сваёй душы накіруй у адну кропку» — застаецца маім курсам на 1944 год. Чаго дамагчыся і чаго пазбегнуць? Трэба выпрацаваць цвёрдасць характару. Пачаць з дробязяў і дайсці да буйнага. Гэта рыса ў мяне не выхавана і вельмі перашкаджае ў працы. Дакладна рэгуляваць свае заняткі і размяркоўваць карысна час, як размяркоўваў Хосе Рызаль[9]. Заўсёды памятаць, што час даражэй багацця. Страчанае багацце можна аднавіць, страчаны час не адновіш. Жыццё чалавеку даецца адзін раз і патрэбна пражыць яго так, каб яно было карысна чалавецтву. Другое, што мне перашкаджае — гэта няўменне арганізаваць сваю работу. У 1944 годзе неабходна дамогчыся і гэтага. Патрэбна ў 1944 годзе больш увагі звярнуць на набыццё ведаў у розных галінах жыцця і навукі. Кантролем маім — мой план.

*2 студзеня.*

Ноч. З захапленнем чытаю «Воспоминания» Чукоўскага аб Рэпіне. Глава «Репін за работой» цудоўная. Вось дзе можна павучыцца і не толькі мастаку, а і пісьменніку. Чукоўскі піша, што Рэпін заўсёды быў незадаволены вынікам сваёй працы, сабою, што ён укладае ў свае малюнкі вялізную працу. Як гэта паказальна для пісьменніцкай працы! «Это святое недовольство» собой принадлежит лишь гениальным натурам», — піша Чукоўскі. Каб геніяльныя натуры пазнаваліся толькі па гэтай рысе, я б мог сябе прылічыць таксама да катэгорыі геніяў, шкада толькі, што бяздарнасці маюць схожыя рысы разам з геніямі, калі гэтыя бяздарнасці працалюбівыя.

Ва ўніверсітэце працягваецца неразбярыха. Прыходжу сёння а 8 гадзіне на заняткі па тапаграфіі, а студэнтаў ні аднаго. Чытаў дома «Женитьбу Фигаро»[10]. Займаўся з 6 гадзін вечара. Штось не клеілася і быў незадаволены сабою. Жэнька дамогся камандзіроўкі ў Варонежскую вобласць. Спаць лёг рана.

*3 студзеня.*

Святла няма і прыйшлося валяцца аж да 7 г. Кухмістрыў локшыны з бульбай. З хлебам чарговыя непрыемнасці. На занятках не быў. Абяцаюць сёння ўключыць электрычнасць. Дачытваў «Женитьбу Фигаро». Чытаў няўважліва. Прыйдзецца сябе пакараць за гэта. Хацеў ехаць у Маскву, але не паехаў. Дзяўчаты запрасілі вечарам да сябе. Сабраўся і не пайшоў. Вечарам уключылі святло — рады бяс-

конца. Ва ўніверсітэце чытаецца курс гісторыі Беларусі і … на рускай мове. Мяне ўвялі ў рэдкалегію сценгазеты. З заўтрашняга дня ў нас распачынаецца чытанне курса рускай літаратуры XIX века. Да дзяўчат сабраўся, але не хадзіў. З задавальненнем прачытаў артыкул Лынькова ў апошнім нумары «Савецкай Беларусі» — у мове артыкула адчуваецца імкненне к абагачэнню. Мяне апанавала радасць, калі я ўбачыў у гэтай жа газеце, што В. Качалаў[11] беларус. Гэта ж нацыяналізм, гэта рэўнасць ад любві да свайго народа: і сярод беларусаў не мала выдатнасцей! Федзя сцвярджае, што кампазітар Шастаковіч таксама беларус.

*4 студзеня.*

Устаў на радасцях, што ёсць святло, у 4 гадзіны ночы. Запоўніў дзённік і пачаў пісаць другую главу рамана. Зноў новы варыянт пачатку. Распачаў перачытваць Талстога «Хождение по мукам». Падабаецца значна менш, чым першы раз. Захапляюся шырокай дасведчанасцю аўтара. Трэба шмат ведаць, каб так пісаць. Сёння план па прачытанню не выканаў, звялі мяне з плана перакладніцкай работай і сапсавалі настрой. Быў на пасяджэнні рэдкалегіі. Не падабаецца. Ніякай душы, адно крахаборства. Наўрад ці я буду з ёй працаваць. Узята Белая Царква. Гэта крыху ўзняло настрой. Спаць лёг рана.

*5 студзеня.*

Устаў рана. Крыху працаваў над другой главой. Чытаў «Хождение по мукам». Дарма збегаў ва ўніверсітэт: заняткаў не было. Паехаў Алёшка. Абяцаў пісаць што і як там у вызваленых раёнах. З-за абеда спазніўся на цягнік у 1-50. Паехаў у 3-15. Голад прымусіў растраціць у рэстаране «Масква» 55 руб. за два абеды. Добра памыўся ў лазні і звярнуўся ў 10 гадзіне дадому. <…> і Федзя ўжо былі ў пасцелі. Заўтра едуць у «камандзіроўку». Заказваю фунт масла. У гадзін 10 лажуся спаць, каб назаўтра ўстаць раней і папрацаваць да лекцый па тапаграфіі.

*6 студзеня.*

Устаў а палове 4 г. Сон мяне штосьці не бярэ. Усе спяць непрабудна, а я кручуся. Запоўніў дзённік, падрыхтаваў для хлопцаў лапшу — хай ядуць. Напісаў два радкі. Чытаў тапаграфію на філфаку. Пасля паўдня — на гістфаку. Некаторае задавальненне ад працы сёння. Мележ паведаміў, што мяне завочна абралі адказным рэдактарам універсітэцкага часопіса «Маладая Беларусь», здаецца так яго назва.

*7 студзеня.*

Хоць учора лёг і позна, але сёння ўстаў ранютка. Паставіў на плітку бульбу і пачаў пісаць. Сёння ў мяне толькі 2 гадзіны заняткаў. Трэба абавязкова прачытаць норму і зрабіць усё, што трэба. Адзаймаўся са студэнтамі і зноў узяўся за чытанне. Ніканава мяне праследуе з французскай мовай. Сёння загаварыла па-французску, а я нічога не змог адказаць. Трэба ўзяцца. Наогул трэба якасна лепш арганізаваць сваю працу. Я зусім не назіраю, не запісваю ў блакнот і таму адчуваю недахоп матэрыялаў. Твор атрымліваецца бедным па дробязях. З заўтрашняга дня трэба з гэтым пакончыць. Досыць. Адвячоркам пісаў, а пасля вячэры зноў чытаў. Гадзіны дзве сну выклікалі ўва мне надзвычайны ўздым. Ад радасці я нават абняў Галю, якую я наогул не люблю. Зноў чытаў і нарэшце выканаў норму. У пасцелі ўзяўся за Верасаева «Как работал Гоголь». Гогаль раіць пісаць усё цалкам ад пачатку да канца, а затым перапрацоўваць і перачытваць. Парада гэта мне спадабалася, і я ўзяўся за паўнюткі свой сюжэт. Запісаў яго без усякіх вобразных прыкрас. Запалак няма, каб прыгатаваць, я ўключаю гаспадарчую плітку. Апошнія паведамленні: нашы перайшлі на 2-м украінскім фронце ў наступ і прарвалі за тры дні баёў абарону немцаў да 100 кілам. і занялі звыш 120 нас. пунктаў, злучыліся з войскамі 1-га укр. фронту. Горад Кіраваград акружаны з усіх бакоў. Добра было б пабачыць салют. Слухаў новы гімн. Аказваецца, музыка «Гімна большавікоў»[12].

*8 студзеня.*

Устаў у 4 гадзіны. Зрабіў першую перастаноўку заканчэння сюжэта «Страшны чалавек». Падрыхтую яго для свайго ўніверсітэцкага часопіса. Запоўніў дзённік. Сабраўся ехаць у Хімкі і спазніўся на цягнік. Адклаў на 10-50, але і зноў спазніўся. А ўсё гэта кніжачка Верасаева — так я ёй зачытаўся. Для мяне яна вельмі каштоўная. Шмат што ў мяне праяснілася пасля прачытання гэтай кніжачкі. Яе варта раіць кожнаму пачынаючаму аўтару. Цэлы дзень усё бегаў сюды-туды і амаль нічога не зрабіў. З 3 г. правёў 2 г. заняткаў — вось і ўсё, і прачытаў гэтага самага Верасаева. Пасля вячэры змарыў сон, і я вымушаны быў легчы. Праз сон чуў, што перачытвалі загад з тым самым паведамленнем аб вызваленні нашымі войскамі Кіравагграда, а ў 12 г. ночы ігралі гімн.

*9 студзеня.*

Дзень мой сёння пачаўся а палове 3 гадзіны. Прымайстраваўся пісаць лежачы ў пасцелі: і нагам цёпла і не сказаць, што не ёмка. Пабачу, што атрымаецца. Наогул жа так не пішу. «Ліхадзеі» будуць напісаны цалкам на аснове маіх назіранняў над жыццём. Тут не будзе ні надумкаў, ні ілюстраванасці. Больш назіранняў над жыццём, больш запісаў. Сёння пісалася ўдачна. Пішу трэцюю главу. Чытаў «Хождение по мукам». З'ездзіў у Хімкі на базар. Купіў картку на хлеб на дэкаду за 330 руб. Запісных кніжак не знайшоў. Ва ўніверсітэце выступленне самадзейнасці. Прысутнічаць не захацелася.

*10 студзеня.*

Раніцай пісаў трэцюю главу. Покуль што ўсё ідзе добра. Я здаецца прывыкаю да сістэматычнасці працы. Гэта неабходна. Узнікла думка аб неабходнасці складаць слоўнік тэрмінаў. На заняткі не пайшоў. Чытаў Толубава «Бестужев (Марлинский)»[13]. Вечарам прыйшлося адарваць гадзіну на пераклад заметак у сценгазету. Крыўдна за свой універсітэт. Універсітэт, які павінен быць сцягам беларускай культуры, цураецца беларускай мовы. Ні выкладчыкі, ні студэнты не ведаюць яе. Нават выкладчыца гісторыі беларускай мовы не ведае яе. Усе падаюць заметкі ў сценгазету на рускай мове. Я хутка аб'яўлю ўсім нявежам жорсткую барацьбу.

*11 студзеня.*

Устаў раненька. Папіса́ў. Закончыў перапісваць першую главу, каб было што пачытаць Цімоху і паслаў у Маскву. Растраціў 40 рублёў з маіх мізэрных сродкаў у «Маскве» і паехаў да Цімоха[14]. Цімох сустрэў мяне мокрым пацалункам. Мы выйшлі ў прыёмны пакой пагутарыць. Тут былі Якуб Колас, Танк. Цімох пазнаёміў мяне з <…> і з Бялевічам[15]. Я ўваходжу ў мастацкае асяроддзе, якога для мяне так не хапала …Гутарка не клеілася, як і заўсёды бывае. Беглі хвіліны такога спаткання. Цімох зноў зацікавіўся, ці працую я. Я даў яму пачытаць сваю першую главу. «Што можна сказаць па ўрыўку? Мова, стыль, усё другое гавораць аб тым, што ты ўжо празаік. Ты павінен абавязкова пісаць — закончыўшы чытаць, сказаў Цімох. — Падрыхтуй што-небудзь невялікае для другога нумара «Беларусі». Над буйным ты сабе можаш корпацца, гэта патрабуе шмат часу, але трэба ўваходзіць у літаратуру, каб тваё імя стала вядомым. Ні для кар'еры, а проста, каб яно было вядома, гэта патрэбна». Я цалкам быў згодзен з Цімохам і паабяцаў абавязкова кончыць апавяданне. Цімох даў мне свой хатні адрас. «Прыязджай калі да мяне на кватэру, сходзім да Кузьмы Чорнага». Цімох з шчырым удзелам расказаў мне аб цяжкай хваробе, перанесенай нашым агульным любімцам Чорным. Кровазліццё ў мозг і параліч <…> — гэта страшная хвароба, ад якой рэдка хто выжывае.

Мы шчаслівыя, што <…> чалавека <…>. Празаікаў у беларускай літаратуры можна пералічыць па пальцах адной рукі і сярод іх толькі два сапраўдных: Кузьма Чорны і Лынькоў Міхась. Цімох мне некалі сказаў: «Ты не павінен думаць аб

тым, што будзе з цябе што ці не, а што патрэбна пісаць. Беларусі патрэбна, літаратуры, якой няма». Сентэнцыя гэтых слоў — патрэба ствараць таленты. Хацелася доўга гутарыць з гэтым шчырым чалавекам, але адсутнасць часу прымусіла мяне развітацца. Я паехаў на Курскі сустракаць хлопцаў. Цягнік спазніўся, і мне сказалі, што будзе ў 17 гадзін. Я зноў паехаў у «Маскву». Сустрэўся з Банчам. Разам абедалі. З намі абедаў якісь масквіч беларускага паходжання, які пагардліва адазваўся аб беларускай мове, убачыўшы ў мове літаратурныя дадаткі. Я рэзка адпарыраваў таму павяржэнцу. У нас заўсёды так: даюць характарыстыку мове людзі, якія не толькі не ведаюць мовы, але яшчэ і не чулі яе з вуснаў сапраўдных знаўцаў. Кузьма Чорны, ой як я хацеў бы з ім сысціся бліжэй! Я папрасіў Крысько ўвесці мяне ў літаратуру. «Я не абяцаю быць такім мецэнатам, але ўсё, што будзе ад мяне залежаць, я зраблю». І <…> жыць! З «Масквы» я зноў паехаў на Курскі. Даведаўшыся, што цягнік будзе толькі заўтра раніцай, паехаў дадому. Яшчэ прыспеў на вячэру. Мне пакінулі два абеды. Я паабедаў да адвалу. Што мне рабіць з маім воўчым апетытам?! У час абеду ў мяне сцягнулі мае літаратурныя нататкі, якія я паказваў Цімоху. Я чуць не плакаў ад жалю. Няўжо не знойдуцца?! Едучы ў цягніку, абдумваў сюжэт апавядання. Дарма, што Цімох кажа, што сюжэт не абавязковы, а ўсё ж без сюжэта нельга.

*12 студзеня.*

Устаў а палове пятае. Патрэбна абавязкова ў сваім характары выпрацаваць жвавасць. Трэба заўсёды памятаць, што: «Час даражэй багацця, згінуўшае багацце можна аднавіць, а прапаўшы час ніколі не вернеш». Запоўніў дзённік і сеў паесці. Думкі ў час запаўнення дзённіка: абавязкова напісаць Рыгору, трэба <…> яго ўцягнуць у літаратуру. Тое ж самае патрэбна зрабіць і з Кудраўцавым[16], можа, і з яго што-небудзь атрымаецца. Ці варта наведваць заняткі? Не, марная трата часу. У бездарнасцяў нічому не навучышся, лепш больш працаваць самастойна. Абяцанне, дадзенае Цімоху, не выходзіць з галавы. Ён добра раіць, сапраўды трэба ўваходзіць у літаратуру, высоўваць сваё імя. Абдумваю сюжэт гэтай невялічкай рэчы. Чытаў «Бестужева». У гадзін 10 прыехалі хлопцы. Прывезлі каля пуда масла, у тым ліку і мне 3 кг. Я невыказна задаволен. Гэта, нарэшце, пазбавіць мяне ад увесь час мучыўшага мяне голаду і настойлівых думак аб тым, дзе паесці, чаго паесці. Важуся з маслам, спакоўваю яго. Вечарам гутаркі. Дакараю сябе, што не падаў заяву ў гандлёва-лавачную камісію.

*13 студзеня.*

Учора лёг пазнавата, таму сёння ўстаў толькі а 6 г. Пісаць не давялося. Рыхтаваўся да лекцыі па тапаграфіі. К 8 г. пабег ва ўніверсітэт. Там аказалася, што студэнтаў няма, пайшлі на працу. Прыйшлося вярнуцца і заняцца чытаннем. Звёў шмат часу для атрымання хлеба.

Хлопцы паехалі ў Маскву. Вечарам займаўся дзве гадзіны з гісторыкамі тапаграфіяй. Непрыемнасці з вячэраю. Прыйшоў дадому — у нас С. У газетах апублікавана «Спраўка» Лінія Керзона. Згодна гэтай лініі ад Беларусі адыходзіць пад Польшчу аж уся Беластоцкая вобласць з гарадамі Беласток, Ломжа. Мяняемся думкамі па гэтаму пытанню. Шкадуем Беласток. Трэба чакаць пагаднення з Польшчай. Чытаў уголас артыкул Пратапопавай «Целеустремленность», змешчаны ў газеце «Ком. правда» за 13 студ. Артыкул надзвычайнай цікавасці. Ёсць думкі, якія мне якраз у час. Гутарачы аб школе, Сенька выпадкова расказаў адно здарэнне з «руб дваццаць — пятак здачы». Надта мне спадабаўся, гэта дае цэлы сюжэт. Абавязкова скарыстаю.

*14 студзеня.*

Устаў а 5 гадзіне. Сеў запаўняць дзённік. З галавы не выходзяць артыкул і «руб. дваццаць — пятак здачы». Трэба ў сабе акрамя жвавасці выхоўваць уменне

да самастойнасці. От сёння трэба скарыстаць з максімальнай нагрузкай. Буду запісваць на асобным кавалачку ўсё, што я зраблю за дзень, каб вечарам прачытаць і падвесці вынік. Дакараю сябе за слабасць характару. Займаўся з хімікамі і фізікамі. Перанерваваўся, чакаючы вячэру: прыйшлося дарма патраціць больш двух гадзін. Ідучы дамоў, пачулі гукі салютаў. «Мазыр» — пачалі здагадвацца мы. Сапраўды, войскі Беларускага фронту пад камандаваннем Ракасоўскага дзякуючы ўмеламу абыходнаму манеўру авалодалі Мазыром і Калінкавічамі. Радасць! Я пазіраю ўжо на карту, вымяраю адлегласць да Слуцка. Трэба напісаць Браніславу, ён, мабыць, на тым вучастку. Вечарам не было святла і прыйшлося легчы адразу, хоць яшчэ было рана.

*15 студзеня.*

Прабудзіўся, але не ўставаў, бо бачыў, што няма святла. Раптам шчоўкнуў выключацель — святло. Гэта запаліў святло Ванька. Я з радасцю ўскочыў. Трэба прачытаць «Женщина, стоящая посредине» Арцыбашава[17], каторую мне далі толькі на адзін вечар. Трэба пазнаёміцца з гэтым аўтарам. Прачытаў, не спадабалася. Суцэльная парнаграфія і ніякай значнай думкі. Аўтар з вялікім майстэрствам апісвае месячную ноч. Займаўся з географамі тапаграфіяй. Дачытаў «Бестужева».

*16 студзеня.*

У кватэры жудасны холад. Не мог нават адважыцца ўстаць (слабасць характ.) і праляжаў да 7 гадз. Запоўніў дзённік. Закончыў «Бестужева». Ва ўніверсітэце ідзе сесія Вучонага савета. Думаў пайсці пад канец на даклад Ларчанкі[18] і Перцава[19]. Вельмі шкадаваў, што не пайшоў к пачатку: даклады Ларчанкі і Перцава былі пастаўлены першымі. Пасля абеду захапіўся «Пыткай Федры» Анры Деберлі. Мачыха закахалася ў свайго пасынка. Перажыванні, звязаныя з гэтым. Вечарам праслухалі выступленне Лідзіі Андрэеўны Русланавай. Якая прэлесць! Русланава — лепшая выканальніца рускіх народных песень. Што за прэлесць «Меж крутых бережков» у яе выкананні. Вечарам раптам патухла святло, і я не змог дачытаць некалькі старонак «Пыткі Федры». Прыйшлося легчы спаць.

*17 студзеня.*

Раніцай не было святла. Дзесь замыкае — лямпачка ледзь <…>. Прыйшлося раніцу прапусціць. Пайшоў на заняткі польскай мовы. Чыталі Міц. «Пан Тадэуш». Трэба заняцца польскай мовай. Быў парт. сход. Прымалі ў кандыдаты аднаго студэнта-партызана. Непрыемнасці з хлебам. <…> зноў крадуць сухары. Дачытаў «Пытку Федры». Запоўніў дзённік. Пакончыць з сваёй расхлябанасцю! У мяне тры асноўныя недахопы: 1) адсутнічае цвёрдасць характару (слабаволле), 2) нерашучасць, 3) губляюся ў дробязях. Пакончыць з гэтымі недахопамі раз і назаўсёды. Штодзённа кантраляваць сябе, лавіць на праступках і прысякаць! Мала працую!

*18 студзеня.*

Учора вечарам не мог працаваць, брала мяне змора. Лёг спаць, каб устаць раней і працаваць. Прачнуўся, калі па радыё перадавалі апошнія паведамленні і выконвалі гімн. Пастукаўся Жэня. Прыехаў з Масквы. Расказаў, што на станцыі цягніком падбілі жанчыну. Я ўстаў працаваць. Запісаў у дзённік. Да ўчарашніх недахопаў дадаю яшчэ: недастатковая настойлівасць і любоў да працы. Лёгка паддаюся нязначным пазывам лені і стомы. Трэба перамагаць, прымушаць сябе. Я безадказна губляю дарагі для мяне час. Трэба заўсёды памятаць, што час патрачаны нізавошта нельга будзе звярнуць назад. У 12 гадзін пайшоў ва ўніверсітэт. Абед і на вучоны савет. Адбылася абарона дысертацыі праф. Дабрынінім[20] на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук. Праф. Дабрынін напісаў

«Историю белорусской литературы» (Древнейший период). Праца яўна кампіляцыйная, якая з'яўляецца фактычна гісторыяй не беларускай, а рускай літаратуры. Афіцыйнымі апанентамі былі праф. Шанбінага, К. М. Колас і праф. Бельчыкаў. Аф. апаненты ўвогуле выказаліся з выдатнага боку, але калі дайшло да абгаворвання, малюнак зусім змяніўся. Першым выступаў Бараг[21]. Трэба было толькі бачыць гэтага няіставага маладога вучонага. Бараг гаварыў гадзіну і 10 хв. Прамова яго абваражыла ўсіх прысутных. Ён у запале дыскусіі, размахваючы рукамі, бегаў, як апантаны па аўдыторыі і ў канцы разбіў Дабрыніна. Усім кінулася ў вочы надзвычайная эрудыцыя гэтага маладога вучонага. З якой кампетэнцыяй ён разбіваў усе сцвярджэнні Дабрыніна! Ён не аставіў каменя на камені ад усёй канцэпцыі прафесара. Дыскусія перайшла рамкі вучонай прыстойнасці і пачалася чуць не сварка. Бараг да канца смела выкрываў Дабрыніна як нявежу і плагіятара. Выступаючыя пасля яго Ларчанка, Карнеева-Петрулан[22], Смірноў (?), Шэнкфман яшчэ раз пацвердзілі несамавітасць працы. Шкада было глядзець на дысертанта. Яго дысертацыя з трэскам правалілася. Галасавалі: 5 за прысуджэнне вучонай ступені, 10 супраць, 9 устрымалася. Прысутнічала многа студэнтаў і пасля пасяджэння толькі і гутарылі што аб дысертацыі, і важна, што вынікі галасавання ўсіх задаволілі. Прыйшоў дадому а 9 гадзіне, закончыў перачытванне граматыкі польскай мовы і лёг спаць.

*19 студзеня.*

Устаў а 5 гадзіне, запоўніў дзённік. Пачаў апавяданне аб Айчыннай вайне. Пісалася не зусім лёгка. Я адчуваю яўную цяжкасць пачатку. Крыху перапрацаваў другую главу «Ліхадзеяў». На заняткі не пайшоў. Чытаў <…>. Рыхтаваўся да новай тэмы па ваеннай справе. Радыё прынесла весткі аб паспяховым развіцці наступлення нашых войск на Ленінградскім фронце. Загад т. Сталіна з прычыны ўзяцця нашымі войскамі Краснага Сяла і <…>. 20 тыс. трупаў ням. салдат і афіцэраў. Прасядзеў да 12.

*20 студзеня.*

Устаў у 7 гадзін. Нічога не зрабіў. Сабраўся і пайшоў чытаць ваенную справу на філфаку. Задаволен сабою. Аказваецца, я не так ужо хварэю некрасамоўствам, як мне так здавалася. Фаня дала на два дні Эрэнбурга «Падение Парижа». Пачаў вывучаць Пісарава[23]. Пасля абеду займаўся з гісторыкамі. Сёння няма вячэры. Мне далі, бо я выкладчык. Новыя поспехі нашых войск на Ленінградскім фронце: авалодалі Ноўгарадам, <…>. Колькасць забітых за гэтыя дні на Ленінградскім і Волхаўскім франтах дайшла да 40 тыс. Вялікія трафеі. Чытаў «Падение Парижа». Лёг спаць у 10 г. в.

*21 студзеня.*

Устаў а 7 гадзіне. Запоўніў дзённік за мінулыя дні. К 8 гадзінам пабег чытаць ваенную справу фізмацікам. Чытаў «Падение Парижа». Стыль не падабаецца — цяжкі. Пачаў вывучаць польскую мову. Вечарам быў ва ўніверсітэце мітынг, прысвечаны 20-годдзю смерці У. І. Леніна. Даклад рабіў Савіцкі[24]. Пасля вячэры радыё паведаміла аб новым прарыве нямецкай абароны ў раёне Мгі і аб авалоданні гэтым горадам.

*22 студзеня.*

Падняўся а палове 6 гадзіны. Працаваў над апавяданнем. Чытаў «Падение Парижа». Перадалі запіску ад Бернардавай, каб абавязкова выпісаў газету. Казлоўскі даў запрашальны білет на юбілейнае свята БАН. Меўся паспаць і не паспаў, сяджу без грошай. Ёсць слухі, што змяншаюць паёк. Чытаў апавяданне Сенкевіча. Польская мова даецца лёгка, хоць у слоўнік трэба часта зазіраць. Даю сабе слова вывучыць яе дасканала к 1-му мая. Сёння заняткаў не было.

*23 студзеня.*

Устаў а 6 гадзіне. Дакараю сябе за тое, што праваляўся ў пасцелі больш, чым патрэбна. Трэба было закончыць «Падение», і нічога не напісаў. «Падение» закончыў. Раман аб перадваеннай Францыі. Трэба аддаць належнае Эрэнбургу — ведае дасканала жыццё Францыі <…>. Глыбока разбіраецца ў партыйна-класавых супярэчнасцях перадваеннай Францыі, ускрывае гэтыя супярэчнасці, як прычыну гібелі Фр. З боку стылю цяжкая кніга. Можна задаць пытанне: ці адпавядае гэта кніга аднаму з асноўных патрабаванняў мастацтва — даць эстэтычнае задавальненне, акрамя рэальнага паказу жыцця? Сумняваюся. Ва ўсякім выпадку — гэта кніга для вузкага кола чытачоў. Сваім цяжарным стылем выклікае да сябе <…>. Зачытаўся «Рэалістамі» Пісарава. Гэта публіцыстыка, а прыемней чытаецца, чым «Падение». Чыгуначніца прынесла прадаваць яйкі, <…> — свой паёк. 60—80 руб. штука. Запрашала нас купіць. «Які ў вас паёк! Мы хоць чыгуначнікі, то сёетое атрымліваем. А вы?..»

Атрымаў два лісты ад Е. Н. і Лізаветы. Адна скардзіцца, што не пішу (не атрымала мой ліст), другая віншуе з Новым годам. Федзя карпее над фр. мовай. Заключаем з ім умову вывучаць штодня 20 слоў фр. мовы і ў 10 гадзін вечара правяраць адзін другога. Зноў не перадалі загаду. На Ленінградскім фронце пасоўваюцца марудна. Ноччу прыехаў Жэнька з Масквы.

*24 студзеня.*

Устаў а палове 6 г. Запоўніў дзённік, напісаў некалькі абзацаў другой главы. Чытаў Пісарава «Рэалісты». Сутычка з гаспадыняй за курэнне. Мы страшым яе, што будзем шукаць другую кватэру. Яна гэтага баіцца, бо без нас у яе выключаць святло і забяруць на работы. Заказаў заметкі ў насценгазету. На занятках быць не давялося — сарвалася: штосьці непаладкі з раскладам. Рэктар размяркоўвае вопратку. Атрымаць няма рацыі. Чытаю «Рэалістаў». Якая моцная, глыбокая, якая выразнасць розуму і лёгкасць выкладання! «Рэалісты» ўвойдуць у мяне ў спіс самых выдатных твораў рускай публіцыстыкі. Вечарам у 8-20 радыё… Пушкіна (Царское Село), Паўлаўск. Салютуе Масква. Прыйшоў Жэнька і сказаў <…>. Мы радуемся, як дзеці. Не заснуў да 12 г. У галаве думкі аб уражаннях пасля прачытаных глаў з «Рэалістаў». Асабліва цікавыя главы 21, 22, 23, 24, 25. Пры чытанні ў мяне нарадзілася думка даць трэцюю кнігу «Ліхадзеяў» не з пасляваеннага, а з даваеннага жыцця. Канчаткова акрэсліваецца ідэя <…> Гэта выхаванне новага чалавека, чалавека сацыялістычнага грамадства. Шлях Аляксея Н-ча.

*25 студзеня.*

Устаў а палове 6 г. Напісаў некалькі радкоў. Не атрымлівалася, кінуў, не загадаў сябе прымусіць рабіць тое, што нязбежна будзе выкінута, або перароблена да непазнаваемасці. Запоўніў дзённік і ўзяўся за «Рэалістаў». Гэту кнігу трэба не чытаць, а вывучаць, як вучаць вучні ад главы да главы. Колькі тут павучальнага! Барацьба з невуцтвам рускага чалавека.

*26 студзеня.*

Устаў позна. Крыху чытаў. Быў на фр. мове. Няма жадання наведваць: вучоба пастаўлена надзвычайна нізка. Да чаго дайшлі ў нас універсітэты! Чуць не атрымаў камандзіроўку ў вызваленыя раёны Беларусі па справах універсітэта. Пасылаюць Мележа.

*27 студзеня.*

У газеце апублікован загад Наркома асветы РСФСР аб скасаванні спаборніцтва ў школе па вучэбнай працы. Нарэшце! У мяне аж падняўся настрой. А колькі гэтыя дзіцячыя гульні нашкодзілі нашай школе! Вось у тым то і справа, што настаўнік павінен быць вольным ад усякага ціску з боку! Больш увагі

якасці. Абавязкова напішу ліст аб гэтым В. У. Займаўся з філолагамі. Сёння ў мяне якісь <…> настрой. Так мне цяжка гутарыць, язык заплятаецца. Чытаў Плоткіна «Писарев». Вечарам займацца не давялося: з-за адсутнасці святломаскіроўкі выключаюць святло.

*28 студзеня.*

Устаў а палове 7 гадзіны. Пісаць не давялося. Крыху чытаў. Пайшоў на базар, купіў бульбы і згатаваў сабе пюрэ. 2 г. займаўся з фізмацікамі і хімікамі. Дома чытаў. Жэнька прыйшоў і паведаміў аб тым, што мяне запісаў у спіс запрошаных на ўсеславянскі мітынг у Маскве. Гэта выклікала ўва мне надзвычайнае задавальненне. Рыхтуюся. Балтаюць, быццам адбыўся чарговы пленум ЦК ВКП(б) з надта цікавымі пытаннямі. Нашы войскі вызв. Любань.

*29 студзеня.*

Устаў а 4 г. Згатаваў суп і яшчэ засталося шмат часу. Запоўніў дзённік. Паспрабаваў пісаць, але штосьне выходзіла. Адзаймаўся з географамі і біёлагамі. Прывезлі з Жэнькам воз дроў, каб гаспадыня больш не крычала. У 1-50 паехалі ў Маскву. Адрас аказаўся няправільны. Доўга давялося шукаць. Усе былі ўжо ў зборы, калі мы заявіліся. Публіка партызанская, часта чулася польская гамонка. Вечар дружбы польскага і беларускага народаў. Адкрыў вечар доўгай прамовай генерал-лейтэнант, затым выступаў з дакладам <…>. Даклад быў занадта акадэмічным і нікога не захапіў. Выступалі з прамовамі Ванда Васілеўская, Якуб Колас, Сцяпан Яндрыхоўскі, маёр польскай арміі Віктар Гром, Цімох Гарбуноў. Прынялі адозву да беларускага і польскага народаў. Пасля афіцыйнай часкі наладзілі канцэрт. Выступалі лепшыя сілы беларускага тэатра: Александроўская, <…>, Млодэк, <…>, Нікалаева, Дзянісаў, а таксама Г. Баранава і інш. Асаблівым поспехам карысталася Александроўская і <…> з Нікалаевай. На кватэру прыйшлі а 12 г. Валя падала суп, прыгатаваны з бульбы і круп, што мы з сабой узялі ў кішэні. Спалі на падлозе.

*30 студзеня.*

Сяк-так пераспалі. А 9 г. паехаў у горад. Знайшоў магазін інтэрнацыянальнай кнігі. Купіў «Беларусь», «Янука Сялібу»[25] і некалькі кніжак на беларускай, украінскай і польскай мовах. Паабедаў у рэстаране на Градавай і паехаў дадому у 1-30 г. Адчуваў сябе такім стомленым, што не захацеў пайсці на абед, а лёг пад коўдру і не ўставаў. Жэнька прынёс вячэру. Я павячэраў у ложку. Прачытаў апавяданне Кузьмы Чорнага «Бацька». Прачытаў старонку «Wolna Polska» і заснуў.

*31 студзеня.*

Устаў а палове 3 г. Запоўніў дзённік. Напісаў чатыры старонкі апавядання. Трэба няпрэменна напісаць апавяданне ў хуткім часе. Займаўся польскай мовай. Днём напісаў сюжэт. Ён мяне так закрануў, што я пасля гэтага ні за што не змог узяцца. Яшчэ чытаў польскую газету, і пасля вячэры лёг спаць. Паспаць лепш, каб забыцца на голад. Апошнія дні месяца ў мяне не хапае хлеба. Дакараю сябе за нястрыманасць у размеркаванні хлеба.

*1 лютага.*

Устаў а палове 4 гадз. Напісаў дзве старонкі апавядання. Можа атрымацца не апавяданне, а аповесць. Ау, штож, тым лепей! Але абавязкова напішу. Імя, імя патрэбна! Праў Цімох! Займаўся польскай мовай. Шмат часу прабыў за хлебам. Чытаў апавяданні Кузьмы Чорнага. Майго любімага беларускага празаіка. Аднак уражанне не зусім добрае. Залішняе калупанне ў дробязях. Атрымоўваецца ўражанне, што аўтар не прагне штосьсказаць і робіць якіясь моўныя эксперыменты.

Праспаў гадзіны тры. Радыё перадало загад аб узяцці Кінгісепа. У 12 г. перадавалі тэкст даклада тав. Молатава аб пытанні раздзялення саюзных наркаматаў (НКА і НКЗС) на саюзна-рэспубліканскія. Мяне так закрануў гэты даклад сваёй важнасцю пытанняў! Акрамя палітычнай важнасці данай справы, яна безумоўна мае і агромністую культурную важнасць! Там, дзе больш аўтаноміі, там безумоўна больш можна развіваць і нац. культуры, у прыватнасці культуру мовы, літаратуры. Атрымаў ліст ад в. Куцава.

*2 лютага.*

Устаў а палове 5 гадз. Запоўніў дзённік. Пісаў апавяданне. Займаўся польскай мовай. Даручылі рэалізацыю <…> Праводзіў кансультацыю з гісторыкамі. Многія жадаюць здаваць мне, а не Мележу.

*3 лютага.*

Устаў позна. Займаўся польскай мовай. Чытаў Пісарава «Пушкин и Белинский». Мяне здзівіла, як адмоўна адзывацца гэты таленавіты крытык аб вялікай кнізе Пушкіна. Пушкіна, чыя сіла <…> Пісарава прымушае <…> Прымаў залікі ад гісторыкаў. Усе задаволены. Адчуваю іх сімпатыі. Настрой быў добры. Радыё паведаміла аб новай радаснай падзеі на фронце. Войскі 1-га і 2-га укр. фр. пасля пяцідзённых жорсткіх баёў прарвалі абарону немцаў і злучыўшыся, абкружылі 9 пяхотных і адну танкавую дывізіі. Усе абмяркоўваюць гэту радасную падзею. Многія называюць яе новым Сталінградам.

*4 лютага.*

Устаў а 5 гадз. Пісаў. Запоўніў дзённік. Займаўся польскай мовай. Каля мяне ляжыць хлеб, але я стараюся яго не есці, каб зэканоміць і пакінуць хоць кавалачак на заўтра. Сёння трэ было прымаць залікі ў студэнтаў фізмата. Мележ прымаў сам, і мне нічога не засталося рабіць. Ларчанка пацікавіўся, над чым я працую. Я абяцаў яму даць пачытаць. У <…> дамовіліся праводзіць заняткі літаратурнага гуртка. Мне прыйдзецца чытаць свае пачаткі. Ларчанка расказаў, што Кузьма Чорны выдатна адзываецца аб апавяданні Мележа. Будуць быццам друкаваць у часопісе. Я вельмі задаволены, што колькасць празаікаў у нас павялічваецца. Хоць надзея на Мележа ў мяне зусім невялікая. Кансультацыі праводзіць таксама не давялося. Лёг рана з надзеяй устаць параней і пабольш папрацаваць над апавяданнем.

*5 лютага.*

Устаў а 4 г., але, на вялікі жаль, я не мог напісаць ні аднае строчкі. Прыйшлося адкласці і заняцца чытаннем. Што ж зрабіць, калі я яшчэ не прывык працаваць роўна і сістэматычна. Добра і тое, што хоць гэта здараецца адносна рэдка. Паспрабую папісаць днём.

Днём таксама нічога не ўдалося зрабіць. Радыё прынесла вестку пра выдатныя поспехі нашых войск на 1-ым і 2-ім укр. франтах. Нашы войскі ў двух месцах прарвалі лінію абароны немцаў і абкружылі дзесяць варожых дывізій. Мы гэта называем «малым Сталінградам». Узяты абласныя цэнтры Заходняй Украіны Луцк і Роўна і яшчэ некалькі раённых гарадоў.

*6 лютага.*

Цэлую ноч не спаў. Устаў вельмі рана, ноччу. Думаў папісаць, але зноў нічога не ладзілася. Знайшлася думка і сюжэт для невялічкага апавядання. От і трэба з яе пачаць. Сюжэт пра партызанаў робіцца сюжэтам цэлай аповесці. Прыйдзецца над ёй працаваць адначасова з працай над шэрагам дробных апавяданняў. Імя, трэба імя. Кінуў пяро і гатаваў суп на плітцы. У 8-20 з Федзько паехалі ў Маскву. Хацеў папасці ў лазню, але там сённяшнім днём было столькі людзей, што я ўзяў ды

плюнуў і пайшоў шлындацца па Маскве. Завітаў у «Інтэрнацыянальную кнігу», купіў «Wolna polska», часопіс «Nowe Widnokręgi» і яшчэ некалькі кніжак. Палякі змяшчаюць багаты матэрыял пра становішча на фронце і аб пытаннях міжнароднай палітыкі. Ледзь прыспеў к цягніку на 12 г. Другім цягнікам было нельга, бо ў 3 г. трэба было прымаць залік. Адчуваў сябе днём надта замораным, ісці прымаць залік не хацелася страшэнна. Ужо 3-ці ці 4-ты дзень кніжак не чытаю. Дакараю сябе за гэта. Ідучы з вячэры, пачуў па радыё паведамленне і загады Сталіна. Нашы войскі 3-га укр. фронту ў двух месцах прарвалі лінію абароны немцаў працягам да 170 км. І ў глыбіню ад 45 да 60 км, авалодалі звыш 250 нас. пунктамі, у тым ліку гарадамі Апосталава і Ніжнядняпроўскам. Увогуле, нямецкі фронт пачынае трашчаць па ўсіх напрамках. Гітлер не паспявае латаць.

*7 лютага.*

Устаў а палове 6-е гадзіны. Думаў папісаць, але зноў нічога не ўдалося. Запоўніў дзённік.

*10 лютага.*

Пісаў апавяданне. Закончыў яго ў першай рэдакцыі. Апрацую і павязу Цімоху. Паабяцаў вечарам зайсці да дзяўчат. У бібліятэцы сустрэўся з Мележам. Цікавіўся маёй працай. Паабяцалі адзін аднаму даць пачытаць. Перад вячэраю сагналі студэнтаў на сход. Савіцкі зрабіў паведамленне аб адбыўшайся дзясятай сесіі Вярхоўнага Савета. Сход прайшоў надзвычай вяла і пасіўна. Усё неяк выглядзела штучным, неарганізаваным. Пасля вячэры пайшоў да дзяўчат. Блукаў, не маючы дакладнага адраса. Снег, ёлкі і бярозы, заснежаныя хаты — цішыня — якая ўрачыстасць і прыгажосць!

Дзяўчаты частавалі чаем і прасілі расказаць пра сваё франтавое жыццё, і я расказваў. Прасядзеў аж да 1-й гадзіны.

*11 лютага.*

Устаў позна. Пісаць раніцай не давялося. Кампенсаваў творчы час днём. Арганізавалі снеданне. Закончыў Пісарава. Прачытаў «Янука Сялібу». Добрая паэма! Як шкада, што яна не <…> з-за адсутнасці ў нас крытыкі, таго жывога крытычнага разгляду, якога яна так варта! Хоць бяры пішы сам. Лёг а 12 гадзіне.

*12 лютага.*

Зноў устаў позна і зноў давялося пісаць днём. Аднак пісалася добра. Чытаю апавяданні Буніна і Гаршына, літаратуразнаўчыя артыкулы Розы Люксембург. Жэнька пабег у штаб і прывалок сялёдкі, сала і сухароў. Рыхтуемся як правесці гадавіну Чырвонай Арміі. Схадзілі па гарэлку. Мар'я Фёдараўна наліла 3 літры. Не сцярпелі і выпілі з паўлітра. На вячэру пайшлі вясёлыя. Штось здарылася са святлом, замыканне ці яшчэ што. Прыйшлося легчы спаць.

*13 лютага.*

Прабудзіўся а 3 гадз. Хацеў прымусіць сябе заснуць, але праляжаў цэлую гадзіну і не заснуў. Трэці раз перапісаў першую старонку апавядання і што раз, то іначай. Запоўніў дзённік.

*20 лютага.*

Зноў развучыўся сістэматычна запаўняць дзённік. Апошнія дні штосьці не пісалася. Роспач. Увогуле здаецца, што з гэтага нічога не будзе і дарэмна траціць столькі часу і сіл. Сёння напісаў толькі адзін невялічкі абзац. Але працягваю працаваць.

Мы набылі сабе мяшок бульбы. Штодзённа гатуем сабе. Сёння захацелася зрабіць бабку. Толькі і думкі, што аб ядзе. Пачаў працаваць над курсам літаратуры

XIX ст. Працую над вывучэннем польскай мовы. Ужо чытаю цалкам апавяданні. Склаў сабе расклад працы і імкнуся яго выканаць. Радыё паведаміла ўчора ці пазаўчора аб канчатковай перамозе над абкружанымі войскамі гітлераўцаў у раёне Корсунь-<…>. Сёння Прэзідыум Вярх. Савета прысвоіў Коневу[26] вайсковае званне Маршала Сав. Саюза. Варта за такую перамогу, але я не чакаў, што першае такое званне атрымае Конеў. Я чакаў маршалам Ракасоўскага, Талбухіна[27], Ватуціна.

Лёг рана, а 10 гадз., каб заўтра ўстаць раней.

*21 лютага.*

Устаў а 4 гадз. дня. Узяўся пісаць. На здзіўленне добра пісалася. Вось што значыць дасканала вынасіць рэч! Пасля пісання быў у такім замораным стане, што не мог ні за што ўзяцца. Мае вобразы не адступаліся ад мяне. Чытанне не лезла ў галаву, польскай мовай не займаўся. Вечарам, пасля вячэры, пайшоў выканаць сваё абяцанне Жэні Пікульнай. Былі дома <…> і Жэня. Прасядзелі аж да паловы дванаццатае. Яны расказалі мне шмат цікавых выпадкаў. Абяцаў часта наведваць. Вось спосаб збіраць матэрыял. Талент — гэта ўменне адбіраць. Геніяльныя творы створаны не геніямі, а народам. Геніям належыць толькі бясхітрасная роля збіральнікаў жыццёвых крышталяў.

*22 лютага.*

Устаў а 5 г. Зноў удачна пісалася. За вылікам некалькіх месцаў у сярэдзіне, апавяданне скончана. Яшчэ раз-два прачытаю і павязу Цімоху. Займаўся польскай мовай., балазе ёсць падтрымка. Даецца лёгка. Хачу ведаць славянскія мовы і літаратуры. У 1.50 паехаў у Маскву на ўрачыстае пасяджэнне ў Доме вучоных. Сход вучоных і гасцей быў шматлюдным. Пасяджэнне адкрыла дырэктар Дома вучоных Андрэева, сямідзесяцігадовая старая. Суседка гаварыла, што гэтая старая — жонка Леаніда Андрэева. У прызідыум запрошаны вучоныя, прафесары, прафсаюзныя працаўнікі. Прынялі прывітальную тэлеграму т. Сталіну. З вялікім дакладам выступіў Летц. Не чуў я яшчэ такіх дакладаў. Вызначаецца ён не красамоўствам, а тымі матэрыяламі, якія выкарыстаны ў дакладзе. Гэта не звычайны даклад на міжнародную тэму, якія можна часта чуць і якія робяць лектары абкамаў і ЦК. Гэта адмысловы даклад, пабудаваны на матэрыялах замежнага друку. У прэзідыуме сядзелі Сямашка, праф. Аляксандраў, генерал-маёр Барысаў і шмат іншых. Пасля ўрачыстай часткі пачаўся канцэрт. Найбольш спадабалася харэаграфічнае выступленне: выкананне вальса Штрауса. Дасядзеў да антракта. Час падышоў спяшацца на цягнік, і я пайшоў. Як я пасля шкадаваў, што не застаўся даглядзець: выступала Барсава[28].

Як цяжка мне даецца зваротная дарога: у вагонах холад, хочацца спаць. Як толькі я выйшаў з Дома вучоных і дайшоў да ўвахода ў метро, пачуў голас Левітана: загад. Спыніўся на пляцы Дварца Саветаў паглядзець салют. Праз хвілін 10 загрукаталі гарматы, раскат за раскатам, з усіх бакоў Масквы. Адначасова з раскатам грукату вылецелі тысячы рознакаляровых ракет і прыгажэйшымі праменнямі рассыпаліся ў паднябессі і, узрываючыся ў вышыні і множачыся, павольна апалі ўніз.

*23 лютага.*

Устаў а 7 гадзіне. Праслухаў паведамленне Саўінформбюро, прамову Чэрчыля ў палаце абшчын і загад Сталіна з нагоды 26-годдзя Чырвонай Арміі. Пасля абеда паехаў у Маскву на Усеславянскі мітынг славян-воінаў. У грандыёзным зале Дома саюзаў (Калонны зал), вядомым гістарычнымі падзеямі, сабралася мноства вайскоўцаў. Тут і радавыя, і сяржанты, і афіцэры, і генералы: рускія, украінцы, беларусы, палякі, чэхі, сербы і інш. Грудзі большасці ўпрыгожаны ордэнамі і крыжамі. Мітынг адкрыў старшыня Усеславянскага камітэта генерал-

лейтэнант Гундараў(?). Месцы ў прызідыуме запоўнілі генералы і афіцэры. Я пазнаю ў бінокль польскага генерала Берлінга[29] і палкоўніка Свобаду[30]. Прынялі прывітальныя тэлеграмы Сталіну, Чэрчылю, Рузвельту, Бенешу і інш. Выступалі Берлінг, Свобада, Палаўчэня і інш. З зачытваннем тэлеграмы Сталіну выступаў украінскі паэт.

Пасля незакончыўшайся ўрачыстай часткі выступаў Чырванасцяжны ансамбль чырвонаармейскай песні і танца пад кіраўніцтвам праф. Аляксандрава. Выкананне песень усіх ачаравала. Кожную рэч прысутныя суправаджалі бурнымі воплескамі. У фае — кіёскі славянскай літаратуры, буфет.

*29 лютага.*

Я і Федзя атрымалі пуцёўкі ў дом адпачынку. Сёння к вечару збіраемся выязджаць. Учора і сёння добра пісалася. Мая творчая хвароба — не магу перапісваць. Як толькі вазьмуся за перапісванне, абавязкова знаходжу што-небудзь няладнае. Перарабляю адну за другой фразы і нарэшце пішу па старой канве зусім новае апавяданне. Можа, гэта і добра, але надта замаруджвае канчатковую рэдакцыю. Напэўна, у аўтара ніколі не бывае гэтых канчатковых рэдакцый. Тое што з'яўляецца ў друку, гэта проста апошні варыянт, вырваны з рук аўтара нейкай знешняй сілай.

Пасля ўзяцця Рагачова зноў маўчыць Беларускі фронт.

Дзень прайшоў бескарысна. Толькі падрыхтаваўся да выезду. Вечарам Жэнька надумаў ехаць не з вечара, а раніцай.

*1 сакавіка.*

Устаў а 2-й гадзіне, каб згатаваць бульбу. Пад'елі і пасля 5-й гадзіны накіраваліся на станцыю. Дзякаваць, на дварэ цёпла. У Маскве чакаць не давялося. Селі ў электрычку і даехалі да Раменскага. У фабзаўкаме ф-кі Красное Знамя былі першыя. <…>

Я ўвайшоў да старшыні фабзаўкама Балабанавай. Яна сказала: «Я ведаю, пачакайце крыху» (была занята нейкай нарадай у сваім кабінеце). А праз некалькі часу выйшла і сказала, што дасць падводу і, калі ласка, да сваіх. Некаторыя, хто мог, пайшлі. Мы засталіся. Хацелі ўжо было вяртацца назад, як нам сказалі пачакаць. Сабралася яшчэ. Спаткаўся з земляком мінчанінам Гантманам. Ён вучыцца на мастацкім факультэце інстытута кінематаграфіі. У нас з ім аказалася шмат агульных знаёмых. Абмяняліся адрасамі. А 2 гадзіне нам падалі дзве фурманкі. Сем чалавек на возе — ледзь конь вязе. Сядзець няёмка, холадна, па дарозе даводзіцца злазіць, падбягаць. Пасля гэтых невялікіх мытарстваў, мы нарэшце ў доме адпачынку. Выгляд дома не дрэнны. Кажуць, гэта была некалі дача Бухарына. Двухпавярховы, афарбаваны ў жоўты колер дом. За домам і ўлева досыць вялікі парк. Усё гэта абнесена плотам.

Нас спаткалі гасцінна. Чаго я баяўся, дык гэта холаду. Тут, на шчасце, аказалася цёпла. Перш за ўсё нас накармілі добрым мясным абедам і чаем з маслам і цукрам. Цукар далі ўвесь адразу. У гадзін 8 яшчэ раз елі, вячэралі. Гэта было паўтарэнне таго ж самага, што было і на абед. Абед згатавалі, мабыць, на 60 чалавек, а з'явілася пакуль што 30. Пасля вячэры зайшоў у залу адпачынку. Там былі амаль усе адпачываючыя. Дзяўчаты і хлопцы пелі. Адзін хлопец выступаў сола. Хвалілі і шумелі. Святло лямпачак. Іграў патэфон. Я згуляў дзве партыі ў шахматы. Іграў без асаблівага задавальнення і прайграў. Па дарозе ўведалі вельмі цікавую вестку: Фінляндыя заявіла аб сваім жаданні выйсці з вайны. Наш урад прад'явіў вельмі гуманныя ўмовы.

*5 сакавіка.*

Ужо пяць дзён, як я ў доме адпачынку. Хоць час праходзіць і аднастайна, але цікава і весела. Пісаць няма аніякіх умоў. Рашыў абмежавацца збіраннем нарых-

товак. Жыхары пакоя — тры мастакі, два музыканты, два юрысты, педагог і мы. Народ цікавы і досыць развіты. <…>

Думкі: больш і ўпарцей працаваць над сабой. Чаго дамагацца на бліжэйшы час?

1) Выпрацаваць сілу волі. Дзеля гэтага прымушаць сябе выконваць наступнае: штодзённа працаваць дзве гадзіны раніцай і дзве вечарам над польскай мовай. Запісаць за астаўшыяся 10 дзён 1000 слоў і вывучыць іх. Вывучаць граматыку і перакласці ўсе апавяданні Сянкевіча.

2) Штодзённа прачытваць 200 старонак белетрыстыкі з устаноўкай на развіццё ўвагі. Дзеля гэтага чытаць у любых умовах.

3) Штодзённа аддаваць некалькі часу і ўвагі творчай працы. Паколькі няма ўмоў пісаць — збіраць эцюды, як гэта робяць мастакі. Зрабіць расклад працы і строга выконваць яго. Перада мною павінна стаяць пытанне: што я сёння зрабіў? Перад сном рабіць праверку выканання.

Прыйшоў (на лыжах) з Масквы Алег і прывёз вестку аб выхадзе Фінляндыі з вайны.

*7 сакавіка.*

<…> Затое сёння <…> паведаміла, што ўзята Нарва і яшчэ тры гарады. Мы жывём тут як на востраве: ні тэлефона, ні радыё, газеты прыходзяць з апазданнем. Дні праходзяць аднастайна, але досыць цікава. Студэнцтва — народ жвавы і вясёлы. Устаю раней за ўсіх. Пакуль хлопцы прачынаюцца, я займаюся. Сёння не было газоўкі і прыйшлося чакаць святла. Чытаў «Пінквінскі клуб»[31] і мемуары Шаляпіна. Вечар — гэта выхад у зал новых і хто на што аматар. Учора і сёння наладжвалі віктарыны. Учора наш пакой запрапаноўваў шэраг пытанняў, сёння адзін з дзявочых пакояў.

За працу трэба сябе адсцягаць. Не выконваю. <…> Заўтра трэба пастарацца выканаць.

*1 мая.*

Колькі адбылося цікавых падзей! Хай прабачыць дзённік. Учора сустракалі свята. Урачысты сход. Даклад рабіў Савіцкі. Сказаў, што ў Беларусі сфарміравана немцамі Цэнтральная Рада[32] на чале з нейкім Астроўскім, нашым з Случчыны. Увесь вечар правёў з Фаняй Радштэйн. Разумная і цікавая дзяўчынка. У гадзіны, мабыць, дзве ночы пайшлі да Казлоўскага. Зноў выпівалі, доўга размаўлялі. Фанечка Р. прывязваецца, як дзіцё. Сёння я з ёй спаткаўся пасля абеду. Доўга хадзілі. У мяне сёння было асаблівае жаданне выказацца, і я, здаецца, гаварыў у ахвоту. Фанечка расказала, як яна калісь вывучала тыпы людзей. Вельмі цікава, ёсць чаму павучыцца. Добра было б зрабіць запіс усяго дня ў кватэры, ва універсітэце і другіх месцах. Сёння па радыё перадаюць канцэрт па заяўках знатных людзей.

*6 чэрвеня.*

Абедаю. Лур'е[33] пытае, ці я чытаў сённяшнюю «Праўду». Я адказаў, што яшчэ не прыйшла. «Цікава, можа, весткі ўзяцця саюзнікамі Рыма», — гаворыць яго жонка. «Папа ў нас прарочыць», — дадае дачка ў акулярах. Падыходзіць Мележ і паведамляе, што толькі што па радыё паведамілі аб высадцы дэсанта на поўначы Францыі. «От, бачыце, я так і адчуваў». «Ты, папа, у нас сапраўдны прарок», — радуецца дачка ў акулярах. «Што, узяцце Рыма магло быць сігналам к выступленню?» — пытаю я. «Абавязкова», — шматзначна адказвае прафесар.

*20 чэрвеня.*

Усю ноч не спаў. От як дрэнна ламаць свой рэжым. Учора днём прыкарнуў гадзіны паўтары і з-за гэтага не мог заснуць, так і пракачаўся ўсю ноч. Хлопцы

спалі, а я згатаваў бульбу. Гадзіннік падвёў, і я спазніўся на цягнік, што ў 8-26. Ад гэтага сапсаваўся настрой. Прыйшлося чакаць да 10-14. У бібліятэку прыехаў толькі ў 12 г. Дакараю сябе за дарэмную трату часу. Убачыў Фаню. Яна працавала над антычнай літаратурай. 24-га здае. Я чытаў Цэйтна. Некалькі гадзін працы, і я адчуў голад, а з ім і стому. Разлічваў папрацаваць да апошняга цягніка і не змог, прыйшлося паехаць у 8-20. Ехалі разам з Фаняю. Яна пытала мяне парады ці пераводзіцца ў МГУ. Я здагадаўся, што гэта настойванне «бубновага караля». Яна не адмаўлялася.

— Але я не магу рашыць гэтае пытанне сама. Каб хто мне дапамог. Усе раюць. Учора мяне Бараг угаворваў пераводзіцца. Каб мне параіў хто-небудзь са студэнтаў — гэта мела б значэнне.

— А Бараг для Вас не аўтарытэт?

— Я Барага выключаю. А акрамя Барага — ніхто.

— А чаму Вы не звернецеся да аўтарытэтных асоб?

— От я звяртаюся, ды мне не даюць гэтай парады.

— Да каго ж Вы звярталіся?

— Да Вас.

— А хіба ж я для Вас аўтарытэт?

— Яшчэ і які!

Фанечка ўсміхнулася і тут жа падняла ніжнюю губку, каб <…>. Вочы яе двума агеньчыкамі прасілі мяне што-небудзь сказаць аб гэтым.

— Вы мне абяцалі сказаць! Праўда ж?

— Скажу, Фанечка, скажу.

— Ну, скажыце цяпер. Я хачу цяпер, Мікалай Паўлавіч.

— Пераходам у МГУ Вы звязваеце свой лёс з «бубновым каралём»?

Фанечка сумна пацвердзіла. Я маўчаў. У мяне не было ні капелькі <…>, а штосьць падобнае на жаль стрымлівала мяне.

— Я не ведаю Вашых адносін да «бубновага караля» і таму мне вельмі цяжка раіць.

— Вы разглядайце гэты факт, абстрагуючыся ад адносін да «бубновага караля».

— Як жа так можна. Мне здаецца, Вашы адносіны да яго — <…> караля?

— Не. — коратка адказала яна. — Гэта толькі сродак.

— Тады я Вас не падтрымліваю. Мэта не апраўдвае сродак. Праўдзівай мэты не дастаткова. Вы ахвяруеце сабою для чаго, для якіх такіх узвышаных імкненняў, каб толькі паступіць у МГУ? А пасля што?

Фаня маўчала. Затым я ёй прамовіўся аб сваёй душы. Яна была вельмі настойлівай, і я вымушан быў сказаць аб сваёй душы.

— Мне не хапае такога чалавека, як Вы, Фанечка.

Шчочкі яе зачырванеліся.

— Як гэта зразумець? У характары, працы ці ў жыцці?

— У жыцці, — адказаў я.

Я пасля шкадаваў, што сказаў, што гэта выйшла пахожым на прапанову, што я яшчэ не абдумаў і што, можа, што я не магу гэта стрымаць.

Ішоў дождж. Мы разышліся на станцыі Сходня.

Дома я знайшоў незнаёмага чалавека. Гэта быў дзядзька Федзі. Ён прыехаў са шпіталя, дзе ён праляжаў каля 8 месяцаў. Пазнаёміліся. Вараб'ёў. Гаворка з хрыплаватым голасам. Член партыі з 23 года. Працаваў у Нар. Гутарка аб вайне, аб саюзніках. Ён выказаў сваё незадавальненне тэмпамі іх наступлення. Я не пагадзіўся з ім. Гаварылі з ім аб нашым друку.

— Досыць прачытаць адну газету, як ведаеш усё. <…> у Сібіры выконвае чым мы <…>. Вывучае нашы скарбы, яе багацці. Амерыканцы хітрыя. Яны ўзнаюць, што мы тут зможам даць за гэтыя тысячы машын і за іх <…> Усюды абман. Усё будуюць на абмане, а ад гэтага пакутуе народ і наша гаспадарка.

*21 чэрвеня.*

Ішоў дождж. Радасна, што надвор'е стала на ўраджай, але надаела гразь. Разлезся ўвесь мой абутак. Мы зноў гутарылі на палітычныя тэмы. Па радыё паведамілі аб узяцці Выбарга. Аб гэтым я даведаўся ў сталовай ад Лёўкі. Я не верыў. Салют быў ноччу, і мы не чулі. Студэнты незадаволеныя, што кожны раз патрэбна доўга чакаць, каб паснедаць, паабедаць ці павячэраць. Бачыў Фаню. Яна не паехала ў Маскву. Я купіў на базары кавалак (грамаў 200) хлеба і паснедаў бульбяной запяканкай з хлебам. Перадаў праз сястру Марыі Антр., што хачу 23 здаць беларускую мову. На абедзе зноў прыйшлося доўга чакаць. У мяне быў добры настрой і я з задавальненнем жартаваў, што са мною рэдка бывае. Прафесар Ніканаў[34] па дарозе са сталовай расказаў аб язміне. Ён назваў усе назвы гэтай кветкі. Ніканаў — прафесар батанікі. Стары, з доўгай барадою, носіць вялікі капюшон і акуляры. Мне вельмі ён нагадвае чмяля, што лятае над кветкамі.

*22 чэрвеня.*

Думаў удасца сёння здаваць гісторыю беларускай мовы і таму зранку сядзеў над ёю. Жыдовіч сказала, што шмат часу зараз, што яна едзе ў Маскву. Марыя Іванаўна таксама штосьці не прыгляднае. «Дзяжкі» не выходзяць з галавы. Абдумваю прайшоўшую гутарку з Фанечкай. Заўтра чакаю паведамлення аб наступленні нашых войск. Дзе яно толькі пачнецца? На Беларускім фронце? Пара! Хоць у склаўшыхся адносінах бадай што карысней працягваць наступленне ў Румыніі да злучэння з Броз Ціто.

*23 чэрвеня.*

Адчуваю, што здаваць літаратуру XIX века не пайду, не падрыхтаваўся. Гісторыя беларускай мовы адкладаецца на 25 чэрвеня.

*25 чэрвеня.*

Прахадзіў амаль цэлы дзень, каб здаць гісторыю беларускай мовы. Дамогся здачы толькі а 7-й гадзіне вечара. Жыдовіч на здзіўлення адносілася нядрэнна.

Сёння сенсацыя: наступленне на Віцебскім напрамку. Прарыў абароны немцаў па абодва бакі Віцебска і каля Оршы.

*26 чэрвеня.*

Віцебск абкружаны разам з 5-цю нямецкімі дывізіямі. Прарыў у раёне Жлобіна.

*27 чэрвеня.*

Нашы войскі вызвалілі Віцебск, Жлобін, Оршу.

*28 чэрвеня.*

Здаваў французскую мову. Сёння вечар у Маскве, прысвечаны другой гадавіне смерці Янкі Купалы. Арганізуе Акадэмія навук БССР і Саюз пісьменнікаў. Паехалі з Федзькам. Ледзь знайшлі гэтую самую канферэц-залу. Прыйшлося чакаць. Сядзеў з Жыдовіч. Раптам мяне аклікнуў Цімох. З ім былі Чорны і Гурскі. Я разгубіўся. Цімох прымусіў мяне падняць сваю суседку і перасесці да іх. Пазнаёміў з Міколам Карлавічам. Я невыказна хваляваўся, але М. К. так лёгка пачаў гутарыць, што ўсё хваляванне некуды знікла, і мы смяяліся, прыпамінаючы нашы родныя мясціны. Хутка М. К. і Гурскі пайшлі ў прэзідыум. Я застаўся з Цімохам. Вечар адкрыў Колас. З дакладам выступаў Баўдзей. Даклад быў да таго доўгі і нудны, што слухаць не хацелася, і я з задавальненнем гутарыў з Цімохам. З садакладам выступаў член-карэспандэнт Акад. Навук СССР <…>. Ад Саюза Сав. пісьм. РСФСР выступалі А. Караваева, Міхаіл Галодня, Сяргей Гарадзецкі, ад беларускіх — Клімковіч, ад латышскіх Гіра. М. усіх здзівіў, як добра ён валодае беларускай мовай. Ад таджыкаў выступаў Лахуці. Абяцанага канцэрта не было, і

мы пайшлі. Каля метро развіталіся з Мікалаем Карлавічам. Мы з Цімохам яшчэ любаваліся салютам у гонар вызвалення Магілёва. Пасля пайшлі на Гогалеўскі бульвар. Пахадзілі крыху. Пасля быў зноў зачытаны загад. Мы падышлі да Арбата. Тут надзвычайна прыгожа. Салют у гонар вызвалення Асіповіч. Я і Цімох не маглі стрымаць сваёй радасці. Я прапаноўваю паехаць дадому, на Случчыну. Цімох хапаецца за гэту думку. Абяцае камандзіроўку ў Гомель, а адтуль прабяромся на машынах. Развіталіся а 12 г. Цімох паабяцаў прыехаць.

*29 чэрвеня.*

Не выспаўся, але ўстаў, каб паслухаць апошнія навіны. Усе захапляемся імклівасцю наступлення. Я раз за разам паўтараю імя Ракасоўскага, свайго любімага генерала. Рыхтую палітэканомію. Вечар. Загад аб узяцці Бабруйска і ліквідацыя акружанай групіроўкі. Загад аб узяцці Петразаводска. Указ прэзідыума Вярх. Сав. СССР аб прысваенні Ракасоўскаму важнага звання Маршала Сав. Саюза. Я радуюся, быццам гэта прысвоілі званне мне. Адаслаў лісты да Валодзі і Тані.

*30 чэрвеня.*

Хаджу, як ачумелы. У думках толькі адно — мая родная Беларусь. У студэнтаў толькі і гутаркі, што пра Беларусь, пра родныя гарады і вёскі. Сёння буду сядзець да 12 г., каб пачуць, што будзе вызвалена ў маіх родных мясцінах. Ура! Вызвалены Слуцак, Любань, Талька і іншыя гарады і вёскі. Абдымаю ўсіх сваіх родных!

*1 ліпеня.*

Нашы войскі вызвалілі Барысаў, Беразіно і мой родны горад Чырвоная Слабада, а з ім і мае Чаплічы.

*3 ліпеня.*

Мінск! Вызвалены Мінск! Абдымкі, пацалункі. Як жаль, што я сёння не ў Маскве, каб паглядзець салют за Мінск.

*4 ліпеня.*

У нас мітынг. Выступалі Савіцкі, <…>, Шапялевіч, Лур’е, Зубец і інш. Усе гаварылі горача, з запалам. Мітынг выліўся ў нейкую стыхію радасці.

*6 ліпеня.*

Не хочацца нічога рабіць, у думках адна радзіма. Хутчэй бы туды!

*10 ліпеня.*

Здаю апошнія экзамены. Жыркевіч[35] выказаў мне камплімент за слоўнік.

*11 ліпеня.*

Быў у Судніка[36]. Узрадаваўся, што знайшоў чалавека, які як і я любіць Беларусь, сваю мову, сваю культуру. Я яму паабяцаў аддаць усе свае здольнасці на стварэнне слоўніка для свайго народа.

*13 ліпеня.*

Быў у Маскве, каб пабачыць Судніка, але не застаў яго ў гасцініцы. Прыйшлося вярнуцца ні з чым. Мучыць мяне раўматызм. Фанечка на мяне крыўдзіцца. Я вінаваты. Паступіў з ёй хамавата. <…>

*14 ліпеня.*

Пасля ўчарашняга не выспаўся. Напісаў лісты да Тунганава і Бранавец Ф. Г. Думаю зноў паехаць у Маскву, каб канчаткова дамовіцца з Суднікам. Лета думаю

прысвяціць слоўніку, творчасці і беларускай літаратуры. Сваё трэба ведаць у першую чаргу.

*27 ліпеня.*

З 9 гадзін раніцы да 5 г. вечара працаваў у бібліятэцы над слоўнікам. Голад прымусіў пакінуць працу. Прыехаў Савіцкі з Мінска. Мінск разбураны амаль цалкам. Што было цэлае пасля вызвалення, пастрадала ад паветранага налёту. Вельмі радуюся, што хоць цэлыя бібліятэкі. Лістоў ад родных да гэтага часу не атрымаў.

*18 верасня.*

Быў нарэшце ў Цімоха. Застаў у яго якуюсь дзяўчыну. Цімох мяне пазнаёміў. Цімох даў мне трэці нумар «Беларусі». Яны сабраліся ісці ў Траццякоўку, і я пайшоў разам з імі. Глядзелі выстаўку Рэпіна, армянскага мастацтва, выстаўкі Савіцкага, Авілава і інш.

*19 верасня.*

Сёння павінны быць у Цімоха. Ён напісаў паэму «Поўдзень». Хачу пачытаць. Не прыйшлося слухаць. Суднік паведаміў, што ў Інстытуце гісторыі Ак. навук СССР будзе паседжанне аддзела грамадскіх навук Ак. навук БССР, на якім патрэбна быць і мне. Кіраваў паседжаннем акадэмік Перцаў. Прысутнічалі Грынблат, Бараг, Глебка, Суднік з жонкай і інш. Паседжанне зацягнулася, і я спазніўся на цягнік а 10 г. Прыйшлося чакаць аж да 12.10 ночы. Каб хоць крыху скаратаць гэты час пайшоў у метро і ездзіў сюды-туды. Вельмі шкадую, што не мог сёння правесці вечар з Цімохам. Ён даў мне паэму і шкадаваў, што не магу разам з ім паехаць да Кузьмы Чорнага.

*20 верасня.*

Прачытаў паэму Цімоха некалькі разоў. Яна мне спадабалася лепш усіх яго вершаў. Быў у яго. Гутарылі аб паэме. Паехалі ў «Якар». Да Кузьмы Чорнага. Я крышачку хваляваўся. З Міколам Карлавічам я быў знаёмы ўжо даўно, але гэта знаёмства было надта далёкім. Мы засталі Мікалая Карлавіча за вячэрай. Ён нас любезна запрасіў прайсці ў яго «кабінет» і не прамінуў сказаць, вітаючыся са мной: «А, няхай жывуць Чаплічы!» Мікола Карлавіч надзвычайна просты чалавек, з ім так лёгка і так цікава гутарыць. Дзе і дзяецца тое хваляванне, якое ўзнікае кожны раз пры першых хвілінах спаткання. Мы гутарылі пра добра нам знаёмыя мясціны Случчыны. Мікалай Карлавіч расказаў, як ён аднаго разу ў 23 годзе наведаўся ў Чаплічы і начаваў у маіх стрыечных братоў. Расказваў пра свае Баркі. Цікавіўся, ці пішу я. Я расказаў, што працую над тлумачальным слоўнікам.

— Вы заняліся каштоўнай справай. У мяне ўжо было тысяч з восем слоў, але недзе загінулі, — пашкадаваў Мікалай Карлавіч.

Увайшоў Пястрак. Нешта ён усё званіў то сюды, то туды. М. К. жартаваў, што ён кіруе мастацтвам па тэлефоне, з яго кабінета. Пястрак старшыня камісіі па справах мастацтваў пры СНК БССР. Пасля Пястрак пачаў расказваць нешта накшталт сюжэта оперы «Запарожац за Дунаем». Нас гэта не цікавіла, тым болей, што фільм расказваць не ўмеў і сам занадта рагатаў.

— Ды гэта ж усім вядомы твор Катлярэўскага, — заўважыў Мікалай Карлавіч, і Пястрак згадзіўся.

Калі мы ўжо хацелі ісці, увайшоў К. Крапіва. Ён павітаўся з усімі за руку.

Масква салютавала прарывам у Прыбалтыцы. Я зірнуў на гадзіннік і заўважыў, што ўжо без 10 хв. 10. Значыць я спазніўся. Цімох запрасіў да сябе на шклянку чаю. На Арбацкай плошчы сустрэліся з яго дзяўчынай. Пайшлі ўсе ўтраіх. Гутарылі, жартавалі. Цімох частаваў кансервамі і чаем. Гулялі ў карты.

## КАМЕНТАРЫІ

[1] Ракасоўскі Канстанцін Канстанцінавіч (1896 — 1968) — Маршал Савецкага Саюза (1944), маршал Польшчы (1949), двойчы Герой Савецкага Саюза, у Вялікай Айчыннай вайне камандаваў арміяй у бітве пад Масквой, Бранскім, Данскім франтамі (у Сталінградскай бітве), 1-м і 2-м Беларускімі (у Вісла-Одэрскай і Берлінскай аперацыях) франтамі. У 1945—49 гадах галоўнакамандуючы Паўночнай групай войск. У 1949—56 гадах міністр нацыянальнай абароны і нам. старшыні СМ ПНР. У 1956—57 і 1958—62 гадах нам. міністра абароны СССР. Аўтар мемуарных твораў. Імем Ракасоўскага названы праспект у Мінску, вуліцы ў Бабруйску, Гомелі, Пінску і інш. Ганаровы грамадзянін г. Гомеля.

[2] Голікаў Філіп Іванавіч (1900—1980) — Маршал Савецкага Саюза (1961). У Вялікую Айчынную вайну ў 1941—43 гадах камандаваў шэрагам армій, войскамі Бранскага і Варонежскага франтоў, у 1943—50 начальнік Галоўнага ўпраўлення кадраў, у 1958—62 начальнік Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і ВМФ. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—46, 1954—66 гадах.

[3] Ватуцін Мікалай Фёдаравіч (1901—1944) — савецкі военачальнік, генерал арміі (1943). У Вялікую Айчынную вайну начальнік штаба Паўночна-Заходняга фронту, намеснік начальніка генштаба. З 1942 года камандаваў войскамі Варонежскага, Паўднёва-Заходняга і 1-га Украінскага франтоў. 29 лютага 1944 года Ватуцін разам з суправаджэннем выехаў на дзвюх машынах з Роўна ў Славуту, дзе знаходзіўся штаб 60-й арміі. Ля сяла Міляцін Астрожскага раёна машыны трапілі пад абстрэл бандэраўцаў. Ватуцін атрымаў цяжкае раненне ў нагу і, нягледзячы на тое, што аперацыю яму рабіў выкліканы з Масквы галоўны хірург Чырвонай Арміі Бурдэнка, 15 красавіка 1944 г. Ватуцін памёр ад заражэння крыві.

[4] Воранаў Мікалай Мікалаевіч (1899—1968) — савецкі военачальнік, Галоўны маршал артылерыі (1944), Герой Савецкага Саюза (1965). У Вялікую Айчынную вайну начальнік артылерыі і камандуючы артылерыяй Чырвонай Арміі. Прадстаўнік Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандавання ў шэрагу вайсковых аперацый. У 1953—1958 — начальнік Ваенна-артылерыйскай каманднай акадэміі. Дэпутат ВС СССР у 1946—50 гадах.

[5] Васілеўскі Аляксандр Міхайлавіч (1895—1977) — савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза (1943), член Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандавання. У гады Вялікай Айчыннай вайны начальнік Генральнага штаба (1942—1945), прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы і ажыццяўленні практычна ўсіх буйных вайсковых аперацый на савецка-германскім фронце. З лютага 1945 года камандаваў 3-м Беларускім фронтам, кіраваў штурмам Кёнігсберга. У 1945 годзе галоўнакамандуючы савецкімі войскамі на Далёкім Усходзе ў вайне з Японіяй. Адзін з выбітнейшых палкаводцаў Другой сусветнай вайны.

[6] Ромель, Эрвін (15.XI.1891—14.X.1944) — нямецкі генерал-фельдмаршал (1942) і камандуючы нямецкімі войскамі ў Паўночнай Афрыцы. Падчас Першай сусветнай вайны служыў лейтэнантам у Альпійскім батальёне ў Румыніі і Італіі. У 1915 годзе быў узнагароджаны Жалезным крыжам I ступені. З Гітлерам Ромель пазнаёміўся ў 1935 годзе. Прачытаўшы яго кнігу «Пяхота наступае», Гітлер у 1938 годзе прызначыў яго камандзірам асабістага батальёна аховы. Падчас Другой сусветнай вайны Ромель стаў найбольш папулярным немецкім палкаводцам, майстэрства і прафесіяналізм якога высока ацэньвалі нават яго праціўнікі. 6 лютага 1941 года Гітлер прызначыў Ромеля камандуючым толькі што створаным Афрыканскім корпусам і паставіў перад ім задачу адкінуць брытанскія войскі назад у Егіпет. Афрыканская кампанія, якую паспяхова пачаў Ромель, прынесла яму мянушку «ліс пустыні». 21 сакавіка ён разбіў англійскія войскі бліз Эль-Агейла і пачаў рухацца на Тобрук. У студзені 1942 года Ромелю было прысвоена званне генерала арміі. 21 чэрвеня яго войскамі быў захоплены Тобрук — ключавы пункт брытанскай абароны, а 33 тыс. яго абаронцаў трапілі ў палон. На наступны дзень Гітлер прысвоіў Ромелю званне генерал-фельдмаршала. Наступленне Ромеля было прыпынена толькі ў канцы кастрычніка 1943 года ў сувязі са складанасцямі з арганізацыяй забеспячэння войска боепрыпасамі і харчамі. Паляцеўшы ў Германію на лячэнне, Ромель вярнуўся ў Афрыку ўжо тады, калі бітва пры Эль-Аламейне была прайграна. У студзені 1944 года Ромель быў прызначаны камандуючым групоўкай армій на поўначы Францыі. Двойчы ён і фон Рундштэт сустракаліся з Гітлерам і спрабавалі ўгаварыць таго спыніць вайну, пакуль

яшчэ захаваліся значныя сілы германскай арміі. Бледны фюрар адказаў на іх прапанову раз’юшанай сваркай. Пасля высадкі саюзнікаў у Нармандыі, Ромель быў цяжка паранены. Яго адправілі дадому ў Ульм на лячэнне. На той час ён ужо быў расчараваны ў кіраўніцтве Гітлера і лічыў, што фюрара трэба судзіць за яго злачынствы перад нацыяй. Пасля правалу замаху на Гітлера адзін з паміраючых удзельнікаў назваў імя Ромеля, у выніку чаго яго лёс быў вырашаны. 14 кастрычніка 1944 года Гітлер накіраваў дамоў да Ромеля двух афіцэраў, якія прапанавалі яму выбар — скончыць жыццё самагубствам або прадстаць перад судом. «Праз 15 хвілін я памру», — сказаў Ромель жонцы і выпіў яд. Гітлер загадаў пахаваць яго з вайсковымі ўшанаваннямі.

[7] Бадальё, П’етра (28.IX.1871—1.XI.1956) — маршал Італіі (1926), герцаг Адзіс-Абебскі, маркіз Сабаціна, прэм’ер-міністр, які прыняў уладу над краінай пасля звяржэння Мусаліні ў 1943 годзе. Аб’явіў нейтралітэт і вывеў Італію з Другой сусветнай вайны.

[8] «Ліхадзеі» — ненадрукаваны раман Лобана. Аўтограф рамана знаходзіцца ў БДАМЛМ (ф. 148, в. 2, с.2 і 3). Гэта 207 старонак рукапісу, які чакае свайго расчытвання.

[9] Рызаль Хасэ (19.VI.1861—30.XII.1896) — філіпінскі навуковец, паэт, пісьменнік, мастак і скульптар, ідэолаг адраджэння народаў Паўднёва-Усходняй Азіі, празваны «гонарам малайскай расы». Ён быў адным з карыфеяў рэфарматарскага руху ў Іспаніі. Выдатна адукаваны, ведаў больш як два дзясяткі моў (уключаючы рускую). Пакараны смерцю за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання супраць іспанскага валадарства на Філіпінах.

[10] «Жаніцьба Фігара» — камедыя П’ера Бамаршэ.

[11] Качалаў Васіль Канстанцінавіч (сапраўднае прозвішча — Шверубовіч, 1875— 1948) — вядучы акцёр трупы Станіслаўскага, адзін з першых народных артыстаў СССР (1936). Нарадзіўся ў Вільні ў сям’і святара Іаана Шверубовіча, род якога мае беларускае шляхецкае паходжанне.

[12] Новы гімн. Да 1944 года гімнам Савецкага Саюза быў Інтэрнацыянал, які пазней стаў гімнам КПСС. У ноч на першага студзеня 1944 года па радыё ўпершыню прагучаў новы Дзяржаўны гімн (музыка А. В. Аляксандрава, тэкст С. В. Міхалкова і Г. Г. Эль-Рэгістана). Паўсюдна пачаў выконвацца з 15 сакавіка 1944 года.

[13] Бястужаў-Марлінскі Аляксандр Аляксандравіч (1797—1837) — рускі пісьменнік-байраніст, крытык, публіцыст эпохі рамантызму і дзекабрыст, які паходзіў з рода Бястужавых. Друкаваўся пад псеўданімам «Марлінскі».

[14] Цімох Крысько — Васіль Вітка (1911—1996) — беларускі паэт, празаік, драматург, літаратурны крытык, заслужаны дзеяч культуры БССР (1970), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972) за кнігі «Беларуская калыханка», «Казкі», «Чытанка-маляванка». Даўні сябра Міколы Лобана (яны пазнаёміліся летам 1927 года), якога ён у сваіх успамінах называе і Цімахам і Цімохам. Іх родныя вёскі Чаплічы і Еўлічы Слуцкага раёна знаходзяцца побач.

[15] Бялевіч Антон (27.05.1914 г.— 11.04.1978 г.) — беларускі паэт, празаік. Нарадзіўся ў вёсцы Дуброўка Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям’і. Вучыўся ў Магілеўскім палітасветным інстытуце (1933—1935). Працаваў загадчыкам аддзела пухавіцкай раённай газеты «За калгасы», нарысістам у газеце «Чырвоная змена», у 1939—1945 гг. — у газеце «Звязда». У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў у беларускім перыядычным друку, удзельнічаў у партызанскім руху на Віцебшчыне, закідваўся ў тыл ворага. У 1945—1947 гг. — загадчык аддзела паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва», у 1947—1950 гг. — нарысіст газеты «Савецкі селянін». Сябра СП СССР з 1943 г. Першы верш апублікаваны ў 1938 г. (газета «Літаратура і мастацтва»). У 1945 г. у Маскве выйшаў першы зборнік паэзіі «Человек из дубравы» ў перакладзе на рускую мову, у Мінску — вершаваная казка «Мароз-партызан». Аўтар кніжак паэзіі «На бацькоўскіх сцежках» (1946), «Свята» (1947), «Чалавек-сонца» (1947), «Паэмы» (1948), «Светач» (1950), «Дарогай шчасця» (1952), «Жывая рака» (1955), «Хлеб і нахлебнікі» (1957), «За салаўінымі гаямі» (1959), «Вясёлка над полем» (1961), «Залатыя ключы» (1963), «Высокі поўдзень» (1964), «Рэха навальніц» (1965), «Партрэт бацькаўшчыны» (1967), «Вінтоўка і плуг» (1968), «Любоў мая» (1971), «Гарынь» (1972), «А ў бары, бары» (1974), «З Дуброўкі краіна відна» (1974), «Сонцам заручоныя» (1975), «Сонечны гадзіннік» (1978), «Сосны ў жыце»

(1980), «Мой шчодры бор» (1985). Выдаў зборнік вершаваных фельетонаў «Маштабны Міканор» (1963). Напісаў для дзяцей кніжкі паэзіі «Ідзі, мой сын» (1953), «Тарасікава дарожка» (1962), «Дабрадзейны асілак» (1973), «Партызанскі рыбачок» (1976), аповесць «Малюнкі маленства» (1977). Аўтар дакументальнай аповесці «Мінай Шмыроў» (1970), кніг нарысаў «Майстры сацыялістычнага земляробства» (1939), «Сонечным шляхам» (1950), «Добрыя людзі» (1957), «Людзі робяць вясну» (1959), «З добрай доляй заручоныя» (1960), «Хатынь: боль і гнеў» (1971), «Споведзь сэрца» (1978), кнігі літаратурных партрэтаў «Чарадзеі» (1970). Выйшлі Выбраныя творы ў 2-х тамах (1968—1969). Пераклаў на беларускую мову паэму А. Твардоўскага «За даллю — даль» (1962), асобныя вершы А. Пракоф’ева, М. Бажана, А. Малышкі, І. Няходы і інш. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі.

[16] Кудраўцаў Іван (28.06.1922 — 23.05.2004) родам з вёскі Сыцянец Салігорскага раёна Мінскай вобласці. За 2 гады да Вялікай Айчыннай вайны паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На пачатку вайны эвакуіраваны з Мінска, настаўнічаў у Саранскім раёне (Мардовія). Быў прызваны ў Чырвоную Армію, ваяваў на Заходнім, Варонежскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскім і Ленінградскім франтах. Дэмабілізаваны ў 1945 годзе, у 1948 годзе скончыў БДУ. Завочна займаўся ў аспірантуры. Быў літработнікам, загадчыкам літаратурнага аддзела газеты «ЛіМ», адказным сакратаром часопіса «Беларусь». У 1965—1970 гадах — навуковы супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, у 1971—1974 гадах — загадчык літаратурнай часткі Белдзяржфілармоніі. З 1975 да 1988 года — навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Кандыдат філалагічных навук. Сябра СП СССР з 1950 года. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Аўтар манаграфіі «Кузьма Чорны. Ідэі і вобразы ў творчасці» (1956), літаратуразнаўчага нарыса «Кузьма Чорны. Жыццё і творчасць» (1968), склаў з Агіевічам падручнікі «Кніга для чытання ў 2 класе школ рабочай і сельскай моладзі» (1952), «Кніга для чытання ў 3 класе школ рабочай і сельскай моладзі» (1952). Аўтар рамана «Разгневаная зямля» (1984). У 1948—1949 гадах працаваў над перакладам 18-га Збору твораў У. І. Леніна.

[17] Арцыбашаў Міхаіл Пятровіч (1878—1927) — рускі пісьменнік натуралістычнай школы, які прапаведваў амаралізм і паказваў бессэнсоўнасць чалавечага жыцця («Санін», 1907). Пасля 1917 года эмігрыраваў.

[18] Ларчанка Міхаіл Рыгоравіч (1907—1981) — беларускі літаратуразнавец, крытык, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР (1977).

[19] Перцаў Уладзімір Мікалаевіч (1877—1960) — беларускі гісторык. Акадэмік АН БССР (1940), доктар гістарычных навук (1935), прафесар (1921), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[20] Дабрынін Міхаіл Кузьміч нарадзіўся ў 1889 годзе ў Рослаўлі. У 1924 годзе стаў прафесарам Смаленскага ўніверсітэта, выкладаў у ВНУ Масквы, Мінска, загадваў сектарам літаратуры народаў СССР Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага і кафедрай літаратуры Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва. Напрыканцы 1943 года піша Якубу Коласу, які тады жыў пад Клязьмай і ўваходзіў у склад навуковага савета Белдзяржуніверсітэта, у якім просіць таго напісаць водгук на яго кнігу «Белорусская литература» (древний период). Канстанцін Міхайлавіч не мог адмовіць такому буйному ідэалагічнаму работніку і напісаў станоўчы водгук на 11 старонках. 18 студзеня ў Сходню на абарону дысертацыі Дабрыніна з’ехаўся ўвесь навуковы бамонд. У явачным лісце распісаліся рэктар БДУ Савіцкі, прафесары Міхась Лынькоў і Цімафей Гарбуноў, акадэмік Якуб Колас, прадстаўнік партарганізацыі Іван Мележ і іншыя. Усё ішло гладка. Якуб Колас зачытаў свой станоўчы водгук. Але малады дацэнт, дактарант Леў Бараг у сваім выступленні даказаў, што работа Дабрыніна кампіляцыйная і ўтрымлівае шэраг буйных памылак. Абарона была правалена. Доктарам навук Дабрынін стаў толькі ў 1951 годзе, а ў 1955 годзе памёр. Ужо на наступны дзень на Барага быў напісаны данос, які меў трагічныя наступствы ў лёсе маладога навукоўца.

[21] Бараг Леў Рыгоравіч (13.I.1911, Кіеў — 4.IX.1994, Уфа) — савецкі расійскі фальклярыст, літаратуразнаўца. Доктар гістарычных навук (1969), прафесар (1970), заслужаны дзеяч навукі Башкірскай АССР (1977). У 1931 годзе закончыў літаратурны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, аспірантуру МДПІ (кандыдат педа-

гагічных навук, 1938). Вучань Н. К. Гудзія і П. Г. Багатырова. З 1938 года працуе ў Мінскім педагагічным інстытуце. У 1941—1943 гадах — у Свярдлоўскім універсітэце. З 1943 года — дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1943 па 1949 гады дацэнт кафедры літаратуры БДУ, выкладае старажытнарускую літаратуру, курс гісторыі рускай крытыкі, збірае, даследуе і выкладае фальклор. У 1948— 1949 гадах у ходзе ідэалагічнай кампаніі па барацьбе з касмапалітызмам быў абвінавачаны ў тым, што ў сваёй навуковай і педагагічнай рабоце прыніжае беларускі фальклор, лічыць, што яго падабенства з фальклорам іншых еўрапейскіх народаў узнікла праз перайманне, як вынік розных заходнееўрапейскіх уплываў. У 1949 годзе звольнены з БДУ. Яму далі 24 гадзіны, каб пакінуць Мінск. Бараг быў вымушаны пакінуць не толькі Мінск, але і Беларусь. Каля двух гадоў не мог уладкавацца на працу. У 1951 годзе стаў дацэнтам Башкірскага педагагічнага інстытута (з 1957 — БашДУ). З 1966 па 1988 год загадваў кафедрай рускай літаратуры і фальклору. У 1969 годзе абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Узаемасувязі і нацыянальныя своеасаблівасці ўсходнеславянскіх народных казак».

[22] Карнеева-Петрулан, Марыя Іванаўна — мовазнаўца.

[23] Пісараў Дзмітрый Іванавіч (1840—1968) — рускі публіцыст і літаратурны крытык, рэвалюцыйны дэмакрат. Па праве лічыцца «трэцім» пасля Чарнышэўскага і Дабралюбава вялікім рускім крытыкам-шасцідзясятнікам.

[24] Савіцкі Парфён Пятровіч (28. X. 1904, в. Гайшын, Магілёўскай губ. — 11.VIII.1954, Мінск) — беларускі гісторык, дзяржаўны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1948). Рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта з 1938 па 1941 і з 1943 па 1946 год.

[25] «Янук Сяліба» — паэма Максіма Танка, напісаная ў 1942 годзе.

[26] Конеў Іван Сцяпанавіч (1897—1973) — савецкі палкаводзец, Маршал Савецкага Саюза (1944), двойчы Герой Савецкага Саюза (1944, 1945).

[27] Талбухін Фёдар Іванавіч (1894—1949) — савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза, Герой Савецкага Саюза (пасмяротна), народны герой Югаславіі, Герой Народнай Рэспублікі Балгарыі (пасмяротна), кавалер ордэна «Перамога».

[28] Барсава Валерыя Уладзіміраўна (1892—1967) — руская і савецкая оперная спявачка (лірыка-каларатурнае сапрана), педагог, лаўрэат Сталінскай прэміі першай ступені (1941), народная артыстка СССР (1937).

[29] Зыгмунт Хенрык Берлінг (1896—1980) — польскі военачальнік, генерал броні, у гады Другой сусветнай вайны камандуючы 1-й арміяй Войска Польскага.

[30] Людвік Свобада (1895—1979) — дзяржаўны, палітычны і ваенны дзеяч Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі (ЧССР), генерал арміі, Герой Савецкага Саюза (1965). У гады Вялікай Айчыннай вайны камандаваў войскамі 1-й Чэхаславацкай асобнай брыгады.

[31] «Пасмяротныя запіскі Піквінскага клуба» — першы раман англійскага пісьменніка Чарльза Дзікенса, упершыню выпушчаны выдавецтвам «Чэпмен і Хол» у 1836—1837 гадах.

[32] Беларуская цэнтральная рада (БЦР) — цэнтральная інстанцыя беларускай адміністрацыі ва ўмовах нацысцкай акупацыі ў Генеральнай акрузе «Беларусь».

[33] Лур’е Абрам Іосіфавіч (9.VIII.1895, Бабруйск — 19.III.1948, Мінск) — беларускі эканаміст, палітэканом, прафесар. Скончыў бабруйскую гімназію. Вучыўся ў псіханеўралагічным інстытуце ў Ленінградзе з 1916 па 1917 гады. Закончыў першы курс. У 1917—1918 гадах вучыўся ў Кіеўскім універсітэце на юрыдычным факультэце. Пакінуў вучобу на трэцім курсе. З 1918 па 1919 гады працаваў загадчыкам павятовага аддзела народнай адукацыі і сакратаром Бабруйскага павятовага выканкама. Потым да канца 1920 года служыў у Чырвонай Арміі. У 1922 годзе ён становіцца загадчыкам вучэбнай часткі Цэнтральнай партыйнай школы, якая пазней пачала называцца Беларускім камуністычным універсітэтам імя У. І. Леніна. У 1930 годзе яму было прысвоена званне прафесара. З 9 верасня 1940 года пачаў працаваць загадчыкам толькі што створанай кафедры палітэканоміі БДУ. У 1941—1943 гадах знаходзіўся ў эвакуацыі і загадваў кафедрай марксізму-ленінізму Чувашскага педінстытута. Пасля аднаўлення работы БДУ на стан-

цыі Сходня быў выкліканы ва ўніверсітэт да пачатку 1943—1944 навучальнага года. Але па дарозе ў Маскву сур'ёзна захварэў і прыступіў да працы толькі ў лютым 1944-га. У вельмі складаных умовах змог наладзіць выкладанне поўнага курса палітычнай эканоміі на ўсіх факультэтах БДУ. У 1947 годзе па ініцыятыве прафесара А. І. Лур'е і і рэктара БДУ В. А. Тамашэвіча Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР дазволіла БДУ праводзіць абароны кандыдацкіх дысертацый па палітычнай эканоміі. Пад яго кіраўніцтвам атрымалі аспіранцкую адукацыю каля 100 чалавек, многія з якіх потым сталі кандыдатамі, а пазней і дактарамі эканамічных навук. Ім напісана 15 навуковых работ. Памёр 19 сакавіка 1948 года пасля цяжкай і працяглай хваробы.

[34] Ніканаў Леанід Мікалаевіч (1872—1962) — навуковец-батанік і педагог, прафесар (1920), заслужаны дзеяч навукі (1944).

[35] Жыркевіч Міхаіл Іванавіч (1899—1994) — беларускі мовазнавец, заслужаны дзеяч навукі БССР, аўтар шматлікіх падручнікаў па беларускай мове.

[36] Суднік Міхаіл Раманавіч (21.XI.1910—19.XII.1995) — беларускі мовазнаўца, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР (1970), кандыдат філалагічных навук (1954), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1938). У 1944—1952 — навуковы супрацоўнік Інстытуту мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. У 1952—1957 загадчык сектара Інстытута мовазнаўства АН БССР, у 1957—1983 дырэктар, адначасова з 1975 г. загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі, старшы навуковы супрацоўнік, з 1992 дарадца пры дырэкцыі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Асноўныя напрамкі даследаванняў — беларуская лексікалогія і лексікаграфія, арфаграфія, тэрміналогія, анамастыка. Адзін з аўтараў «Руска-беларускага слоўніка» (1953), «Беларуска-рускага слоўніка» (1962), «Арфаграфічнага слоўніка» (5-е выд., 1982), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (тт. 1—5, 1977—1983). Старшыня Беларускага (1959—1985) і сябра Міжнароднага (з 1973) камітэтаў славістаў. Аўтар больш як 100 навуковых прац, манаграфій. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» (1979), медалямі.

***Выказваю падзяку Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва за прапанаваныя матэрыялы.***

*Апрацоўка тэксту, прадмова і каментарыі*
***Аляксандра ВАШЧАНКІ.***



# ЛІТАРАТУРА + ЖЫЦЦЁ

***А** пошнім часам у перыядычным друку ўсё больш і больш можна сустрэць публікацый эпісталярнай спадчыны пісьменнікаў (Максіма Танка, Івана Шамякіна і інш.). Такія публікацыі выклікаюць пэўную цікавасць, паколькі да гэтага перапіска творчых асоб амаль не вядома масаваму чытачу, бо, як правіла, яна не абнародваецца пры жыцці ўдзельнікаў ліставання. Увогуле, многія даследчыкі лічаць эпісталярый другарадным жанрам у творчасці любога пісьменніка, аднак менавіта гэты жанр дазваляе прасачыць ідэйна-творчую эвалюцыю мастака слова.*

***Безумоўна, эпісталярны жанр мае пэўную долю суб'ектыўнасці ў ацэнцы тых ці іншых падзей, але якраз гэтым ён і цікавы.***

***Чытачам часопіса «Полымя» ўжо неаднойчы прапаноўваліся як лісты самога І. Шамякіна, так і лісты калег па творчым цэху да яго.***

***Гэтым разам прапаноўваюцца лісты да Івана Пятровіча, якія ахопліваюць перыяд з 1945 па 1985 год.***

## Васіль Вітка — Івану Шамякіну

14 лістапада 1945 г.

Паважаны тав. Шамякін!

Сардэчна вітаю Вас са шчаслівым зваротам дамоў. Вельмі добра, што вы ўжо блізка, гэта дасць вам магчымасць цясней звязацца з Саюзам пісьменнікаў, з нашымі рэдакцыямі. Ваша аповесць будзе друкавацца ў часопісе «Полымя». Шчыра кажучы, мне шкада было яе аддаваць, хацелася надрукаваць у «Беларусі», больш масавым часопісе. Але зрабіць гэта ніяк немагчыма, паколькі аповесць заняла б якраз увесь нумар. Вельмі прашу вас — дасылайце ў часопіс «Беларусь» свае апавяданні, якія падыдуць сваім памерам. На з'езд пісьменнікаў, які мае адбыцца 10 снежня, вас абавязкова выклічам. Там стаіць, дарэчы сказаць, мой даклад аб творчасці маладых пісьменнікаў. Я буду гаварыць аб вас больш шырока, таму кажу — усё лепшае з напісанага вамі — дасылайце. Адначасова я змагу і для друку выбраць і больш уважліва пазнаёміцца з вашай творчасцю. Мне здаецца, што назву аповесці «Помста» лепей было б змяніць на «Настаўнікі», падумайце. Напішыце аб сабе, як жывеце, што робіце. Здагадваюся, што вы — настаўнік, пішыце — ці працуеце ўжо, у якіх умовах. Прывітанне вашай жонцы.

Цімох Крысько

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Васілём Віткам (сапр. Крысько Цімох Васільевіч; 1911—1996) на паштоўцы, на якой наступныя адрасы: Гомельская обл. ст. Тереховка, с. Прокоповка Шамякину Ив. П.; Минск, Дом Правительства, Союз советских писателей БССР. На паштоўцы акрамя паштовых штампаў стаіць таксама штамп: Просмотрено военной цензурой 26807.*

*Сардэчна вітаю Вас са шчаслівым зваротам дамоў. — Восенню 1945 г. І. Шамякін, прайшоўшы ўсю Вялікую Айчынную вайну, дэмабілізаваўся з арміі і вярнуўся дадому да жонкі і малой дачкі.*

*...што вы ўжо блізка... — Вярнуўшыся з арміі, І. Шамякін працуе настаўнікам у в. Пракопаўка Гомельскага раёна.*

*Ваша аповесць будзе друкавацца ў часопісе «Полымя». — Аповесць «Помста» (часоп. «Полымя», 1945, № 11—12).*

*...мне шкада было яе аддаваць, хацелася надрукаваць у «Беларусі»... — З дня заснавання часопіса «Беларусь» (студзень 1944) Васіль Вітка працаваў адказным сакратаром часопіса і прымаў непасрэдны ўдзел у перадачы аповесці І. Шамякіна з «Беларусі» ў «Полымя». Сам І. Шамякін у кнізе «Роздум на апошнім перагоне» (1998) так успамінае аб гэтым: «Мне вельмі хацелася беларускіх кніг, а іх не было. Прасіў Машу (М. Ф. Шамякіна. — **А. Ш.**) прысланы часопісы. Але дзе ў яе тыя часопісы! Вольга (В. Ф. Кротава, старэйшая сястра М. Ф. Шамякінай. — **А. Ш.**) знайшла два нумары «Беларусі». Маючы адзіны адрас, я паслаў «Помсту» ў «Беларусь». У добрыя рукі трапіла мая аповесць — Іллі Данілавічу Гурскаму. Не маючы магчымасці надрукаваць яе ў сваім танюсенькім часопісе, ён перадаў яе суседзям — у «Полымя». А там прозай загадваў Усевалад Краўчанка, а галоўным быў Пятрусь Броўка. Рэч ім спадабалася, і яны з ходу запусцілі яе ў нумар. Для пэўнасці я даў жончын адрас, ведаў, што хутка звольнюся. Прыехаў у Пракопаўку — і да радасці звароту яшчэ і гэта радасць: аповесць прынялі да друку! Адчуванне гэтае можа зразумець хіба той, хто сам перажыў такую радасць — першую публікацыю ў сур'ёзным выданні. На сёмае неба ўзнёсся я. Помню, калі ў студзені атрымаў здвоены 11—12 нумар «Полымя» — прыслала з Цераховкі Вольга Філатаўна — і разгарнуў яго ў сельсавеце, дзе змяшчалася пошта і медпункт, мяне ажно пачало ліхаманіць — ад незвычайнай узбуджанасці».*

*...дасылайце ў часопіс «Беларусь» свае апавяданні, якія падыдуць сваім памерам. — У часоп. «Беларусь» былі надрукаваны наступныя апавяданні І. Шамякіна: «Бацька» (1946, № 4), «На знаёмых шляхах» (1947, № 3), «Жыццё» (1947, № 8), «Далёкая камандзіроўка» (1947, № 12), «Хадакі» (1950, № 10), «Дзве сілы» (1951, № 3), «Пільнасць» (1951, № 6), «Крытыкун», «Наташа», «Старшыня калгаса» (1953, № 9), «Падмочаны», «Галоўны інжынер», «Аграном» (1954, № 7), «Дзеці настаўніцы» (1960, № 6).*

*На з'езд пісьменнікаў, які мае адбыцца 10 снежня... — маецца на ўвазе першы пасляваенны пленум СП БССР, які адбыўся 27—30 снежня 1945 г.*

*Я буду гаварыць аб вас больш шырока... — В. Вітка ў сваім дакладзе аб творчасці маладых падрабязна спыніўся на аповесці І. Шамякіна «Помста».*

*...назву аповесці «Помста» лепей было б змяніць на «Настаўнікі»... — Назва аповесці не была зменена.*

## Ян Скрыган — Івану Шамякіну

29.IV.55 г.

Паважаны Іван Пятровіч!

Дзякую за Ваша такое прыемнае для мяне пісьмо. Скажу папраўдзе, што калі я пісаў свае заўвагі да Вас, то я не ведаў, што Вы з'яўляецеся намеснікам старшыні і членам прэзідыума — пра гэта я даведаўся крыху пазней. І калі даведаўся, то адчуў сябе крыху нялоўка: баяўся, што маё пісьмо ў такім выпадку, можа быць расцэнена як жэст не зусім добрага такту. Пасля Вашага пісьма гэтае адчуванне рассеялася, чаму я вельмі рад.

Па справе.

Я разумеў сам, што маё пытанне вырашыць цяжка. І тое, што такі доўгі час не меў ніякага адказу ад СП, прымусіла мяне падумаць над тым — як самому-ж

памагчы справе. Каб аблегчыць гэта, я напісаў заяву ў СП СССР з просьбай даць кірунак пытанню, і ўчора палучыў паведамленне, што матар'ял накіраваны да вас. І з Вашага пісьма, і з гэтага паведамлення я бачу, што справа набывае пакрысе яснасць; па крайняй меры гэту яснасць я ўбачыў з Вашага пісьма.

Безумоўна, я прыеду, калі гэта патрэбна. Толькі я прасіў бы, каб мне загадзя сказалі, хоць прыблізна — калі трэба прыехаць. Бо мне трэба заўчасна і па рабоце аформіць свой ад'езд, і пастарацца, каб найменш часу прапала ў мяне марна. Ды і дарога ў мяне даволі доўгая.

Ну, вось і ўсё. Рад, што пазнаёміўся з Вамі. А яшчэ быў бы больш здаволены, калі б была магчымасць прачытаць і другія вашы рэчы.

З павагаю Ян Скрыган

P. S.

Дарэчы, хачу сказаць, мне здаецца, што літаратары беспадстаўна абыходзяць такое простае, прыемнае і поўнае слова, як «палучаць», «палучацца», падменьваючы яго словам «атрымаць» і «атрыманасць». Гэтае слова, нягледзячы на яго ігнараванне, усё роўна распаўсюджана і мае законнае права на бытаванне, бо мае вельмі шырокі корань. І гэты корань жывіць нават многа блізкіх слоў, вось слухайце: далучыць, прылучыць, улучыць, налучыць, залучыць (а чаму ж нельга — палучыць?) і далучыцца, налучыцца, адлучыцца, прылучыцца (а чаму нельга палучыцца?).

Гэта так, між іншым, толькі таму, што гэтае слова я ўжываю ў сваім пісьме і хачу, каб ведалі, што гэта [нрзб].

Вітаю са святам.

Ян Скрыган.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Янкам Скрыганом (сапр. Іван Аляксеевіч; 1905—1992). У гэты час Янка Скрыган знаходзіўся яшчэ па-за межамі Беларусі (у 1936 г. быў арыштаваны, у 1937 г. быў асуджаны на 10 гадоў зняволення ў лагерах і на 10 гадоў ссылкі, у 1954 г. рэабілітаваны, у 1955 г. вярнуўся ў Беларусь).*

*У кнізе «Роздум на апошнім перагоне» (1998) І. Шамякін пра ліставанне з Янкам Скрыганом у гэты перыяд напісаў наступнае: «Недзе яшчэ ў годзе 1954 ці 1955 у СП напісаў пісьмо Іван Аляксеевіч Скрыган. Я нават не ведаў, што быў такі пісьменнік. Спытаў у Броўкі, той адазваўся аб ім хораша. І я напісаў Скрыгану доўгае пісьмо — аб справах у СП, у літаратуры, хто я, хто мы — ваеннае пакаленне. Вярнуўшыся, Янка прызнаўся, што пісьмо вельмі кранула яго, бо першае было такое за 18 гадоў, хоць пасля вайны, да другога высялення, ён працаваў вольна ў Таджыкістане і нават у Эстоніі (адкуль яго выслалі). Ён быў надзвычай удзячны мне, і мы пасябравалі. Між іншым, Ян Скрыган адзін з тых, хто вярнуўся не азлобленым. Уступіў у партыю. Пісаў добрыя апавяданні, нават пра бяду сваю, аптымістычныя».*

*Вітаю са святам. — З першамайскімі святамі.*

## Ян Скрыган — Івану Шамякіну

Члену Камітэта па Дзяржаўных прэміях

БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

Таварышу Шамякіну І. П.

Паважаны Іван Пятровіч!

Вельмі просім Вас прыняць удзел у праслухоўванні песень І. Лучанка. Праслухованне адбудзецца 14 кастрычніка 1976 года ў 16 гадзін у Саюзе кампазітараў БССР (плошча Свабоды).

Ваша прысутнасць неабходна.

Адказны сакратар Камітэта Ян Скрыган (Я. Скрыган)

*Гэты і два наступныя лісты напісаны Янкам Скрыганом, калі ён займаў пасаду адказнага сакратара ў Камітэце па Дзяржаўных прэміях БССР.*

*...І. Лучанка. — Лучанок Ігар Міхайлавіч (нар. 1938), савецкі і беларускі кампазітар, педагог. Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).*

## Ян Скрыган — Івану Шамякіну

Паважаны Іван Пятровіч!

Недзе ў палавіне кастрычніка секцыі Камітэта павінны ўжо мець рашэнне наконт прэтэндэнтаў на Дзярж. прэміі 1984 года.

Паколькі секцыі ўсю работу па падрыхтоўцы думкі на Камітэт робяць самастойна, я мяркую перадаць усе кнігі сакратару секцыі Аляксандру Аляксандравічу Жуку. Вельмі прашу звязацца з ім, даць яму сваю параду — каму, якія творы раздаць на чытанне, можа, не аднаму, а некалькім чалавекам, намеціць час, калі сабрацца на абмеркаванне.

Па Вашай секцыі на 3 прэміі — 10 прэтэндэнтаў: паэзія, проза, дзіцячая літаратура. Выразку з газеты і склад секцыі перасылаю.

З пашанаю Ян Скрыган

23.07.84.

*Жук Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; нар. 1947) — беларускі пісьменнік, перакладчык.*

*Па Вашай секцыі на 3 прэміі — 10 прэтэндэнтаў... — У 1984 г. Дзяржаўную прэмію БССР атрымалі: Бугаёў Д. Я., Караткевіч У. С. (пасмяротна), Макаль П. М., Грачанікаў А. С.*

## Ян Скрыган — Івану Шамякіну

29.08.84

Дарагі Іван Пятровіч!

Настае верасень, людзі (звычайна) канчаюць свае адпачынкі і пачынаецца зноў праца. Трэба і нам па камітэту пачынаць працу — час жа толькі да 10 кастрычніка, пасля чаго патрэбны рэкамендацыі секцыі.

Я мыслю, што для большай надзейнасці кожны твор трэба чытаць 2-м чалавекам (бо нехта можа захварэць, быць у камандзіроўцы, дакладваць не будзе каму). Я накінуў у чарнавічок, што каму можна даць і пасылаю табе: паглядзі, папраў калі што якое і вярні мне. Тады я падам на машынку, размножым і разам з Алесем Жуком разашлем членам секцыі.

Я ведаю, што цябе няма дома. Як вернешся, папрашу, прагледзь, папраў, і тады вярні мне як мага скарэй. (Карыстаюся вось гэтак — дапісачкамі, бо тэлефону яшчэ няма, дом жа новы).

Прывітанне Мар’і Філатаўне. Не прывітанне, а — паклон.

Да пабачэння Ян Скрыган

*Алесь Жук — гл. камент. да папярэдняга ліста.*

*Мар’я Філатаўна — Шамякіна Марыя Філатаўна (1921—1998), жонка І. П Шамякіна.*

## Максім Танк — Івану Шамякіну

Дарагі Іване!

Учора вечарам у Саюзе атрымаў тваё пісьмо. Тваёй хваробай і я калісьці перахварэў у славутых Лукішскіх казематах. Адкуль ты яе падхваціў? Баюсь толькі, каб не сарваў твайго лячэння, бо так неяк склалася, што ў гэтыя прадсвяточныя

дні амаль увесь сакратарыят наш захварэў. Учора Ткачоў выехаў у Маскву, каб з масквічамі ўсё падрыхтаваць да сустрэчы нашай дэлегацыі і правядзенню вечароў. Прэміі прысудзілі наступным таварышам: Лынькову (аднагалосна), Пысіну (супроць 4—5), Вялюгіну, Новікаву, Цікоцкаму і калектыву архітэктараў за Ленінскі праспект. Чакаю 12 нумара «Полымя», каб прачытаць твой новы раман, пра які многа добрага чуў ад нашых хлопцаў. Я не сумняваюся, што ты і на Ленінскую тэму напішаш па-новаму і цікава, і таму добра, што твой язык цябе «падвёў». Ад гэтага ўсе мы будзем у выйгрышы. 10/XII быў партсход. З цікавым дакладам выступіў Баўрын — загадчык с/г аддзела ЦК. Агулам, канец года так перагружаны markednымі мерапрыемствамі, паседжаннямі, юбілеямі, што не знаю ці дацягнем і да сустрэчы новага года.

Усе жадаем табе хутчэй паправіцца і здаровым вярнуцца ў родныя пенаты.

Моцна абдымаю Максім Танк

12/XII 68 г.

*Ліст напісаны народным паэтам БССР Максімам Танкам (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995) і адасланы ў Нясвіж, дзе адпачываў у той час І. Шамякін, які трохі прыхварэў у Нясвіжскім санаторыі.*

*...у славутых Лукішскіх казематах. — Лукішкі, вядомая літоўская турма, знаходзіцца ў цэнтры Вільнюса, пабудавана ў 1901—1904 гг.*

*...ў гэтыя прадсвяточныя дні... — перад Навагоднімі святамі.*

*Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918—1979) — беларускі пісьменнік.*

*...у Маскву, каб з масквічамі ўсё падрыхтаваць да сустрэчы нашай дэлегацыі і правядзенню вечароў. — Відаць, мерапрыемствы да 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.*

*Прэміі прысудзілі... — Дзяржаўныя прэміі БССР за 1968 г.*

*Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — народны пісьменнік БССР, акадэмік АН БССР (1953). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).*

*Пысін Аляксей Васільевіч (1920—1981) — беларускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).*

*Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923—1994) — беларускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).*

*Новікаў — відаць, Новікаў Іван Рыгоравіч (1918—2001), беларускі пісьменнік, журналіст.*

*Цікоцкі Яўген Карлавіч (1893—1970) — беларускі савецкі кампазітар, педагог. Народны артыст БССР (1953). Народны артыст СССР (1955). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).*

*Ленінскі праспект — назва праспекта Незалежнасці (г. Мінск) у 1961—1991 гг.*

*Чакаю 12 нумара «Полымя», каб прачытаць твой новы раман... — раман «Снежныя зімы» (часоп. «Полымя», 1968, № 11, 12).*

*Баўрын Віталій Іванавіч (нар. 1919) — беларускі дзяржаўны дзеяч. З 1969 г. — міністр мясной і малочнай прамысловасці БССР.*

## Максім Танк — Івану Шамякіну

Паважаны Іван Пятровіч!

Праз тры гады, у 1988 годзе, споўніцца 85 гадоў з дня нараджэння Піліпа Сямёнавіча Пестрака, выдатнага беларускага пісьменніка, чый лёс быў звязаны з барацьбой працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне ў адзінай Савецкай дзяржаве. У плане мерапрыемстваў, звязаных з ушанаваннем памяці П. Пестрака, значыцца і выданне кнігі ўспамінаў аб ім.

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звяртаецца да Вас з просьбай напісаць успаміны пра Піліпа Пестрака, як пісьменніка, творы якога перакладзены на рускую, украінскую і іншыя мовы народаў СССР, як камуніста, удзельніка

рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, партызана Вялікай Айчыннай вайны, як чалавека, чыім жыццёвым крэда была высокая сумленнасць і прынцыповасць. Яго адметны жыццёвы і творчы шлях варта ўзнавіць праз жывыя сведчанні тых, хто з ім працаваў, разам змагаўся на рэвалюцыйных барыкадах у буржуазнай Польшчы, хто ведаў яго блізка як самабытнага літаратара.

Напісанае дасылайце на адрас праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі: 220034 Мінск, вул. Фрунзе, 5, гісторыка-мемарыяльная камісія.

Старшыня праўлення СП БССР (Максім Танк)

*Як і папярэдні, ліст напісаны народным паэтам БССР Максімам Танкам. Датуецца 1985 годам паводле зместу ліста.*

*Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903—1978) — беларускі пісьменнік, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968).*

*...і выданне кнігі ўспамінаў аб ім. — Да 85-годдзя з дня нараджэння П. Пестрака кніга ўспамінаў не была выдадзена.*

*...напісаць успаміны пра Піліпа Пестрака... — успаміны пра П. Пестрака І. Шамякіным былі напісаны толькі ў 2000 г. пад назвай «Звястун і бунтар».*

## Піліп Пестрак — Івану Шамякіну

Дарагі Іван, сын Пятроў!

Чуў, што ты ездзіў на сваю Гомельшчыну і што ўжо вярнуўся і што ты захварэў. Апошняе — недарэчы. Не давайся хваробе!

Мой тромб ужо амаль што вылез з маёй нагі — відаць цераз дні два ці тры выйду з гэтай адпачывальні. Тут паляжаць нядрэнна па адной прычыне — можна многа прачытаць. Ну, і, вядома, я выкарыстаў гэты час. Грунтоўна прачытаў Славацкага, пару невялікіх кніжак з мясцовай бібліятэкі, цяпер дачытваю Калевалу — фінскі эпас. Скончыў пісаць свае турэмныя ўспаміны, ужо недзе друкаршчыца друкуе. Але ўсё роўна нудна. Многа ляжыць работы недаробленай і непачатай. Але… часам варта прытварыцца хворым і паляжаць у гэтай лечкамісіі. Ежа харошая — лёгкая і нятлустая, разнастайная. Наогул, дogляд добры. Ну, а далей я не ведаю ніякіх навін. Адчуваю сябе нармалёва.

Ачуньвай, дыхай дачным паветрам, лячыся па-рознаму. Няхай над табою клапоцяцца ўсе богі! Прывет Мар'і Філатаўне.

Піліп Пестрак

10.VIII — 70 г.

*Пестрак Піліп Сямёнавіч — гл. камент. да пісьма «Максім Танк — І. Шамякіну».*

*...Славацкага... — Славацкі Юльюш (1809—1849), польскі паэт і драматург.*

*...Калевалу... — Калевала, карэла-фінскі паэтычны эпас. Складаецца з 50 рун (песень).*

*...Мар'і Філатаўне... — Шамякіна Марыя Філатаўна, гл. камент. да пісьма «Янка Скрыган — І. Шамякіну», ад 29.08.84.*

## Вісарыён Гарбук — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Вы стварылі тое, што было марай і мэтай усяго майго жыцця — твор «Крыніцы» і зрабілі гэта з глыбокім пранікненнем у жыццё, з вялікай любоўю і майстэрствам. З дня выхаду ў свет гэты твор на маёй паліцы і я люблю яго перачытваць.

Дзякуй Вам за яго, дзякуй за новыя падарункі Вашым чатачам, дзякуй за ўвагу да мяне. Працуйце і за тых, хто па тых ці іншых жыццёвых акалічнасцях так і не змог ажыццявіць задуманага.

Хай хопіць Вашых сіл і здароўя на доўгія гады плённай творчай працы! З сардэчнай падзякай — былы настаўнік

Вісарыён Гарбук

8.XI. 61. Пяцігорск.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Вісарыёнам Сцяпанавічам Гарбуком (1913—1986), які ў 1936 г. быў рэпрэсіраваны. У 1961 годзе рэабілітаваны. У 1979 г. атрымаў званне заслужанага работніка культуры БССР.*

*...твор «Крыніцы»... — раман І. Шамякіна (1953—1955).*

*...былы настаўнік... — В. С. Гарбук вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце (1933—1936).*

## Іван Чыгрынаў — Івану Шамякіну

Шамякіну І. П.

ад Чыгрынава І.

Дарагі Іван Пятровіч, я амаль усё даведаўся пра сваю кніжку, і нічым не магу памагчы сабе. Наколькі я зразумеў — кніжку не хочуць ставіць у план 1967 года, адсюль і адгаворкі. Асабліва нельга згадзіцца з тым, што кніжку трэба выпусціць большым памерам, чым яна ёсць. Цяпер у выд. «Сов. писатель» 23 мае апавяданні. Калі 7—8 з іх выкінуць, то астатніх хопіць на добры зборнік (лістоў на 10).

Рэцэнзіі на кніжку атрыманы добрыя: Д. Осін і Г. Шторм.

Я спадзяюся, што Вы, як член рэдсавета і кіраўнік нашага саюза, даможацеся, каб дзве кніжкі прозы маладых беларускіх пісьменнікаў былі пастаўлены ў план 1967 г. (Сачанкава і мая), бо там яны плануюць кнігі такіх аўтараў, якія амаль кожны год выдаюцца на рускай мове (Брыль, Быкаў і г. д.). Вы прагледзіце самі спіс іхні і пагаварыце з т. Кір’янавым, бо як мне здалося, бо мае «сябры» на чале з Гарбачовым пастараліся давесці яму, што кніжкі ў мяне яшчэ няма, лепш жа пачакаць і інш. Але я пераконаны, што кніжка ўжо ёсць, гэта па-першае (таксама сцвярджаюць і рэцэнзенты), а па-другое, навошта чакаць?

Мне здаецца, што дзеля літаратурнага працэсу, які адбываецца ў нашай літаратуры, важна было б выдаць у Маскве і кніжкі маладых.

Я яшчэ раз прашу Вас, Іван Пятровіч, зайсці ў рэдакцыю да т. Кір’янава, пазнаёміцца з планам 1967 г. і пахадайнічаць усім сваім аўтарытэтам за мяне. Буду заўсёды шчыра ўдзячны Вам і г.д.

9 лютага 1966 г. Ів. Чыгрынаў

*Ліст напісаны народным пісьменнікам Беларусі Іванам Гаўрылавічам Чыгрынавым (1934—1996).*

*...пра сваю кніжку... — зб. апавяданняў «По своим следам». Выйшаў у Маскве ў 1968 г.*

*...у выд. «Сов. писатель»... — выдавецтва «Советский писатель», савецкае і расійскае выдавецтва, заснаванае ў 1934 г. у Маскве. З 1938 г. — выдавецтва Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР. З 1992 г. працавала на камерцыйнай аснове. З 2009 г. кніг практычна не выдае.*

*Рэцэнзіі на кніжку атрыманы добрыя: Д. Осін і Г. Шторм. — Рэцэнзіі рускага пісьменніка і перакладчыка Дзмітрыя Дзмітрыевіча Осіна (1906—1982) і рускага пісьменніка і літаратуразнаўца Георгія Пятровіча Шторма (1898—1978) для выдавецтва «Советский писатель».*

*...што Вы, як член рэдсавета і кіраўнік нашага саюза... — З сярэдзіны 1950-х гг. І. Шамякін член рэдкалегіі выдавецтва «Советский писатель» і з 1954 г. у кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў БССР.*

*...каб дзве кніжкі прозы маладых беларускіх пісьменнікаў былі пастаўлены ў план 1967 г. (Сачанкава і мая)... — У Б. Сачанкі ў Маскве выйшлі наступныя*

*кнігі: «Лесное эхо» (1967), «Последние и первые» (1969), у І. Чыгрынава «По своим следам» (1968).*

*...бо там яны — (Брыль, Быкаў і г. д.). — У Янкі Брыля ў Маскве выйшлі наступныя кнігі: «Под говор костра» (1966), «Глядите на траву» (1968), «Горсть солнечных лучей» (1968); у В. Быкава: «Военные повести и рассказы» (1966), «Фронтовые страницы» (1968).*

*Кір'янаў Сяргей Леанідавіч (1907—1982) — у той час загадчык рэдакцыі прозы народаў СССР выдавецтва «Советский писатель».*

*Гарбачоў Міхаіл Васільевіч (1921—1981) — рускі перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971). Кансультант па беларускай літаратуры СП СССР.*

## Іван Чыгрынаў — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч,

неяк не выпадае пагаварыць адзін на адзін, бо вакол Вас заўсёды людзі тоўпяцца.

Падтрымайце, калі ласка, перад т. Ткачовым М. Г. маё хадайніцтва аб выданні ў 1974 годзе рамана «Плач перапёлкі» ў рускім перакладзе. Мікола Гаўрылавіч чамусьці не схільны выдаваць, кажа, што раман можа «затаварыцца»; я не думаю, што раману гэта пагражае — выданне (сёлетняе) на беларускай мове ўжо амаль разышлося, я асабіста «вышкрабаў» апошнія экзэмпляры (300) з баз кнігагандлю (рэспубліканскай і абласной), каб раман быў у кнігарнях; тым часам выданне «Советского писателя» зусім у Беларусь не паступала; не будзе выдадзены раман і ў «Роман-газете»; такім чынам, у рэспубліцы ніхто не мае магчымасці чытаць раман па-руску; таму раман трэба край выдаць.

Праўда, Мікола Гаўрылавіч абяцае выдаць раман па-руску ў 1975 годзе, але ж гэта далёка-далёка, к таму часу ў чытача і цікавасць да майго рамана будзе страчана, да таго ж, я на 1975 год прапаную выдавецтву новы раман.

Адным словам, Іван Пятровіч, трэба Ваша слова, бо т. Канавалаў Р. В. таксама згодны выдаць «Плач перапёлкі» па-руску ў 1974 годзе.

25.XII. 72 г. Ваш Іван Чыгрынаў

*Як і папярэдні, ліст напісаны народным пісьменнікам Беларусі І. Г. Чыгрынавым.*

*Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч; 1918—1979) — беларускі пісьменнік. У 1972—1979 гг. — дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*...рамана «Плач перапёлкі» ў рускім перакладзе. — Раман выйшаў у Мінску на рускай мове ў 1975 г.*

*...тым часам выданне «Советского писателя» зусім у Беларусь не паступала... — «Плач перепелки» ў Маскве выходзіў ў 1976 г.*

*«Роман-газета» — савецкі і расійскі літаратурны часопіс, які выдаецца штомесячна з 1927 г. і двойчы ў месяц з 1957 г. у Маскве.*

*...я на 1975 год прапаную выдавецтву новы раман. — Раман «Апраўданне крыві» выйшаў на беларускай мове ў 1977 г.*

*Канавалаў Р. В. — відаць, супрацоўнік выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

## Іван Чарота — Івану Шамякіну

Паважаны Іван Пятровіч!

Даруйце, што турбую Вас і адрываю ад важных спраў, але не магу абысціся без Вашых меркаванняў па праблеме «Шолахаў і беларуская літаратура», за даследаванне якой бяруся.

Шэраг вядомых фактаў паказвае, што праблема такая існуе. Аднак пры распрацоўцы яе небяспечна збіцца на аднабаковасць — маўляў, уздзеянне Шолахава ёсць, і годзе.

Каб пазбегнуць неабгрунтаваных высноў, я і звяртаюся да вядучых беларускіх пісьменнікаў з гэтай анкетай.

Вельмі прашу адказаць на пастаўленыя пытанні.

З глыбокай пашанай

І. Чарота

18.II.84

Чарота Іван Аляксеевіч

220004 Мінск, прасп. Машэрава, 9, 100.

Машынапіс.

*Да ліста дадаецца спіс наступных пытанняў:*

*1. На працягу дзесяцігоддзяў ужо ставіцца пытанне аб прысутнасці творчага вопыту М. А. Шолахава ў развіцці розных літаратур народаў СССР і замежных краін. Правамерна гэта, на Ваш погляд, ці не?*

*2. У даследаваннях такога плана звычайна разглядаюцца творы, якія маюць тыпалагічнае падабенства з шолахаўскімі. Як Вы гэта ацэньваеце?*

*3. Што можна сказаць пра наяўнасць вопыту М. А. Шолахава ў беларускай літаратуры?*

*4. У які час Шолахаў мог уздзейнічаць на нашу літаратуру, на якія жанры, на каго з пісьменнікаў канкрэтна?*

*5. Ці ёсць падставы гаварыць пра ўздзеянне творчасці Шолахава на крытыку?*

*6. Як Вы лічыце, у чым выяўляецца ўздзеянне аднаго пісьменніка (папярэдніка, сучасніка) на другога?*

*7. Які, па-Вашаму, змест маюць узаемаадносіны «настаўнік — вучань» і «заснавальнік традыцыі — прадаўжальнік, носьбіт яе» паміж літаратарамі?*

*8. Ці ёсць, на Ваш погляд, асаблівасці ідэйнай і творчай пазіцыі Шолахава, пакуль што належным чынам не ацэненыя?*

*9. Якія перспектывы адносін нашай нацыянальнай, усёй савецкай і замежных літаратур да спадчыны М. А. Шолахава Вы бачыце?*

*10. Калі Вы асабіста ўпершыню пазнаёміліся з творамі Шолахава? З якімі канкрэтна? Ці звярталіся да іх пазней? Чаму?*

*11. Якія былі Вашы першыя ўражанні ад прачытанага? Ці мяняліся яны?*

*12. Ці аказваў Шолахаў уплыў на Вас як пісьменніка? Чым Вы самі гэта тлумачыце?*

*Ліст напісаны беларускім літаратуразнаўцам, перакладчыкам і крытыкам Іванам Аляксеевічам Чаротам (нар. 1952).*

*Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч (1905—1984) — рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967, 1980). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1960). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1965).*

## Аляксей Пысін — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Рукапіс майго зборніка вершаў знаходзіцца ў выдавецтве «Советский писатель». Рэцэнзіі станоўчыя. Для ўключэння ў план рэдакцыйнай падрыхтоўкі на 1959 год патрэбна адносіна ад Саюза пісьменнікаў БССР, што ён падтрымлівае выданне маёй кніжкі, адносіна на імя тав. Кір'янава. Так мне сказаў старшы рэдактар рэдакцыі літаратуры народаў СССР Н. Н. Сідарэнка.

Прашу, калі магчыма, даць такую адносіну.

Буду вельмі ўдзячны.
З павагай Аляксей Пысін
22.IV. 1957 г.
Масква, К-104.Тверской бульвар, 25,
В.Л.К.

*Ліст напісаны беларускім паэтам Аляксеем Васільевічам Пысіным (1920—1981).*

*Рукапіс майго зборніка вершаў... — зб. вершаў «Эхо» (1960).*

*...ў выдавецтве «Советский писатель».; Кір'янаў — гл. камент. да ліста «І. Чыгрынаў — І. Шамякіну», ад 9 лютага 1966 г.*

## Мікола Засім — Івану Шамякіну

г. Брэст
27.V 54 г.
Паважаны
Іван Пятровіч!

Прыміце ад мяне прывітанне сам, жонка і дзеці, а таксама пажадання шчасця і здароўя.

Пасылаю табе, Ваня, верш аднае брэсцкае вучаніцы, які яна прачытала на нашым выступленні і прасіла табе перадаць.

Чаму не прыехаў на нараду? Ты, браток, зусім адрокся ад Брэста. Но мы цябе рана ці позна, а на сход прыцягнем.

Напішы аб навінах і над чым працуеш. Падкінь там слова Матузаву наконт мае кніжкі.

Цісну руку Мікола Засім

*Ліст напісаны беларускім паэтам Міколам (Мікалаем Арцёмавічам) Засімам (1908—1957).*

*Матузаў Захар Пятровіч (1911—1977) — дырэктар выдавецтва «Беларусь» з 1948 па 1973 гг.*

*...наконт мае кніжкі. — У 1954 г. выйшла кніга М. Засіма «Вершы».*

## Аляксей Кулакоўскі — Івану Шамякіну

Добры дзень, Іван!

Зноў крыху затрымаўся з адказам. Пакуль прачытаў тваю «Снежную пустыню», пакуль схадзіў разоў тры к гэтым пацукам, аб якіх ты пісаў, пакуль сёе-тое, ды яшчэ лянота-матуля, дык вось сёння ўжо дзесятага лютага. Наконт апавядання «У снежнай пустыні» ты ведаеш маю думку. У ім яскрава выражаны ўвесь твой творчы метад. Я паважаю твой метад. Важнае ў ім тое, што ты не вельмі схілен капацца ў дэталях, што часам раблю я, а бярэш галоўнае і смела ідзеш уперад. Я аб гэтым гаварыў табе. У асобных месцах узнікаюць сумненні наконт асэнсаванасці падзей, але гэта не грунтоўныя недахопы і важнага значэння не маюць. Напрыклад, цяжкавата паверыць, што смяротна паранены лётчык у снягу не замярзаў і нават меў магчымасць потым дастаць з кішэні гадзіннік у той час, калі здаровы лётчык вёў суровую барацьбу з марозам і то траха што не адубянеў. Ну і іншыя такія дробязі. Наогул жа апавяданне добрае, актуальнае.

Мяне век па радыё не перадавалі, а цябе зноў адразу ж падхапілі. Напішы, няхай заплацяць за перадачу ў эфір.

Не ведаю, як будзе з нашымі зборнікамі. Калі дазволіш, то цікавячыся пра свой, я спытаю і пра твой. У цябе большыя шансы, бо Клімковіч сам узяўся рэдагаваць. У мяне ж гэтая справа даручана Гурскаму, дык Клімковіч, мусіць, пакрыўдзіцца і нічога не зробіць для таго, каб працягнуць яго. Даўно закончыў сваё апавяданне, пачатак якога я табе чытаў. Атрымалася велікаватае для «Белару-

сі». Прыйшлося крыху сапсаваць. Наконт яго ёсць усялякія думкі: адны кажуць, што гэта ў мяне значны крок уперад, другія — два крокі назад. Цяпер я заняўся жлобінскімі падпольшчыкамі. Даў пра іх паласу ў газеце, дык думаю акрамя гэтага напісаць нешта шырэйшае. Баюся толькі, што абскочуць іх. Два гады ляжаў гэты матэрыял у ЦК ЛКСМБ і ніхто ім не цікавіўся. А калі мне ўдалося раскапаць яго, знайсці жывых людзей і сфатаграфаваць іх, дык цяпер ужо многа знаходзіцца прэтэндэнтаў на гэтую тэму. Усе ходзяць у ЦК і дабіваюцца, каб адабраць ад мяне матэрыялы. Аднак я наўмысля палажыў на яго лапу і не аддаю. Іншы раз не мяшае сказаць людзям, што і мы не лыкам шыты.

Маскоўская нарада адкладзена да 27 лютага. Магчыма, што і зусім гэта мерапрыемства праваліцца.

Вось і ўсе з большага нашы навіны. Напішы, братка, як ты жывеш?

Шлю табе гарачае прывітанне і шмат пажаданняў самых лепшых, самых задушэўных.

Твой Аляксей

Прывітанне ад жонкі.

10-II-47 г.

*...тваю «Снежную пустыню»... — апавяданне І. Шамякіна «У снежнай пустыні» (1944—1946).*

*...з нашымі зборнікамі. — Відаць, са зборнікамі І. Шамякіна «На знаёмых шляхах» (1949) і А. Кулакоўскага «На возеры» (1950).*

*Клімковіч Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899—1954) — беларускі пісьменнік, крытык.*

*Гурскі Ілья Данілавіч (1899—1972) — беларускі пісьменнік.*

*Даўно закончыў сваё апавяданне... — апавяданне А. Кулакоўскага «Шляхамі жыцця» (часоп. «Беларусь», 1947, № 2).*

*...для «Беларусі». — «Беларусь», грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс. Заснаваны ў студзені 1930 года пад назвай «Чырвоная Беларусь» (выходзіў да 1933 г.), адноўлены ў студзені 1944 года пад назвай «Беларусь».*

*Цяпер заняўся жлобінскімі падпольшчыкамі. Даў пра іх паласу ў газеце... — нарыс А. Кулакоўскага «Маладыя падпольшчыкі Жлобіна» (часоп. «Беларусь», 1947, № 3).*

## Вацлаў Жыдліцкі — Івану Шамякіну

Теплице, 15.6.75 г.

Паважаны

Іван Пятровіч!

Даруйце, калі ласка, што так позна адказваю на Ваш ліст. Паўторыўся інфаркт, і я зноў у санаторыі. Але стан здароўя, здаецца, палепшаў і пад канец месяца, мусіць, адпусцяць дамоў.

«Сэрца на далоні» друкуецца. Якраз на пачатку мая сюды прыслалі за много гранкі — павінна выйсці пад канец 3-га кварталу. Адразу, разумецца, вышлю пару экзэмпляраў.

Дзякуй Вам і за «Атланты і карыятыды», раман гэты я чытаў яшчэ ў часопісе і тады ўжо рэкамендаваў выдавецтву, таксама, як і ў свой час «Снежныя зімы». Як яно будзе з выданнем, пакуль што не ведаю. Між намі, павінен прызнацца, што ў нашых кампетэнтных людзей (у тым ліку і ў Магры Гайкавай, якую Вы спазналі ў Мінску) усё яшчэ існуе нейкі недавер да беларускай літаратуры, хоць як ні стараюся развеяць яго. Але наогул справы цяпер ужо стаяць набогата лепей.

Жадаю Вам добрага плёну і моцнага здароўя.

З павагаю Вацлаў Жыдліцкі

P. S. Калі што, да канца месяца можна мне пісаць на адрас: Чехословакия, Vaclav Zidlicky. Lecetna «Beova», pokoj 409, 75351 Teplice nad Becvon. Але лепей пісаць дадому, жонка перашле сюды.

*Ліст напісаны чэшскім украіністам, выкладчыкам каферы славяністыкі ў Карлавым універсітэце (Прага), публіцыстам, перакладчыкам з беларускай, рускай і ўкраінскай моў Вацлавам Жыдліцкім (1931—2002).*

*«Сэрца на далоні» друкуецца. — На чэшскай мове раман у перакладзе Вацлава Жыдліцкага выйшаў у Празе ў 1975 годзе.*

*...і за «Атланты і карыятыды»... — на чэшскай мове не выходзіў. Выдадзены на славацкай мове ў 1978 г.*

*...чытаў яшчэ ў часопісе... — раман «Атланты і карыятыды» быў апублікаваны ў часоп. «Полымя», 1974, № 1—3.*

*...як і ў свой час «Снежныя зімы». — На чэшскай мове не выходзіў.*

## Міхась Стральцоў — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Ваша «Глыбокая плынь» была ці не першай тоўстай кніжкай, прачытанай некалі вясковым хлапчуком на роднай мове. Дагэтуль памятаю і вокладку, і набор, і сам пах друкарскай фарбы — ні з чым не параўнальнае адчуванне і дарагі ўспамін!

З той пары я Ваш сталы чытач, я рады, што гэтаму майму чытацкаму стажу амаль столькі, колькі нашай Перамозе.

Шчыра жадаю Вам новых твораў і аб міры, і аб вайне, здароўя, чытацкага поспеху — на карысць нашай літаратуры і на добрую навуку нам, пісьменнікам маладзейшым.

Міхась Стральцоў

4.05.82.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам, крытыкам, перакладчыкам Міхасём (Міхаілам Лявонцьевічам) Стральцовым (1937—1987).*

*Ваша «Глыбокая плынь»... — раман (1946—1948) І. Шамякіна.*

*...нашай Перамозе. — Перамозе (1945) у Вялікай Айчыннай вайне (1941—1945).*

## Леанід Гаўрылкін — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Я не меў намеру турбаваць Вас, але цяпер прыходзіцца гэта зрабіць.

Паслаў я сваю аповесць у адзін з часопісаў і атрымаў такі адказ:

«Тваю аповесць «Сярод крывадушных» я прачытаў. Шчыра, друкаваць яе ў такім выглядзе — несур'ёзнасць.

Падрабязнасцей (заўваг) столькі многа, што ліст (разбор іх) і не думаю пісаць.

Выклікаць цябе на дапрацоўку аповесці тут, — рана.

Мо збіраешся калі ў Мінск — не міні нас.

У лісце неяк нельга сказаць табе ўсяго, чаго ў цябе зусім няма. А хочацца, каб ты працаваў над аповесцю».

Я лічу, што няма неабходнасці вам ведаць, хто і адкуль напісаў так. Хай гэты прачытаны разбор майго твора ляжыць на іх сумленні.

Іван Пятровіч, я не лічу сваю аповесць дасканалай. Ведаю, што над ёй трэба яшчэ мо і папрацаваць і, магчыма, нямала. Але вышэй прыведзены адказ адкідвае маю аповесць, як зусім няўдалы, наіўны, несур'ёзны твор. Я з гэтым не згодзен.

Мая аповесць, на маю думку, выкрывае метады работы самай распаўсюджанай секты хрысціян-баптыстаў. Я лічу сваім гонарам зрабіць аповесцю хаця маленькі ўклад у барацьбу з рэлігійным цемрашальствам.

І я так моцна хачу гэта зрабіць, што я поўны рашучасці прыняцца яшчэ раз за сваю аповесць. Але паверце, Іван Пятровіч, я не ведаю, з якога боку да яе падысці. Праз год, другі я гэта зразумею, але ж чакаць так доўга вельмі не хочацца. А з прыведзенага пісьма, ці проста бюракратычнай адпіскі, я не магу зразумець, дзе мая галоўная слабіна? Ці мова, ці вобразы, ці кампазіцыя, ці чорт яго ведае што. Ці, можа, і сапраўды няма нічога вартага?

Але я з гэтым не згодзен. Я добра ведаю, пра што пісаў, і ўпэўнены, што напісанае — праўда.

Я гатоў да самых знішчальных крытычных заўваг, але каб яны былі прынцыповымі і канкрэтнымі. Ну, вядома, калі і вы знойдзеце маю рэч несур'ёзнай, то я, вядома, згаджуся ўжо і з такім прыгаворам.

Іван Пятровіч, я вас вельмі прашу прачытаць маю рэч і напісаць мне.

Я вам вельмі ўдзячны за ваша пісьмо, што атрымаў вясной.

Іван Пятровіч, вы як член рэдкалегіі часопіса «Полымя», лічыце, што аповесць сваю я прыслаў у ваш часопіс. Але галоўнае не ў гэтым, а ў вашай цёплай увазе. Хочацца, каб вы хутчэй справіліся са сваёй хваробай і прыступілі да літаратурнай творчасці.

З вашых чатырох аповесцей мне чамусь больш за ўсё спадабалася «Агонь і снег» (трэцяя). На маю думку, у ёй адчуваецца моцная смелая рука рэаліста.

Віншую Вас з Новым годам!

Жадаю ўсяго найлепшага!

З нецярпеннем чакаю вашага адказу.

31.12.59 г. Л. Гаўрылкін

Мой адрас:<br>
Гомельская вобласць<br>
г. п. Церахоўка<br>
Рэдакцыя газеты «Ленінец»<br>
Гаўрылкіну Леаніду.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Леанідам Іванавічам Гаўрылкіным (1935—1989).*

*Паслаў я сваю аповесць... — аповесць «Кацяя» (апублікавана ў часоп. «Маладосць», 1961, № 5).*

*«Полымя» — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца ў Мінску на беларускай мове са снежня 1922 г.*

*З вашых чатырох аповесцей... — аповесці з пенталогіі «Трывожнае шчасце».*

*Церахоўка — гарадскі пасёлак у Добрушскім раёне Гомельскай вобл.*

*«Ленінец» — раённая масавая газета. Заснавана ў 1935 г.*

## Леанід Гаўрылкін — Івану Шамякіну

Іван Пятровіч!

Дзякую за ваш ліст. Я добра зразумеў усё. Працую далей.

Я хацеў нікчэмнасць [нрзб] паказаць праз іх саміх. Каця з самага пачатку не верыла ў бога, яна хісталася і асаблівай эвалюцыі ў яе светапоглядзе не адбылося, калі яна ўбачыла сапраўдны твар крывадушных. Гэта толькі вырашыла яе сумненні. Але вось добра гэтага я не сумеў апісаць.

Цяпер думаю, думаю.

Іван Пятровіч, вы, магчыма, ведаеце, хто мне даў адказ, хто гэта мой друг. Я крыху папаў у няёмкае становішча. Ён, мой друг, праз некалькі дзён выправіў

сваю памылку, пазваніў мне, і мы з ім дамовіліся сустрэцца дні на два і ён мне дапаможа разабрацца ў маіх недахопах.

Яшчэ раз я хачу падзякаваць за ваш ліст і папрасіць прабачэння, што такім «творам» турбаваў вас. І ўсё ж настрой у мяне ваяўнічы.

Жадаю ўсяго добрага!

З самым шчырым прывітаннем.

Л. Гаўрылкін

*Гл. папярэдні ліст і камент. да яго.*

## Сцяпан Майхровіч — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Ітак, я закончыў манаграфію «Жыццё і творчасць Івана Шамякіна».

Закончыў, а на душы чамусьці сумна… Прыпамінаюцца — (і як яны адпавядаюць майму душэўнаму настрою!) — словы-думкі Якуба Коласа ў лісце да Марыі Дзмітраўны пасля заканчэння «Сымона Музыкі»: «скончыў, а як журботна, што развітаўся з любымі чалавечымі вобразамі!»

Так, я развітаўся з ваяўнічым Маеўскім, з гуманістам — воінам-маёрам з аповесці «Помста», з героямі сімвалічнага рамана «У добры час», са светлымі вобразамі «Сэрца на далоні», з багатырамі «Трывожнага шчасця», такімі мілымі і прыгожымі — Сашай Траян і Пятром Шапятовічам — з многімі другімі чалавечымі характарамі, духоўнае аблічча якіх так хараша ўвасоблена ў іх вялікіх жыццёвых справах і ўчынках…

І ў гэтым, магчыма, развітальным, пасланні хочацца сказаць нашаму паэту-раманісту шчырае дзякуй за тое, што ён падараваў нам непаўторныя эстэтычныя скарбы…

Жадаю свайму любімаму пісьменніку многа шчасця, многа радасці творчых мінут, бо гэта шчасце і радасць нас — шматтысячных чытачоў…

З глыбокай павагай і любоўю.

Сц. Майхровіч

1.ХІІ. 1970.

*Ліст напісаны беларускім крытыкам, літаратуразнаўцам Сцяпанам Казіміравічам Майхровічам (1908—1981).*

*…манаграфію «Жыццё і творчасць Івана Шамякіна». — Выйшла ў 1978 годзе.*

*Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — беларускі паэт, празаік, драматург і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Лаўрэат Сталінскай прэміі (1946, 1949). Марыя Дзмітрыеўна — Міцкевіч Марыя Дзмітрыеўна (1891—1945), жонка Якуба Коласа.*

*…з ваяўнічым Маеўскім… — герой рамана І. Шамякіна «Глыбокая плынь».*

*«Помста», «У добры час», «Сэрца на далоні», «Трывожнае шчасце» — творы І. Шамякіна, напісаныя адпаведна ў 1945; 1952; 1963; 1956—1959, 1964 гг.*

*…Сашай Траян і Пятром Шапятовічам… — героі пенталогіі І. Шамякіна «Трывожнае шчасце» (1956—1959, 1964).*

## Міхась Даніленка — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Дасылаю нумары «Гомельскай праўды» з «Браняпоездам «Таварыш Ленін». Далі два раздзелы. Вядома, было б лепей, каб аповесць змясцілі поўнасцю. Але пры ўсім нашым жаданні з Аляксандрам Усцінавічам зрабіць гэтага не ўдалося: вельмі ж многа падваліла ўсякай афіцыйшчыны.

Чытачы чыталі з вялікім задавальненнем. Многія пазнавалі знаёмыя мясціны. Дарэчы, табе не пісаў В. Карпаў з абласнога партархіва? Ён знайшоў матэрыялы аб тым, што твой бацька добра пасабляў мясцовым падпольшчыкам-партызанам.

Усяго цудоўнага!

Міх. Даніленка

Гомель,

15 красавіка 1970 г.

*Ліст напісаны беларускім пісьменнікам Міхасём (Міхаілам Пятровічам) Даніленкам (нар. 1922).*

*Дасылаю нумары «Гомельскай праўды» з «Браняпоездам «Таварыш Ленін». — Нумар газеты за 8 красавіка 1970 г. «Гомельская праўда» — абласная газета. Выдаецца з 1917 г. у Гомелі. У 1917—1929 гг. выходзіла на рускай мове. З 1929 г. выдаецца на беларускай мове.*

*Аляксандр Усцінавіч — відаць, галоўны рэдактар газеты «Гомельская праўда».*

*В. Карпаў — супрацоўнік абласнога архіва (г. Гомель).*

## Міхась Даніленка — Івану Шамякіну

Дарагі Іван Пятровіч!

Нядаўна быў у нас, у Гомелі, Уладзімір Карпаў. Ён, па сутнасці, і «падштурхнуў» мяне, каб я напісаў гэтае пісьмо.

— У цябе, кажа, хлопча, пабялелі скроні ўжо. А на рускай мове ў Маскве не выдаў ніводнай кнігі.

Можа, варта напомніць на прэзідыуме ці сакратарыяце і сапраўды прыняць адпаведнае рашэнне?

У мяне дзве неблагія аповесці (крытыка станоўча ацаніла) — «Апанаска Лугавы» і «Валя Лугавая». Нядаўна закончыў працу над новай аповесцю на маральна-этычныя тэмы. «Алёшка» называецца. Калі будзе прынята рашэнне, Дзіма Кавалёў з радасцю згодзен іх перакласці…

Прашу прабачэння за такі напамінак. Але сапраўды ў народзе кажуць: не падасі голасу, дык рэха не пачуеш.

Усяго цудоўнага!

Міхась Даніленка

Гомель,

19 верасня 1972 г.

P.S. А Тыдзень братніх літаратур у нас, на Гомельшчыне, прайшоў цудоўна.

М. Д.

*Ліст напісаны М. Даніленкам. Гл. таксама камент. да папярэдняга ліста.*

*Карпаў Уладзімір Барысавіч (1912—1977) — беларускі пісьменнік, крытык.*

*А на рускай мове ў Маскве не выдаў ніводнай кнігі. — Да 1975 г. у М. Даніленкі не было выдання на рускай мове. У 1975 г. выйшла кніга ў Маскве на рускай мове «Заветный океан: Повести и рассказы».*

*…«Апанаска Лугавы» і «Валя Лугавая». — Аповесці М. Даніленкі, апублікаваны адпаведна ў часоп. «Маладосць», 1972, № 2 і газ. «Чырвоная змена», 1972, 5, 8, 9, 11, 12, 13 ліп.*

*«Алёшка» называецца. — Апублікавана ў часоп. «Маладосць», 1974, № 8.*

***Уступ, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі***
***Алесі ШАМЯКІНАЙ.***

**Серафім АНДРАЮК**

# ЯГО ДЗЁННІК — ГЭТА ЁН

«Дзённік — форма аповеду, які вядзецца ад першай асобы ў выглядзе падзённых запісаў. Звычайна такія запісы не рэтраспектыўныя: яны сучасныя падзеям, якія апісваюцца. Найбольш пэўна Д. прэзентуе сябе як жанравая разнастайнасць мастацкай прозы і як аўтабіяграфічныя запісы рэальных асоб». Такое вызначэнне жанру дзённіка даецца ў «Краткой литературной энциклопедии» (т. 2).

Жаданне пазнаёміцца з тэарэтычным вызначэннем жанравай прыроды дзённіка, яго жанравых асаблівасцей, з гісторыяй развіцця жанру з'явілася пасля таго, як прачытаў кнігу Яна Скрыгана «Сэрцу горкая далячынь». Гэта дзённікі выдатнага беларускага пісьменніка, якія ён вёў у апошнія васямнаццаць гадоў свайго жыцця. Першы запіс зроблены 1.03.1974, апошні — 20.07.1992. Памёр Ян Скрыган 18.9.1992 г. Дзённікі надрукаваны праз дваццаць гадоў. Надрукаваны дзякуючы выключна дбайным клопатам яго дачкі Галіны Скрыган.

Разбіраючы бацькавы архіўныя матэрыялы, карпатліва паглыбляючыся ў іх, даследуючы іх, яна падышла, як сама зазначае, «да святая святых — дзённікавых запісаў». Дзённікі захапілі дачку. Тут было і яе жыццё, жыццё і творчасць бацькавы, час і літаратурны свет. Г. Скрыган добра ведала бацьку, яго жыццё, мінулае і тое, якое разам з ім і яна пражывала, ведала, як адносіліся да бацькі ў літаратурным свеце і ў жыцці звычайным, як і за што цанілі яго творчасць. У 2005 годзе, да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, ёю была падрыхтавана, укладзена кніга ўспамінаў пра бацьку «Слова пра Яна Скрыгана». Сваю ж ролю ў выданні дзённікаў бацькі дачка ў прадмове вызначыла проста і адказна: «Працуючы над упарадкаваннем бацькавых запісаў, я перш за ўсё бачу сваю місію ў тым, каб пакінуць гэты бясцэнны летапіс часу ў чытэльным выглядзе, «натарыяльна» завераным для нашчадкаў, а можа быць, і для будучых даследчыкаў-лінгвістаў, філолагаў, літаратуразнаўцаў».

У невялікай прадмове, зробленай зноў жа дачкою, вызначана сутнасць дзённікаў, унутраная неабходнасць назвы. Г. Скрыган у архіўных запісах бацькі, зробленых у 1992 годзе, моцна ўразілі дзве фразы: «Спакою не будзе» і «Сэрцу горкая далячынь». Яна разважае: «Можа, яны былі задуманыя ў якасці загалоўкаў для будучай псіхалагічнай драмы або трагедыі, якой так і не суджана было матэрыялізавацца ў слове. А магчыма, у іх закладзены больш тонкі падтэкст, сакральны сэнс якога патрабуе асаблівага разумення. А магчыма…» Адна з гэтых фраз і стала, па волі ўкладальніцы, назвай кнігі дзённікаў. І зусім правамерна. Так лічыш, прачытаўшы дзённікі. Больш за тое, бачыш, разумееш унутраную змястоўную сувязь гэтых дзвюх фраз, іх рэальны жыццёвы змест. І ўсё гэта звязана з мінулым аўтара дзённіка, пра якое ён увесь час згадвае.

Увогуле дзённік Скрыгана, як мне ўяўляецца, і вылучаецца сярод многіх іншых дзённікаў найперш тым, што ў ім выключна важнае, можа, нават вызначальнае месца займае мінулае аўтара. Прычым гэта не ўспамін, менш за ўсё ўспамін. Гэта яго, аўтарава, сучаснае жыццё, ён сучасны. А ў ім, у яго памяці,

свядомасці, псіхіцы — мінулае. Яно яго не пакідае, яно — у ім. І якраз гэтае мінулае вызначае выключна драматычны эмацыянальны лад твора.

Ужо дзесьці ў самым пачатку дзённіка, 9.05.1974, робіцца запіс пра Дзень Перамогі. «Які вялікі дзень! Колькі годнасці ў кожнага на твары! Усведамленне, што ён савецкі. Што быў пераможаны самы страшны вораг. Мне скрозь не хапае гэтай годнасці і гордасці, — што і я быў з імі. Што і маё месца было сярод іх. Божа, як я абкрадзены!»

Праз год, 30.04.1975, у сувязі з надыходзячым Днём Перамогі запісвае: «…Мяне скрозь гняце адчуванне, што не ўдзельнічаў у Перамозе. Што, значыцца, і святкаваць як бы не маю права: перамога зроблена чужымі жыццямі.

Не разумею: як жа можна рэабілітаваць, сказаць, што ні ў якіх злачынствах ты не вінаваты, і — не даць магчымасці адчуваць гэтага. Лічыцца ўсё-такі вінаватым, бо скрозь і ўсюды аддаляць, рабіць цябе другарадным, не вартым.

І гэта не толькі ў святкаванні Перамогі».

Крыху пазней, назіраючы за пачаткам будаўніцтва метрапалітэна, занатоўвае: «І не магу нават уявіць, што гэта было са мною, каб я, чалавек да самой крывінкі савецкі, сядзеў у савецкай турме. Нават двойчы».

Далей гэтыя ўспаміны, само гэтае мінулае пастаянна, увесь час прысутнічаюць у дзённіку — успаміны, сны. Яно жыве ў аўтары, яно з ім, у ім. І гэта на працягу ўсяго дзённіка. Дзесьці, можа, праз кожныя восем-дзевяць старонак. То гэта ўспамін, то сон, то трызненне; то гэта ўражанне, то боль, то нейкая гісторыя, эпізод, карціна; то гэта звязана непасрэдна з лёсам асабістым, то з сям'ёю, то з іншымі пісьменнікамі…

Пройдуць гады. Скрыган ужо актыўна ўключаецца ў пісьменніцкае жыццё. Працуе ў камісіі па прыёме ў СП. І вось вялікі запіс 9.10.79. «Усю ноч снілася, што я зноў у лагеры». Такі пачатак. Далей апісанне настрою чакання: «павінны разабрацца і адпусціць». Заключны радок абзаца: «І вось увесь дзень нявыспаны, хворы, у галаве шум».

Днём праца ў камісіі па прыёме ў СП. Прынялі 9 чалавек. Настрой падняўся. Зноў наплывае мінулае. Ды нават не мінулае, а сучаснае, народжанае мінулым, адтуль вырастае. Заключны радок запісу таго дня: «Ой, як гэта цяжка, як гэта стамляе, гэтае адчуванне другасортнасці».

Праходзіць час. Аўтар Ян Скрыган дзесьці пачынае адчуваць сябе ў жыцці, у літаратурным свеце больш спакойна, устойліва. Але драматычнае мінулае не пакідае. Яно пастаянна сніцца. Сон уплывае на дзень. Лагер не хоча пакідаць чалавека. Ён стаў яго жыццём. І не толькі мінулым. Ён застаўся з ім і ў ім да смерці.

Запіс 7.11.80: «Вельмі часта сніцца лагер. Учора зноў мяне і яшчэ траіх вызвалі на вызваленне. А ісці няма ў чым: усе транты, абуцце пакралі.

Галоўнае, што прачнешся — і на ўвесь дзень настрой цяжкі. Як бы і папраўдзе ўсё паўтарылася».

Істотны запіс 20.09.82: «Зноў усю ноч — лагер. Чаканне, трывожнае чаканне, што вось-вось разбяруцца і ўсё скончыцца. І баракі, і чэргі, і этапы, і адзёжа-транты, што некуды гіне, і ты не можаш знайсці нічога свайго, а нечыя астаткі, іменна транты, і стараешся быць недзе бліжэй к глухім варотам, адкуль могуць пазваць туды, нарэшце, на волю, бо забралі, як бы толькі каб разабрацца ў нейкім непаразуменні, бо караць жа, і судзіць, і бясконца трымаць за глухімі, бесчалавечна глухімі сценамі няма за што».

Пад канец запісу словы-тлумачэнне: «Можа, такія сны і не паўтараліся б, каб ява не давала права іх памятаць. След жа, цень таго няшчасця маўкліва цягнецца за табою. Ты чуеш яго ў абсягу, у кожнай сферы твайго побыту».

Запісы такога зместу, такога характару хочацца цытаваць яшчэ і яшчэ. Яны сэнсава і эмацыянальна дакладныя, душэўна выпакутаваныя. Іх нельга без хвалявання чытаць. Яны дзесьці пачынаюць набываць іншы змест. Аўтар не про-

ста перадае лагерныя адчуванні, побыт той, асобныя падрабязнасці турэмнага жыцця. Ён імкнецца неяк вытлумачыць тымі горкімі часамі пазнейшыя якіясьці з'явы, падзеі ў сваім жыцці. Ужо праз гады, дзесяцігоддзі. У розных жыццёвых сітуацыях, у розным унутраным стане.

Навагодні запіс 1984 года. На вуліцы дождж. Надвор'е зусім не святочнае. І ўсё ж у настроі аўтара адчуваецца засяроджанасць, жаданне самааналізу свайго быцця — мінулага, сучаснага, жаданне вызначыць мэту свайго жыцця. Сённяшняга і таго, што прайшло па часе, але жыве з ім, жыве ў ім. І будзе жыць да смерці.

Скрыган у новай кватэры. Задаволены. Рыхтуе ў выдавецтва двухтомнік, хутка павінна выйсці яго кніга «Кругі». І ўсё ж… трывога: «Трывожуся і трывожуся. Мабыць, ужо ніколі не дайду да спакойнасці — такую зняверанасць выпрацавала ў мяне жыццё. Увесь час усё жыццё мечаны. А мечанаму ж дарога нялёгкая. І сны скрозь — сяджу бясконца і не ведаю, калі пусцяць, і ўсё чакаю прасвятлення. Ах, як цяжка ў такія дні пасля такіх сноў. Каінава пячаць, відаць жа, навечна».

Праз некалькі дзён, 4.03.84, зноў піша пра ўнутраную трывогу, боязь, што кніга можа не выйсці. Хоча вытлумачыць гэты стан. Вытокі яго бачыць там, у сваім мінулым: «Вось што значаць тыя доўгія гады, калі хадзіў у ворагах народу, а тады, хоць стаў камуністам, чую за сабою непаўнацэннасць: не я сябе так адчуваю, а за мною ходзіць такая доля».

Пройдзе больш за год, а адчуванне тое ж. Запісвае-разважае 22.06.85: «Ці не стаміўся я, — што нават у сне не пакідае мяне выгнанне? Толькі падумаць: амаль пяцьдзесят гадоў мне суджана стала жыць чужым жыццём?»

Але пройдзе і больш за пяцьдзясят гадоў. Зусім хворы. Апошнія запісы ў дзённіку (5.10.91): «А ўспаміны: то лагер, то ссылка. Адбіваюць усякае жаданне нават думаць, не тое, што нешта рабіць».

Чытаючы дзённік, нельга не здзіўляцца, можа, нават не зжахнуцца, якое месца ў іх займае мінулае: успаміны, згадкі, сны, эпізоды, карціны, факты, падзеі, гісторыі. Не будзе перабольшваннем сцвярджаць, што якраз мінулае вызначае духоўны і эмацыянальны лад усяго напісанага. Прычым мінулае лагернае, мінулае высылак. Да таго, як Ян Скрыган пачаў пісаць дзённік, ад часоў вяртання на радзіму прайшло амаль дваццаць гадоў. Але гэтае мінулае слаба адчуваецца ў дзённіку — і фактычна, і эмацыянальна. Папярэднія драматычныя гады, месяцы, дні запаланілі чалавека, яго душу, сэрца, свядомасць, памяць, поўнасцю і назаўсёды. Чытаючы старонкі, абзацы, асобныя фразы, што датычацца ўзнаўлення турэмна-ссыльнага мінулага, асабліва іх перажываючы, пачынаеш заўважаць як бы пэўную ўнутраную мастацкую логіку. Хоць сама эмацыянальная непасрэднасць дзённікавага аповеду-ўзнаўлення мінулага — ніколькі не страчваецца.

У чым тая логіка? Спачатку гэта праявы сну, дзесьці як бы ўспышкі памяці, адбіткі настрою. Пазней усё больш гэта ўзбагачаецца фактамі, падзеямі, асобамі. Не раз згадваюцца мясціны, дзе, як піша аўтар, «як бы добра было прыехаць на тыя мясціны, дзе бываў, дзе ў душы ад кожнай нешта асталося».

Называе іх: «Сібір (двойчы), Фергана, Ківыілі, Верх-Чэбулы марыінскія, Міндэрла і Сухабузім краснаярскія».

Шырокае кола пісьменнікаў «жыве» ў дзённіку Скрыгана. Пераважная бальшыня — гэта тыя, чый драматычны жыццёвы і літаратурны лёс блізкія аўтараваму.

Дзесьці ў нядзелю 21.04.91 запісвае: «Холадна. Хмурна. Мокра на вуліцы. Непрыветна на душы». Згадваецца мінулае. Разважае пра свой лёс: «Мабыць, я расказваў ужо, што многіх нашых пісьменнікаў пастралялі. І Зарэцкага, і Галавача, і Каваля — недзе пад сотню чалавек знішчана. Няважна: «прызнаўся» ты ў якіх «злачынствах» ці не, прысуд ішоў цераз тройкі і асобыя нарады — расстрэл». Думае пра свой лёс. Думае пастаянна. У канцы дзён сваіх хочацца знайсці адказ

на пытанне: як застаўся жывы? 8.07.91 працягвае ранейшы роздум: «Чацвёртага чысла захацеў быў сказаць, як я застаўся жывы. Папраўдзе — дзіва. Як многа значыць у жыцці выпадак. Каб не ён — даўно быў бы разам з Зарэцкім, Галавачом і Васілём Кавалём на тым свеце. Называю гэтых людзей таму, што яны трое былі сведкамі на судзе, дзе ўсе трое сцвярджалі, што мы, усе 12 чалавек, якіх судзіў цяпер Вярх. Суд (а не тройкі ці асобыя нарады. — **С. А.**), з'яўляліся членамі к.-р. групы, што завербавалі ў тую групу нас іменна яны. І хоць усе мы, падсудныя, гэта адмаўлялі, нас усіх прысудзілі на 10 гадоў кары, якую павінны мы адбываць у Сібіры, і па 10 гадоў высылкі — таксама ў Сібіры». Раней аўтар пісаў, што з тых 12 толькі 4: Звонак, Скрыган, Шушкевіч, Якшэвіч — засталіся жывыя.

Шырока, абагулена і разам з тым канкрэтна пра лёс гэтага пакалення, «расстралянага», нацыянальнай літаратуры Скрыган гаворыць на апошніх старонках дзённіка, блізка да адыходу ў іншы — лепшы свет. Хаця імёны, прозвішчы іх не раз згадваюцца на працягу ўсяго дзённіка. Неаднойчы тых, пра каго пісаў асобна: Васіль Каваль, Сяргей Фамін, Юльян Таўбін, Алесь Гародня, Паўлюк Шукайла. Колькі разоў упамінаецца Змітро Астапенка, складаны лёс якога так да канца і не праяснены.

Шмат разоў згадваюцца ў дзённіку Алесь Пальчэўскі і Сяргей Грахоўскі. З імі Скрыгана звязвалі шчырыя сяброўскія адносіны, у аснове якіх моцна адчувалася агульнасць іх драматычнага лёсу. Усюды, дзе толькі яны ўпамінаюцца, нават калі толькі ў прыватна-бытавым плане, моцна адчуваецца агульны для іх усіх эмацыянальны струмень болю, несправядлівасці. І гэта непраходнае, вечнае, да смерці.

Тое мінулае, драматычна-трагічнае, тая «горкая сэрцу далячынь», у дзённіку, для яго аўтара, стала сучаснасцю. Ёю насычана ўсё жыццё аўтара: творчасць, праца, таварышаванне, сям'я. Асабліва сям'я. Бо тут гэта боль мінулага, крыўды на тое мінулае жывуць увесь час — і ўдзень, і ўночы. Пра жонку ніводнага не тое што дрэннага, а проста раўнадушнага слова. Любоў, павага, ласкавасць.

17.08.79. Адпачывае ў Нясвіжы. Гуляе па парку. Адзін. Думае, потым запіша: «Божа, як добра думаў пра Ганначку. За ўсе мае нягоды мяне бог узнагародзіў жонкаю. Такая адданасць! Чэснасць у дачыненні да звання «жонка» — найвялікшая. Падумаў: усюды яна хадзіла за мною».

28.09.81. Зноў на адзіноце. У бальніцы, у асобным пакойчыку. Думае, што мала зроблена ім у літаратуры, справе для яго ў жыцці галоўнай. Тут жа пра другое: «Мне здаецца, што я нават не паспяваў як след каго пакахаць. Дзіва проста: і гэта на пачаканні. А Ганначка ж мая варта куды большай увагі і пачуцця. Яна — вельмі рэдкі чалавек. Можа, толькі адна хвароба ў ёй: яна як бы яшчэ не абуджалася, яшчэ нават не ведае самой сябе. Хоць у яе ўсяго чалавечага і чалавечнага, хоць усяго гэтага ў яе — да самых краёў». І гэта зусім не гучныя словы: аўтар жа піша для сябе, аднаго сябе. Жонка ў дзённіку жыве з пачатку і да канца яго. Жыве і ў тым драматычным мінулым, якое ўвесь час згадваецца. І нідзе ніякага ценю, толькі нейкі ўнутраны глыбокі сум. Ідзе ён з мінулага — для іх шмат у чым падобнага.

У «дзённікавым» жыцці аўтара ўвесь час прысутнічае сумна-драматычная гісторыя, што звязана з яго першай жонкай, іх сынам, якія воляй лёсу апынуліся ў Германіі. Гісторыя гэтая зноў жа народжана ліхімі гадамі мінулага.

Апошні запіс у дзённіку шматзначны, балючы, глыбока драматычны. Скрыган хворы, хворы непапраўна.

«20.07.1992.

Панядзелак.

Якая страшная ноч была мне сёння. Я — паміраў, ведаючы ўсё: сваю хваробу і сваю смерць як неабходнасць. Я быў нейкім яснавідцам, бачыў і разумеў усю недарэчнасць жыцця і свету…

Наогул нешта не зусім звычайнае са мною робіцца. Асноўнае, мабыць, на адчуванні, што ўсё дзеля мяне ўжо скончана. А ўгледзеўшыся — нават і мінулага ў мяне няма. Такога, каб яно нешта значыла. Над усім пануе варожасць, ссылка, нікчэмнасць пражытага і бачанага. Адно, што ў мяне было высокае, яснае — жонка, якая заўсёды і ўсюды ішла за мною. Прычым гэта ж другая жонка. З першаю ж навечна мяне разлучыла ссылка, Сібір. Таксама памятаю яе толькі добра. Вунь на сцяне вісіць і партрэт сына, якога ніколі не бачыў. Цяпер ён сфатаграфаваны з сваімі дзвюма дочкамі.

Усё жыццё маё — як казка, толькі нядобрая, суровая. Як чужая».

Так бачыцца сям'я праз лёс аўтара дзённіка ў апошнія дні жыцця яго. Яго лёс — гэта і яе лёс.

А яшчэ ж лёс бацькоў… Іх лёс больш страшны, чым лёс іх сына. У хвіліны хоць малога душэўнага супакаення (24.05.88) ён марыць, як, займеўшы ўласную машыну, найперш аб'ездзіць родныя мясціны. Пералічвае назвы. Вытлумачвае: «Адтуль жа я вырас, стаў чалавекам. Успомніць маму, тату, якім прыйшлося паміраць бог ведае дзе, у невядомасці Сібіры. Нават не ведаю, як яны там жылі, хто першы пакінуў свет».

Шмат напісана ў нас, асабліва ў рускай літаратуры пра сталінскія канцэнтрацыйныя лагеры, высылкі, поўнач, Сібір, пра тыя жахлівыя выпрабаванні, пакуты, якія там перацярпелі нявінныя ў бальшыні сваёй людзі. Колькі там паказана чалавечага болю, жорсткасці, садызму, усяго д'ябальскага, што ўсплыло ў тыя часы, у тых нялюдскіх абставінах з дзікіх прадонняў людскога існавання. Скрыган сказаў тут сваё слова. Праўдзівае, шчырае. Сказаў пра сваё, асабіста пабачанае, пражытае, выпакутаванае. Тое, што засталося з ім да самой смерці, не пакідала яго ні на хвіліну, нідзе. І цяжка сказаць, што праз гады выклікала большы боль — пакуты, выпрабаванні, перанесеныя ім у лагерах і ссылцы, ці глыбокае ўсведамленне сваёй невінаватасці. За што? Чаму? За якія грахі? Пытанні гэтыя пры любым успаміне мінулага, нагадванні пра яго ўзмацнялі душэўны боль, парушалі ўнутраную ўстойлівасць.

Адказу не было. І зусім не выпадкова, відаць, ёсць нейкае вышэйшае наканаванне ў гэтым, Скрыган паспрабуе шырока, з розных бакоў паглядзець на сваё мінулае, вытлумачыць асобныя істотныя моманты. Галоўны вывад яго — выпадковасць. 14.04.91 запісвае: «Часта мне ўспамінаецца маё 19-гадовае жыццё. І кожны раз прыходжу да аднаго: выпадак. Іменна ён лёг у аснову ўсяго майго далейшага жыцця. Лепш кажучы, таго, што я выжыў і лічу сябе нармальным ва ўсіх сферах жыцця». Выпадкова яго судзіў Вярхоўны Суд, а не асабовая тройка, зусім выпадкова ў лагеры ён становіцца бухгалтарам… Праўда, паказваючы лагерна-ссыльнае жыццё наогул, гаворачы пра лёс многіх і многіх пісьменнікаў, Скрыган ужо пра гэтую выпадковасць не гаворыць. Тут вырысоўваецца ўжо пэўная заканамернасць існуючай уладнай сістэмы.

Я асабіста не раз чытаў творы гэтага пісьменніка, пісаў пра яго, пісаў пра кнігу ўспамінаў «Слова пра Яна Скрыгана», меў гонар некалькі разоў сустракацца з ім, гутарыць. Дзесьці адчуваў, які ён у творчасці, у якой ступені праўдзівасць і шчырасць прысутнічаюць у тым, што напісана ім. Успаміны родных і блізкіх, сяброў і таварышаў, тых, хто працаваў з ім, пражыў цяжкія часы мінулага і жыў побач у мірны час, найперш звярталі ўвагу на яго чалавечыя якасці, на характар яго адносін да людзей, да працы, да літаратуры, мовы. І вось дзённік… Тут хацелася ўбачыць, якім гэты пісьменнік, гэты творца і чалавек прадстае сам па сабе, сам з сабою ў жыцці штодзённым, звычайным, хатнім, як ён бачыць вось зараз тое, што робіцца навокал, як адносіцца да працы, да людзей, да прыроды.

І ў творчасці, і ў вачах іншых людзей (тых, хто добра яго ведаў), і ў дзённіку (сам-насам) — Ян Скрыган адзін і той жа. Праўдзівы, сумленны, шчыры, уважлівы, сардэчны, добразычлівы. Такі ён у сваёй творчасці, такі ён і як чалавек. Тыя

высокія духоўныя і душэўныя якасці, якімі ён быў надзелены ад прыроды, натуральна перайшлі ў яго творы. І хочацца тут адзначыць, што гэты працэс пераходу чалавечых якасцей у творчыя — гэта не проста працэс стыхійны. Не. Працэс гэты ўсвядомлены, асэнсаваны, падпарадкаваны высокім духоўным ідэйным, жыццёвым і творчым, памкненням.

Чалавек столькі пераЖыў, столькі пабачыў, адчуў балючага, злога, здзеклівага. І што дзіўна: у дзённіку, там асабліва, дзе згадваецца мінулае, па сутнасці, няма злосных, выкрывальных выказванняў. Ёсць крыўда вялікая наогул, таксама да некаторых асоб.

У гады апошнія з болем успамінае выпадак (8.07.91): «Выклікаў у Міністэрства культуры чыноўнік, здаецца, Красоўскі, ці нечым падобны на гэтае прозвішча: каб запытацца (папярэдзіць!), ці не будзе ў мяне памслівасці…

На ўсё далейшае жыццё асталося ў мяне гэтае папытанне. Далікатны намёк: што няцяжка зноў там апынуцца».

Выпадак гэты для Яна Скрыгана быў настолькі балючы, што згадваў ён пра яго ў дзённіку два разы.

І яшчэ адзін выпадак з таго мінулага, дакладней, пра тое мінулае, дзе адчуваецца не проста боль, а ўжо злосць.

7.06.90 запісвае: «Кожны раз, калі брыюся, перад сабою ў люстэрку бачу маму. Харошую, ціхую, душэўную. Увесь на яе падобны. І я не ведаю, дзе яны з татам пахаваны. Знаю толькі, што Сібір. Які і мне давялося зазнаць.

Можа, не хопіць у мяне ўжо сілы, каб хоць трохі тое расказаць. Адна і ўцеха, што следчы мой, быхаўскі, расстраляны сваімі ж гаспадарамі, як гаварылася ў друку».

Напэўна, гэта адзіны прыклад у дзённіку, дзе так рэзка і адкрыта выказана непрыязь да іншай асобы. Тут той выпадак, калі з боку следчага парушаліся ўсе маральныя законы чалавечага агульнажыцця. Яшчэ ў першы дзень 1984 года, узгадваючы сваё мінулае, трывожачыся за лёс сваіх кніг, занатоўвае: «А я ж скрозь хачу бачыць і чуць толькі праўду, толькі дабро, хачу жыць толькі гэтым.

Без такой веры цяжка, нельга жыць!»

Штосьці падобнае, можа, толькі трохі з іншым адценнем, чытаем і ў «думках з запісных кніжак», змешчаных у дзённіку: «Не магу, каб памяталіся крыўды. Толькі добрае павінна ўспамінацца людзьмі».

Іменна гэтымі прынцыпамі-ідэямі кіраваўся ў жыцці Ян Скрыган, іх ён сцвярджаў у сваёй творчасці, сваёй творчасцю. Бо творчасць яго — яго жыццё, яго ж жыццё — у яго творчасці. У аповесці «Круг» пісьменнік сцвярджаў: «Найлепшай біяграфіяй у пісьменніка з'яўляюцца яго кнігі. Бадай што ўсё зробленае мною — гэта нейкая частачка самога сябе». І аповесць з'яўляецца выдатным увасабленнем таго. А гэта, напэўна, галоўны твор Скрыгана. Працаваў ён над ім доўгія гады: 1926—1984. Характэрны эпіграф: «Біяграфія ў песні маёй і ў мяне — адна». (Максім Танк). Яшчэ ў пачатку дзённіка, 11.10.74, запісвае: «Пераконваюся: мне трэба пісаць тое, што ведаю, а не выдумку. Сваё жыццё. Сваю практыку. Нават хоць бы «Шуфляда майго стала». А не «Даведка», «Граня-Графіня», пад якія трэба абавязкова падводзіць агульную філасофію і мараль — без крыві. Без крыві так яно ўсё і будзе — бяскроўнае».

У творчасці іншых ён таксама найперш цаніў іх чалавечую перажытасць, за якою добра праглядваўся аўтар.

24.11.80. Прачытаў Скрыган кнігу Ф. Абрамава «Чым жывём-кормімся». Трохі расчараваўся. Зацікавіла ж тым, «што з кнігі бачыш не тое, аб чым яна пісана, а тое, што бачыш самога Абрамава. І ўсвядоміўшы гэта, супакоіўся: дык, можа, гэта якраз тое, што ў першую чаргу і трэба бачыць?» Гэта пытанне ёсць, па сутнасці, адказ. Адказ гэты ў творчасі пісьменніка, у яго ацэнках творчасці іншых. Найбольш у дзённіку.

Зразумела, дзённік, як і кожны сапраўдны дзённік, як бы падзённа ўвасабляе жыццё пісьменніка ў самых розных яго праявах. Тут і грамадска-палітычная

атмасфера, і праца, асноўны занятак, і творчасць, і сямейныя ўзаемадачыненні, побыт, адпачынак… Усё гэта ў дзённіку Яна Скрыгана ёсць. Больш за тое, яно грунтуецца на аснове драматычнага балючага мінулага. А гэта аснова духоўна-эмацыянальная. Але ўсё ж у дзённіку галоўнае — гэта жыццё рэальнае, свет сённяшні (часу напісання).

Скрыган — пісьменнік. Пісьменнік не выпадковы. Творца прыгожага па сваёй прыродзе. Яго свет — гэта свет літаратуры. Усе падзеі іншага зместу і характару так ці інакш адбіваюцца ў гэтым свеце літаратурным. Свет гэты багаты, разнастайны. Тут вылучаюцца такія тры лініі: уласная творчасць, тагачаснае літаратурнае жыццё, літаратура сусветная, класічная і сучасная, нацыянальная класіка і творчасць маладых. Чытае Ян Скрыган, мяркуючы па дзённікавых запісах, не ўсё. Пераважна тое, што блізка душы яго. Ва ўсякім разе станоўча ацэньвае гэта. І тут першае месца займае Іван Бунін. Яго імя згадваецца некалькі разоў.

28.01.82 запісвае: «А ўчора ўзяў 4-ы том Буніна. Частавата я бяруся за яго, каб насаладзіць болем, радасцю, дзівам, добрай зайздрасцю душу». Увогуле гэты запіс самы глыбокі з прысвечаных літаратуры. Разважае спачатку пра арыгінальнасць, кінематаграфічнасць, непасрэднасць прозы Шукшына. Заўважае, што ў таго ж Буніна ёсць і бездапаможнасць, і шэрасць. Гаворыць пра Паустоўскага, якога любіць, захапляецца яго творчасцю, але бачыць і адзначае месцы слабыя. Ды не гэта істотна. Творчасць якраз гэтых пісьменнікаў дазваляе Яну Скрыгану зрабіць, можа, у дзённіку самы глыбокі вывад адносна значнасці мастацтва слова.

Вось ён: «Аднак жа мы іх чытаем, і будзем чытаць і патанаць у асалодзе, бо ёсць яшчэ адна тайна ў іхняй рабоце: яны хвалююць душу. Бо яны скрозь пра самае галоўнае — пра чалавека, чужога мне чалавека, жыццё якога нам заўсёды хочацца бачыць і ведаць. Вось чым нам дарагі ўвесь свет — чалавекам, праўдаю яго жыцця».

Не раз згадваецца А. П. Чэхаў, якога не адразу быў прыняў Скрыган. 8.08.74 адносна шырока піша пра свае літаратурныя прыхільнасці: «Густы, вядома, фармуюцца з часам. Гэтак жа, як з часам набываецца і адчуванне формы. Некалі я лічыў Дастаеўскага найвялікшым пісьменнікам свету, куды большым за Талстога, вядома; цяпер жа чытаць мне яго цяжка. Трывожыў, хваляваў Горкі (я гавару аб прозе). І вось паволі, паступова ўсё больш выразна і трывала абступаюць мяне пісьменнікі, да якіх звяртаюся тады, калі цяжка без кнігі, калі трэба даць заспакаенне душы. Ходзіш, ходзіш каля паліц, перабіраеш надпісы на спінках, а браць у рукі не хочацца. І тады зноў возьмеш тамок Льва Талстога, Буніна, Тургенева, Чэхава. Я дарэмна нядаўна сказаў, што стаўлюся да яго холадна ці спакойна, — гэта больш успаміналіся ранейшыя да яго адносіны, цяпер я бачу, як мяне прывязвае да яго мяккасць, душэўнасць, любоў да чалавека, нейкая вельмі лірычная чысціня».

Далей прызнаецца, што перачытвае «Ціхі Дон» Шолахава, «Аповесць аб жыцці» і «Залатую ружу» Паустоўскага, эксперыментальныя рэчы Катаева. З замежных называе Хемінгуэя, Экзюперы, Маруа, Гамсуна.

«З нашых найцікавейшымі пісьменнікамі лічу Лупсякова і Брыля.

З раманаў бачу толькі «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» Мележа».

Пазней, у розныя гады і ў розных абставінах, у сферу яго пісьменніцкай увагі і зацікаўленасці трапляюць творы і многіх іншых аўтараў — замежных, рускіх, беларускіх. Ён не проста іх называе, згадвае. Ён выказвае свае адносіны да іх, дае ім сваю ацэнку. Нярэдка гэта творы і пісьменнікі, якія ў пэўны час карысталіся выключным чытацкім поспехам.

Неяк запісвае, што ўзяў у бібліятэцы навелы Томаса Мана і апавяданні Джэрома Джэрома. «І тое, і другое не чытаецца: у першага страшэнна нудная статычнасць, у другога — прыгожая, траскучая балбатня. Трэба ж гэтак умець: на цэлыя старонкі круціць пустамельства».

Скрыган не катэгарычны ў сваіх крытычных закідах. Ён добра ўсведамляе, што «літаратура гэтак, як і жыццё, вельмі разнастайная. Густы чалавечыя таксама не маюць мяжы: усё трэба». Для сябе ж вырашае ўзяць у бібліятэцы «Анну Карэніну».

Праз некалькі дзён запісвае: «Чытаю «Карэніну». Божа, якою драбязою здаецца ўсё тое, што зрабіў сам. Гэта не толькі асілак, а чараўнік. У мяне ўвесь час мокрыя вочы. І ўсё; божа, як проста».

Трэба падкрэсліць, што ацэнкі твораў і творчасці розных пісьменнікаў як тут, так і ў іншых месцах дзённіка, маюць у аснове сваёй нялёгкі асабісты аўтараў жыццёвы вопыт, дакладнае разуменне мастакай прыроды самой літаратуры наогул. Бывае, узнікаюць пытанні псіхалогіі мастацкага ўздзеяння ды і самой творчасці. Такое мы бачым у развагах Скрыгана пасля чытання рамана Самерсета Маэма «Тэатр». Ён піша: «Не магу спасцігнуць сакрэту творчасці: чаму адзін пісьменнік падае героя ці гераіню так, што ты яго бачыш і чуеш як жывога, нават, здавалася, не пішучы яго партрэта, а другі — увесь час цвердзіць табе, што герой вельмі прыгожы, альбо таленавіты, альбо вясёлы ці смелы, а ты гэтага не бачыш». Такое Скрыгану бачыцца ў гэтым рамане Маэма.

Якіясьці пытанні літаратурнай творчасці, ды і жыццёвых, чалавечых узаемаадносін, аўтара дзённіка турбавалі ўвесь час. Гэта найперш, можа, мера дазволенага, дапушчальнага ў паказе ўзаемаадносін мужчыны і жанчыны. Ён абсалютна не прымаў паказу пасцельных сцэн, распусты. Ні ў кога.

Вось запіс 13.03.90. «Трыумфальная арка». Раней чыталася больш свежа. Таптаніны многа. Выпівання. Пасцелі. Рэмарк прымаўся як больш сур'ёзны пісьменнік».

Можа падацца, што змест запісу дзесьці абумоўлены ўзростам аўтара дзённіка. Але гэта не так. Вось запіс 25.04.74 пра раман Івана Шамякіна «Атланты і карыятыды»:

«Раман расцёкся, расплыўся, праз меру напоўніўся пустым, нават мяшчанскім бытам, службовымі мітрэнгамі, тым, што звычайна выносіць не трэба, яны і захліснулі твор. [...] І потым гэты аголены натуралізм, нават цынізм, гэтыя слоўцы, што лёгка бегаюць па рамане: аборт, рабіць дзяцей, захацеў яе… Нядобра».

І тут няма ніякай прадузятасці ці то пэўных асабістых адносін. Тут прынцыповая аўтарава пазіцыя — і ў літаратуры, і ў жыцці.

Цікавы запіс 7.12.81. Скрыган быў запрошаны на семінар маладых празаікаў. Чытаў і аналізаваў апавяданні Уладзіміра Арлова. Высока ацэньваў мову яго твораў: «… у яго прыгожая, натуральная наша мова. Гэта музыка, асалода, свята!» Адначасова адзначае «аголены секс», парушэнне меры. «Цягне іх, маладых, у гэты рамантычны, распусны бруд. Гэта, дасць бог, пройдзе, і будзе вельмі прыгожы пісьменнік». І гэта так. Словы аказаліся прарочымі.

Яшчэ адзін запіс — 19.11.81. Пасяджэнне камісіі па прыёме ў СП. Думае пра Уладзіслава Рубанава: таленавіты, нядрэнна піша, хаця ў мове нямала непатрэбных упрыгожванняў. «А яго апавяданне «Ты мне вярнула пяшчоту» вельмі нядобрае, паганае па сваім жаданні ўхваліць маральную вольнасць».

Усе гэтыя заўвагі крытычнага зместу маюць на ўвазе адносіны да жанчыны. У творах сваіх мастацкіх жанчыну ён ледзь не абагаўляе, слова хоць трохі благога не скажа. У жыцці, у пісьменніцкім асяроддзі лічыўся, відаць, самым шляхетным мужчынам. Чаму? Адкуль гэта? У жыцці ж хапае ўсяго самага брыдкага, абразлівага. А Скрыган жа, прайшоўшы лагер і ссылкі, добра ведаў гэта, бачыў не раз.

Адказ ёсць у дзённіку. Два разы Скрыган згадвае апавяданне «Узнагарода». 1.02.91: чакае яго з'яўлення ў «ЛіМе». Прызнаецца, што яму «прыемна і лёгка. За гэтае, можа, нават благое апавяданне, бо яно мне прынцыповае: я не магу, каб пра жанчыну гаварыць блага. Тым больш там, у тых лагерных абставінах».

Праз пэўны час, 3.05.91, зноў узгадваецца апавяданне, яго гераіня. «Бо чуў, што я ўслаўляю прастытутку. А пра яе гэтак думаць не трэба. Трэба, каб думала-

ся перш за ўсё пра тыя ўмовы, у якіх яна апынулася. Жанчына ў лагеры — гэта страшна». І ўсё ж, каб чытач дрэнна не думаў пра гераіню, аўтар унёс невялікую праўку.

У гэтай сувязі варта звярнуць увагу на запіс 4.07.74. Разважае пра форму і сутнасць, змест літаратуры. Адзначае, што чытацкае адчуванне формы ў літаратуры прыходзіць значна пазней. І тут пераход: «Або жанчына. Колісь яна проста існавала як істота: жанчына, да якой горнецца ўвесь мужчынскі род. Важна была ў ёй іменна жаночая сутнасць: ласка, спагада, мяккасць, чысціня, — усё тое, да чаго мы кожны цягнемся.

А цяпер перш за ўсё я бачу ў ёй форму: аблічча, фігура, зграбнасць, грацыя, пластыка. Лініі, лініі, — тое, што называецца гармоніяй, хараством, эстэтычным зместам. На жаночую прыгажосць я гатоў дзівіцца гадзінамі, прычым у названых якасцях абавязкова павінна прысутнічаць духоўная катэгорыя. Як толькі пачуеш — нават па голасе, па манеры трымаць сябе — духоўную пустату, адразу знікае вобраз гармоніі і хараства. Але цікава: перш за ўсё ўспрымаецца фізічны вобраз, бачанае хараство».

Было гэта запісана ў самым пачатку дзённіка. Такому разуменню жанчыны, успрыманню і адчуванню яе Скрыган застаецца верны да канца дзённіка. А жанчын тут згадваецца і паказваецца нямала. Такою жанчыну паказвае і ў сваіх творах.

У гэтай сувязі (можа, найперш маючы на ўвазе заўвагі па творчасці маладых) цяжка падумаць, як бы сёння, у наш час рэагаваў бы гэты далікатны, сумленны чалавек на тую маральную разбэшчанасць і распушчанасць, на той брудны натуралізм, што запанавалі ў сучаснай літаратуры, сучасным мастацтве. Ды і ў сучасным жыцці…

Літаратура — творчасць, творы жывых пісьменнікаў, памерлых, замежных, беларускіх, маладых, старэйшых, мужчын, жанчын; выдавецтвы, кнігі, часопісы, газеты — вось той рэальны сучасны свет, у якім жыве ў сваім дзённіку Ян Скрыган. Як пісьменнік і як чалавек. Усё іншае — побыт, прырода, хатнія, сямейныя клопаты — суадносіцца з гэтым светам, узбагачае яго. Духоўная, эмацыянальная атмасфера яго ўвесь час сілкуецца, узбагачаецца хвалямі ўспамінаў, што пастаянна ўсплываюць з тых драматычных гадоў мінулага, што навечна засталіся ў памяці і сэрцы пісьменнніка.

Зразумела, што ў любым дзённіку нас цікавіць галоўным чынам і найперш асоба яго творцы. У дзённіку пісьменніка — яго асоба як творцы. Яго адносіны да літаратуры, яе адчуванне і разуменне, гісторыя напісання асобных твораў, іх суаднесенасць з рэальным жыццём, псіхалогія яго творчасці, індывідуальны характар самой працы над тым ці іншым творам.

У гады напісання дзённіка ў Скрыгана ўжо выразна відаць яго творчая пазіцыя. Яна неаднойчы выказваецца даволі пэўна.

Запіс 10.11.80. Аўтар разважае пра тое, у якой ступені мяняюцца нашы адносіны да таго ці іншага твора пры чытанні яго праз гады — у розны час. Дзесьці пагаджаецца з гэтым. Але бачыць на паліцы творы Талстога, Дастаеўскага, Тургенева, Гогаля… Да іх адносіны не мяняюцца. Зазначае: «…Дык жа відно, што гэта велічыня духу, што гэта гісторыя, народ, яго справы, Расія. І, вядома, адразу відно, што не толькі важна, *як* пісаць, але і *што* пісаць.

І відно: як жа важна пісьменніку мець *сваё аблічча, свой голас, свой боль, свой погляд*. Каб быць асобаю».

Неаднаразова і раней падкрэслівалася, як важна для пісьменніка мець што сказаць. І гэта не толькі жыццёвыя факты (хаця і гэта), але і свой погляд, свае адносіны, сваё бачанне і разуменне.

«Быць пісьменнікам — найперш трэба ўмець *што* сказаць. А вялікім пісьменнікам — па-свойму сказаць». Запісвае гэта 19.08.74, узгадваючы Кузьму Чорнага і Хэмінгуэя.

«Што сказаць» для Скрыгана — гэта і рэальны жыццёвы матэрыял (падзеі, факты, людзі), і філасофская ідэя, думка, якую аўтар хоча выказаць, данесці да чытача, сцвердзіць. Падзеі, героі, гісторыі, якія ўзнаўляе, паказвае пісьменнік у сваіх творах гадоў напісання дзённіка — усё гэта асабіста ўведана, пережыта. Цяжэй з ідэяй, якая вынікае з жыццёвага матэрыялу, аб'ядноўвае, арганізуе яго ў мастацкі твор.

Запісвае 15.10.74 пра свой творчы стан. У галаве шмат сюжэтаў, думак, тэм, на паперы — накідаў. А сесці і напісаць твор не атрымліваецца. Згадвае пра апавяданне «Граня-Графіня». «…Думалася: як толькі сяду да стала, так і напішу». Пачаў пісаць. Нічога не атрымліваецца. «…І вось бачу — вываду няма. Філасофіі няма. Не падрыхтавана. Не прадумана. Пустата».

8.02.89. Разважае пра складанасці іншага характару. Пачаў пісаць пра вядомага венгерскага і савецкага рэвалюцыйнага дзеяча Бэла Куна, з якім сустракаўся ў лагеры. Не атрымлівалася спалучыць той час і час напісання — фальшыва гучала. А ў іншым месцы дзённіка сказаў: «А фальш — гэта ж смерць твора».

Тут не толькі разуменне сутнасці літаратурнага твора наогул. Так ён імкнецца пісаць і свае творы. У аснове іх заўсёды матэрыял рэальны, яму не проста знаёмы — ім пережыты. Тое ж адносіцца і да герояў яго твораў. Асноўны клопат быў зрабіць яго мастацкім творам: выявіць у ім агульназначны сэнс, падаць яго ў адпаведнай форме. І вось, прачытаўшы дзённік, бачым, як мэтанакіравана, настойліва, паслядоўна ён дамагаўся таго, што лічыў патрэбным. Некаторыя свае невялікія творы ён згадвае па некалькі разоў. Напрыклад, пра Сяргея Фаміна, Юрку Гаўрука, Алеся Гародню…

18.07.79 запісвае, што закончыў у Каралішчавічах апавяданне «Сяргей Фамін і яшчэ нехта». Даў паглядзець Вялюгіну і Грахоўскаму. «Благога нічога не сказалі. Але боязна верыць». Праз нейкі месяц зноў згадвае гэты твор. Забраў яго з «ЛіМа», «зрабіў невялікія, але вельмі слушныя папраўкі».

Амаль праз чатыры месяцы твор яшчэ раз згадваецца. «Трохі сумеўся. «Сяргей Фамін і яшчэ нехта»: ці так названы? Можа, лепш: «…і яшчэ хтосьці»? Можа, бліжэй да сэнсу, але цяжэй вымаўляць. І — як бы блядней гучыць».

Такая вось патрабавальнасць, уедлівасць у адносінах да слова. Да самой мастацкай формы падачы жыццёвага матэрыялу. У гэтым плане цікавая адна заўвага адносна нарыса пра Юрку Гаўрука. Згадваецца ён таксама некалькі разоў.

29.07.86 Скрыган піша пра тое, што закончыў успаміны пра Гаўрука, што на душы неспакойна, сёе-тое трывожыць. Першае. Так і пазначана лічбай 1. «Парушаны законы пісьма дакументальнага. Ці трэба тады жанравае азначэнне? Бо гэта і не нарыс, і не накіды, і не роздум. Як жа будзе чытач прымаць мясціны ўнутранага характару, якія аніяк не стасуюцца з спосабам іх перадачы — сказаў сабе, падумаў сабе, бо гэта ж пісьменнік не чуў?»

Прачытаўшы такое, і не адзін раз, перастаеш здзіўляцца мастацкай дасканаласці, дзесьці нават вытанчанасці твораў пісьменніка. Разумееш — талент. Так, асноўнае. Але не толькі. Не менш істотнае — патрабавальнасць да самога сябе, да зробленага табою. І — праца, праца, праца.

Пісьменнік увесь час правіць, удасканальвае свае тэксты. Аднойчы (22.08.83) запісвае: «Падклейваю, пераклейваю, заклейваю. Мне такая работа — дасканаласць тэксту — сапраўдная ўцеха».

Гэтая «ўцеха» для Скрыгана ў найбольшай ступені звязана з мовай, са словам. Дакладнасць выказвання, выразнасць апісання, захаванне пэўнага інтанацыйнага ладу, эмацыянальная насычанасць, здольнасць далучыць да тэксту чытача — усё гэта найперш звязана са словам, з мовай. Мова, як і літаратура, — адна з самых галоўных тэм-праблем дзённіка. Толькі, напэўна, у адрозненне ад літаратуры яна гучыць больш актуальна, больш балюча. Тэма, праблема мовы тут прысутнічае ў яе самых розных аспектах: творча-асабістым, літаратурным, працоўна-грамадскім, агульнадзяржаўным. Становішча з мовай — пастаянны клопат, несціханы боль пісьменніка.

Вось запіс 27.04.80. Пярэдадзень свята, хутка адкрываецца Алімпіяда-80. Паўсюль абноўленыя шыльды, транспаранты, плакаты. На самых розных мовах — рускай, англійскай, нямецкай, французскай. «На мовах розных, але не на беларускай. Як бы такой дзяржавы і няма».

14.02.81 Скрыган выступае ў адной са школ Мінска. Пра Мележа. Слухалі. «Але ўсё роўна ім гэтая беларуская літаратура ўжо чужая. Вось у чым несправядлівы наш лёс».

16.07.89. Ехаў з Камароўкі. У аўтобусе адна дзяўчына ўступіла месца. На прыпынку, выходзячы, падзякаваў. Адказала: «Няма за што». Адразу стала весялей.

Разважае далей: «А я ж памятаю, што ўвесь народ наш, усюды: дома, і на вуліцы, і на рабоце — гаварыў свабодна і натуральна па-нашаму. Што ж рабілася з намі? Дзеля чаго самі сябе бэсцілі, няславілі, знішчалі?»

Пытанні апошніх гадоў жыцця, творчасці. Пытанне і сёння актуальнае, балючае.

Характэрны запіс 10.12.81. Ён зноў жа пра мову. Зрабіўшы канкрэтныя заўвагі пра надпіс карціны, назву дакументальнай кінастужкі, абагульняе: «Скрозь падробка, калька не толькі ў прыродзе фразы, а нават у словах, а проста кажучы — падмена.

Гэтак пачынаюць пісаць не толькі газеты, маладыя пісьменнікі, на жаль, забываюць мову. Бо нідзе і нікому яна не патрэбна».

У ацэнцы творчасці іншых пісьменнікаў кіруецца Скрыган уласным разуменнем, уласным адчуваннем роднага слова. Так, 9.08.74 ён дае даволі крытычную ацэнку творчасці Кузьмы Чорнага, асабліва яго мовы. Неаднойчы згадваецца «Палеская хроніка» Івана Мележа. Робяцца лёгкія заўвагі па мове. У гэтых заўвагах, як і ў іншых, выдатна відаць глыбокае адчуванне стыхіі роднага слова, яго гучання, адметнага эмацыянальна-інтанацыйнага ладу, тонкі мастацкі густ. Тыя якасці, якія так прыкметна, адчувальна бачацца непасрэдна ў яго творчасці.

У гэтай сувязі нельга не звярнуць увагу на запіс, зроблены ў дзённіку 27.08.78. Аўтар хворы. Нешта сваё рабіць не можа. Узяў чарговы нумар часопіса «Дружба народов». Там артыкул Алеся Адамовіча «Необходимость Толстого». Узяўся чытаць — не чытаецца. Прызнаецца, што нічога яго не мог дачытаць да канца. Падкрэслівае, што той «разумны хлопец», «многа робіць добрага для літаратуры». Але «не прымае душа. Усё неяк штучна, усё наўмысна».

Далей тлумачыць, чаму так.

«Мабыць, вінавата мова. Вось такая мова яшчэ ў Лужаніна. Лужанін сваю архаічную мову паліруе пад мадэрн. І штучнасць чутна адразу. У Адамовіча, апроч нечага непазнанага мною, шкодзіць тое, што беларуская мова ў яго здаецца не беларускаю, а руская — не рускаю.

А мова — ох, якая гэта вялікая тайна чалавечага мыслення!»

Можна пагаджацца ці не пагаджацца з канкрэтнымі ацэнкамі творчасці ці то асобных твораў. У тым ліку і мовы іх. Але варта помніць: Скрыган усё жыццё імкнуўся спасцігнуць гэтую тайну мовы. У яго склалася свая сістэма разумення мастацкасці літаратуры, вызначальнай ролі ў ёй мовы, роднага слова. У аснове гэтай эстэтычнай сістэмы найглыбейшае веданне жыцця народа, пакутлівы вопыт уласнага лёсу, усведамленне непазнанасці навакольнага свету, нязведанасці стыхіі роднага слова. Разуменне: «У бацькаўшчыны заўсёды галоўны знак яе — мова».

«Творы — гэта таксама біяграфія…

Найлепшай біяграфіяй у пісьменніка з'яўляюцца яго кнігі. Бадай што ўсё зробленае мною — гэта нейкая частачка самога сябе». Гэта цытата з аповесці «Круг» прыводзіцца ў дзённіку. Дзённік красамоўна пацвярджае гэтую думку як дакумент, як сведчанне самога творцы. У чым гэта найбольш выразна бачыцца? У падзейнай аснове пераважнай большасці твораў, у іх персанажах, у іх духоўна-эмацыянальным напаўненні. Хаця, зразумела, што той вобраз Яна Скрыгана, які

прадстае з дзённіка, намнога багацейшы, больш шматгранны, чым той, які выяўляўся ў мастацкіх творах. У нейкіх момантах нават дзесьці нечаканы.

Варта звярнуць увагу на некаторыя запісы грамадска-палітычнага характару.

1.05.74. Прачытаўшы даклад Машэрава на Пленуме ЦК КПБ, запісвае: «Вельмі добры даклад. Грунтоўны, клапатлівы, дзелавы. Правільны. Нам трэба быць куды вастрэйшымі ідэалагічна. Хоць бы такімі, як былі ў маёй маладосці».

У самой творчасці, праўда, гэта не было заўважана.

Красамоўны запіс 19.09.74. Нават час запісаны — 14.30.

Скрыган праслухаў па радыё старонкі з рамана М. Астроўскага «Як гарталася сталь». Рэакцыя пісьменніка: «Божа, як жа гэта здорава! Якая камсамольская, партыйная краса! Я ведаю, шмат якія пісьменнікі, гурманы ад мастацтва, невялікай думкі пра Астроўскага. Але дай божа і ўсім ім, і мне самому такой партыйнай страснасці, такой перакананасці». Гэты раман, лічыць аўтар дзённіка, «астанецца як сведчанне часу, як вобраз эпохі», дзе былі «адданасць, страснасць, камсамольская чысціня, рэвалюцыя, Ленін». Ён шкадуе, што нічога гэтага няма ў сучаснай яму моладзі.

Можна было б падумаць, што гэта запіс выпадковы, пад настрой. Аднак і праз гады, ужо ў 1979, у кастрычніку, зноў у захапленні піша пра ранейшую савецкую літаратуру, пра ваенную, якая «пісана сэрцам і крывёю».

Ухвальна называюцца прозвішчы Брэжнева, Андропава, Гарбачова.

Усё гэта адразу здаецца нечаканым. Як так!? Столькі перажыўшы, перацярпеўшы… А можа, гэта толькі словы? Але на каго яны разлічаны? Гэта ж пісана для сябе. Ды і ніколькі яны не здаюцца штучнымі, не выбіваюцца сваім эмацыянальна-інтанацыйным ладам з агульнай апавядальнай плыні. Справа, напэўна, у тым, што Скрыган выхаваны, узгадаваны на ідэях камуністычных, марксісцкіх, узгадаваны ў атмасферы ўсеагульнага народнага ўздыму, не мог адмовіцца ад свайго юнацтва, сваёй маладосці. Іншая справа, што ў яго — і ў творчасці, і ў жыцці — гэтыя ідэі новага часу, новага жыцця натуральна засвоіліся прынцыпамі народнага духоўнага жыцця, народнай маралі.

Дзённік — гэта чалавек і яго час у іх узаемасувязі і ўзаемазалежнасці. Час перарабляе чалавека, яго перафармуе ці то чалавек засвойвае час, узгадняе са сваім светам, уваходзіць у той час і яго ўводзіць у сябе. У дзённіку, напэўна, як нідзе, выяўляецца чалавек і навакольны свет. Адкрытае і патаемнае, агульнае і асабістае, нават інтымнае. Тое, што турбуе пастаянна, што стала тваім лёсам, і імгненнае — як рэакцыя на штосьці, як уражанне.

Дзённік Яна Скрыгана «Сэрцу горкая далячынь» — адзін з тых, што ў найбольшай ступені адпавядаюць жанраваму вызначэнню: шчырасцю, адкрытасцю апавядання, унутранай змястоўнасцю, шматграннасцю ў паказе героя-аўтара — пісьменніка, чалавека, працаўніка, грамадзяніна.



Валянціна ЛОКУН

# ЗАЧАРАВАНЫЯ ДЗЯЦІНСТВАМ

Нехта з дасведчаных творцаў сказаў, што пісаць для дзяцей трэба гэтак жа, як і для дарослых, толькі яшчэ лепш. І гэта праўда. Як праўда і тое, што цяпер літаратура для дзяцей развіваецца паскоранымі тэмпамі. Яна вельмі розная ў плане тэматычным і змястоўным, багатая жанрава-стылёва: згадайма хоць такія творы, як «Шчарбаты талер» і «Афганская шкатулка» А. Федарэнкі, прыгодніцка-фантасмагарычную трылогію Л. Рублеўскай пра вучня Мінскага езуіцкага калегіума Пранціша Вырвіча — «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега», «Авантуры студыёзуса Вырвіча», а таксама «Ведзьміну тоню» В. Гапеева, «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» А. Бадака, «Каляды з хроснай» А. Масла, «Казкі астранаўта» і «Казкі з гербарыя» Р. Баравіковай, «Гульняслоў» М. Пазнякова, «Зязюлю-гулюлю» А. Зэкава… Характэрна і тое, што да дзіцячай аўдыторыі ўсё часцей звяртаюцца і пісьменнікі «дарослых» жанраў.

Алесь Карлюкевіч, які вядомы найперш як публіцыст, краязнавец і літаратуразнавец, апошнім часам досыць актыўна займаецца і казкатворчасцю. Казкі пісьменніка — унікальная з'ява ў дзіцячай літаратуры. Гэта тое ж самае краязнаўства, ці, дакладней, радзімазнаўства, але ўжо адрасаванае дзецям. На даступнай для іх мове, адаптаванае да дзіцячага інтэлектуальнага развіцця.

Пісьменнік прызнаецца, што да напісання казак яго падштурхнула краязнаўчая дзейнасць. «*Я заўсёды хацеў і юнаму чытачу расказаць пра нашу багатую гісторыю*» [1, с. 3], — піша ён ва ўступе да кнігі «Зорны шлях белых гарлачыкаў». Апавядаючы пра сваю Айчыну, яе знакамітых людзей, А. Карлюкевіч ставіць перад сабой высакародную мэту: выклікаць у юнага чытача цікавасць да родных мясцін, да гісторыі роднага краю, зацікавіць яго мінуўшчынай, фальклорам, паданнямі, легендамі і інш. Усе гэтыя «моманты», нібыта залатыя крупінкі, рассыпаны па прасторы мастацкіх тэкстаў пісьменніка.

Вуснамі свайго героя настаўніка Мікалая Аляксандравіча аўтар яшчэ раз пазначае дамінанту сваёй дзейнасці: «*...мы ж толькі тады шырокі свет адкрыем, калі будзем ведаць і шанаваць родны край. І ў нас у Беларусі ёсць што пагля дзець і што паказаць замежным турыстам*» [2, с. 5]. І гэта вельмі актуальна для нашага часу. Як слушна заўважыў Г. Лявоненка, казкі А. Карлюкевіча — «*гэта не проста казкі, а казкі XXI стагоддзя, а таму і сучасныя*» [10, с. 145]. Немалаважна і тое, што яны цікавыя не толькі дзецям, а і дарослым чытачам — праз сваю энцыклапедычнасць, навуковую і факталагічную дакладнасць, гісторыка-краязнаўчую змястоўнасць.

Летась выйшлі новыя кнігі пісьменніка: «Новыя прыгоды Шубуршуна», «Крыніца паноў Ельскіх», «Прыгоды Максімкі на Бацькаўшчыне і ў розных краінах свету». Гэта ў дадатак да шматлікіх ранейшых: «Зорны шлях белых гарлачыкаў» (2011), «Як зайка Бяляк мядзведзя Таптыгіна выратаваў» (2012), «Белка пишет сочинение» (пераклад Ю. Сапажкова) (2012), «Як Шубурушун па Свіслачы падарожнічаў» (2013), «Прыгоды Шубуршуна» (2013) і інш.

Аповесць «Новыя прыгоды Шубуршуна» (мастак Марыя Каратаева) працягвае знаёміць чытачоў з новымі падарожжамі Шубуршуна. З'яўляюцца і новыя,

створаныя аўтарскай фантазіяй, персанажы: Блукацік, Чарадзейная Пясчынка, мурашка Соф'я і інш.

Шубуршун маркоціцца па Веранічцы, сумуе па сваёй роднай Балачанцы, але ж яму і ў космас хочацца, і ў Кітай, «*дзе адразу ў адной краіне на ўсё можна наглядзецца — і на стэпы, і на пустыню, і на лясы-пералескі, а яшчэ і ў гарах пабываць, і ў акіяне паплаваць*» [2, с. 20]. А яшчэ ён вельмі марыў пабываць у Індыі, «*дзе шмат розных помнікаў з самай сівой даўніны*» [2, с. 20]. Хацелася яму і ў Каракумы: «*Там і пустыня, там і водны канал, там гарбузы і дыні салодкія… А яшчэ — гранаты і вінаград!.. І галоўнае — сонечна…*» [2, с. 21]. Ужо ў гэтых радках-«марах» уважлівы чытач адкрые для сябе багатую і досыць разнастайную інфармацыю аб тых далёкіх ад Беларусі краінах і мясцінах.

Шубуршуну, як і раней, даспадобы ўсё невядомае і таямнічае, далёкія краіны, прырода, адрозная ад беларускай, гісторыя, непадобная да беларускай. Але мы ведаем, што гэта найперш аўтарская зацікаўленасць. Адметнасць пісьменніцкай метадалогіі ў тым, што за мастацкім займальным «антуражам», у яго кантэксце, творца імкнецца «разгарнуць» яшчэ адзін, ці не галоўны, апавядальны пласт, дзе будзе змешчана цікавая навукова-краязнаўчая пазнавальная інфармацыя, пададзеная на простай, зразумелай для дзяцей, мове, адаптаваная да дзіцячага інтэлектуальнага развіцця.

Вось як нязмушана, няспешна ў кнізе распавядаецца маленькаму чытачу пра плакун-траву, «*усім травам маці*», у якую падчас сваіх вандровак нечакана патрапіў Шубуршун. Дзівіць ужо толькі адзін пералік назваў гэтай незвычайнай расліны: вярба-трава, плакун-корань, скрыпун, сінія султанчыкі, дубняк, дзікія васількі, дзявочая прыгожосць… «*А колькі лекаў з яе вырабляюць!*» [2, с. 10] — з захапленнем адзначыць апавядальнік.

Працягваюцца вадроўкі казачнага героя па беларускім лесе, працягваецца наша знаёмства з акаляючым светам, яго флорай і фаўнай. Маленькім чытачам будзе цікава даведацца, што раней за чалавека на свет божы з'явіліся пчала, «*першае насякомае, ад якога чалавек карысць пачаў атрымліваць*» [2, с. 12]. А колькі нязведанага і незвычайнага звязана з існаваннем мурашоў, якіх у свеце налічваецца каля дванаццаці тысяч відаў, а ў Украіне, Беларусі і Расіі — да трохсот відаў. А той, хто ніколі не бачыў мурашніка, дазнаецца, што дарожкі гэтага збудавання нагадваюць «*горны серпанцін*».

Акрамя таго, тэкст казак насычаны мноствам загадак, казкай у казцы, народнымі прыкметамі, тапанімічнымі і гідранімічнымі звесткамі і г. д. Усё гэта не толькі пашырае прыродазнаўчыя веды дзяцей, але і робіць іх больш уважлівымі да ўсяго жывога на зямлі.

Наступная аповесць-казка «Прыгоды Максімкі на Бацькаўшчыне і ў розных краінах свету» (мастак Аксана Аракчэева) — запрашае маленькіх чытачоў у канец XXI стагоддзя, у новае займальнае падарожжа па Беларусі, а таксама па Паўднёвай Амерыцы, Эфіопіі і г. д. Праўда, аўтар перакананы, што «*некаторыя малыя паселішчы краіны, нават невялікія вёсачкі, настолькі цікавыя, што там можна і дзень-другі правесці*» [3, с. 4]. Аповесць вызначаецца жанрава-стылёвай інтэграцыйнасцю, з адначасовым выяўленнем і захаваннем краязнаўчых канстант, адкрыццём нацыянальных артэфактаў. Яна сюжэтна разгалінаваная, рэалістычнае апавяданне спалучаецца з казачным, фантастычным, ірэальным.

У звароце да чытачоў пісьменнік падкрэслівае, што яго цікавіць абсалютна ўсё: і «*якога колеру вада ў возеры Байкал і ці можа чалавек пераплысці Ангару, якія птушкі лятаюць над Памірам і колькі кіламетраў праходзіць па пустыні Каракум вярблюд без ніводнага глытка вады*» [3, с. 3]. А. Карлюкевіч вельмі любіць падарожнічаць, адкрываць іншыя, дагэтуль невядомыя яму светы. Пры гэтым ён перакананы, што можна падарожнічаць і не пакідаючы свой дом, кватэру. У гэтым выпадку яму дапамагаюць кнігі, якія аўтар называе «*караблямі чалавечай мудрасці*». А да кніг трэба дадаць «*крышачку фантазіі, што дазваляе*

*ўявіць шырокія, бязмежныя тэрыторыі*». Таму, заклікае ён, «*зусім неабавязкова садзіцца на самалёт і ляцець на другі кантынент. Я ўпэўнены, што лягчэй і цікавей існаваць у жыццёвай прасторы, калі ты валодаеш здольнасцю разглядзець увесь свет, ажыццявіць падарожжа да самых высокіх горных вышынь і самых глыбокіх акіянскіх упадзін*» [3, с. 5]. Вось гэтую здольнасць «разглядзець увесь свет» А. Карлюкевіч імкнецца перадаць і чытачу. У гэтым бачыцца яго мастацкая звышзадача.

«Прыгоды Максімкі…» — сапраўдная энцыклапедыя для дзяцей, ды і для дарослых таксама. Пасля кожнай главы змешчаны «Падказкі ад дзеда Усяведа». У дадатак да гэтага тут можна знайсці і малюнкі з дакладнымі чарцяжамі артэфактаў мінулага жыцця — чаўна, вясла і г. д. Змешчаны выявы паштовых марак і шмат што яшчэ. Дарэчы, адзначыць ролю мастака Аксаны Аракчэевай, якая аздабляла гэты, і не толькі гэты, казачны тэкст пісьменніка. У адным са сваіх інтэрв'ю мастачка прызнаецца, наколькі складана, але і цікава было працаваць з творамі Алеся Карлюкевіча. «*Увесь мой стол быў завалены выданнямі пра жывёл, насякомых і пра розныя краіны. Час ад часу шукала інфармацыю ў інтэрнэце. Усе тры нашы з ім кніжкі атрымаліся рознымі. У кожнай — сваё жыццё*» [11, с. 9].

Стрыжнем падзейнай лініі аповесці з'яўляецца дэтэктыўны сюжэт аб тым, што падчас спаборніцтваў на чаўнах па рацэ Пціч загінуў адзін з гоншчыкаў — беларускі спартсмен Собаль. Працэс выратавання Собаля і ёсць асноўная дзея аповесці. Чароўная дзея, пры развіцці якой аўтар будзе ставіць і вырашаць тыя або іншыя навукова-краязнаўчыя пытанні.

Мы зноў сустракаемся з дапытлівым хлопчыкам Максімам Мінскім. Аўтар падкрэслівае, што яго герой — звычайны хлопчык, які жыве ў Мінску і любіць гуляць у футбол. Адно толькі, што «*крыху болей цікаўны за сваіх аднагодкаў да навакольных падзей*» [3, с. 5].

Аўтар разам са сваім героем запрашае чытачоў заглянуць на краязнаўчы сайт «Дудуткі. бай», дзе змешчана цікавая інфармацыя пра славуты музей пад адкрытым небам «Дудуткі». Музей знаходзіцца ў ваколіцах Дудзічаў, некалі Ігуменскага павета, а цяпер Чэрвеньскага раёна. Падаецца гісторыя слыннага ў Беларусі роду Ельскіх. Міхаіл Ельскі быў вядомым кампазітарам, але яшчэ большую вядомасць займеў яго брат Аляксандр Ельскі — гісторык, этнограф, краязнавец. Прыводзяцца звесткі з феналагічнага дзённіка А. Ельскага. Пазней, у дадатак да гісторыі роду Ельскіх, атрымаеш энцыклапедычную даведку пра буйнейшы магнацкі род Радзівілаў, які быў вядомы ў Беларусі, Літве і Украіне яшчэ з XV стагоддзя. Даведаешся пра Нясвіж, парк Альба, палацава-паркавы комплекс «Сноўская сядзіба», знакамітых людзей гэтых мясцін Ігната Дамейку і Міколу Каспяровіча.

Пісьменнік імкнецца зацікавіць чытача падзеямі мінуўшчыны, яе атмасферай, пацвярджаючы сваю галоўную думку-тэзу, што «*калі людзі ўважліва ставяцца да мінуўшчыны, то, можа, не ўсё страчана*» [3, с. 47].

У мастацкую прастору тэксту ўводзіцца вобраз кубінскага прафесара Эрнэста Радрыгеса. Гэты вобраз патрэбны аўтару, каб «разгарнуць» тэму гідранімікі. Прафесар займаецца вывучэннем рэк, напісаў энцыклапедыю «Рэкі свету». У аповесці, такім чынам, можна знайсці не толькі агульныя звесткі пра даўжыню, глыбіню рэк, хуткасць цячэння, але і розныя даўнія гісторыі, забытыя легенды, паданні. У другім раздзеле дамінуе тэма арніталогіі. Чытача чакаюць цікавыя расказы пра дзятлаў, пра Жаўну, або Чорнага дзятла, які лечыць дрэвы ад шкодных насякомых. Паводле беларускіх паданняў, Жаўна — гэта пчаляр-бортнік, ператвораны Богам у птушку за тое, што не святкаваў у нядзелю, а выдзёўбваў у сасне борці для пчол.

Цікавым атрымаўся і аўтарскі міф пра Чорнага бусла, які раней таксама быў белым, але праз людскую жорсткасць пасяліўся ў лесе і стаў чорным. Па сведчанні пісьменніка, такіх буслоў яшчэ называюць ляснымі манахамі. Дарэчы, жывуць чорныя буслы і ў Афрыцы. Там жа сустракаецца і Марабу — род птушак з сямейства бусліных.

Раздзел кнігі «Падарожжа паштовай маркі» прысвечаны філатэліі, гісторыі філатэлістычнага «руху». Аўтар раскрывае ўсю важкасць гэтай справы. Прыводзіць сведчанні, як праз дамініканскія мініяцюры разгарэліся пагранічныя спрэчкі. Філатэлічныя «наступствы» мелі і войны 1879—1883 гадоў паміж Чылі, Перу і Балівіяй. Дзякуючы аўтарскай фантазіі мы маем магчымасць перанесціся ў далёкую Эфіопію. Пісьменнік распавядае пра дзівосныя стасункі беларускага школьніка са спадчынным прынцам Эфіопіі Зарыхунам. А побач з гэтым вымалёўваецца ўнікальная фаўна Афрыкі, багаты жывёльны свет Эфіопіі і суседніх краін. Яшчэ чытач пазнаёміцца са знакамітымі спартсменамі Эфіопіі, сапраўдным адкрыццём будуць і помнікі Эфіопіі.

Побач з рэальнымі героямі, ва ўзаемасувязі з імі ў аповесці існуюць і міфалагічныя. У ваколіцах Дудутак Максімка сустракаецца з Лесавіком, які меў службу «*пры травах і кветаках*», а адпачываў на млыне, дзе спрачаўся з Вадзяным, «*каму на коле спаць*» [3, с. 30]. Менавіта Лесавік падказвае галоўнаму герою Максімку ідэю ратавання Собаля, каб не спыняць раку Пціч, бо «*вада ж жыць хоча!*» [3, с. 34]. Змястоўным атрымаўся і вобраз Рыбніка, які нёс службу па ахове Пцічы, «*даваў людзям парады, як жыць у ладзе і згодзе з прыродай*» [3, с. 46]. А. Карлюкевіч адухаўляе аб'екты нежывой прыроды, робіць іх рухомымі, адчувальнымі, часам нават рамантызаванымі. Вось і рака Пціч у яго на птушку падобная, «*пакручастая, хуткаплынная... Здаецца, вось-вось у вырай паляціць...*» [3, с. 33].

Пісьменнік не стамляецца паўтараць, што «*падарожнічаць па нашай старонцы, шукаць прыгоды на Міншчыне ці на азёрнай Віцебшчыне, у Слоніме альбо на Берасцейскім Палессі — занятак не меней захапляльны, чым знаёміцца з Амерыкай, Індыяй, іншымі краінамі свету*» [3, с. 50].

Алесь Карлюкевіч у беларускай літаратуры абазначае свой адметны жанр дзіцячага краязнаўства. Яго казкі прасякнуты любоўю да Айчыны і ў такой жа ступені — любоўю да дзяцей. Акрамя таго, што яны інфармацыйна-пазнавальныя, даюць пэўныя веды па гісторыі, геаграфіі, фальклоры, яны выхоўваюць у дзяцей пачуццё сапраўднага патрыятызму. Яны вучаць маленькіх грамадзян нашай краіны шанаваць сваю Бацькаўшчыну, яе гісторыю, далёкую і блізкую, шанаваць і захоўваць навакольны свет, вучаць дабрыні і павазе да бацькоў, сям'і, выхоўваюць пачуццё адказнасці за гэты свет і за ўсё жывое на зямлі.

* * *

Казкі Кацярыны Хадасевіч-Лісавой — гэта ўжо іншы ўзровень ўспрымання свету — пачуццёва-эмацыянальны. Яе кніжка «Падарожжа ў Чароўны лес» стаіць бліжэй да вопыту класічнай чароўнай казкі, да вопыту казак В. Віткі, В. Вольскага. Да вопыту тых творцаў, якія арыентуюцца на фальклор — Г. Чарказян, М. Чарняўскі, Т. Сівец, У. Мазго, Х. Лялько і інш.

Творы К. Хадасевіч-Лісавой прысвечаны дзецям малодшага школьнага ўзросту. Кніга прасякнута шчырай любоўю да дзяцей. Казачныя сюжэты пісьменніцы ўгрунтаваны асабліва зычлівым стаўленнем да ўсяго жывога, што ёсць на зямлі, замілаванасцю роднай прыродай. Мастацкі свет пісьменніцы — свет гарманічны, напоўнены святлом і бясконцымі гукамі жыцця, свет цеплыні і яднання прыроды і чалавека. Менавіта на ідэю яднання і гармоніі працуюць і ілюстрацыі мастака Віталя Дударэнкі — такія ж светлыя і жыццесцвярджальныя, як і тэкст пісьменніцы.

У сваіх казачных дыскурсах аўтарка звычайна карыстаецца пераўвасабленнямі, ізатэрызмам, асобныя фрагменты тэксту вызначаюцца сказавым рытмам: «*За Высокай гарой, за Глыбокім возерам, за Багністым балотам ёсць Чароўны лес. А завецца ён так, таму што жывуць у ім незвычайныя звяры, птушкі ды*

*казюркі, якія ўмеюць размаўляць, зусім як мы з вамі*» [4, с. 5]. Пісьменніца валодае ўменнем бачыць незвычайнае ў звычайным, штодзённым.

Аповесць складаецца з дзевяці сюжэтна аўтаномных частак, ці вандровак, паяднаных героем-апавядальнікам, які кожны раз ветліва запрашае сваіх чытачоў у падарожжа па Чароўным лесе: «*А цяпер, дзеткі, Купа* (начная птушка. — **В. Л.**) *запрашае нас у падарожжа па Чароўным лесе. Заплюшчыце вочы і ўявіце, як мы сядаем на шырокую спіну казачнага пугача. Мацней трымайцеся за яго мяккае пер'е. Ну, Купа, паляцелі! <…> А вось і Чароўны лес… Дзякуй, сябра! Адпусцім Купу адпачыць ды падсілкавацца, а самі пойдзем па лясной сцяжынцы. Як хораша ў лесе! Такое светлае паветра, хваёвы водар, духмянасць лясных кветак…*» [4, с. 7—8]. Атмасферай такой зычлівасці прасякнута ўся аповесць.

Пісьменніца не займаецца адкрытым маралізатарствам, яна не **павучае** дзяцей як быць ветлівымі, паслухмянымі. У нязмушанай форме **раскрывае** годнасць учынкаў сваіх герояў, падкрэслівае прывабнасць маральных паводзін людзей — на прыкладзе насельнікаў лесу. Амаль кожнае падарожжа заканчваецца сцэнай «дэманстрацыі» дабрыні, ветлівасці, узаемавыручкі, высакародства і г. д.

К. Хадасевіч-Лісавая валодае абвостраным адчуваннем прыроднага свету, нават вобраз Радзімы падаецца ёю праз адчуванне прыгажосці: «*Які чароўны пейзаж адкрыўся перад намі: з вышыні птушынага палёту наш беларускі край выглядае проста дзівосным. Ва ўсім свеце няма такога хараства! Раскошным дыванам сцелецца зяляніна лясоў, а па ім стужкамі-сцежкамі бягуць блакітныя рэчкі, поўныя крыштальна-чыстай вады*» [4, с. 39—40].

У наступнай казачнай аповесці «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка» (2012, мастак Віталь Дударэнка) пісьменніца адыходзіць ад канонаў класічнай чароўнай казкі. Па сваёй пачуццёвай «насычанасці», ступені эмацыянальнага ўздзеяння, экспрэсіўнасці гэты твор значна адрозніваецца ад папярэдняга. Шматколернасць малюнкаў прыроды, іх «вясёлкавасць» зменіцца колеравай аднамернасцю касмічнай прасторы.

Галоўны герой хлопчык Стасік, як і Максімка ў А. Карлюкевіча, звычайны хлопчык. Ён нічым не адрозніваецца ад сваіх аднагодкаў, вучыцца ў звычайнай беларускай школе. Але разам з гэтым звычайным, ёсць і незвычайнае, кожную ноч герой перамяшчаецца ў дзівосную Краіну Сноў, пераносіцца ў бясконцую касмічную прастору, дзе яго чакае казачны хлопчык Зорнічак, гаспадар мікракосмасу. Такім чынам, рэальны мастацкі свет чаргуецца з фантастычным, загадкавым, таямнічым мастацкім светам. Гэты апошні развіваецца па законах прыгодніцкага жанру.

Разам са Стасікам і Зорнічкам маленькія чытачы могуць зрабіць незвычайныя падарожжы ў Краіну Сноў, пазнаёміцца з цудоўнай Феяй — гаспадарыняй Зорнага Палаца і маці Зорнічка, сустрэцца з Зоркалікам, зрабіць унікальную вандроўку па прасторы вялікага космасу. Пасля будуць іншыя падарожжы: у Зніч-Гарадок, Аблокавую краіну і г. д. Чытачы даведаюцца, што знічкі — гэта асаблівыя зоркі. Яны не ўтвараюць сузор'яў, бо «*заўсёды на вялікай хуткасці лятаюць па прасторы мікра-мікракосмасу, пакідаюць за сабой ледзь прыкметны бліскучы след*» [5, с. 20]. Не менш цікава будзе даведацца і пра Хвастатую госцю — Камету, падобную на зорку з хвастом, ядро якой складаецца з сумесі лёду і касмічнага пылу. А таксама пабудаваць дзівосны замак з аблокавага праўдзіва ў Аблокавай краіне, сустрэцца з зоркамі-красунямі, адкрыць таямніцу прыгатавання эліксіру казачных сноў і нават заглянуць ва ўладанні зладзейкі Чорнай Дзіркі і выратаваць украдзены ёю Месяц.

Багацейшай на фарбы і адчуванні падаецца наступная кніга К. Хадасевіч-Лісавой «Казкі Сіняй падушкі» (2013) (мастак Рыта Цімохава), адрасаваная дзяцям малодшага і сярэдняга ўзросту. Праўда, жанрава, структурна, і галоўным героем, яна працягвае «Касмічную адысею хлопчыка Стасіка».

У прадмове да кнігі паведамляецца, што «*хлопчык Стасік выбраў сабе новую падушку, яму вельмі спадабалася сіняя. Гэта Фея Краіны Сноў,ператварыўшыся ў прадаўшчыцу, прапанавала Стасіку незвычайную Сінюю падушку, поўную дзівосных прыгод. Кожны вечар, як толькі герой будзе класціся спаць, падушка будзе дарыць яму новую казку*» [6, с. 3]. І вось, з надыходам вечара, як толькі Стасік засынае, ён сустракаецца са сваім сябрам Пухлікам — галоўным экскурсаводам па казках Сіняй падушкі, і ўжо разам з ім яны падарожнічаюць у розныя і незвычайныя месцы, дзе з імі адбываюцца самыя неверагодныя прыгоды. Пазнаёмяцца героі з Вясёлкавай краінай, пабываюць у Садзе Мары, завітаюць у Віртуальны горад, паслухаюць Браслаўскую казку аб узнікненні назвы возера Дрывяты, сустрэнуцца з Вадзянікам — гаспадаром водных рэсурсаў, яго жонкай Кікімарай і дачкой Беларусалачкай. Зробяць нават падарожжа ў Сярэднявечча — у замак князёўны Анастасіі.

Тэкст казкі выйграе ад таго, што аўтарка выкарыстоўвае вершы, разнастайныя загадкі, паданні, нават зварот да ветру:

«Гэй, вятрыска!
Ты тут блізка!
Падхапі наш шар ямчэй
І нясі наверх хутчэй!» [6, с. 18].

Да ўсяго мастацкі свет пісьменніцы ўзбагаціўся яшчэ і за кошт выкарыстання ведаў розных прыродазнаўчых дысцыплін, найперш астраноміі, геаграфіі, батанікі, фларыстыкі, тапанімікі, гідранімікі і вуснай народнай творчасці, фальклору.

У пасляслоўі аўтарка паабяцае, што яе герой часова развітваецца з чытачамі. З Камячком Пухлікам «*яны абавязкова сустрэнуцца. У іх будуць новыя падарожжы, новыя прыгоды і новыя дзівосныя гісторыі*» [6, с. 195].

«Код геніяльнасці» (2014) складаецца з некалькіх аповесцей, шэрагу легенд і паданняў. Выдадзеная ў «Бібліятэцы дзіцячай літаратуры», кніга адрасуецца ўжо школьнікам старэйшага ўзросту, а гэта абазначае, што тут аўтару трэба вельмі пастарацца, каб, калі не здзівіць, то хоць бы зацікавіць падлетка незвычайным героем ці фантастычным сюжэтам.

Адкрывае кнігу аповесць «Я і Славік Сымановіч». Галоўная гераіня вучыцца ў 8-м класе. Яна закахалася і аб сваіх пачуццях напісала ў нататніку. Але нататнік неўзабаве знік, яго забралі прышэльцы з космасу. Тут рэалістычная лінія аповесці абрываецца і пачынаецца фантастыка з адпаведнай гэтаму жанру атрыбутыкай. Зноў будуць падарожжы ў іншыя галактыкі, калідор часу, Чорная і Белая Дзіркі, і г. д. Цікава? Магчыма. Але гэта ўжо ўсё было ў ранейшых тэкстах, толькі крыху ў іншых ракурсах. Да ўсяго пісьменніца абрала складаную форму адлюстравання — я-форму, якая ў тэксце не заўсёды вытрымліваецца. Вось як, напрыклад, гераіня, вучаніца восьмага класа, прадстаўляе чытачам свайго аднакласніка: «*...Алекс Хацкель — Аляксей па-сапраўднаму, але яму падабаецца замежны варыянт уласнага імені. Знешнасць у хлопца кідкая, адразу звяртае ўвагу. Ці не ўсе дзяўчаты з нашага і не толькі з нашага класа закахаліся ў гэтага высокага каравокага брунета з даўгаватымі, крыху кучаравымі валасамі. Сапраўдны мача з паўднёвай краіны*» [7, с. 4].

Тэме кахання прысвечана аповесць «Код геніяльнасці». Агульным фонам, на якім разгортваюцца галоўныя падзеі твора, дакладней, нават не падзеі, бо іх няма, а проста дзеі, з’яўляецца псіхалагічны «кантэкст». Тут і рамантычная перапіска герояў пад псеўданімамі па e-mail (згадваюцца тэксты В. Гапеева), тут і прыгожае віртуальнае каханне. Гэты рэалістычны пласт «аздабляецца» містыкай. Маральным вынікам усіх гэтых «перыпетый» з’яўляецца ідэя фатальнасці, запраграміраванасці жыцця кожнага чалавека. Ці кодам жыцця, які гераіня вызначае як «код геніяльнасці».

Найбольшай удачай у кнізе пазначаны аўтарскія легенды і паданні. Адлюстраваныя ў стылі фэнтэзі, яны скіраваны ў мінуўшчыну. Гэта свайго роду мастацкія алюзіі народных паданняў і легенд. Шмат імён-наватвораў, адмысловых у сваім гукавым афармленні: Шадэй, Багнэя («Багна кахання»), Фірэя, Лантэй, Дэвін («З глыбокай даўніны»). Відавочна памкненне пісьменніцы перадаць дух сівой даўніны, калі ірацыянальнае было неад’емнай часткай рацыянальнага, калі дабро непазбежна перамагала зло.

* * *

Алега Ждана цяжка назваць казачнікам у прамым сэнсе гэтага слова. Ён працуе ў жанры юнацкай аповесці. Побач з такімі творцамі, як В. Гардзей, А. Бадак, В. Гапееў і іншыя, А. Ждан найперш пісьменнік рэалістычнага пісьма, рэаліст-псіхолаг — нават тады, калі піша фантастычныя тэксты. Ён выдатны знаўца дзіцячай псіхалогіі і, што важна — псіхалогіі школьніка. Ён разумее мову дзяцей і гэтак жа свабодна можа сам ёю карыстацца. Увогуле пра мову пісьменніка, а піша ён па-руску, трэба гаварыць асобна, настолькі яна ў яго лёгкая, жывая, дынамічная, а яшчэ вытанчаная, і галоўнае — гумарная. Адным словам, гэта — чыста жданаўская мова.

«Праздник продолжается или Щенок, велосипед и шишка на лбу» (2013) (мастак Святлана Рыжыкава) — кніга пра першакласніка. Аўтара цікавіць **працэс** станаўлення асобы школьніка. Працэс няпросты, складаны, супярэчлівы, але ў адлюстраванні пісьменніка — цікавы і нават займальны.

Герой А. Ждана Андрэй Бабушкін таксама звычайны хлопчык. Праўда, ён лічыць сябе няўдачнікам па жыцці па той прычыне, што мае адзін недахоп: ён «*отвлекается*» [8, с. 3]. Усе няўдачы героя пачаліся з першага класа, дакладней, з другога дня ў першым класе, калі ён спазніўся на ўрок і пераблытаў класы.

Пісьменнік з задавальненнем жывапісуе дзіцячае жыццё — і ў радасці, калі свята здаецца зусім кароткім, і ў няўдачах, якія падаюцца бясконцымі. Усё гэта — жыццёвыя «ўніверсітэты» героя, які імкнецца зразумець акаляючы яго свет, імкнецца сцвердзіцца ў калектыве, увогуле ў соцыуме. Разам з тым аўтар уздымае і такое важнае для гэтага ўзросту пытанне, як дружба. Андрэйка напружана шукае адказ. І знаходзіць. Дружба — гэта калі ты дарыш шмат разоў сябру свае цацкі, а ён табе свае, і ты ўжо «*не различаешь, где твое, а где — своего друга*» [8, с. 17].

Аўтару важна адлюстраваць сталенне героя ў працэсе, у дынаміцы развіцця. Такім чынам, пасля свайго першага навучальнага года перад чытачом паўстае ўжо іншы герой. Ён зусім не падобны на хлопчыка, які па дарозе ў школу загуляўся з дваровым сабакам. Ён — «аналітык»: «*В общем, замечательный год получился в моей жизни,* — прыходзіць да высновы герой. — *Я много узнал, а главное, понял. Конечно, неудачи были. Но иногда я думаю, что неудачи важнее удач. Конечно, удача — это веселье для души и сердца, праздник вроде дня рождения, но… Неудача — это как старт у бегунов на длинные дистанции. А удача — финиш. На финише все поют, поздравляют. А вот старт — это надежда. Удача вдохновляет, но неудача — учит <…> Еще я понял, что жизнь — это путешествие во времени. Прошлое — это как волна за кормой корабля, настоящее — капитанский мостик на корабле, а будущее… Будущее — это дни, в которых я еще не бывал. И там будет не хуже, чем вчера и сегодня*» [8, с. 87]. Здаецца, у гэтым працяглым маналогу аўтар крыху перастараўся. Вельмі ўжо мудрагелістыя думкі-высновы выдае хлопчык.

Кніжка А. Ждана «Приключения тритэшек в Беларуси» (2014) (мастак Святлана Кавалеўская) сюжэтна звязана з першай. Яна складаецца з дзвюх аповесцей: «Самая мировая идея» і «Приключения тритэшек в Беларуси», апошняя і

дала назву кнізе. Мы зноў сустракаемся з Андрэем Бабушкіным і яго сябрукамі: Юркам, Мішкам, Лёхам і дзяўчынкай Ленай. Толькі цяпер яны вучні 5-га класа. Гэта ўжо іншая ўзроставая катэгорыя. Катэгорыя рамантыкаў.

Аўтар працягвае настойліва падкрэсліваць «звычайнасць» свайго героя: «*Никого не хочется разочаровывать, но, если честно, больше всего я люблю переменки. Промчаться по коридорам, съехать по перилам лестницы, выбежать во двор, схватиться крест накрест с Юрой или Мишкой — что может быть интереснее? А как было бы здорово, если бы переменки были, как уроки, по сорок пять минут, а уроки — по десять!*» [9, с. 8—9].

Гульні для маленькіх скончыліся, хлапчукам захацелася ўжо нечага больш значнага, незвычайнага, захацелася здзейсніць подзвіг. «*Подвиг — это неплохо,* — рэфлексуе герой, — *но… для подвига надо прежде всего преодолеть себя, то есть победить какой-нибудь недостаток, например, рассеянность, или забывчивость, или лень!.. А кому охота сражаться с самим собой?*» [9, с. 9] А можа, подзвіг і ёсць пераадоленне самога сябе ці сваіх недахопаў? Невыпадкова, што школьнікі, занятыя пошукам «*мировой идеи*», знайшлі незвычайную для сябе, ды і для чытача таксама, маральную «задачу». Яны вырашылі наведаць інтэрнат для дзяцей-інвалідаў. Нечаканая атрымалася трансфармацыя «мировой идеи», але ўчынак дзяцей успрымаецца як дзея па-народнаму мудрая і наўздзіў актуальная для сённяшняга дня. У грамадстве назіраецца яўны дэфіцыт дабрыні і спагадлівасці, душэўнага суперажывання.

У аповесці «Приключения тритэшек в Беларуси» А. Ждан актуалізуе праблему сучаснага экалагічнага стану зямлі, але робіць гэта без настойлівага дыдактызму, вырашае праз гульню, з дапамогай элементаў фантастыкі, гіпербалізацыі, — каб дзеці найглыбей усвядомілі ўсе наступствы навукова-тэхнічнага прагрэсу.

У адным з мінскіх паркаў прызямлілася група дзяцей іншапланецян. Яны прыляцелі з планеты ТТТ — 111 (тры Т — адсюль і назва «трытэшкі») да нас у Беларусь на аздараўленне, бо ў іх няма жыцця прыроднага, біялагічнага, іх высокатэхналагічная планета забруджана хіміяй і радыяцыяй. «*У нас исчезли леса, нет полей и не растет трава. Большая часть территории покрыта асфальтом и бетоном… огурцы-помидоры не растут на земле, их делают на фабриках и заводах. Главное — иметь формулу огурца, а сделать его не так уж сложно*» [9, с. 42], — тлумачаць іншапланецяне сваё з'яўленне на зямлі. Трытэшкі для канспірацыі набылі воблік мясцовых дзяцей, тых жа знаёмых чытачу герояў: Андрэя, Юры, Мішкі, Лёхі, Лены. Знешне яны цяпер нічым не адрозніваюцца ад зямлян, толькі псіхалагічна і маральна іншыя. А яшчэ яны маюць неабмежаваныя фізічныя і інтэлектуальныя магчымасці. На гэтым кантрасце і выбудоўваецца фабула прыгодніцкай часткі аповесці.

«Приключения тритэшек в Беларуси» — твор-перасцярога не толькі дзецям, а і ўсім нам, дарослым, каб бераглі гэты непаўторны свет, яго ўнікальную прыроду, багацці зямлі. На пачатку аповесці галоўны герой адчуваў нейкі незразумелы страх, які ўсё больш і больш паланіў яго душу. Герой нават зрабіў выснову, «*что страх — двигатель человечества*» [9, с. 28]. Сучасны чалавек страціў такі страх. Ён уявіў сябе ўладаром прыроды і… знішчыў яе. Такім чынам, прыгодніцкі дыскурс А. Ждана набывае яшчэ і пэўныя якасці прытчы.

* * *

Цяпер пра вынікі нашага «прыватнага» даследавання. Адназначна, што літаратура для дзяцей павінна быць высока духоўнай і высока маральнай, а разам з гэтым і высока мастацкай. Гэта тры канстанты, на якіх трымаецца, павінна трымацца, дзіцячая літаратура. Як тры кіты, на якіх некалі трымалася Зямля. Толькі тыя творы будуць мець будучыню, якія самі скіраваны ў будучыню, заклапочаны

будучыняй — праз аўтарскія памкненні, памкненні герояў і тыя маральныя ідэалы, якія выпраменьваюць сабою. Гэтыя памкненні і ідэалы можна знайсці ў казачных тэкстах А. Карлюкевіча, К. Хадасевіч-Лісавой і А. Ждана.

## Спіс літаратуры:

1. Карлюкевіч, А. М. Зорны шлях белых гарлачыкаў: казкі: для мал. шк. узросту / Алесь Карлюкевіч; іл. Яна Жвірблі. — Мінск: Маст. літ., 2010. — 87 с.: іл. — (Казкі XXI стагоддзя).

2. Карлюкевіч, А. М. Новыя прыгоды Шубуршуна: казка для дзяцей мал. і сярэд. шк. узросту / Алесь Карлюкевіч: маст. Марыя Каратаева. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2014. — 40 с.: іл.

3. Карлюкевіч, А. М. Прыгоды Максімкі на Бацькаўшчыне і ў розных краінах свету: аповесць-казка: для мал. шк. ўзросту / А. М. Карлюкевіч: мастак А. Б. Аракчэева. — Мінск: Беларус. Энцыкл. Імя П. Броўкі, 2014. — 128 с.: іл.

4. Хадасевіч-Лісавая, К. С. Падарожжа ў Чароўны лес: казачная аповесць: для дашк. і мал. шк. узросту / Кацярына Хадасевіч-Лісавая ; маст. Віталь Дударэнка. — Мінск: Маст. літ., 2008. — 63 с.: іл. — (серыя: Казкі XXI стагоддзя, заснаваная ў 2008).

5. Хадасевіч-Лісавая, К. С. Касмічная адысея хлопчыка Стасіка: казачная аповесць: для дзяцей сярэд. шк. узросту / Кацярына Хадасевіч-Лісавая ; маст. В. В. Дударэнка. — Мінск: Літаратура і мастацтва, 2012. — 128 с.: іл.

6. Хадасевіч-Лісавая, К. С. Казкі Сіняй падушкі: для дзяцей мал. і сярэд. шк. узросту / Кацярына Хадасевіч-Лісавая; маст. Рыта Цімохава. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 200 с.: іл.

7. Хадасевіч-Лісавая, К. С. Код геніяльнасці / Кацярына Хадасевіч-Лісавая. — Мінск, 2014. — 192 с. — (Бібліятэка дзіцячай літаратуры).

8. Ждан, О. Праздник продолжается, или Щенок, велосипед и шишка на лбу: повесть для детей ср. шк. возраста / Олег Ждан; худож. Светлана Рыжикова. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 112 с.: ил.

9. Ждан, О. Приключения тритэшек в Беларуси: для детей сред. шк. возраста / Олег Ждан; худож. Светлана Ковалевская. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2014. — 80 с.: ил.

10. Лявоненка, Г. Спасціжэнне Радзімы / Генадзь Лявоненка // Полымя, — 2014. — №1.

11. Аракчэева, А. У складанага ёсць сінонім — вясёлае. / Аксана Аракчэева // ЛіМ. — 26 верасня.



# Нам засталася «Спадчына»

## Падведзены вынікі акцыі часопіса «Полымя» «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі»

Як мы адносімся да беларускай літаратуры ХХ стагоддзя? «Мы» — гэта значыць, звычайныя беларусы: гараджане і вяскоўцы, фізікі і лірыкі, студэнты і людзі сталага веку, тыя, хто рэгулярна чытае айчынных аўтараў і для каго паняцце «айчынная літаратура» абмяжоўваецца двума-трыма імёнамі.

Пытанне не новае, і ўвесну мінулага года рэдакцыя «Полымя» вырашыла паспрабаваць знайсці свой адказ на яго. На старонках нашага часопіса і газеты «Звязда», на палымянскім сайце, а таксама наўпрост звяртаючыся да бібліятэк, навучальных устаноў і звычайных чытачоў, мы аб'явілі пра пачатак акцыі «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі», прапанаваўшы ўсім зацікаўленым запоўніць не дужа вялікую анкету. Прынцып яе запаўнення быў такі: насупраць сямі прапанаваных рэдакцыяй аўтараў (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Шамякін і Уладзімір Караткевіч) трэба было ўпісаць адзін ці некалькі іх твораў, якія ўдзельнікі анкетавання лічаць сваімі любімымі. Калі ж у іх няма ніводнага любімага твора кагосьці з прапанаваных класікаў, насупраць імя гэтага пісьменніка трэба было паставіць прочырк. Улічваючы, што ў кожнага з чытачоў могуць быць свае любімыя пісьменнікі, якія не ўвайшлі ў спіс, складзены ў рэдакцыі, яшчэ тры імёны айчынных аўтараў мы прапанавалі ім, чытачам, упісаць самім.

Мы разумелі, што ў сваім намеры прыцягнуць большую ўвагу да беларускай літаратуры не дужа арыгінальныя: пра адносіны да яе ў грамадстве сёння гаворыцца даволі часта і на самых розных узроўнях. Праўда, не так часта, як у тым жа ХХ стагоддзі, але, здараецца, размовы атрымліваюцца вельмі рэзанансныя, і рэха ад іх доўга не змаўкае ў СМІ. Бывае, каб абвастрыць праблему (а гаворкі ў асноўным вядуцца праблемныя), у якасці галоўнага эксперта бяруць «радавога чытача». Выходзіць, напрыклад, журналіст на вуліцы Мінска і задае жыхарам і гасцям сталіцы пытанне кшталту: «Каго вы ведаеце з сучасных беларускіх пісьменнікаў?» Ці, скажам: «Хто напісаў «Новую зямлю»?» Адказы, прызнацца, засмучаюць, а кагосьці (саміх пісьменнікаў, выкладчыкаў літаратуры, бібліятэкараў) і ўвогуле шакіруюць: многія не могуць адказаць ні на першае, ні на другое пытанне. Такая форма апытання, трэба сказаць, таксама не *know how*. Амаль два гады таму журналісты аднаго расійскага тэлеканала вось так прайшліся па маскоўскіх вуліцах і задавалі яшчэ больш «каверзныя» пытанні, накшталт: «Цяпер праходзяць выбары старшыні саюза пісьменнікаў. У каго, на ваш погляд, больш шансаў перамагчы — у Шолахава ці Салжаніцына?» Альбо: «Вас не крыўдзіць тое, што ў фільме «Ганна Карэніна», які цяпер ідзе ва ўсіх маскоўскіх кінатэатрах і які зняты па геніяльным творы Мікалая Гогаля, сказілі аўтарскі сюжэт?» І людзі, не зразумеўшы падвоху, пачыналі на поўным сур'ёзе разважаць пра фільм «па Гогалю» і пра шансы Шолахава і Салжаніцына заняць пост старшыні пісьменніцкай арганізацыі. Калі пра гэты факт я абмовіўся на міжнародным «круглым стале» ў Мінску, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар Аляксандр Каваленя, які сядзеў побач, недаверліва сказаў: «Ну, гэта, відаць, быў нейкі жарт» — і паглядзеў на намесніка галоўнага рэдактара расійскага часопіса «Наш современник» Аляксандра Казінцава. Але той сумна пакруціў галавой: «На вялікі жаль, гэта не жарт».

Дзіўна, але і нават мы, пісьменнікі, навукоўцы, настолькі звыкліся з думкай, што ў літаратуры сёння крызіс, што, здаецца, гатовы прыняць на веру абсалютна

абсурдныя рэчы. Мы нават не спрабуем запярэчыць: калі знянацку спыніць на вуліцы занятага сваімі думкамі чалавека, «прыставіць» да яго твару мікрафон і з разумным выглядам задаць яму бязглуздае пытанне, то не кожны адразу зарыентуецца ў сітуацыі. Ці, скажам, не адразу ўспомніць тое, што ў іншым выпадку ўспомніў бы адразу. Як асуджана перапытваў герой фільма «Каўказская палонніца» Шурык: «Даруйце, капліцу таксама я разбурыў?» Аднак у адрозненне ад гайдаеўскага следчага, які яго супакойваў: «Не, гэта было да вас, у чатырнаццатым стагоддзі», сучасныя журналісты не дужа спяшаюцца не тое што супакоіць абвінавачанага (у дадзеным выпадку, усіх, хто мае самае непасрэднае дачыненне да літаратуры), а нават паспрабаваць разабрацца ў сітуацыі. Чаму? Магчыма, таму, што тады не атрымаецца сенсацыі, тады сюжэт будзе не такі цікавы. «Каго вы ведаеце з сучасных беларускіх пісьменнікаў?» Як прызнаўся неяк адзін вучань, калі я завітаў у яго клас на ўрок літаратуры: «А я думаў, што пісьменнікі — гэта тыя, што даўно памерлі».

Пагоня за сенсацыяй, за рэйтынгам наклала свой адбітак на адносіны паміж журналістамі і іх героямі. Месца на Алімпе ўпэўнена занялі прадстаўнікі публічных творчых прафесій — акцёры, музыканты, і часцей дзякуючы не адметным ролям і выступленням, а скандалам і абнародаванню ў СМІ падрабязнасцей свайго асабістага жыцця, якое непрыкметна стала часткай прафесіі і нават крытэрыем вядомасці. «У вас выйшаў цудоўны кліп, у якім ёсць сцэны, знятыя ў Барселоне, давайце пагаворым пра гэта», — прапануе вядучы госцю тэлестудыі тонам, які павінен не пакінуць сумнення ні ў аднаго з гледачоў: перад намі сапраўдная зорка, нягледзячы на тое, што 90 % тых самых гледачоў толькі што ўпершыню пачулі яе імя. І нікому не прыйдзе ў галаву запрасіць у студыю пісьменніка з нагоды выхаду яго кнігі, напрыклад, у той жа Іспаніі. Ці з нагоды атрымання міжнароднай літаратурнай прэміі. Пісьменнікі ў касту «зоркавых» не ўваходзяць. Па-першае, гэта непублічная прафесія, і, відаць, сярэднестатыстычнаму чытачу жыццё іх уяўляецца да нудоцця аднастайным (рабочы стол, папера, аўтаручка — і так з дня на дзень), а сам творчы працэс — надакучлівым, па аналогіі з напісаннем уласных школьных сачыненняў. Па-другое, і гэта, відавочна, самае галоўнае, размова пра літаратуру патрабуе большай дасведчанасці, больш сур'ёзнай падрыхтоўкі з боку вядучага альбо карэспандэнта. Весці размову пра новы кліп прасцей, чым пра новую кнігу, якую, у ідэале, перад гэтым яшчэ трэба і прачытаць, ці хоць бы патрымаць у руках, але і апошняе ў рэальнасці бывае зусім рэдка. Таму размова з зоркай атрымліваецца жывой і нязмушанай, а з госцем-пісьменнікам цяжкай, бо невядома, пра што ў яго пытацца, каб самому быць на вышыні і каб гэта было «рэйтынгава». Тым больш, што далёка не кожны, нават вельмі таленавіты пісьменнік — цікавы суразмоўца, асабліва калі трэба «з цэлым народам гутарку весці». Дарэчы, Купала таксама быў так сабе выступоўца.

У выніку менш дасведчаны журналіст без задняй думкі можа задаваць зусім недарэчныя ў дадзенай сітуацыі пытанні, накшталт: «На якія тэмы вы пішаце?» Больш дасведчаны гатовы ўчыніць сапраўдны допыт: чаму сучасная літаратура так здрабнела? Чаму сучасных беларускіх пісьменнікаў мала чытаюць? На першы погляд, і першы, і другі ўяўныя ў дадзеным кантэксце журналісты *цікавяцца* розным. Але, на самай справе, і ў першым, і ў другім выпадку з іх боку праяўляецца якраз *адсутнасць* асаблівай *цікавасці* і да суразмоўцы, і да літаратуры, што непазбежна перадаецца і гледачу альбо патэнцыяльнаму чытачу гэтага аўтара. Праўда, тут варта ўдакладніць: адсутнасць асаблівай цікавасці да якой літаратуры? У гэтым, здавалася б, банальным пытанні — аснова адносін паміж тымі, хто піша, і тымі, хто чытае. Падабаецца гэта каму ці не, але масавы чытач аддае перавагу творам з зухавата закручаным сюжэтам, дзе максімум дзеяння і мінімум аўтарскіх спроб глыбакадумна паразважаць над рознымі філасофскімі праблемамі. Яму, масаваму чытачу, падабаюцца рамантычныя гісторыі (жывуць жа людзі!), розныя містычныя і дэтэктыўныя страшылкі (паперажываць за чужыя пакуты і страхі ў нас у крыві), і ён насцярожана ставіцца да розных літаратурных эксперыментаў. Такая літаратура заўсёды на слыху (таму падчас розных апытанняў яе аўтараў называюць адразу, не напружваючы памяць), яна выдаецца вялікімі тыражамі і перакладаецца на розныя

мовы свету. І многім здаецца, што яна і ёсць тое, да чаго трэба імкнуцца кожнаму, хто адчувае ў сабе пісьменніцкі сверб. Але, на самай справе, усё, мякка кажучы, не так адназначна. Восенню мінулага года ў Мінск прыязджаў французскі празаік Мішэль Луё. На пытанне, каго з сучасных пісьменнікаў-землякоў ён лічыць найбольш цікавымі, госць далікатна адказаў, што тая сучасная французская літаратура, якая ў нас больш за ўсё выдаецца, гэта толькі вяршыня айсберга, яе камерцыйны складнік, а сапраўды самабытныя аўтары куды менш вядомыя за межамі Францыі, ды і ў сябе на радзіме іх кнігі выходзяць невялікімі тыражамі. Можна не сумнявацца, што падобная сітуацыя існуе і ў іншых краінах свету. Таму ашаломлены знянацку нечаканым пытаннем прахожы ў Маскве можа адразу ўспомніць Аксану Робскі, але ніякага ўяўлення не мець пра Юрыя Кузняцова, таму ў Кіеве, напэўна, хутчэй назавуць Сімону Вілар, а не, напрыклад, Міхайлу Слабашпіцкага, а ў Мінску… ну, скажам, Наталлю Батракову, а не Алеся Наварыча.

Аднак варта тым жа прахожым даць магчымасць крыху падумаць, альбо тое ж пытанне задаць наведвальнікам кнігарні ці бібліятэкі — і вынікі апытання могуць істотна адрозніваецца ад вулічных. І колькасцю названых імён, і веданнем таго, хто напісаў «Новую зямлю» альбо «Паўлінку». Але ж гэта і абсалютна нармальна: у глыбінях памяці трымаць імёны аўтараў культавых твораў айчыннай класікі. Гэта як лакмусавая паперка, па якой у многім вызначаецца ступень нашай агульнай культурнай адукаванасці, нашай духоўнасці і нашага патрыятызму. Прытым, што апошнія дзесяцігоддзі, сапраўды, у чалавецтва рэзка падае цікавасць да чытання.

Калі ў 2012 годзе ўкраінская кампанія «GfK Ukraine» правяла апытанне на гэтую тэму, то аказалася, што 73 % украінцаў лічаць чытанне нецікавым заняткам, а чвэрць апытаных заявілі, што ўвогуле не чытаюць кніг. А калі падобнае апытанне летась у Беларусі правяла лабараторыя «Новак», то было вызначана, што толькі 57,9 % нашых суайчыннікаў хоць бы раз у месяц чытаюць мастацкую літаратуру, а тых, хто не чытае ўвогуле — каля 19 %. І хоць нашы паказчыкі крыху лепшыя, чым ва Украіне, зразумела, і яны не могуць радаваць. Асабліва, калі ўлічыць той факт, што львіная доля кніжак, якім аддаюць перавагу чытачы, належыць замежным пісьменнікам.

Але якім айчынным творцам аддаюць перавагу беларусы?

Аб'яўляючы пра пачатак акцыі, мы свядома абмежаваліся XX стагоддзем, паколькі ў самой анкеце была адна важная, на нашу думку, дэталь. Мы не ставілі за мэту паспрабаваць вызначыць, як добра беларусы ведаюць айчынную літаратуру (хоць па адказах відаць і гэта). Задача была паспрабаваць даведацца, якія творы айчынных пісьменнікаў удзельнікі акцыі гатовы назваць сваімі любімымі. А любімыя — гэта, пагадзіцеся, як правіла, тыя, што прайшлі праверку часам, героі якіх памятаюцца і жывуць у нашым уяўленні. Ну, а калі ўжо на тое пайшло, то XX стагоддзе скончылася не так і даўно, таму выбар у тых, хто пагадзіўся паўдзельнічаць у нашай акцыі, быў даволі багаты.

Вынікі былі падведзены ў канцы мінулага года. Згодна з імі, самым любімым творам Янкі Купалы была названа п'еса «Паўлінка» (48,9 %), Якуба Коласа — паэма «Новая зямля» (73,9 %), Максіма Багдановіча — верш «Зорка Венера» (19,3 %), Івана Мележа — раман «Людзі на балоце» (43,2 %), Васіля Быкава — аповесць «Знак бяды» (65,9 %), Івана Шамякіна — раман «Сэрца на далоні» (50 %), Уладзіміра Караткевіча — аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (50 %). Сярод твораў пісьменнікаў, чые імёны не былі ўпісаны рэдакцыяй у анкету, часцей за ўсё называліся п'еса Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім» (31,9 %) і раман у вершах Ніла Гілевіча «Родныя дзеці» (18 %).

Аднак тут неабходна зрабіць некалькі важных агаворак.

Па-першае, што тычыцца паэзіі, то многія ўдзельнікі апытання называлі не адзін канкрэтны твор (яно, у прынцыпе, і зразумела), а цэлыя зборнікі, альбо ўвогуле творчасць таго ці іншага аўтара. Улічваючы гэты факт, можна сказаць, што самымі любімымі ў народзе беларускімі паэтамі таксама з'яўляюцца Максім Танк і Рыгор Барадулін. Прычым, у творчасці апошняга часцей за ўсё вылучалі яго зборнік «Ксты». У цэлым, а не канкрэтныя вершы альбо паэмы, многія ўдзельнікі апытання называлі паэтычную спадчыну Янкі Купалы і Максіма Багдановіча.

Па-другое, верагодна, пісьменнікі-класікі, імёны якіх мы не ўпісалі ў анкету, у нейкай ступені аказаліся ў менш выйгрышнай сітуацыі ў параўнанні з тымі, хто аказаўся ў прапанаванай намі сямёрцы. Хоць, з іншага боку, і насупраць прапанаваных імёнаў удзельнікамі анкеты часта ставіліся прочыркі. А ў дадатак да «нашых» чытачы гэтак жа часта дадавалі «сваіх»: Максіма Гарэцкага, Кузьму Чорнага, Аркадзя Куляшова, Івана Навуменку і іншых паэтаў і празаікаў, але… З іншага боку, мы разумелі, што, напрыклад, прапанаваўшы вызначыцца з любімымі творамі Івана Мележа, тым самым робім пэўную падказку, паколькі для пераважнай большасці чытачоў гэтае імя непарыўна звязана з «Палескай хронікай», а не з «Мінскім напрамкам» ці апавяданнямі. Дарэчы, многія ў анкеце пісалі менавіта «Палеская хроніка», а не канкрэтны раман, чым крыху азадачылі нас пры падліку. Як бы там ні было, абодва варыянты — і «Людзі на балоце», і ўся трылогія — набралі фактычна аднолькавую колькасць галасоў, што дазваляе прызнаць Мележа адным з самых любімых беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя.

Па-трэцяе, нельга не ўлічваць колькасны паказчык любімых твораў таго ці іншага аўтара. Напрыклад, сярод напісанага Коласам апроч «Новай зямлі» часта згадвалі трылогію «На ростанях» (46,6 %) і паэму «Сымон-музыка» (8 %), зрэдку — «Казкі жыцця» і «Дрыгву», якія не прайшлі пяціпрацэнтны бар’ер. У Купалы ж, акрамя «Паўлінкі», многія называлі «Раскіданае гняздо» (31,8 %), «Бандароўну» (29,5 %), «Тутэйшых» (10,3 %), і «Курган» (10,2 %). Апроч таго, калі вершы Коласа фактычна не згадваліся, то сярод любімых вершаў Купалы аказаліся «Я не для вас…», «Смейся», «А хто там ідзе?», «Хлопчык і лётчык», «Мужык», «Ворагам беларушчыны», «Спадчына», «І прыйдзе», «Акоў паломаных жандар». Згадваліся, хоць і не набралі 5 % галасоў, яго паэмы «Яна і я», «Магіла льва», «Сон на кургане», «На куццю», «Адвечная песня», «Над ракой Арэсай».

Пра тое, што беларусы няблага ведаюць айчынную літаратуру XX стагодддзя, сведчаць і іх адносіны да нашай класічнай прозы. Так, з творчай спадчыны Васіля Быкава акрамя «Знака бяды» былі названы аповесці «Альпійская балада» (50 %), «Дажыць да світання» (29,5 %), «Сотнікаў» (6,8 %), а таксама «Жоўты пясочак», «Жураўліны крык», «Пакахай мяне, салдацік», «Мёртвым не баліць», «У тумане», «Сцяна», «Воўчая зграя», «Абеліск», «Кар’ер», «Трэцяя ракета», «Аблава» і кніга ўспамінаў «Доўгая дарога дадому». Сярод твораў Івана Шамякіна ўдзельнікі акцыі выдзяляюць яшчэ «Вазьму твой боль» (34 %), «Глыбокую плынь» (29,5 %), «Злую зорку» (8 %), «Гандлярку і паэта» (6,8 %), «Атланты і карыятыды» (6,8 %), а таксама «Сатанінскі тур», «Аповесць пра сябра», «Ах, Міхаліна, Міхаліна», «Шлюбную ноч», «Снежныя зімы» і пенталогію «Трывожнае шчасце». Апроч «Дзікага палявання караля Стаха» аматары чытання называлі і іншыя творы Уладзіміра Караткевіча: «Чорны замак Альшанскі» (42 %), «Каласы пад сярпом тваім» (16 %), «Ладдзя роспачы» (9 %), а яшчэ — «Лісце каштанаў», «Нельга забыць», «Чазенія», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Сівая легенда», «Сіняя-сіняя», «Зямля пад белымі крыламі». Пэўная частка апытаных прызналася, што ім вельмі падабаюцца вершы Караткевіча.

Увогуле ж, усяго беларусамі былі названы творы больш чым 70 пісьменнікаў.

Зразумела, сотні чытачоў, якія бралі ўдзел у гэтым своеасаблівым галасаванні, — толькі невялікая частка беларусаў з тых, што сапраўды ведаюць і любяць нашу літаратуру. Але і іх галасаванне ў многім паказальнае і дазваляе з вялікай доляй упэўненасці гаварыць пра тое, якія творы нашай класікі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю сярод людзей самых розных узростаў і прафесій.

Разам з тым, трэба адзначыць, што, на жаль, творчасць некаторых нашых класікаў, уганараваных самымі высокімі званнямі, абыдзена ўвагай удзельнікаў акцыі. Але што сапраўды насцярожвае: значна меншай папулярнасцю карыстаюцца творы пісьменнікаў, якія пра сябе актыўна заявілі ўжо ў 70-я, 80-я гады — пазней сваіх знакамітых папярэднікаў ад Купалы да Танка. Чаму так здарылася і што трэба рабіць, каб сучасную беларускую літаратуру лепш ведалі і больш любілі чытачы? Пра гэта мы запрашаем паразважаць на старонках «Полымя» як саміх пісьменнікаў, так і тых, хто проста любіць мастацкае слова.

***Алесь БАДАК***

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ПАБОЛЕЙ БЫ ТАКІХ АМАТАРАЎ!..



*Гаа Ман.*

Беларуска-кітайскія літаратурныя стасункі ў многім фарміруюцца дзякуючы менавіта яркім асобам, якія праяўляюць цікавасць да літаратуры кітайцаў альбо беларусаў. Калі азірацца на мінулае стагоддзе і ўжо ладны пачатак дваццаць першага, то на агульную карціну прадстаўлення кітайскай літаратуры ў Беларусі паўплывалі такія пісьменнікі, як Максім Танк, Рыгор Барадулін, Мікола Мятліцкі, Вольга Гапеева, Андрэй Хадановіч… Безумоўна, спрыяюць развіццю цікаўнасці прэзентацыі, кніжныя імпрэзы, падборкі перакладаў у перыядычным друку. Шмат што зроблена дзякуючы і Рэспубліканскаму інстытуту кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта на чале з доктарам філалагічных навук Аляксандрам Гардзеем. Менавіта пры іх падтрымцы выйшла кніга кітайскай паэзіі «Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая». Варта нагадаць, што гэтае выданне — аўтарская анталогія. Усе пераклады ажыццёўлены Міколам Мятліцкім. Інстытут Канфуцыя падтрымаў і творчы праект часопіса «Нёман» па знаёмстве ў Беларусі з сучаснай кітайскай літаратурай. У многім гэтая справа ажыццявілася дзякуючы руплівасці намесніка дырэктара інстытута Лю Сулін. Яе шчырая зацікаўленасць у тым, каб беларусы адкрывалі Кітай праз лепшыя творы кітайскай нацыянальнай літаратуры, проста ўражвае і заслугоўвае самых вялікіх слоў удзячнасці.

А ў Кітаі беларуская літаратура, беларускае мастацтва абапіраюцца на такую вядомую ў мастацкім свеце Паднябеснай асобу, як Гаа Ман. Пачынаючы з 2011 года, у розных беларускіх выданнях («Звязда», «СБ. Беларусь сегодня», «Голас Радзімы», «Беларусь», «Літаратура і мастацтва», «Полымя», «Нёман» і інш.) часта згадваецца імя гэтага кітайскага перакладчыка і мастака (нарадзіўся Гаа Ман у 1926 годзе ў Харбіне). Не пераказваючы змест папярэдніх публікацый, нагадаем, што гэтая асоба — яркая зорка ў зносінах кітайскага прыгожага пісьменства са славянскімі літаратурамі. Найперш — з рускай. Пасля — з украінскай і беларускай. Пераклаў на кітайскую мову «Кацярыну» Тараса Шаўчэнкі, «Рэквіем» Ганны Ахматавай. Між іншым, уклад Гаа Мана ў развіццё кітайска-рускіх

літаратурных стасункаў адзначаны вельмі высока. Кітайскі перакладчык узнагароджаны ордэнам Дружбы.

Гаа Ман разам з Гэ Баацянем пераклаў на кітайскую мову кнігу вершаў Максіма Танка. У кітайскім друку выступаў з артыкуламі пра беларускую літаратуру і беларускае мастацтва. У прыватнасці, расказаў пра творчасць народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага. Адзін з артыкулаў Гаа Мана пра беларускага жывапісца перакладзены з кітайскай і надрукаваны ў «Літаратуры і мастацтве». Намаляваў каліграф і шэраг партрэтаў беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх — выявы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч. Яны настолькі цікавыя і каларытныя, што можна смела выдаваць гэтыя партрэты асобнымі паштоўкамі і такім чынам прапагандаваць беларускую літаратуру, беларускіх пісьменнікаў у Кітаі, а творчасць кітайскага каліграфа і перакладчыка ў Беларусі. Чаму б і не рэалізаваць менавіта такі творчы праект?! Паказваючы нашым мастакам (Уладзіміру Слабодчыкаву, Арлену Кашкурэвічу, Георгію Паплаўскаму) рэпрадукцыі каліграфічных партрэтаў пісьменнікаў у выкананні Гаа Мана, я чуў толькі добрыя словы пра прафесіяналізм кітайскага майстра.

26 жніўня 2014 года ў мінскай кнігарні «Кніжны салон» па вуліцы Калініна, 5 прайшла вечарына, прысвечаная Гаа Ману, яго стасункам з Беларуссю. Расказаўшы напярэдадні ў электронным лісце самому Гаа Ману пра маючую адбыцца падзею, я атрымаў у адказ ад яго такі вось сціплы ліст: «Дарагі Алесь Мікалаевіч! Глыбока ўдзячны, што вы праводзіце прэзентацыю творчых праектаў, прысвечаных літаратуры і культуры Кітая. Упэўнены, што яна пройдзе з поспехам. Перадайце ўсім ўдзельнікам маю шчырую ўдзячнасць.

Што датычыць мяне, то я лічу, што не варты быць «паўнамоцным прадстаўніком беларускай культуры ў Кітаі». Я ўсяго толькі адзін з аматараў і перакладчыкаў беларускай літаратуры і мастацтва.

У дні прэзентацыі ўсім сэрцам і душой з вамі. Як хацелася б яшчэ што-небудзь зрабіць у імя нашай дружбы і ўмацавання культурных сувязей нашых народаў.

Дасылаю некалькі здымкаў...»

Адна з фатаграфій, якую б, несумненна, варта было б, увесці ва ўжытак жыццяпісу народнага паэта Беларусі Максіма Танка, асабліва каштоўная. На здымку з сустрэчы дэлегацыі савецкіх культурных дзеячаў з кітайскімі пісьменнікамі ў 1957 годзе ў Кітаі мы знойдзем Максіма Танка (трэці справа). А другі злева — Гаа Ман.

На гэтым жа здымку старшыня Саюза пісьменнікаў Кітая празаік і публіцыст Маа Дунь. Пра яго хацелася б расказаць крышачку падрабязней. Нарадзіўся пісьменнік (сапраўднае прозвішча — Шэнь Яньбін) 4 ліпеня 1896 года. Выступаць у друку пачаў у 1920-я гады. Аўтар трылогіі «Зацьменне» (1927—1928).



*На здымку: сустрэча дэлегацыі савецкіх культурных дзеячаў з кітайскімі пісьменнікамі. 1957 год (першы справа: старшыня Саюза пісьменнікаў Кітая Маа Дунь; другі злева: Гаа Ман; трэці справа: Максім Танк).*

У 1928 напісаў артыкул «Ад Гуліна да Токіа», дзе выклаў сваё разуменне задач рэвалюцыйнай рэалістычнай літаратуры. У 1928—1930 гг. знаходзіўся ў эміграцыі ў Японіі. Вярнуўшыся ў Кітай, заняў вядучае месца ў Лізе левых пісьменнікаў Кітая. У час Вайны супраціўлення Японіі (1937—1945) рэдагаваў часопіс «Вэньі чжэньдзі» («Пазіцыі літаратуры і мастацтва»). У 1941 годзе выпусціў у Ганконгу раман «Фушы» («Радасць»). Твор напісаны ў форме дзённіка маладой жанчыны, якая стала супрацоўніцай гаміньданаўскай сакрэтнай паліцыі. Раман абвінавачваў чайнкайшысцкую сістэму вышуку, тэрор супраць патрыётаў. У 1945 годзе напісаў драму «У дні памінак», прысвечаную перспектывам барацьбы за абнаўленне Кітая ў свеце набліжэння канца вайны. У 1949—1964 займаў пасаду міністра культуры КНР. Старшыня Саюза пісьменнікаў Кітая ў 1953—1981 гг. Падвяргаўся ганенням у перыяд «культурнай рэвалюцыі». У 1953 годзе часопіс «Полымя» (у лістападаўскім нумары) надрукаваў «Вясенніх шаўкапрадаў» Маа Дуня ў перакладзе на беларускую мову. Відаць, Максім Танк памятаў пра гэту публікацыю. І не выключана, што прывёз з сабою ў Кітай нумар, у якім быў змешчаны гэты пераклад. Тым болей, што яшчэ з 1948 года менавіта Максім Танк быў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя». І займаў гэтую пасаду да 1966 года. Якраз пры ім у часопісе пачалі з'яўляцца пераклады кітайскай паэзіі і прозы. У 1959 годзе ў Мінску асобным выданнем выйшаў па-беларуску раман Маа Дуня «Перад світаннем». Мажліва, у час той, 1957 года, сустрэчы і ішла размова пра пераклад гэтага твора на беларускую мову.

Дарэчы, зазіраючы ў мінуўшчыну, варта нагадаць, што недзе напрыканцы 1950-х гг. гасцявала ў Кітаі і беларуская пісьменніца Лідзія Арабей. З таго часу ў яе хатнім архіве захоўваюцца таксама здымкі, сувеніры з Паднябеснай. Лідзія Львоўна сустракалася ў Кітаі з пісьменнікам Эмі Сяа. Між іншым, ён быў у Мінску ў 1936 годзе. Але гэта — ужо тэма асобнай гаворкі. Лідзія Львоўна пераклала на беларускую мову кнігу кітайскага пісьменніка Ло Даня «Баявы загад» (Мінск, 1957 г.).

...Гаа Ман, нягледзячы на такое сціплае вызначэнне сваёй ролі ў беларуска-кітайскіх літаратурных стасунках («… усяго толькі адзін з аматараў…» Паболей бы такіх аматараў!), даволі актыўна і зараз углядаецца ў беларускую культуру, беларускае мастацтва. Літаральна некалькі гадоў назад ён выступіў у адной з вядучых грамадска-палітычных газет Кітая з артыкулам пра ўзнаўленне літаратурных сувязей Беларусі і Кітая. У сваёй пекінскай кватэры неаднойчы прымаў беларускіх журналістаў. Сустрэўся з паэтам Навумам Гальпяровічам, якому прысвяціў пасля верш і намаляваў яго партрэт у дадатак да тых каліграфічных выяў беларускіх пісьменнікаў, якія зрабіў у ранейшыя дзесяцігоддзі. Гасцявалі ў Гаа Мана радыёжурналістка Вольга Гальпяровіч і аспірантка філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Вераніка Карлюкевіч (яна займаецца кітаістыкай, надрукавала шэраг артыкулаў пра беларуска-кітайскія літаратурныя стасункі), журналістка газеты «СБ. Беларусь сегодня» Інэса Плескачэўская. Плёнам сустрэчы Плескачэўскай з Гаа Манам стала яе цікавае інтэрв'ю з кітайскім перакладчыкам. Тэкст надрукаваны ў газеце «СБ. Беларусь сегодня».

Здымак як сведчанне такой шчырай увагі Гаа Мана да Беларусі і беларускай літаратуры мы і дадаём да гэтай публікацыі.

***Фота з архіва Гаа Мана.***



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# САКРЭТ ПРЫЦЯГАЛЬНАСЦІ




*Вячеслав Бондаренко*

**«ПОЛКОВОДЦЫ И ВОЕНАЧАЛЬНИКИ ПЕРВОЙ МИРОВОЙ ВОЙНЫ — УРОЖЕНЦЫ БЕЛАРУСИ»**

*Мн.: Издательский дом «Звязда», 2014.*

«Ваенная сутнасць наогул наўрад ці мяняецца праз стагоддзі… Мінае час, і ўсё зліваецца ў адно ёмістае і ненавіснае людзям азначэнне – вайна», — пісаў В. Быкаў у кнізе мемуараў «Доўгая дарога дадому». І сапраўды, праз 100 год з пачатку Першай сусветнай вайны, калі і забываюцца пайменна ахвяры і героі, калі і страчваюцца сляды пахаванняў, маштаб трагедыі па-ранейшаму наводзіць жах на кожнага. Паўтара мільёна чалавек страціла Беларусь у 1914—1918 гг… І таму наша галоўная задача — аднавіць гістарычную памяць.

У гэтай справе належнае трэба аддаць выдавецтвам. Шэраг цікавых кніг, прысвечаных важнай даце, пабачылі свет у 2014 г. Дзякуючы прэзентацыі ў Белай зале праваслаўнага Храма-помніка ў гонар усіх святых у Мінску многія пазнаёміліся з выданнем «Последний приют солдата» А. Шаркова, В. Селеменева, Ю. Бествицкого, Е. Хорошевич (Мн.: Издательский дом «Звязда», 2014), якое змяшчае 248 апісанняў могілак Першай сусветнай вайны на Беларусі. Не павінна застацца па-за ўвагай чытачоў і яшчэ адна надзвычай актуальная для нашага часу кніга — «Полководцы и военачальники Первой мировой войны — уроженцы Беларуси» Вячаслава Бандарэнкі. На жаль, сёння мала хто зможа назваць імёны таленавітых кіроўцаў вайсковымі справамі на беларускіх землях у пачатку XX ст. Аўтар кнігі ў якасці доказу прыводзіць сумны факт: у выдадзенай у 2013 г. падборцы плакатаў «Полководцы и военачальники земли Белорусской» з 28 персаналій толькі адна прадстаўляе Першую сусветную. Між тым, 13 адсоткаў камандзіраў у 1914—1918 гг. былі нашымі землякамі з бліскучай вайсковай кар’ерай. Іх мужнасць, вернасць Радзіме і баявыя подзвігі, несумненна, заслугоўваюць ушанавання і ўсеагульнай вядомасці. Манаграфія В. Бандарэнкі — першае, прысвечанае дадзенай тэме, навукова-папулярнае выданне з 25 біяграфічнымі нарысамі пра военачальнікаў-беларусаў, якія кіравалі буйнейшымі баявымі аперацыямі. Стыль выкладу — жывы і захапляльны. Аўтар знаёміць нас з няпростым лёсам людзей, адданых сваёй справе, пачынаючы з іх паходжання, апісвае асноўныя ваенныя дасягненні, цытуе навуковыя крыніцы і архіўныя матэрыялы. Кніга будзе карыснай як спецыялістам у дадзенай галіне, так і шырокаму колу чытачоў.




*Уладзімір Карызна*

**«ЗАРНІЦЫ ДЗЯЦІНСТВА»**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2014.*

«Сапраўдных паэтаў шмат не бывае», — трапна выказаўся аднойчы сам Уладзімір Іванавіч Карызна. І, напэўна, лепшы доказ «сапраўднасці» — гэта калі твае радкі напяваюць не адзін дзясятак гадоў. А карызнаўскія «Маміна вішня», «Зорачка мая», «Калі цябе сустрэў я ўпершыню», «Люблю цябе, Белая Русь», «Азёры дабрыні» любяць і выконваюць малыя і старыя. На вершы паэта пісалі музыку Ю. Семяняка, Я. Глебаў, І. Лучанок, Э. Ханок, Л. Захлеўны, ды і сам У. Карызна выступае ў якасці кампазітара. Можа, менавіта таму многія творы яго паэтычнага зборніка «Зарніцы дзяцінства» прысвечаны «музычнай» тэме: «Трацiл і песня», «Вясковы музыка», «Бываюць жа на свеце вечары…», «Цымбалы», «Слухаючы «Паэму» Фібіха» і інш. Чалавекам «не з нашага слаўнага краю» аўтар называе таго, чые вочы «не адзавуцца слязой на ўсхліпы баяна», чые ногі «громам не адгукнуцца на акорды баяна». Музыка для паэта — галоўныя лекі:

Калі захварэю —
Ты не хадзі
Шукаць розных зёлак
У лузе за вёскай,
У шумным бары,
Каля ціхай Пцічы,
Ля хаты,
Дзе жоўтыя свецяцца восы.
Ты родную песню мне заспявай…

Добра ведае У. Карызна, і як уплывае на людзей і сапраўднае паэтычнае слова:

Яно не раніць —
Яно ачышчае,
Яно —
    як світанне,
Таемнае
Кожны раз…

Палымянасць, нават, лепш было б сказаць, прамяністасць радка, характэрная для творчасці паэта ў цэлым, не губляецца і ў яго апошнім зборніку. Багатая і цікавая вобразнасць, метафарычнасць стылю адрознівае «Зарніцы дзяцінства». Не можа не цешыць і выкарыстанне паэтам розных рытмаметрычных і эўфанічных магчымасцей, агульная высокая паэтычная культура. Сустракаем у зборніку верлібры, санеты, паэмы… Таму знайсці шмат цікавага для сябе ў кнізе змогуць як аматары паэзіі, так і літаратуразнаўцы.




*Валерий Казаков*

**«ГОРОД, КОТОРЫЙ ВСЕГДА СО МНОЙ…»**

*Мн.: Издательский дом «Звязда», 2014.*

Валерый Казакоў — пісьменнік шматаблічны. Творыць у розных жанрах, з’яўляецца аўтарам непадобных адна

да адной кніг: паэтычнага зборніка «Философия звука», кніг прозы і публіцыстыкі «Разбитое зеркало карабаха», «Асфальт и тени», «Саморазрушение» і інш. Піша на беларускай і рускай мовах, ды і ў культурным плане імкнецца паяднаць суседнія дзяржавы. У 2010 г. быў абраны старшынёй Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў у Расіі, а летась за адаведную дзейнасць узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Яго новая кніга «Город, который всегда со мной…» мае жанравае вызначэнне «аповесць вяртання». Вяртаецца аўтар у свой родны Магілёў сучасны і гадоў маленства, юнацтва. Аднак той, хто, прачытаўшы першыя радкі падумае, што аўтар уключыў у кнігу толькі замалёўкі гарадскога жыцця — моцна памыляецца. Пад адной вокладкай сабраны гістарычныя і фантастычныя апавяданні, філасофскія нарысы і «легкие словесные акварельки», як называе іх Валерый Казакоў. Але такая стракатасць зусім не замінае гармоніі. Усе творы кнігі аб'яднаны агульным пачуццём: адвечнай цягай да першакрыніц славянскай гісторыі, легенд і паданняў, любоўю да блізкіх і знаёмых людзей. Як прызнаецца пісьменнік, натхнялі яго Уладзімір Караткевіч, Усевалад Іваноўскі, Ян Баршчэўскі, Уладзімір Арлоў, Анатоль Тарас. Гадзінамі слухаў ён магілёўскага гісторыка і краязнаўца Ігара Пушкіна, наведваў раскопкі археолага Ігара Марзалюка. Не маглі не паўплываць на творчы працэс і пазітыўныя перамены ў родным горадзе, што пісьменнік звязвае з удалым кіраўніцтвам (што і адлюстравана ў прысвячэнні). Наколькі па-мастацку гэта зроблена — няхай кожны вызначае для сябе. Аднак тое, што чытачы трапяць у свет тонкі, пачуццёвы і лірычны — абяцаем з поўнай упэўненасцю. Неяк асабліва прачула гучаць беларусізмы ў рускім тэксце, бо нестае рускіх слоў, каб напісаць пра «сырадой» і «зёлкі»… Ледзь адчувальнай цеплынёй павявае ад старонак кнігі, і хочацца паяднацца з усім гэтым светам даўніны, дрэваў і сонца, заблукаць да світання з чароўнай прыгажуняй Палесяй…




*Яна Явич*
**«УТЕНА ХОЧЕТ ЗНАТЬ»**
*Мн.: Издательский дом «Звязда», 2014.*

Пісаць для дзяцей цяжка. Па-першае, трэба выпрацаваць прыдатную для дзіцячага разумення мову (напрыклад, Л. Талстой прызнаваўся, што не склаў бы сваю «Кнігу для чытання» без непасрэднага садзеяння вясковых школьнікаў). Па-другое, нельга забываць пра адрозненне дзіцячай псіхікі ад псіхікі дарослага чалавека і вынікаючую адсюль розніцу ў эстэтычных ацэнках (дзецям падабаецца шмат таго, што зусім не кранае дарослых). І, нарэшце, даводзіцца ўлічваць непадобнасць густаў, інтарэсаў у залежнасці ад узросту юных чытачоў. Асабліва складана пісаць для самых маленькіх. Вось за такую нялёгкую справу ўзялася пісьменніца Яна Явіч. І, як нам падаецца, даволі добра змагла справіцца з патрабаваннямі ўсіх вышэйназваных пунктаў. Яе аповесць-казка «Утёна хочет знать» — гэта не проста займальная гісторыя з жыцця жывёл. Неназойліва, праз гульню, аўтарка вучыць заўважаць хараство, слухацца бацькоў, правільна харчавацца, любіць вершы і г.д. Неацэнную паслугу яна аказвае, падрабязна тлумачачы законы прыроды (кожная частка аповесці мае на мэце знаёмства з новай з'явай рэчаіснасці). Як узнікае адбітак на вадзе? Як рухаецца зямля? Што такое вясёлка? Чаму трава зялёная,

а неба блакітнае? Чаму дзьме вецер? Куда адлятаюць восенню птушкі? Якія бываюць зоркі? Ні адно пытанне юнага першаадкрывальніка не застанецца без адказу. Будуць усцешаны малыя і вялікай колькасцю каляровых ілюстрацый, бо як лічыла Аліса з казак Л. Кэрала, кніжкі без малюнкаў нікому не патрэбныя. У выданні пазначана, што яно прызначаецца «для чытання дарослымі дзецям». А зараз усё больш папулярным у практычнай псіхалогіі робіцца метад казкатэрапіі. Забудзьцеся на свае праблемы і разам з дзецьмі выпраўляйцеся ў цікавае падарожжа. Карысць для чытачоў і слухачоў гарантавана.




*Андрэй Федарэнка*

**«ЦІША»**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2014*

Сёння творы Андрэя Федарэнкі ўваходзяць у школьную праграму і праграму для вышэйшых навучальных устаноў. У пэўнай ступені гэта ўжо заяўка на званне жывога класіка. І прыгодніцкія творы для дзяцей, і сур'езныя раманы, аповесці, п'есы знайшлі свайго чытача. У чым жа сакрэт прыцягальнасці? Пэўна, у гуманістычным поглядзе на жыццё і чалавека, эмацыянальнасці, спавядальнасці і глыбокім псіхалагічным аналізе. Увогуле, проза Федарэнкі надзвычай антрапацэнтрычная. Нават самыя нязначныя будзённыя праблемы трапляюць у яго «аб'ектыў». Нядзіўна, што кожны знаходзіць нешта сваё… Балючае ці адбалелае. Кніга аповесцей і апавяданняў «Ціша» працягвае названыя творчыя традыцыі. Змешчаная на вокладцы рэпрадукцыя карціны Андрэя Задорына з маленькім чалавекам сярод цемры надта ўдала стасуецца з ідэйным зместам загалоўнай аповесці, аповесці сталення. Пятрусь Дворак у складаных сямейных абставінах не губляе простага дзіцячага жыццялюбства, прагне спазнаць прыгажосць навакольнага свету, яму падаецца, што лепей, чым ён жыве, і не можа быць увогле. Вось і чалавечак на карціне свеціцца… Сталенне Петруся адбываецца на фоне дакладна абмаляванага жыцця беларускай вёскі. І ў гэтым А. Федарэнка не здраджвае сабе. Даўно жывучы ў горадзе, ён дагэтуль тонка адчувае праблемы «вясковыя». Небеспадстаўна параўнаў аднойчы Міхась Тычына Федарэнку з амерыканскім пісьменнікам Джонам Апдайкам. Тое ж дакладнае адлюстраванне нацыянальнай рэчаіснасці ў яе побытавым плане. Па-мастацку цікава, іранічна ўваходзяць у жыццё герояў аповесці і рэаліі брэжнеўскай эпохі. Па-філасофску адкрыты фінал з разважаннямі васьмігадовага хлопчыка прымусіць задумацца нават чытачоў самага паважанага ўзросту: «Няўжо гэта яно вось такое — жыццё? Дзе ўсё разам, гора і шчасце, сваркі і прымірэнні, слёзы і смех, і ўсё пераменлівае, перамяшанае, непастаяннае, усё ў руху, круціцца, як у калейдаскопе…»

Апавяданні кнігі «Ціша» можна было б аб'яднаць пад назвай аднаго з іх — «Імгненні жыцця». Тут А. Федарэнка праяўляе сябе як майстар мастацкай дэталі. Шчыліна ў століі, цацачны тэлефон, рознакаляровы гальштук — што яшчэ набывае для нас асаблівы сэнс у паўсядзённасці? Прыпыніцца ў вечнай мітусні, паразважаць і ачысціцца душой. Вось да чаго незаўважна для нас хоча падвесці пісьменнік. А яшчэ прызывае бачыць у кожным блізкім «хворага, смяротнага няшчасніка». «Як гэта? Для чаго?» — здзівяцца многія. Для таго, каб не ўкарочваць адно аднаму век, каб абыходзіцца максімальна далікатна і памятаць аб непастаяннасці ўсяго існага. Паспрабуйце, гэта працуе.




*Эрых Распэ.*

**ПРЫГОДЫ БАРОНА МЮНХАЎЗЕНА.**

*Астрыд Ліндгрэн.*

**БРАТЫ ЛЬВІНАЕ СЭРЦА**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2014.*

Для паўнавартаснага развіцця асобы, безумоўна, неабходна знаёмства з літаратурай і культурай краін свету. А яшчэ лепш, калі знаёмства гэта будзе адбывацца на роднай мове. Таму сапраўдным падарункам для беларускіх падлеткаў з'яўляецца выданне твораў Эрыха Распэ і Астрыд Ліндгрэн, ажыццёўленае «Выдавецкім домам «Звязда» ў серыі «Школьная бібліятэка». Раней «Прыгоды барона Мюнхаўзена» і «Браты Львінае Сэрца» пабачылі ўжо свет на беларускай мове пры дапамозе выдавецтва «Юнацтва», але ідэя сабраць названыя творы ў адной кнізе падаецца надзвычай мэтазгоднай.

Што агульнага паміж жартаўлівымі прыгодамі дзівака-барона і гісторыяй (часам нават трагічнай) двух адважных братоў? На першы погляд быццам бы нічога. Але насамрэч яны аб'яднаны адной генеральнай ідэяй — ні пры якіх абставінах нельга ўпадаць у адчай, выйсце заўсёды знойдзецца, нават …пасля смерці. І калі барон Мюнзаўзен быццам бы ўвесь час рызыкуе жыццём падчас сваіх небяспечных падарожжаў (яго праглынае вялізная рыба, ён адзін змагаецца з некалькімі тысячамі мядзведзяў, аб'язджае шалёнага скакуна і г.д.), то браты Джанатан і Карл пасля смерці траляюць у чароўную краіну Наджыялу. І там яны павінны змагацца з тыранам Тэнджылам і пачварай Катлай. Прычым, калі ў рэальным свеце Джанатан ратуе Карла, сягаючы з акна ўласнага дома ў час пажару, то пасля смерці, у Наджыяле, Карл скача з высачэзнай скалы ў імя вечнага жыцця брата.

Ці можна размаўляць з дзецьмі на такія сур'ёзныя тэмы? Кніга «Браты Львінае Сэрца» Астрыд Ліндгрэн была адразу неадназначна ўспрынята крытыкай. Пісаць пра смерць, суіцыд, тыранію для малых чытачоў здавалася недапушчальным. Аднак вельмі хутка сціхлі негатыўныя водзывы, і аповесць заняла годнае месца ў залатым фондзе сусветнай дзіцячай літаратуры. Бо як яшчэ рыхтаваць падлеткаў да складанага і супярэчлівага жыцця? Ці не збянтэжацца і разгубяцца яны пры сутыкненні з першай жа цяжкасцю, калі дагэтуль знаходзіліся ў свеце бесклапотнасці і наіўных мар? Так, безумоўна. І шведскія пісьменнікі ва ўсе часы неяк абвострана гэта адчувалі. Напрыклад, у працяг слаўных традыцый Ліндгрэн пісьменніца Пэрніла Стальфэльт стварыла для самых маленькіх «Кніжку пра смерць»… Давайце ж і мы не будзем залішне аберагаць дзяцей і дадзім ім магчымасць спасцігаць жыццёвую мудрасць ад чытання добрых і разумных кніг.



# НОВЫЯ ТВОРЫ ГРАФА СУЛІМЫ З БЕЛАЙ РУСІ

Тыя, хто паверыў электроннай культуры, але павярхоўна знаёмы з папяровай, часам сцвярджаюць, быццам у інтэрнэце ёсць усё. О не, далёка не ўсё, толькі вяршыня айсберга. Збольшага тое, што на слыху. А тыя, хто яшчэ не паверыў, наадварот, і не здагадваюцца, якія недасяжныя рарытэты ляжаць побач. Толькі не лянуйся, працягні руку. Усё часцей і часцей у сусветнай павуціне з'яўляюцца рэчы, якія ніколі не друкаваліся і існуюць у адзінкавым экзэмпляры — тое, што ў пірамідзе папяровай культуры магло быць проста не знойдзена. Мы ў гэтым лішні раз упэўніліся, напаткаўшы тэксты, якімі сёння шчасліва дзелімся з чытачамі часопіса.

* * *

Калі акінуць вокам беларускую літаратуру XIX ст., то асоба Войслава (Вайніслава) Казіміра Сулімы-Савіча-Заблоцкага (да 1850 — пасля 1893) будзе, бадай што, самай загадкавай і трагічнай. Яго багатая біяграфія поўная лакунаў, ягоны не менш багаты творчы наробак расцярушаны па цэлым свеце, шмат што яшчэ зусім невядома і не адкрыта, а вядомае не знойдзена. Заданне ўскладняецца схільнасцю самога пісьменніка да рознага кшталту містыфікацый: ён, як пісаў Генадзь Кісялёў, «любіў ахутаць свой жыццяпіс вэлюмам фантазіі і шматзначнасці».

Дык вось, улетку 2013 г., укладаючы бібліяграфію друкаваных і рукапісных твораў літаратуры XIX ст., мы выявілі шэраг матэрыялаў, звязаных з асобай Савіча-Заблоцкага, у прыватнасці, яго невядомыя творы, напісаныя па-беларуску. На сайце Віленскага ўніверсітэта, у раздзеле «Калекцыя аўтографаў», ёсць надзвычай цікавы электронны дакумент з тытулам «Бѣлорусскія пѣсни Войнислава Казимира Савичъ-Заблоцкаго», які ўяўляе сабою восем адсканіраваных старонак. Пяць з іх займае вершаваны твор «Сонъ гударя молодого», рэшта старонак чыстыя. У канцы верша стаіць дата і месца напісання: *1870. д[ня] 20 іюня. Вильно.* Пад імі — аўтараў подпіс. Апрача дакладнай лічбавай копіі, дакладнага архіўнага адраса дакумента, электронны рэсурс змяшчае і такую інфармацыю па-літоўску (падаем у перакладзе на беларускую мову): «М. Браништэйн. Апісанне на польскай мове. У асобнай папцы».

Колькі слоў трэба сказаць і пра апошняга. Дзейнасць Міхала Яўстаха Бранштэйна (1874—1938), віленскага бібліятэкара, бібліёграфа, гісторыка, археолага, этнографа і калекцыянера, сябра многіх навуковых таварыстваў, добра вядомая айчынным даследнікам літаратуры. Гісторыя культурнага жыцця ВКЛ, Віленскага ўніверсітэта, выдавецкая дзейнасць Адама Кіркора, — вось далёка не поўны пералік ягоных зацікаўленняў як навукоўца. У верасні 1935 г., у час VI з'езда польскіх гісторыкаў, ён выступіў адным з арганізатараў выставы, прысвечанай літоўска-беларускай мінуласці. І адным з найкаштоўнейшых экспанатаў выставы была «Песня беларускіх жаўнераў» 1794 года, пераадкрытая Адамам Мальдзісам. Спадчына М. Бранштэйна як збіральніка і даследніка абяцае яшчэ шмат новых адкрыццяў. І сведчанне таго — «Беларускія песні…».

На жаль, нашы спадзяванні, што лічбавая копія, выстаўленая на сайце Віленскага ўніверсітэта, — гэта не ўвесь зборнік Савіча-Заблоцкага, а толькі частка, што «апісанне Міхала Браніштэйна па-польску» дасць хоць нейкую ўцямную інфармацыю з гісторыі гэтай архіўнай адзінкі, не апраўдаліся. Літаратуразнаўца і крытык Ціхан Чарнякевіч у часе свайго знаходжання ў Вільні, пазнаёміўшыся на нашу просьбу з арыгіналам дакумента, пацвердзіў: нічога, апрача васьмі старонак з вершам «Сон гудара маладога», выстаўленых у Сеціве, у архіўнай справе няма. Бранштэйнава ж «апісанне» — гэта лаканічны запіс, зроблены на вялізным аркушы паперы, складзеным у дзве столкі: «Sawicz-Zabłockij Wojnisław Kazimierz. Biełaruskija piesni. Wilno 1870 20 ijunia».

І ўсё ж, перад намі, відаць, і праўда толькі частка рукапіснага зборніка «Беларускія песні Войслава Казіміра Савіча-Заблоцкага». Пра тое сведчыць і назва, і лічба адзін, якой пазначаны «Сон…». Няйначай, гэта адзін з ранніх беларускамоўных твораў паэта. Заўважым, тэкст спісаны амаль начыста і не мае тлумачэння незразумелых слоў і выразаў, якім Савіч-Заблоцкі зазвычай суправаджаў свае творы. У звязку з назвай «Беларускія песні…» варта ўспомніць ліст Савіча-Заблоцкага да расійскага гісторыка, журналіста, выдаўца часопіса «Вестник Европы» М. М. Стасюлевіча (1826—1911), надасланы з Варшавы, а датаваны 10 (22) кастрычніка 1873 г. У лісце, апрача ўсяго іншага, Савіч-Заблоцкі пісаў і пра «беларускія песні, якіх у яго шмат» (маючы на ўвазе ўласныя вершы) і якія ён хоча «пусціць на свет Божы». Паэт далучыў да ліста тры з іх: «З чужбіны», «У роднай зямлі», «Да перапёлкі», спадзеючыся на публікацыю ў часопісе; але гэтага, як мы ведаем, не адбылося.

Пра абставіны напісання «Сну…» можна толькі здагадвацца. Як вынікае з лістоў яго аўтара да ўкраінскага пісьменніка і грамадскага дзеяча М. Драгаманава (1841—1895), у 1868 г. у Пецярбургу паўстала асветная арганізацыя «Крывіцкі Вя́зак», «галавою» якога, калі верыць аўтару, быў сам В. К. Савіч-Заблоцкі. У 1872—1873 гг. «Вязак» выкрылі і зліквідавалі, яго «галава» «яшчэ з тры рокі вяртаўся… усё пад надзорам, з Варшавы ў Вільню тай Пецярбург», а пасля «выехаў за граніцу» (у 1875 годзе). Верш «Сон гудара маладога», як і тры вершы, дасланыя ў «Вестник Европы», паэт напісаў тады, калі «Крывіцкі Вязак» яшчэ жыў. Пісаў Войслаў Казімір па-беларуску і на эміграцыі: да нас дайшоў ягоны твор пазнейшай пары «Беларуская пея».

«Сон…» сваім зместам і моваю вельмі блізкі да тэкстаў, дасланых В. Савічам-Заблоцкім Стасюлевічу, напісаны ён у жанры відзежы. Гэта нават, можна сказаць, маленькая лірычная паэмка з заблытанымі сюжэтнымі хадамі, спарадычнымі вяртаннямі назад — усё, як і мае быць у сне. Карціны, што разгортваюцца перад вачыма лірычнага героя, уражваюць касмічным размахам, разнастайнасцю асацыяцый і метафар. У гэтым вершы, як і ў «Беларускай пеі», найбольш загадкавы яго драйв, рытмавая энергія, што з першых радкоў захапляе чытача і не адпускае да канца. Пры гэтым метрыка, якую практыкуе аўтар, для нашага сучасніка нічым асаблівым не адметная, але якраз на ёй варта спыніцца асобна.

Перад намі трохстопны амфібрахій з частымі перабоямі рытму. А ў XIX ст. нават ямб для нашага пісьменства быў рэдкасцю, трохскладовыя ж памеры і пагатоў. Заўважым, у рускай літаратуры з асноўных пяці вершавых памераў амфібрахій быў прызнаны апошнім — у трактаце Сумарокава. Што да беларускай, то моцная сілабічная і фальклорная традыцыя, якая панавала на тутэйшых землях некалькі стагоддзяў, схіляла да харэічнага рытму з частымі інверсіямі, то і харэем можа лічыцца з пэўнай доляй умоўнасці. Двухстопны амфібрахій і чатырохстопны дактыль (чаргуецца з трохстопным), якія можна напаткаць у XIX ст., — таксама рэфлексы сілабічнай традыцыі, фактычна ў ёй яны і застаюцца. А вось памер «Сну…» — нешта для 1870-х гг. новае, што сведчыць пра знаёмства з рускай артаметрыяй, засваенне новых рытмавых стэрэатыпаў. Лічыцца, што трохскладовыя памеры ў рускай літаратуры стаў шырока ўжываць М. Някрасаў. Уплыў

апошняга на В. Савіча-Заблоцкага праяўляецца не толькі ў вернасці дэмакратычнай традыцыі, «хлапаманству», але і ў некаторых асаблівасцях мовы, скажам, частым ужыванні выклічніка *чу!*, нехарактэрнага для беларускай мовы і для паэтычнага стылю ў цэлым, а таксама — у звароце да таго ж трохстопнага амфібрахія.

Віленскі поспех паддаваў імпэту шукаць у іншых кірунках. У 1886 г. граф Суліма з Белай Русі (адзін з псеўданімаў пісьменніка) ліставаўся, як мы ўжо згадвалі, з Міхайлам Драгаманавым. А раптам яшчэ з кім з украінцаў? Толькі мы ўвялі ў інтэрнэт-шукальнік словы «Сулима-Савич-Заблоцький», як ужо трэцяя спасылка сігналізавала ўдачу: «Листи до Франка. Сулима-Савич-Заблоцький В. К. Лист до Франка І. Париж. 1886-11-29». Гэтым разам адсканаваны дакумент ляжаў на сайце, прысвечаным жыццю і творчасці Івана Франка, у раздзеле «Листування Франка». Раздзел змяшчаў лічбавыя копіі лістоў да Каменяра розных асоб. З першага ліста, які напісаны па-беларуску, пацвярджаецца сталая цікавасць Савіча-Заблоцкага да ўкраінскага руху, жаданне паспрыяць новаму часопісу, удакладняюцца некаторыя дэталі наконт панславізму («панруства») яго аўтара. Уражвае і гарачы патрыятызм беларускага пісьменніка, уласцівы ў той час далёка не кожнаму. Апрача таго, высвятляецца важная біяграфічная інфармацыя: мы даведваемся адзін з парыжскіх адрасоў Савіча-Заблоцкага, і тое, што ён, паводле свайго ўласнага прызнання, кіруе антыкварнаю крамаю.

Другі ліст напісаны па-французску. І выклікае больш пытанняў, чым дае адказаў. Аўтар ліста паведамляе, што 28 снежня 1887 г. яго арыштавалі і што ён піша з вязніцы, а таму і па-французску. Ліст на экзатычнай для Еўропы беларускай мове, вядома ж, не прапусцілі б. За што арыштавалі — застаецца толькі здагадвацца. Савіч-Заблоцкі не можа пісаць пра гэта ў лісце, адно заўважае: ягоная «справа не палітычная», просіць нідзе не афішаваць і абяцае патлумачыць усё падрабязней па сваім вызваленні. Як вядома, ужо ў ліпені 1887 г. Савіч-Заблоцкі быў у Бруселі і пісаў адтуль прашэнні на імя віленскага генерал-губернатара, дабіваючыся дазволу вярнуцца на бацькаўшчыну. Відаць, справы ягоныя, перадусім у фінансавым плане, ішлі не надта добра — ці не з тае прычыны і ў турме апынуўся. Апярэджваючы падзеі, заўважым, што справы не палепшыліся і ў Расіі. Там ён патрапіў у абдымкі рускага славянафільства, пад якое мусіў падладжвацца. Каб выжыць, пісьменнік мусіў распрадаваць сваю бібліятэку, чым бессаромна карысталіся некаторыя калегі-літаратары, мала спрыяючы яму матэрыяльна.

Патроху пачынае праясняцца туман, які ахутваў постаць трагічнага авантурыста, графа Сулімы з Белай Русі. А тым часам праступаюць дэталі — і загадак становіцца яшчэ больш.

* * *

Асобную праблему для публікатара ўяўляе мова Савіча-Заблоцкага. Гэта арыгінальны, без аналагаў, без папярэднікаў і наступнікаў, дыялект, у аснове якога ляжаць гаворкі Дзісеншчыны і кніжны досвед. Можа, аддалена ён нагадвае (усё ж супольная дыялектная база) дыялект В. Ластоўскага. Мова Войслава Казіміра — гэта скарб для этымолага, яна адкрывае шмат невядомага і забытага, істотна папаўняе наш лексікон, але яшчэ больш азадачвае. І калі словы можна разгадваць доўгія гады, то з правапісам трэба разабрацца сёння, каб уліць творы ў агульны корпус беларускай літаратуры, зрабіць іх даступнымі шырокім масам, не страціўшы ані граматычных, ані фанетычных асаблівасцей і пад тое рэпрэзентаваўшы эстэтычныя вартасці. Крыху прасцей з вершам, цяжэй — з лістом. У вершы паэт яшчэ карыстаецца збольшага рускім і польскім правапісным досведам, тым часам у лісце бачым наслаенне рускай (а значыць і царкоўнаславянскай) традыцыі, украінскай, польскай і французскай — плюс уласныя вынаходніцтвы. Асноўныя правілы Савіч-Заблоцкі сцісла тлумачыць сам, але гэта далёка не ўсе

яго спосабы пісьма. А галоўнае, ніводнай наяўнай арфаграмы, у тым ліку, эксплікаванай ім самым, паэт не пільнуецца паслядоўна.

Прыкладам, данíнай царкоўнаславянскай традыцыі і нефанетычным напісаннем можна лічыць *ếя* — так пісалася і ў рускай мове *ея*, аналагічна, бадай што, *сêбя, мêня*. Літары *ô, ê, ŷ* (відаць, уплыў французскага правапісу), аўтар прапаноўвае разглядаць як слабую пазіцыю, але, відавочна, што сям-там пад слабой пазіцыяй трэба разумець не толькі рэдукаваны гук, але і нуль гука. Тое самае апостраф у канцы слова — *б', пріяŷш'*, часам ён не абазначае гука, а часам мае прачытвацца як *[ы]*. У апошнім выпадку, мы лічым, ёсць уплыў на правапіс дысіміляцыйнага акання паўночна-ўсходняга дыялекту. Уплыў гэты праяўляецца і ў тым, што Савіч-Заблоцкі гукі *[а]* і *[ы]* часам піша гіперкарэктна: *гэтôм*, а побач, як і належыць, — *гэтым*. Спадзяёмся, нам удалося слушна перадаць тэкст і чытач зможа прачытаць прыблізна так, як чуў беларускую мову сам аўтар.

***Вячаслаў МАРТЫСЮК, Юры ПАЦЮПА***

## Войслаў САВІЧ-ЗАБЛОЦКІ

### Сон гудара маладога[1]

Раскідна шыр рускага[2] поля,
Лясамі да неба бяжыць;
Адна там кручынная доля,
Што цветак, — галоўку кланіць.

Не бы́ла яму як ўзрасці —
Набегшыя тучы прыгнулі,
Не даў яму лівень цвісці,
І ветры з зямлёй яго скулі.

Па шыры работнік прайдзець,
Заплачаць бязвольной слязой,
Па цветкам душу разальець —
Прыбіт ён з сваёю зямлёй.

Саседзі з сабой павадзі́лісь[3],
І Русь — іх стапчалі[4] кані,
Яны там гадзіліся, білісь
І мёртвых хавалі ў зямлі.

Ад сонца істока ў заток[5]
Бурлівыя тучы хадзілі,
Пярунны разліўся пато́к,
І з тучай сыны ей паплы́лі.

---

[1] Публікуецца паводле аўтографа (ЦБАН Літвы. — Ф. 48. — 000393695. — Арк. 1 — 4 адв.).

[2] Рускі — тут: беларускі; усходнеславянскі.

[3] Пава́дзіцца — пасварыцца (пар: *ва́да. зва́да* ‘сварка’).

[4] Стапчаць — стаптаць.

[5] Істок — усход; заток — захад (гл. заўв. аўт. далей).

Слязою залілась іх маць
І рукі у грусці ламала.
Пустое! Не можаш ты блеску ім даць.
Вот туча ім гром паказала.

Не ў дзела Баяна гудзелі.
Саколы! Чы Крут[1] вас пагнаў?
Прападу[2] ж свайго захацелі?
Хто поган[3] на злое вам даў?

Не чуюць саколы — ляцяць.
Новы ж у заток то наезд?..
Чаго так кручынішся, маць?
Птушкі паўзвілісь са гнезд!

Раскідна шыр рускага поля,
Лясамі да неба бяжыць,
А гуд[4] там паўсюду няволя,
Няволен у ярме ляжыць.

І ходзіць па шыры грусцівы
І мутны паводзіць свой глаз,
Мужык ён, даўно юж[5] не жывы.
О Божа! Памілуй ты нас!

Раскідна шыр рускага поля,
Лясамі да неба бяжыць.
Прыйдзець жа калі ёй тут доля?
О братцы! Пазвольце пасніць.

Прылёг я і віжу ва сне —
Новыя тучы і страх і бяду,
Акунуў я вочы ў саседскай войне —
На рускую пала зямлю!

Гуляюць і шабля і штык,
І льецца славянская кроў.
І шум, гул і грохат, і зык
Істока, затока паслоў.

Ваююць, баюць; між ніх
Красаўка[6] русая ляжыць,
Хрэст дзержыць ў ручонках сваіх,
Бязмоўна і цвёрдым сном спіць.

---

[1] Крут — відаць, маецца на ўвазе князь (з 1066 г.) бодрычаў (палабскіх славян), паходзіў з руян, чыніў спусташальныя набегі на суседзяў, забіты ў 1093 г. Гэта яшчэ адно сведчанне пра цікавасць В. Савіча-Заблоцкага да славянскай гісторыі і чынны ўдзел у стварэнні панславянскага міфа.

[2] Прапад — пагібель.

[3] Поган — тут у сэнсе: хто пагнаў.

[4] Гуды *(літ.)* — беларусы.

[5] Юж *(пол.)* — ужо.

[6] Красаўка — красуня.

І белы на ней сарафан,
А пояс із польскіх цвятоў,
Хабоцен[1] і лёгак ей стан,
І — чу! — юж ажыла ў ней кроў.

Вастала… Саседзі маўчаць,
Не льецца кіпучая кроў…
О віжу, ты Русь, мая маць,
Узя́ла за рукі ўрагоў.

І моўчаць саседзі, даю́ць:
Красаўка іх рукі вяжэ́ць,
Да серца абоіх іх жмець —
Абое песнь дружбы пяюць.

І моўчаць тут шабля і штык,
Не льецца славянская кроў
Саседаў — свет Божы пранік,
І нету юж больша ўрагоў!

Раскідна шыр рускага поля,
Лясамі да неба бяжыць,
Прапала і грусць і няволя
І добра і свята тут жыць.

*20 чэрвеня 1870 г., Вільня*

**Лісты да Івана Франка**[2]

**№ 1**[3]

Парыж, 29 ліста́пада n. st. 1886[4]
Пану Івану Фра́нку ва Львове ў Галіччыне
Дабрадзею мой!

Дружышча мой, п. Міхайла Драгаманаў[5] з Жаневы, прыслаў мне сёння «Запросини до предплати»[6] на «Поступ»[7]. Што ў́ Галіччыне така часапісьма выхадзіці будзе, тай яшчэ пад тваею, пане Іване Фра́нка, рэдакцыяй, мяне, беларуса, дужа радуе. Імя Ваша вельма мне знама, тай знама з сама-добрага боку. Знамы

[1] Хаботны — гнуткі (пар.: *хобат*).

[2] Франко Іван Якавіч (1856—1916) — вялікі ўкраінскі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч.

[3] Публікуецца паводле аўтографа (ІЛ НАН Украіны. — Ф. 3. — Адз. зах. 1608. — С. 447—449).

[4] Па-беларуску ўсяку гласку са зна́чкам ≙ чытай як *а (я)*, усяку са значкам ̤ як *о (ё)*, ў̂ ж, заступаюшча *в* і *л*, чытай як палугласку, з папярэдняю ў купе. *(Заўв. аўт.)* Тут тэкст публікуецца паводле сучаснага правапісу.

[5] Драгаманаў Міхайла Пятровіч (1841—1895) — украінскі публіцыст, гісторык, філосаф, эканаміст, літаратуразнаўца, фальклярыст, грамадскі дзеяч. Асуджаў палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў. Вядомыя лісты Савіча-Заблоцкага да Драгаманава.

[6] Запросини до предплати» — так называўся праспект (пабачыў свет 15 лістапада 1886 г.) часопіса «Поступ», які меўся выдаваць І. Франко.

[7] Спроба заснавання ўласнага незалежнага друкаванага органа была вынікам расчаравання І. Франка супрацаю з галіцкімі народнікамі і, як вядома, не мела плёну (галоўная прычына — нястача грошай). Франко двойчы (у 1885 і 1886 гг.) ездзіў у Кіеў, шукаючы кантактаў з дзеячамі Старой Грамады дзеля фінансавага падтрымання.

мне і талент Ваш, хош, прызнаціся, не са ўсім што ты, пане, напісаў, абазнаміці сябе я мог. Віна сяму — маё ад Вашага краю аддаленства[1], дужа не багацька эміграніцка машна[2], та невесць[3] аб гэтым, што ў Вас робіся.

Адным духам прачытаў я Вашы «запрасіны» і саўсім іх думай сябе пераяў[4]. Пасяму ж прашу Вас, пане Іване, мне, як тылька пакажася часапісьма Ваша, така мне прысылаці; па новаму року прышлю пану Амеліяну Аганоўскаму[5], з грашмі для «Просвіты»[6], і грошы на часапісьма Ваша. Акрамя таго ж прасіў бы я Вас, штоб Вы мяне і на сатрудніка Вашага, прыялі. Пісаў бы я Вам то да сё з заграніцы, хош хронікі які, навуковы дапіскі, разумееся, без ніякага за гэта награждзення[7]. Адно лі бяда, што мовай Вашай Русі дасёля выражаціся не магу і пісаў бы іх, паколь, льболь па-маскоўску, льболь па-польску, а Вы іх ужо перапробіце на дыялект Ваш, вукраінскі чы галіцкі.

Прыяўшы Хранцыю[8] за месца[9] перабыванства майго, яка вучоны ў спойнасці з вучонымі Еўропы, хацеў бы я гэты маі звязі і ўлівы[10] пасвяціці на служэнне панрустcovу[11], чылі ўсяму што руска наша ёсць. Аб гэтым Еўропа ніякага не мае яшчэ мнення, — для яе мы, Рускі, льболь Маскалі, льболь Ляхі; тай ты[я] ж усё робяць, штобы нас, яка такіх, перад Еўропай явіць, а не яка народ асобы, што з Маскалямі тай з Польшчаю толька кравенства[12], та дужа вузка[13] павязану з німі історыю, мае. Дасужнага часу, зарабляюшчы горка на хлеба кус, дужа не багацька маю, грошай яшчэ меней, та ўсё ж, галыш якась галышам, усім рускім нам — хлебаробам-мужыкам тай чорна- і малалюду, якусь прыслугу аддаці магу, штоб ні было для іх зрабіці. Таго-лля[14], хачу спазнаці[15] ўсё руска, усяке садрагненне рускай душы, бо хош Вы, брацця чырванарусы, інакшым гукаеце[16] рускім языком, я інакшым, усё ж Вы, тай мы, беларусы, адно, ядзіна сяммя[17], ядзіна Русь, катора, дасць Бог, у дужа недалекай хвілі ў ядзіна зальеся цела[18]. Вы болей падзвігнёны ўпярод, мы — таліка цяпер якась, па аслабожанню мужыкоў нашых з крапацтва[19], незабутнай пагэтаму памяці, Аляксандрам II, па-чалавецку дышаці начынаема; та яшчэ нас не така гурма[20] як Ваша, вукраінцаў, мала-тай чырвонарусаў. Да таго ж, ніякай яшчэ не маема слабоды, пад Маскоўскім кнутом нашым, нашых беларускіх у беларускай выказваці мове, думак[21]. Хто первы к гэтаму рабіў крок, як я, выганёны з бацькаўшчыны. Та хош валацюгаю стаў я, беларускага гэтым духа ніяк не пакрыўдзілі, не падушылі. Мы ёсць[22], мы будзема, а хош немы,

---

[1] Аддаленства — *[рус.]* отдаление; *[пол.]* oddalenie. *(Заўв. аўт.)*

[2] Машна — *[рус.]* карман; *[пол.]* kieszeń. *(Заўв. аўт.)*

[3] Невесць — *[рус.]* неизвестность, *[пол.]* niewiadomość. *(Заўв. аўт.)*

[4] Пераяць — пераняць.

[5] Аганоўскі Амеліян Міхайлавіч (1833—1894) — украінскі філолаг і грамадскі дзеяч, адзін з заснаваннікаў таварыства «Просвіта», а пэўны час (1877—1894) і яго кіраўнік.

[6] «Просвіта» — украінскае культурна-асветніцкае таварыства, заснаванае ў 1868 г. у Львове.

[7] Награждзення — *[рус.]* награждения; *[пол.]* nagrody. *(Заўв. аўт.)*

[8] Хранцыя — *[фр.]* la France. *(Заўв. аўт.)*

[9] Месца — *[рус.]* место, *[пол.]* miejsce. *(Заўв. аўт.)*

[10] Уліў — *[пол.]* wpływ. *(Заўв. аўт.)*

[11] Панруства — панславізм; тут: рускія — усходнія славяне.

[12] Кравенства — крэўнасць, сваяцтва.

[13] Вузка — *[рус.]* узко; *[пол.]* ściśle. *(Заўв. аўт.)*

[14] Таго-лля — *[рус.]* потому, *[пол.]* dla tego. *(Заўв. аўт.)*

[15] Спазнаці — *[рус.]* познакомиться (с кем); poznać. *(Заўв. аўт.)*

[16] Інакшым гукаеце — *[рус.]* иным говорите; *[пол.]* innym mówicie. *(Заўв. аўт.)*

[17] Сяммя — сям'я.

[18] Цела — *[рус.]* тело; *[пол.]* ciało. *(Заўв. аўт.)*

[19] Крапацтва — прыгон (ад *крэпкі*).

[20] Гурма — *[рус.]* число; *[пол.]* liczba. *(Заўв. аўт.)*

[21] Нашых думак — *[пол.]* myśli naszych. *(Заўв. аўт.)*

[22] Мы ёсць — *[пол.]* jesteśmy. *(Заўв. аўт.)*

моўчазны[1], мы ўсё ж народ асобы — не пані наша даўнішня Польшча, не пані сённяшня Маскаўшчызна. З бацькаўшчынай маей, Беларуссю, панежа яшчэ няма, знайміці Затоку[2] не магу дасёлля, ліцературы яшчэ ніякай не маема, та, не дай Бог, яшчэ доўга, кажася, меці не будзема; астаеся мне таліка руска ліцература Ваша; жыццё вумна Ваша яка **рэал**[3], які даць магу́ Еўропе, працясту́юшчы ложы[4], яка б мы не **я**, не **ens**[5], у хфіласофіі, — ложы, яка б нас векі паклалі ў дамавіну; яка б мы ў Польшчу чы ў Маскоўшчыну якусь перавярнуліcь, як перавярнуліся, прымерна, у ніх нашы валадары, багатыры нашы, дужызна, дзяды тай прадзеды рускі. Сам жа, але, той хфакт[6], што іх унучата навяртаюцца да прасталюду, што «цывілізавану» пакідаюць польску чы маскоўску мову, ніякай у гэтым патрэбнасці не маюшчы, дае ўжо дастатна свядоцтва таму, што Русь ёсць, што не быці яе не можа! Інакша б бо не было і Бога, інакша б не было праў прыражоных, тых праў, што здзе́ржуюць Божы свет, што жывым яго робяць!..

Таго-лля і да Вас, пане Іване Фра́нка, іду, тай, знамы трошку польскі, мямецкі[7], хранцузскі тай маскоўскі пісец, прашу Вас, братам мне будзь тай настаўнікам. Вучы мяне — увадзі́ мяне ў народ Твой рускі, каб я[8] пераяці яго мог так у серца маё беларуска, як у нём нашу́ люд беларускі мой!

Дужа Табе зычлівы[9]
граф В. К. Суліма Савіч-Заблоцкі
з Беларусі
(Comte Soulima)
адрэса мая: à Paris, 18, rue L'Ancienne Comédie,
chez MM. Morot frères & Chuit, libraires-èditeurs.
(Я там антыкварыяту галава.)

**№ 2**[10]

Нядзеля 23 студзеня 1887 г.

Пану Івану Франку,
русіну, галіцкаму літаратару з Львова (Аўстра-Венгрыя)

Пішу я Вам, шаноўны і даражэнькі, з вязніцы (дзе сяджу ад 28 снежня 1886 г.). Гэтая акалічнасць тлумачыць, чаму я не змагу іначай здаволіць Вашага жадання атрымаць для часопіса «Прагрэс» («Поступ») артыкул пра Белую Русь, якая мне вельмі дарагая і якой я зычу ўсялякага росквіту і дабрабыту.

Справа Русі — гэта і мая справа, як і ўсякая іншая справа прыгнечаных, якога б там ні было роду, — справа нацый, класаў, асоб. У гэтым змаганні я страціў увесь свой капітал, становішча ў грамадстве, усе свае фізічныя сілы, але не шкадую пра тое і ніколі не шкадаваціму.

Маё зняволенне ні ў якім разе не павінна надта задоўжыцца, але я ўжо так стаміўся ад Заходняй Еўропы, што пакіну яе назаўсёды.

---

[1] Моўчазны — *[пол.]* milczący. *(Заўв. аўт.)*
[2] Заток — *[рус.]* Запад, *[пол.]* Zachód. *(Заўв. аўт.)*
[3] Рэал — дробная манета.
[4] Ложы *[(чаму) дав. скл.]* — *[рус.]* лжи; *[пол.]* kłamstwu. *(Заўв. аўт.)*
[5] Ens *(лац.)* — існае, быццё; рэч.
[6] Хфакт — *[лац.]* factum. *(Заўв. аўт.)*
[7] Мямецкі — *[рус.]* немецкий. *(Заўв. аўт.)*
[8] Каб я — *[рус.]* чтобы; *[пол.]* żebym. *(Заўв. аўт.)*
[9] Зычлівы — *[пол.]* życzliwy. *(Заўв. аўт.)*
[10] Пераклад з французскай мовы Ю. Новік паводле аўтографа (ІЛ НАН Украіны. — Ф. 3. — Адз. зах. 1615. — С. 653—654).

Ува ўсякім разе Вы, даражэнькі, можаце быць пэўным, што будзеце атрымоўваць мае лісты, і Ваш часопіс, як і справа Русі, да якой так дрэнна ставіцца польская алігархія, габрэйская плутакратыя і нямецкая правінцыйная бюракратыя Аўстра-Венгерскай Галіцыі, могуць *заўсёды* разлічваць на *маю, якую толькі хоця, дапамогу*.

Застаюся назаўсёды Вашым пакорлівым служкам і сябрам.
Граф Суліма Савіч-Заблоцкі.

*P. S.* Калі хочаце мне што даслаць, брашуры ці там русінскія газеты, заўсёды можаце іх слаць на гэты адрас:
Пану Лагайярду, камісару паліцыі квартала Манэ ў Парыжы, вуліца Сэрпант,
для перадачы пану графу Суліме Савічу-Заблоцкаму,
і, у такім разе, прашу Вас пісаць мне толькі па-французску.
Маё вітанне пану старшыні таварыства «Просвіта» і кіраўніку часопіса «Діло»[1] і ўсім Вашым суайчыннікам.

Мая справа не «палітычная», па вызваленні — напішу падрабязней. Прашу не паведамляць пра гэта ў Вашым часопісе, буду вельмі ўдзячны.

---

[1] «Діло» (1880—1939) — першая ўкраінская штодзённая газета.

*Публікацыя В. МАРТЫСЮКА і Ю. ПАЦЮПЫ.*



# СТУДЗЕНЬ

* * *

У канцы лістапада мінулага года ў рэдакцыю часопіса «Полымя» завітала жанчына, сустрэчы з якой я вельмі чакаў. Наталля Андрэеўна Прушынская. На некалькі дзён сюды, у Мінск, прыехала з Карэліі. Для чалавека, далёкага ад беларускай літаратуры, гэтае імя, хутчэй за ўсё, нічога не скажа. Не, яна не паэтка, не піша прозу, не займаецца драматургіяй. Проста яна — дачка Андрэя Мрыя, аўтара славутага рамана «Запіскі Самсона Самасуя». Нашчадкі далёка не ўсіх вядомых пісьменнікаў клапоцяцца пра іх літаратурную спадчыну, пра тое, каб пра іх згадвалі не толькі ў сувязі з юбілейнымі датамі. Але Наталля Андрэеўна якраз з тых, хто клапоціцца, хто па драбніцах збірае матэрыялы, звязаныя з драматычным жыццём свайго бацькі, піша пра яго лёс і творчасць артыкулы (доўгі час яна працавала ў Інстытуце мовы, літаратуры і гісторыі Карэльскага цэнтра РАН).

Прызнацца, я не спадзяваўся, што Наталля Прушынская прывязе з сабой нейкія сенсацыйныя матэрыялы, звязаныя з асобай Андрэя Мрыя. Аднак сёетое, што тычыцца яго біяграфіі, хацелася ўдакладніць, бо ў розных беларускіх крыніцах, напрыклад, называюцца нават розныя даты яго нараджэння. Але больш за ўсё мяне, шчыра кажучы, цікавіў лёс рамана Андрэя Мрыя «Жывы дом», які ён пісаў у ссылцы.

Што тычыцца даты нараджэння, то тут Наталля Андрэеўна перакананая: яе бацька нарадзіўся 1 верасня (па новым стылі), а не ў ліпені ці жніўні 1893 года. Яна, тады яшчэ 12-гадовая



*Андрэй Мрый у зняволенні.*

дзяўчынка, запомніла словы маці, якая сказала, што дакладную дату нараджэння бацькі можна вызначыць па царкоўнай кнізе: гэта быў дзень святога пакутніка Страцілата. Перакананая Наталля Андрэеўна і ў тым, што нарадзіўся пісьменнік у вёсцы Доўгавічы (а не Палуж, як можна прачытаць у некаторых даведніках і энцыклапедыях) Краснапольскага раёна.

Даведацца аб тым, што стала дакладнай прычынай смерці Андрэя Мрыя, сёння цяжка (па адной з версій, яго ў цягніку забілі), але ў нашчадкаў пісьменніка захоўваецца дакумент з Установы М-222 г. Мікунь (Рэспубліка Комі): «На Ваше заявление… сообщаем, что Ваш отец Шашалевич Андрей Антонович, 1893 г.р. действитель-

но отбывал наказание в Усть-Вымлаге Коми с 12.10.42 г., прибыл из Березлага. Он был освобожден 25.09.43. и следовал к месту жительства — Фрунзенская обл. Кагановичский р-н, ст. Новотроицкий. В пути следования 8 октября 1943 г. в поезде был обнаружен труп Шашалевича Андрея Антоновича, о чем составили акт — начальник эшелона, медсестра, уполномоченный милиции. Место захоронения неизвестно. Извещение о смерти направлялось в ГОМ УВД Мурманской обл. г. Мурманск 24.05.57 г. за № 1/1032».

А вось пра лёс рамана «Жывы дом» па сённяшні дзень нічога невядома. Хутчэй за ўсё, лічыць Наталля Андрэеўна, ён быў проста знішчаны лагернымі супрацоўнікамі.

Але адкуль нам увогуле вядома пра існаванне гэтага рамана?

Для большай яснасці трэба прывесці некалькі драматычных фактаў з жыцця Андрэя Мрыя. 22 лютага 1934 года яго арыштоўваюць, а 26 сакавіка асуджаюць на 5 гадоў зняволення. Пасля таго як Генеральнаму пракурору СССР была пададзена апеляцыя, замест 5-і Мрый атрымлівае 3 гады высылкі. 2 чэрвеня 1940 года пісьменніка зноў арыштоўваюць, і зноў — на 5 гадоў. У ссылцы Андрэй Мрый піша ліст «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», копія якога пасля вайны невядома якім чынам трапляе ў Беларусь і ходзіць па руках. Нарэшце ў **№1** часопіса «Полымя» за **1988 год** гэты ліст быў апублікаваны. Вось яго пачатак:

*«Цвёрда памятаючы Вашы словы аб чулым, уважлівым стаўленні да жывога чалавека, я пішу Вам пра свае няшчасці, спадзеючыся знайсці ў Вас найвышэйшую праўду і справядлівае да мяне стаўленне.*

*Я — былы беларускі пісьменнік-гумарыст Шашалевіч Андрэй Антонавіч (псеўданім Мрый), які напісаў у 1929 г. раман «Запіскі Самсона Самасуя». З'яўленне ў друку першых частак гэтага рамана было пачаткам маіх нягод. Спачатку раман хвалілі і тэрмінова, без усялякай ініцыятывы з майго боку, пусцілі ў набор для масавага выдання. І калі гэта мелася ажыццявіцца, тады няшмат якія людзі, у далейшым абвінавачаныя ў контррэвалюцыі, раптам выявілі, што раман — зласлівая насмешка з савецкай культурнай рэвалюцыі, пасквіль на савецкае жыццё.*

*Гэтыя няшмат якія людзі, галоўным чынам члены літаратурнага аб'яднання «Маладняк» — Вольны, Дудар, Гародня і інш., аплявалі раман агульнымі фразамі і амаль публічнаю лаянкай, нават не спрабуючы даць сур'ёзны крытычны аналіз зместу і формы рамана.*

*Раман спынілі друкаваць.*

*Між тым у сваім рамане я зусім не хацеў агітаваць супроць новага жыцця, супроць прынцыпаў Савецкай улады. Я хацеў паказаць тыповага выскачку Самасуя, што прабіраецца з мяшчанскіх нізоў да вяршынь Савецкай улады».*

І далей, праз некалькі абзацаў:

*«І калі мяне арыштавалі ў 1934 г. у Мінску, я спачатку думаў, што прычына арышту — гэты злашчасны раман. Аднак у часе следства мне ні слова не сказалі пра раман, пра маю літаратурную працу, хоць пры вобыску была ўзята ўся мая літаратурная прадукцыя. Следства запатрабавала, каб я прызнаўся ў прыналежнасці да нацыянал-фашысцкай арганізацыі. Неабходна адкрыта сказаць, што я ганебна вёў сябе на следстве. Спачатку мяне папярэдне належна апрацавалі ў камеры «раззброеных», пасля адкрыта сказалі, што «ўсё маё кодла контррэвалюцыйнае», што паводле сваёй адукацыі і выхавання (я з семінарыстаў) я не магу не быць контррэвалюцыянерам, што ў выпадку непрызнання маю сям'ю чакае самая сумная доля...»*

Далей Мрый у сваім лісце расказвае пра тое, што толькі ў лагеры ён даведаўся, у чым канкрэтна яго абвінавачваюць: *«Я быў прыцягнуты па справе настаўнікаў Краснапольскага раёна БССР (дзе я з 1921 — 1926 г. быў настаўнікам у школе II ст.) згодна з паказаннем настаўніка Сакалова».*

І вось нарэшце кораценька, як пра нешта не самае ў дадзенай сутуацыі важнае, пісьменнік паведамляе: *«Але*

*каюся, мяне ніколі не пакідала думка пра літаратуру. Увесь час працягваўся літаратурны сверб. За час з 1934 года я напісаў шмат навел, аповесцяў і раман з лагернага жыцця «Жывы дом».*

Значыць, раман быў напісаны, і загінуў (ці ўсё-ткі зробім папраўку: хутчэй за ўсё загінуў) не толькі ён, але і аповесці, навелы.

Доўгі час хадзілі размовы, што гэты ліст Сталіну дапамог Мрыю ў 1943 годзе  раней тэрміну выйсці на волю. Але ці трапіў ліст увогуле да Сталіна? Трэба сказаць, што пісьменнікі такім спосабам звярталіся да Іосіфа Вісарыёнавіча з просьбай дапамагчы ў вырашэнні нейкіх праблем не так і рэдка. Вось, напрыклад, што пісаў яму 25 жніўня 1945 года Барыс Пастарнак:

«Дорогой Иосиф Виссарионович.

Я с семьей живу временами довольно трудно. Мы получили когда-то скверную квартиру, самую плохую в писательском доме, и неналаженность жизни в ней сама влечет к дальнейшим ухудшеньям. Так, когда я во время войны уехал на несколько месяцев к эвакуированной семье из Москвы, в квартире, как наихудшей в доме, расположилась зенитная точка, и вместе с обстановкой в ней погибли работы и архив моего покойного отца, академика Л. О. Пастернака, недавно скончавшегося в Оксфорде. Приблизительно в это же время у нас умер двадцатилетний сын от костного туберкулеза, нажитого в той же квартире, очень сырой.

Я два года тому назад писал об этом В. М. Молотову. Очень быстро по его распоряжению явилась комиссия от Моссовета, признала помещенье непригодным для проживанья, повторила посещенье и тем дело ограничилось. Я никого не виню, новых домов мало, и естественно, что квартиры достаются только людям чрезвычайным, крупным служащим и лауреатам. Устроиться в бытовом отношении в городе пока для меня мечта неосуществимая, и я к Вам не с этими тягостями, потому что никогда не осмелился бы докучать Вам ничем неисполнимым. Моя просьба проще. Она, как мне кажется, удовлетворима и справедлива.

Я пять лет работаю над лучшими произведениями Шекспира, и, судя по некоторым откликам у нас и за границей, не без удачи. Не может ли Комитет по делам искусств намекнуть театрам, что в отношении этих пьес они могут довольствоваться собственным вкусом и ставить их, если они им нравятся, не ожидая дополнительных указаний, потому что в театрах, да и не только в них, шарахаются всего, что живет только своими скромными силами и не имеет нескольких дополнительных санкций и рекомендаций. Так было в Московском Художественном Театре с Гамлетом, дорогу которому перешла современная пьеса «Иоанн Грозный».

Поддержка театров явилась бы для меня большим облегчением. Жить одною текущей работой возможно, но трудно. Мне давно за пятьдесят, зимой у меня от переутомления болела и долго была в бездействии правая рука, так что я научился писать левой, у меня постоянно болят глаза. Мне очень совестно беспокоить Вас пустяками, я годы и годы воздерживался от этого, пока был жив Александр Сергеевич Щербаков, который знал меня и выручал в крайностях.

Дача в Переделкине.

25 авг. 1945 г.»

Такім чынам, сам па сабе факт напісання Мрыем такога ліста не з’яўляецца нечым выключным.

Але, як сведчаць нашчадкі пісьменніка, ліст Мрыя, які зняволены перадаў у сям’ю, так і не быў адпраўлены па прызначэнні: магчыма, таму, што якраз пачалася вайна, і сям’я вырашыла: Сталіну  не да падобных лістоў.

Дарэчы, у тым жа **студзеньскім** нумары за **1988 год** «Полымя» надрукавала і раман «Запіскі Самсона Самасуя», які да гэтага 60 гадоў (у 1929 годзе ён публікаваўся ў трох нумарах часопіса «Узвышша») не быў даступны шырокаму колу беларускіх чытачоў.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***